| | | |
|---|---|---|
| ле/гчы | у | (кана/па) |
| пакла/сьці | на | (ша/фа) |
| глядзе/цца | | (люстэ/рка) |
| запалі/ць | | (ля/мпа) |
| памы/ць | | (шкля/нка) |
| засла/ць | | (прасьці/на) |
| ла/шчыць | | (кацяня/) |
| дагляда/ць | | (дзяду/ля) |
| зайсьці/ | | (кватэ/ра) |
| купі/ць | | (мэ/бля) |
| е/сьці | | (сала/та) |
|ісьці/ | | (пра/ца) |

**7. Перакладзіце ў расейскую мову** (Переведите на русский язык).

Апрана/ем дзяце/й. Чака/ю на зру/чнага вы/падку. Гаспады/ня падала/ сьняда/ньне. Пойдзем праз сквэр. Сястра/ пашы/ла суке/нку. Малы/ ідзе/ па ца/цку.

## Лад мовы

## Существительное в творительном падеже

### Назоўнік у творным склоне

**КІМ? ЧЫМ? КАЛІ/? ДЗЕ?**

| **з, пе/рад, пад, над, за, са** | **+ ТВОРНЫ СКЛОН** |
|---|---|
| з арты/кулам | — со статьёй |
| зь ве/дамі | — со знаниями |
| пе/рад абе/дам | — перед обедом |
| пад вадой | — под водой |
| над горадам | — над городом |
| за вакном | — за окном |
| са сьвя/там | — с праздником |

| | **Адзіночны лік** | | **Множны лік** | |
|---|---|---|---|---|
| **I скланеньне** (ж. р., м. р., аг. р. на ***-а, -я***) | сяброўк***ай*** (***-аю***), рак***ой*** (***-ою***), хва/л***яй*** (***-яю***), зямл***ёй*** (***-ёю***), кале/г***ам*** (для м. р.), кале/г***ай*** (для ж. р.), мужчы/н***ам***, Кол***ем***, судзьдз***ём*** | ***-ай (-аю), -ой (-ою), -яй (-яю), -ёй (-ёю), -ам, -ем, -ём*** | сяброўк***амі***, рэ/к***амі***, хва/л***ямі***, зе/мл***ямі***, кале/г***амі***, мужчы/н***амі***, су/дзьдз***ямі*** | ***-амі, -ямі, -мі, -ыма*** |
| **II скланеньне** (м. р. без канчатка, н. р. на ***-а, -о, -е, -ё***) | дажджо***м***, дыван***ом***, буды/нк***ам***, дн***ём***, агн***ём***, ву/ч***нем***, вок***ам***, калосьс***ем***, вясл***ом***, шча/сьц***ем*** | ***-ам, -ом, -ем, -ём*** | дажджа/***мі***, дыван***а/мі***, буды/нк***амі***, дня/***мі***, агня/***мі***, ву/чн***ямі***, вач***мі/*** (***-амі, -ыма***), вёсл***амі*** | |
| **III скланеньне** (ж. р. без канчатка) | ночч***у***, мы/шч***у***, па/парацьц***ю***, кроў***ю*** (крыв***ёю***), косьц***ю*** | ***-у, -ю (-ёю)*** | нач***а/мі***, мыш***а/мі***, па/парац***ямі***, касьця/***мі*** (касьць***мі/***) | |
| **Розна-скланяльныя** | дзі/ц***ем***, кацян***ём***, куран***ём***, медзьведзян***ём*** | ***-ем, -ём*** | дзе/ць***мі***, кацяня/т***амі***, кураня/т***амі***, медзьведзяня/т***амі*** | |

Подробнее об окончаниях существительных в творительном падеже см. урок 14.



1) В творительном падеже согласные (кроме ***б*, *ф*, *ў*, *р***) удлиняются между гласными: **сольлю**, **рэ́ччу**.
2) Обратите внимание, что в сочетании с глаголами ***е́хаць*** (ехать), ***ісьці́*** (идти), ***ляце́ць*** (лететь), ***плы́сьці*** (плыть), ***апекава́цца*** (заботиться о) существительные употребляются в творительном падеже без предлога: **плы́сьці парапла́вам**, **апекава́цца дзе́цьмі**. Если нужно показать, что движение происходит в разных направлениях, то употребляется предлог ***па*** с предложным падежом. Например: **мы ішлі́ *па* бары́**, ***па* каме́ньні**, ***па* полі**.

## Практыкуйцеся



**8. Прачытайце сказы, зьвярніце ўвагу на канчаткі назоўнікаў у творным склоне** (Прочитайте предложения, обратите внимание на окончания существительных в творительном падеже).

Хі́тра, му́дра, зь невялі́кім коштам.
Ча́сам — з ква́сам, а парою — з вадою.
Жа́лем сьціска́юцца гру́дзі.
Жораў зь цяплом, а ла́стаўка зь лістом.
Сказа́ў ка́зку з пры́казкаю.
Лёстачкамі душу́ выма́е.
Лю́бага госьця ўле́тку часту́юць мядком, а ўвосень — малачком.
Колькі, ка́чка, ні мудру́й, а ле́бедзем ня бу́дзеш.
З дурны́м ні знайсьці́, ні згубі́ць.
Па сі́няй раўні́не за хма́ркаю хма́рка плыве́.

**9. Запоўніце пропускі прапанаванымі словамі ў творным склоне** (Заполните пропуски предложенными словами в творительном падеже).
**Узор:** іду́ + дарога → іду́ дарогаю.

**Лес, аўтобус, цягні́к, ка́тэр, човен, самалёт, тынкоўнік, вясна́, ра́ніца, вяршкі́, выхава́нцы, дзіця́, маста́цтва, ру́кі, фальварковец.**

Іду́ … . Е́ду … . Плыву́ … . Ляту́ … . Бу́ду … . Пае́ду … . Сустрэ́нуся … . П'ю ка́ву зь … . Займа́юся з … . Апяку́юся … . Ціка́ўлюся … . Працу́ю … .

**10. Утварыце форму творнага склону назоўнікаў** (Образуйте форму творительного падежа существительных).
**Узор:** ву́чым з (зь) + дзе́ці → ву́чым зь дзе́цьмі.

| | |
|---|---|
| Ямо | лы́жка, відэ́лец; |
| п'ем | шкля́нкі, ку́бкі, слоікі; |
| іду́ з (зь) | сёстры, сяброўка, госьць; |
| малю́ю | фа́рба, аловак, пэ́ндзаль; |
| сустрака́юся з (зь) | сябры́, дзяўча́ты, Ясь. |

**Лад мовы**

## Существительное в предложном падеже

### Назоўнік у месным склоне

**ПРЫ КІМ? ПРЫ ЧЫМ? ДЗЕ?**

| **у, на, пры, аб, а, па** | **+ МЕСНЫ СКЛОН** |
|---|---|
| у краʹме | — в магазине |
| на Нявміʹзе | — на Немиге |
| пры баʹцьку | — с отцом (при отце) |
| аб моры | — о море |
| а пеʹршай гадзіʹне | — в первом часу |
| па дзеʹцях | — о детях |

| | **Адзіночны лік** | | **Множны лік** | |
|---|---|---|---|---|
| **I скланеньне** (ж. р., м. р., аг. р. на ***-а, -я***) | у сярэʹдзін***е***, на ра***цэ***ʹ, у праʹц***ы***, у лаʹзьн***і***, пры баʹцьк***у***, пры Кол***ю*** | ***-е, -э, -ы, -і, -у, -ю*** | у сярэʹдзін***ах***, на рэʹк***ах***, у праʹц***ах***, у лаʹзьн***ях***, пры бацьк***аʹх*** | ***-ах (-ох), -ях (-ёх)*** |
| **II скланеньне** (м. р. без канчатка, н. р. на ***-а, -о, -е, -ё***) | на беʹраз***е***, у гараж***ы***ʹ, у цеʹн***і***, у га***і***ʹ, пры ўнуʹк***у***, пры вуʹчн***ю***, на неʹб***е***, у жыцц***і***ʹ | ***-е, -ы, -і, -у, -ю*** | на берагʹ***ах*** (***-ох***), у гараж***аʹх***, аб цеʹн***ях***, у га***яʹх***, пры ўнуʹк***ах***, пры вуʹчн***ях***, пры гасьц***яʹх*** (***-ёх***) | |
| **III скланеньне** (ж. р. без канчатка) | у раʹдасьц***і***, у далон***і***, аб ноч***ы***, на Наʹрач***ы*** | ***-ы, -і*** | у раʹдасьц***ях***, у далон***ях***, аб нач***аʹх*** (***-ох***) | |
| **Розна-скланяльныя** | пры плеʹмен***і***, пры іʹмен***і***, пры дзіцяʹц***і***, пры кацяняʹц***і*** | ***-і*** | у плямён***ах***, у імён***ах***, пры дзеʹц***ях***, пры кацяняʹт***ах*** | |

Подробнее об окончаниях существительных в предложном падеже см. урок 15.

**!**

1) При употреблении предложного падежа нередко возникает путаница в выборе окончания ***-у*** или ***-е***. Вариант окончания зависит от твёрдости или мягкости основы, от ударения. Например: **на раг*у*ʹ вуʹліцы**, но **на роз*е* каровы**.
2) Именования лиц (люди, имена, фамилии) с мягкой основой имеют окончание ***-у, -ю***: **пры вуʹчн*ю*, пры Кол*ю*, пры настаʹўнік*у*, пры сыʹн*у*, пры кавал*ю*ʹ.**
3) Если в существительном женского рода с основой на ***к*** окончание находится под ударением, то в предложном падеже ***к*** переходит в ***ц*** с окончанием ***-э***: **шчакаʹ — на шчацэʹ**, **мукаʹ — у муцэʹ**, **рукаʹ — у руцэʹ**. А если окончание безударное — то с окончанием ***-ы***: **суʹмка — у суʹмц*ы*, сьцеʹжка — на сьцеʹжц*ы*.**

Примеры склонения существительных в предложном падеже единственного числа:

окончание ***-е***

| | |
|---|---|
| горад — па горадз***е*** | город — по городу |
| кнот — на кноц***е*** | фитиль — на фитиле |
| беʹраг — на беʹраз***е*** | берег — на берегу |
| лоб — на лоб***е*** | лоб — на лбу |
| цыраʹта — на цыраʹц***е*** | клеёнка — на клеёнке |
| гаʹньба — у гаʹньб***е*** | позор — в позоре |
| глеʹба — на глеʹб***е*** | почва — на почве |
| скруʹха — у скруʹс***е*** | печаль — в печали |
| эпоха — аб эпос***е*** | эпоха — об эпохе |
| крысо — на крыс***е***ʹ | полаʹ (пиджака) — на полеʹ |
| характво — у характв***е***ʹ | красота — в красоте |

окончание ***-і***

| | |
|---|---|
| баль — на баʹл***і*** | бал — на балу |
| веʹрасень — у веʹрасьн***і*** | сентябрь — в сентябре |
| корань — у каран***і*** | корень — в корне |
| вуʹгаль — у вуʹгал***і*** | уголь — в угле |
| алеʹй — у алеʹ***і*** | масло — в масле |
| дробязь — у дробяз***і*** | мелочь — в мелочи |
| столь — на стол***і*** | потолок — на потолке |
| хваʹля — на хваʹл***і*** | волна — на волне |

| | | |
|---|---|---|
| | пра́льня — у пра́льн***і*** | прачечная — в прачечной |
| | жале́зьзе — у жале́зьз***і*** | металлолом — в металлоломе |
| | палява́ньне — на палява́ньн***і*** | охота — на охоте |
| | лі́сьце — у лі́сьц***і*** | листва — в листве |
| | маля́ва́ньне — у малява́ньн***і*** | рисование — в рисовании |
| | запрашэ́ньне — у запрашэ́ньн***і*** | приглашение — в приглашении |
| | насе́ньне — у насе́ньн***і*** | семена — в семенах |
| | зе́рне — у зе́рн***і*** | зерно — в зерне |
| окончание ***-ы*** | крыж — на крыж***ы́*** | крест — на кресте |
| | бор — у бар***ы́*** | бор — в бору |
| | дождж — на даждж***ы́*** | дождь — на дожде |
| | пляц — на пля́ц***ы*** | площадь — на площади |
| | кірма́ш — на кірмаш***ы́*** | ярмарка — на ярмарке |
| | раскоша — у раскош***ы*** | роскошь — в роскоши |
| | ску́ра — на ску́р***ы*** | кожа — на коже |
| | глязу́ра — на глязу́р***ы*** | глазурь — на глазури |
| | скры́нка — у скры́нц***ы*** | ящик — в ящике |
| | улётка — ва ўлётц***ы*** | листовка — в листовке |
| | плячо — на пляч***ы́*** | плечо — на плече |
| | сэ́рца — на сэ́рц***ы*** | сердце — на сердце |
| | сонца — на сонц***ы*** | солнце — на солнце |
| | вядро — у вядр***ы́*** | ведро — в ведре |
| | збожжа — у збожж***ы*** | хлеба — в хлебах |
| окончание ***-у*** | пірог — у пірагу́ | пирог — в пироге |
| | інжынэ́р — пры інжынэ́р***у*** | инженер — с инженером |
| | Смоліч — пры Смоліч***у*** | Смолич — со Смоличем |
| | Пётра — пры Пётр***у*** | Пётр — с Петром |
| | Мі́ша — пры Мі́ш***у*** | Миша — с Мишей |
| | краве́ц — пры краўц***у́*** | портной — с портным |
| | шаве́ц — пры шаўц***у́*** | сапожник — с сапожником |
| | дах — на да́х***у*** | крыша — на крыше |
| | страх — у стра́х***у*** | страх — в страхе |
| | дух — у ду́х***у*** | дух — в духе |

## Практыкуйцеся



**11. Прачытайце, зьвярніце ўвагу на канчаткі назоўнікаў у месным склоне** (Прочитайте, обратите внимание на окончания существительных в предложном падеже).

На шырокай дарозе добра разьміна́цца.
Той хлеб, што зь мяжы́, застае́цца на нажы́.
Ця́жка жыць у паняве́рцы.
Па дажджы́ захалада́ла.
У гародзе на градзе́ тры ка́лівы мя́ты.
У са́дзе-вінагра́дзе дзяўчы́на гуля́ла.
У рацэ́ калі́сьці вяла́ся стронга.
Рыгор — спадкае́мца, ён даста́ў спа́дкі па цётцы.
На руцэ́ пярсьцёнак.
У моры — несчысьлёная колькасьць ры́бы.

**12. Пастаўце назоўнікі ў месны склон** (Поставьте существительные в предложном падеже).
**Узор:** Ён у Канадзе.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **а)** | Ба́цька | (дзе?) | у | камандзіроўка |
| | Ма́ці | | на | пра́льня |
| | Сястра́ | | | вечары́нка |
| | Дзе́ці | | | луг |
| | Ся́бра | | | Сьві́слач |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **б)** | Ён | (дзе?) | у | вучэ́льня |
| | | | на | тэа́тар |
| | | | пры | Сібі́р |
| | | | | плошча |
| | | | | вясе́льле |
| | | | | кра́ма |
| | | | | парк |
| | | | | сьнег |
| | | | | На́рач |
| | | | | ву́чань |
| | | | | бабу́ля |
| | | | | ма́ці |
| | | | | Васі́ль |

**13. Адкажыце на пытаньне *дзе?* з дапамогай неабходнага прыназоўніка і склона** (Ответьте на вопрос *где?*, употребляя необходимй предлог и падеж).
**Узор:** кропля — люстэ́рка → кропля на люстэрку.

Зубранё — пу́шча, Ясь — га́нак, пакой — кватэ́ра, коўдра — ложак, парасон — су́мка, фіра́нка — вакно, кве́тка — рука́, аўто — дарога, я́блык — тале́рка, човен — рака́, кот — парог, ка́чкі — возера, студэ́нт — інтэрна́т.

**14. Скажыце, дзе гэтыя людзі** (Скажите, где эти люди).





**15. Прачытайце, словы ў дужках пастаўце ў адпаведную граматычную форму** (Прочитайте, слова в скобках поставьте в соответствующую грамматическую форму).
**Узор:** І тут, і там мае́ (ся́бра). → І тут і там мае́ сябры́.

І тут, і там мае́ (ся́бра). У Грэ́цыі — пан Ды́мас. З (заме́жнікі) ён мой найле́пшы (пры́яцель). Усе́ спасьціга́юць бі́знэс, а пан Ды́мас застае́цца ве́рны свайму́ (пакліка́ньне), як і я. Ён спэцыялі́ст у (галіна́) будаўні́цтва, дойлід, якіх ма́ла. У сваёй (творчасьць) за (крыні́ца) натхне́ньня ён ма́е (помнікі) (даўніна́).

Каштоўнасьці, непадула́дныя (час) — вось што быва́е тэ́май на́шых (гу́таркі) у ча́се (вандроўкі).

«Чалаве́к — гэ́та яго па́мяць», — ка́жа Ды́мас, і я згодны зь ім. Гляджу́ на ве́лічныя (буды́нак) і ду́маю пра (лю́дзі), які́я пакі́нулі ў гэ́тых (муры́) адбі́так сваёй (душа́).

**16. Замест кропак устаўце ў тэкст наступныя словы** (Вместо точек вставьте в текст следующие слова).

**Электры́чка, бацькі́, чыгу́нка, пачасту́нак, жыхары́, лес, вавёрка, дачка́, хвост, малы́я, сьме́х, гу́тарка, дарога.**

Я з жонкай, … і сы́нам е́дзем у … . Сёньня нядзе́ля, і мы, як заўсёды, наве́дваемся да … . Яны жыву́ць убаку́ ад … . Кілямэ́тры з тры яшчэ́ трэ́ба ісьці́ празь … . Але́ гэ́та нам падаба́ецца. Прые́мнай быва́е нечака́ная сустрэ́ча з … ле́су: зайца́мі, дзя́тламі, вавёркамі. І́ншы раз сьмяле́йшай … можна пада́ць … і на́ват пасьпе́ць дакрану́цца да … . Гэ́та ве́льмі забаўля́е маі́х … . Колькі тут быва́е ра́дасьці, …, а потым … — як вады́, усю́ … .

**17. Праскланяйце назоўнікі ў адзіночным і множным ліках** (Просклоняйте существительные в единственном и множественном числах).

Фа́рба, ру́жа, парог, хва́ля, зна́ўца, навуковец, падру́чнік, спра́ва, лі́чба, каўне́р, сьвя́та, раху́нак, краі́на, сонца, ка́ртка, дамова.



## Кароткія размовы
(чытайце ўголас)

| | |
|---|---|
| — Маё шанава́ньне, дзя́дзька Антось!<br>— Дзень добры, Пятрок! Даўно ня ба́чыў цябе́. Ці ты ўжо вольны ад заня́ткаў?<br>— Так, але цяпе́р я хаджу́ на пра́ктыку.<br>— Ну а Волька? Ужо, пэ́ўна, працу́е?<br>— Яна́ працу́е і ву́чыцца завочна.<br>— Што робіць дзед Савось?<br>— Дзяду́ля на сваёй сядзі́бе на На́рачы. Як са́мі ма́ецеся, дзя́дзька Антось?<br>— Дзя́каваць Богу. У нядзе́лю пае́ду ў Засла́ўе.<br>— Перадава́йце прывіта́ньне цётцы Мары́лі.<br>— Дзя́куй, абавязкова перада́м. | — Моё почтение, дядя Антось!<br>— День добрый, Петруша! Давно я не видел тебя. У тебя уже закончились занятия?<br>— Да, но теперь я хожу на практику.<br>— Ну а Оля? Уже, наверное, работает?<br>— Она работает и учится заочно.<br>— Чем занимается дед Савось?<br>— Дедушка в своей усадьбе на Нарочи. А как вы поживаете, дядя Антон?<br>— Слава Богу. В воскресенье поеду в Заславль.<br>— Передавайте привет тёте Марии.<br>— Спасибо, обязательно передам. |
| — Здароў, Мікола! Куды́ гэ́та ты вы́правіўся?<br>— Здароў! Іду́ да Мі́шкі, у яго там не́йкія прабле́мы з кампу́тарам. Куды́ сам ідзе́ш?<br>— Я ў кра́му. Хачу́ паднаві́ць кампу́тар, бо мая́ машы́на на́дта мару́дзіць у Інтэрнэ́це. Ты ж ве́даеш!<br>— Дык можа табе́ зьмяні́ць права́йдэра?<br>— Ну, гэ́та мы паглядзі́м. Наагу́л, я му́шу з табой пара́іцца.<br>— Мы можам сустрэ́цца за́ўтра пасьля́ палу́дня.<br>— Добра, уве́чары я табе́ яшчэ́ ператэлефану́ю.<br>— Быва́й. | — Здорово, Коля! Куда это ты направился?<br>— Здорово! Иду к Мишке, у него там какие-то проблемы с компьютером. А ты куда?<br>— Я в магазин. Хочу обновить компьютер, потому что моя машина уж очень тормозит в Интернете. Ты же знаешь!<br>— Так может тебе сменить провайдера?<br>— Ну, это мы посмотрим. Вообще, мне нужно с тобой посоветоваться.<br>— Мы можем встретиться завтра после обеда.<br>— Хорошо, вечером я тебе ещё перезвоню.<br>— До свидания. |
| — Як заву́ць гэ́тага хлапца́?<br>— Пе́ця.<br>— А прозьвішча?<br>— Пяцю́шык.<br>— Ён жыве́ ў Вяле́йцы на Пе́ўчай ву́ліцы? | — Как зовут этого парня?<br>— Петя.<br>— А фамилия?<br>— Петю́шик.<br>— Он живёт в Вилейке на Певчей улице? |

— Так. Адку́ль ты ве́даеш?
— Ён мой земля́к. Я ж такса́ма зь Вяле́йшчыны.

— Да. Откуда ты знаешь?
— Он мой земляк. Я ведь тоже с Вилейщины.



## Майстры слова гавораць

Сям’я́, родная ха́та, вёска для многіх людзе́й — такі́ ж цэ́нтар сусьве́ту, як у Пталямэ́евай сыстэ́ме Зямля́: ні высокія зва́ньні, ні абавя́зкі не аслабля́юць у іх сяме́йных пачу́цьцяў. Як бы ні вы́расла кола знаёмых, як бы ні пашыра́ліся духоўныя інтарэ́сы, усё роўна і ў ста́лыя гады́ інтуі́цыя паме́сьціць іх ула́снае **я** ў мікрасьве́т роднай сям’і́ і прыму́сіць ад ба́цькавага парога ме́раць шлях да вялі́кіх галя́ктык, які́я называ́юцца: культу́ра і прызва́ньне, народ і чалаве́цтва.

Уладзіме́р Кале́сьнік

## Лекцыя трэцяя — Урок третий

Гэ́та Пётра, старэ́йшы Я́сеў бра́т.
Які́ ён?
Ён
выкшталцоны (изысканный),
майстраві́ты (искусный),
зда́тны (способный),
спага́дны (отзывчивый),
гасьці́нны (гостеприимный).



### Лад мовы

## Прилагательное

## Прыметнік

*Прилагательное (прыме́тнік)* — самостоятельная часть речи, которая обозначает:
- свойство, качество или признак предмета: ***паліва́ны* посуд** (глазурованная посуда), ***парцяны́я* шкарпэ́ткі** (хлопчатобумажные носки);
- принадлежность лицу, живому существу: ***Пётраў* дзя́дзька** (дядя Петра), ***ма́тчына* ла́ска** (материнская ласка).

Прилагательные согласуются с существительными в роде, числе, падеже:
- **заву́лак** (м. р. ***які́?***) ***пакруча́сты*** (извилистый переулок),
- **цэ́гла** (ж. р. ***яка́я?***) ***руда́я*** (коричневый кирпич),
- **пе́чыва** (н. р. ***якое?***) ***сма́чнае*** (вкусное печенье),
- **кве́ткі** (мн. л. ***які́я?***) ***прыгожыя*** (из первых рук).

Во множественном числе прилагательные по родам не изменяются.

## Склонение прилагательных

## Скланеньне прыметнікаў

**ЯКІ́? ЯКА́Я? ЯКОЕ? ЯКІ́Я?**

В единственном числе:

| | М. р. адушаўлёны | М. р. неадушаўлёны | Ж. р. | Н. р. |
|---|---|---|---|---|
| **Н.** | высок***і*** мужчы́на | высок***і*** стол | высок***ая*** кабе́та | высок***ае*** дзіця́ |
| **Р.** | высок***ага*** мужчы́ны | высок***ага*** стала́ | высок***ай*** кабе́ты | высок***ага*** дзіця́ці |
| **Д.** | высок***аму*** мужчы́ну | высок***аму*** сталу́ | высок***ай*** кабе́це | высок***аму*** дзіця́ці |
| **В.** | высок***ага*** мужчы́ну | высок***і*** стол | высок***ую*** кабе́ту | высок***ае*** дзіця́ |
| **Т.** | высок***ім*** мужчы́нам | высок***ім*** сталом | высок***ай*** кабе́тай | высок***ім*** дзі́цем |
| **М.** | на высок***ім*** мужчы́не | пры высок***ім*** стале́ | пры высок***ай*** кабе́це | пры высок***ім*** дзіця́ці |

Во множественном числе:

| | М. р. адушаўлёны | М. р. неадушаўлёны | Ж. р. | Н. р. |
|---|---|---|---|---|
| **Н.** | высок***ія*** мужчы́ны | высок***ія*** сталы́ | высок***ія*** кабе́ты | высок***ія*** дзе́ці |
| **Р.** | высок***іх*** мужчы́наў | высок***іх*** сталоў | высок***іх*** кабе́таў | высок***іх*** дзяце́й |
| **Д.** | высок***ім*** мужчы́нам | высок***ім*** стала́м | высок***ім*** кабе́там | высок***ім*** дзе́цям |
| **В.** | высок***іх*** мужчы́наў | высок***ія*** сталы́ | высок***іх*** кабе́таў | высок***іх*** дзяце́й |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Т.** | высок***імі*** мужчы́намі | высок***імі*** стала́мі | высок***імі*** кабе́тамі | высок***імі*** дзе́цьмі |
| **М.** | на высок***іх*** мужчы́нах | пры высок***іх*** стала́х | пры высок***іх*** кабе́тах | пры высок***іх*** дзе́цях |

Окончания при склонении прилагательных:

| | **Адзіночны лік** | | | **Множны лік** |
|---|---|---|---|---|
| | **м. р.** | **ж. р.** | **н. р.** | |
| **Н.** | ***-ы, -і*** | ***-ая, -яя*** | ***-ое, -ае, -яе*** | ***-ыя, -ія*** |
| **Р.** | ***-ога, -ага, -яга*** | ***-ое, -ае, -яе,***<br>***-ой, -ай, -яй*** | ***-ога, -ага, -яга*** | ***-ых, -іх*** |
| **Д.** | ***-ому, -аму, -яму*** | ***-ой, -ай, -яй*** | ***-ому, -аму, -яму*** | ***-ым, -ім*** |
| **В.** | ***-ога, -ага, -яга*** (з адуш.)<br>***-ы, -і*** (зь неадуш.) | ***-ую, -юю*** | ***-ое, -ае, -яе*** | ***-ых, -іх*** (з адуш.)<br>***-ыя, -ія*** (зь неадуш.) |
| **Т.** | ***-ым, -ім*** | ***-ою, -аю, -яю,***<br>***-ой, -ай, -яй*** | ***-ым, -ім*** | ***-ымі, -імі*** |
| **М.** | ***-ым, -ім*** | ***-ой, -ай*** | ***-ым, -ім*** | ***-ых, -іх*** |

Некоторые прилагательные имеют полную и краткую формы: **ра́ды — рад** (радостный — рад), **поўны — повен** (полный — полон), **ду́жы — дуж** (сильный — силён). Краткие прилагательные в белорусском языке употребляются редко, в основном в фольклоре. Они изменяются по родам и числам: **пе́вень** ***грозен*** (м. р.), **котка** ***грозна*** (ж. р.), **шчаня́** ***грозна*** (н. р.), **яны́ так** ***грозны*** (мн. л.).

## Степени сравнения качественных прилагательных

Ступені параўнаньня якасных прыметнікаў

| | |
|---|---|
| **мале́нькі — ме́ншы — найме́ншы / са́ма ме́ншы** | маленький — меньший — самый маленький |
| **вялі́кі — большы — найбольшы** | большой — больший — самый большой |
| **высокі — вышэ́йшы — найвышэ́йшы** | высокий — высший — наивысший |
| **ні́зкі — ніжэ́йшы — найніжэ́йшы** | низкий — низший — самый низкий |
| **добры — ле́пшы — найле́пшы** | хороший — лучший — наилучший |
| **ке́пскі — горшы — найгоршы** | плохой — худший — наихудший |

Образование форм сравнительной степени прилагательных.

- Простая форма сравнительной степени: ***-ейш-*** / ***-эйш-***

салодкі — саладз***е́йш***ы — сладкий — более сладкий
горкі — гарч***э́йш***ы — горький — более горький
модны — мадн***е́йш***ы — модный — более модный
ёмкі — ямч***э́йш***ы — удобный — более удобный

- Простая форма превосходной степени: ***-най-*** + ***-ейш-*** / ***-эйш-***

салодкі — ***най***саладз***е́йш***ы — сладкий — самый сладкий
горкі — ***най***гарч***э́йш***ы — горький — самый горький
модны — ***най***мадн***е́йш***ы — модный — самый модный
ёмкі — ***най***ямч***э́йш***ы — удобный — самый удобный

- Сложная форма сравнительной степени: ***менш*** + / ***больш*** +

шчы́льны — ***менш*** шчы́льны / ***больш*** шчы́льны — плотный — менее плотный / более плотный
склада́ны — ***менш*** склада́ны / ***больш*** склада́ны — сложный — менее сложный / более сложный
выра́зны — ***менш*** выра́зны / ***больш*** выра́зны — выразительный — менее / более выразительный
падобны — ***менш*** падобны / ***больш*** падобны — похожий — менее похожий / более похожий

- Сложная форма превосходной степени: **_сама_ + / _найменш_ + / _найбольш_ +**

| | |
|---|---|
| та́нны — ***са́ма*** та́нны — ***найбольш*** та́нны | дешевый — самый дешевый |
| стары́ — ***са́ма*** стары́ — ***найбольш*** стары́ | старый — самый старый |
| вядомы — ***найме́нш*** вядомы | неизвестный — наименее известный |

- Краткая форма превосходной степени: ***най-* + *-ш-***

| | |
|---|---|
| высокі — ***най***вы́ш***ш***ы | высокий — высочайший |
| блі́зкі — ***най***блі́з***ш***ы | близкий — ближайший |
| бага́ты — ***най***бага́т***ш***ы | богатый — богатейший |
| новы — ***най***ноў***ш***ы | новый — новейший |
| кароткі — ***най***карот***ш***ы | короткий — кратчайший |



1) При сравнении некоторых понятий (возраста, роста и т. п.) прилагательное употребляется с предлогами *за, ад, над*, а существительное ставится в родительном падеже: **няма́ зьве́ра дужэ́йшага** ***за ле́ва*** (нет зверя сильнее льва), **гарачэ́й** ***ад агню́*** (горячее огня), **няма́ горшага ка́та** ***над на́шага бра́та*** (нет хуже палача, чем наш брат), **сястра́ маладзе́йшая** ***за бра́та*** (сестра моложе брата), **ён разумне́йшы** ***за ўсіх*** (он умнее всех).
2) Прилагательные, которые в русском языке употребляются в высшей степени сравнения, в белорусском представлены только с прилагательными наивысшей степени. Сравните: ближайший — ***най*блiжэ́йшы**, легчайший — ***най*лягчэ́йшы**, новейший — ***най*ноўшы**.

Степеней сравнения не имеют следующие качественные прилагательные:

| | |
|---|---|
| **обозначающее неизменное качество** | мёртвы, цяжа́рная, глухі́ |
| **называющие должность, звание** | ста́ршы лейтэна́нт, галоўны інжынэ́р, навуковы супрацоўнік |
| **масти животных** | пярэ́сты, була́ны |
| **качественно-относительные, определяющие цвет предмета через соотнесение с другим предметом** | бэ́завы, агні́сты, шэ́ра-сі́ні, цёмна-зялёны |

Не имеют форм оценки и степеней сравнения относительные прилагательные. Их признаки не изменяются: **зрокавыя вы́пыты** (зрительные тесты), **дароўны на́дпіс** (дарственная надпись), **саламя́ны капялю́ш** (соломенная шляпа), **парцяны́я шкарпэ́ткі** (хлопчатобумажные носки), **мастакоўскі та́лент** (талант художника).



## Практыкуйцеся

**1. Прачытайце сказы, зьвярніце ўвагу на канчаткі прыметнікаў** (Прочитайте предложения, обратите внимание на окончания прилагательных).

Добрае ляжы́ць, а злое бяжы́ць.
Аста́тні раз быва́ю ў вас.
Стары́ верабе́й на мякі́ну ня ква́піцца.
У жыцці́ быва́юць усяля́кія здарэ́ньні.
Чорныя баравікі́ так і стая́ць увачча́.
На доўгі век, на добрае здароўе.
Сядзі́ць па́ні на мурку́ ў чырвоным каптурку́ — хто ідзе́, той паклоніцца. (Суніцы)
Чырвоны колер, ві́нны сма́к, каме́ннае сэ́рца — хто гэ́та так? (Вішня)

А хто ма́е хвост курта́ты, бараду́ і нос гарба́ты, носіць, ле́сам ідучы́, заме́ст ша́пкі — два карчы́? (Лось)

**2. Скажыце як мае быць па-беларуску** (Скажите по-белорусски правильно).

Ближайшая остановка. Лучшие годы. Высший сорт. Легчайший вес. Сладчайший напиток.

**3. Прачытайце фразэмы, сярод прапанаваных словаў знайдзіце адпаведныя прыметнікі** (Прочитайте фраземы, среди предложенных слов подберите соответствующие прилагательные).
**Узор:** Галава́ ва́рыць **—** разу́мны.

**Малы́, вясёлы, шчасьлі́вы, ненае́дны, чырванашчокая кабе́та, аднолькавыя, дасьве́дчаны, выда́тны.**

Кату́ па пяту́ — … .
Аднаго поля я́гады — … .
Бі́ты воўк — … .
Хоць куды́ — … .
На сёмым не́бе — … .
Маладзі́ца як брусьні́ца — … .
Плячы́сты на жывот — … .

**4. Прыметнік у дужках пастаўце ў адпаведную форму** (Прилагательное в скобках поставьте в соответствующую форму).
**Узор:** (Жоўты) касачы́ → Жоўтыя касачы.

(Руды́) валасы́, (зялёны) кашу́ля, (шэ́ры) вочы, (бэ́жавы) аўто, (чырвоны) сту́жка, (паласа́ты) каву́н, (блакі́тны) ша́лік, (чорны) ка́ва.

## Лад мовы

## Притяжательные прилагательные

### Прыналежныя прыметнікі

**ЧЫЙ? ЧЫЯ́? ЧЫЁ?**

Разновидность относительных прилагательных — *притяжательные (прынале́жныя)*. Они показывают, кому принадлежит предмет: ***мату́ліна*** **сочыва** — мамино варенье, ***даччына́*** **ху́стка** — платок дочери (но: ***даччы́ная*** **фі́рма** — дочерняя фирма), ***саба́чы*** **напысьні́к** — собачий намордник. Притяжательные прилагательные образуются от основ существительных; они могут переходить в качественные: ***воўчы*** **апеты́т**.

Образование притяжательных прилагательных от существительных мужского рода:

| | | | |
|---|---|---|---|
| ***-оў, -аў*** ***-еў, -ёў*** | Паўлю́к | Паўлюк***оў*** дом (м. р.) | дом Павла |
| | Пётра | Пётр***аў*** кампу́тар (м. р.) | компьютер Петра |
| | Ясь | Я́с***еў*** брат (м. р.) | брат Яся |
| | Міха́сь | Міхас***ёў*** кале́га (м. р.) | коллега Михася |
| ***-ова, -ава*** ***-ева, -ёва*** | Паўлю́к | Паўлюк***ова*** кватэ́ра (ж. р.) | квартира Павла |
| | | Паўлюк***ова*** дзіця́ (н. р.) | ребёнок Павла |
| | Пётра | Пётр***ава*** жонка (ж. р.) | жена Петра |
| | | Пётр***ава*** вакно (н. р.) | окно Петра |
| | Ясь | Я́с***ева*** сядзі́ба (ж. р.) | усадьба Яся |
| | | Я́с***ева*** бра (н. р.) | бра Яся |
| | Міха́сь | Міхас***ёва*** фі́рма (ж. р.) | фирма Михася |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | Міхас***ёва*** аўто (н. р.) | автомобиль Михася |

Образование притяжательных прилагательных от существительных женского рода:

| | | | |
|---|---|---|---|
| ***-ын-, -ін-*** | ма́ці | ма́тч***ын*** дар (м. р.) | мамин подарок |
| | | ма́тч***ын***а ху́стка (ж. р.) | мамин платок |
| | | ма́тч***ын***а пісьмо (н. р.) | мамино письмо |
| | Ва́ля | Ва́л***ін*** хрэ́сьнік (м. р.) | Валин крестник |
| | | Ва́л***ін***а вопратка (ж. р.) | Валина одежда |
| | | Ва́л***ін***а дзіця́ (н. р.) | Валин ребёнок |

Притяжательные прилагательные в именительном и винительном падежах обычно употребляются в краткой форме: **сы́нава ша́пка**, **сы́наву ша́пку**. Однако с одушевлёнными существительными притяжательные прилагательные мужского рода в винительном падеже употребляются в полной форме: **сы́навага ся́бра**.

## Способы образования прилагательных

Спосабы ўтварэньня прыметнікаў)

Прилагательные образуются с помощью:

| | | |
|---|---|---|
| **приставок** | ***не- (ня-), без- (бяз-), да-, паза-, перад-, за-, пад-, над-, пры-*** ды інш. | ***ня***блі́зкі, ***без***галосы, ***за***высокі, ***да***гістары́чны, ***паза***чарговы, ***перад***сьвяточны, ***пад***водны, ***над***звыча́йны, ***пры***ва́бны |
| **суффиксов** | ***-лів-, -іст-, -ав-, -ов-, -ат-, -н-, -ават-, -ан- (-ян-), -ск-, -ц-*** ды інш. | сарам***лі́в***ы, іскр***ы́ст***ы, ры́нк***ав***ы, вечар***ов***ы, вус***а́т***ы, блакі́т***н***ы, чырван***ава́т***ы, бульб***ян***ы́, ві́лен***ск***і, салда́***ц***кі |
| **приставок и суффиксов** | спалучэньне прыстаўкі з суфіксам | ***над***лама́***н***ы, ***пад***га́л***іст***ы, ***пры***дарож***н***ы, ***за***ме́ж***н***ы, ***паза***службо***в***ы, ***не***аха́й***н***ы, ***не***гасьц***і́нн***ы |

Примеры:

| | **Зыходнае слова** | **Прыметнік** | **Пераклад** |
|---|---|---|---|
| ***-ін-, -ын-*** | бабу́ля | бабу́л***ін*** | бабушкин |
| | сястра́ | сястр***ы́н*** | сестрин |
| | Лявоніха | Лявоніш***ын*** | Лявонихи |
| | Але́нка | Але́нч***ын*** | Алёнкин |
| ***-оў, -аў, -еў, -ёў*** | дзед | дзе́д***аў*** | деда (дедов) |
| | зяць | зя́ц***еў*** | зятя (зятев) |
| | сьвята́р | сьвятар***оў*** | священника |
| | Васі́ль | Васіл***ёў*** | Василия |
| ***-ов-, -ав-, -ев-, -ёв-*** | зіма́ | зім***ов***ы | зимний |
| | вясна́ | вясн***ов***ы | весенний |
| | вёска | вёск***ов***ы | сельский |
| | сту́жка | сту́жк***ав***ы | ленточный |
| | се́тка | се́тк***ав***ы | сетевой |
| | пачуцьцё | пачуцьц***ёв***ы | чувственный |
| | памы́лка | памылк***ов***ы | ошибочный |
| | дэта́ль | дэтал***ёв***ы | детальный |
| | кісьць | кі́сьц***ев***ы | кистевой |
| | вось | вос***ев***ы | осевой |
| | бэз | бэ́з***ав***ы | сиреневый |
| | я́зва | я́зв***ав***ы | язвенный |
| | тэкст | тэ́кст***ав***ы | текстовый |
| | фі́рма | фірм***ов***ы | фирменный |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | ве́расень | верасьнё***в***ы | сентябрьский |
| | мэта́л | мэталё***в***ы | металлический |
| *-н-* | пэ́нсія | пэнсі́й***н***ы | пенсионный |
| | апэра́цыя | апэрацы́й***н***ы | операционный |
| | адміністра́цыя | адміністрацы́й***н***ы | административный |
| | арганіза́цыя | арганізацы́й***н***ы | организационный |
| | адука́цыя | адукацы́й***н***ы | образовательный |
| | эква́тар | эквата́р***н***ы | экваториальный |
| | сынусоіда | сынусоід***н***ы | синусоидальный |
| | трахе́я | трахе́й***н***ы | трахейный |
| | спэкуля́цыя | спэкуляцы́й***н***ы | спекуляционный |
| | акупа́цыя | акупацы́й***н***ы | оккупационный |
| | праду́кцыя | прадукцы́й***н***ы | производительный |
| *-іст-* | усту́п | усту́п***іст***ы | уступчатый |
| | лі́нія | ліне́***іст***ы | линейчатый |
| *-ц-, -ск-* | гляда́ч | гляда́***ц***кі | зрительский |
| | грэк | грэ́***ц***кі | греческий |
| | каза́к | каза́***ц***кі | казачий |
| | Смаляві́чы | смаляві́***ц***кі | смолевичский |
| | Нью-Ёрк | нью-ёр***ск***і | нью-йоркский |
| *-ч-* | мовазна́вец | мовазна́ў***ч***ы | языковедческий |
| | кіраўні́к | кіраўні́***ч***ы | управленческий |
| | даве́р | даве́р***ч***ы | вверительный |



Если прилагательное образовывается с помощью суффикса *-ск-* от слова с основой, оканчивающейся:
1) на *т, ч, к*, то прилагательное имеет суффикс *-ц-*: **скаў*т* — ска́ў*ц*кі, чыта́*ч* — чыта́*ц*кі, Глыбо*к*ае — глыбо*ц*кі, бра*т* — бра́*ц*кі, Смаляві́*ч*ы — смаляві́*ц*кі, Івяне́*ц* — івяне́*ц*кі**;
2) на несколько согласных звуков, последний из которых — *к*, то в прилагательном корневое *к* выпадает: **Нью-Ё*рк* — Нью-Ё*рск*і**;
3) на *с, з, ш, ж, г, х*, то в прилагательном финальная согласная выпадает: **Бе́лая Ве́*жа* — белаве́*ск*і, чэ*х* — чэ́*ск*і, францу́*з* — францу́*ск*і, Палесьс*е* — пале*ск*і, тавары*ш* — тавары*ск*і, Нясьві́*ж* — Нясьві́*ск*і**;
4) на *ск, цк*, то в прилагательном остаётся только одно *ск* или *цк*: **Дама́*ск* — дама́*ск*і, Смале́н*ск* — смале́н*ск*і, Бра*цк* — бра́*ц*кі**;
5) на звонкие *д, дж, дз*, то при произношении слова слышится звук **[ц]**, но пишется *дз*: **суседʹд — сусе́*дз*кі [сус'э́цк'і], грамада́ — грама́*дз*кі [грама́цк'і], Ке́мбрыдж — ке́мбры*дз*кі [к'э́мбрыцкі]**.



## Практыкуйцеся

**5. З словаў у дужках утварыце прыметнікі** (От слов в скобках образуйте прилагательные).
**Узор:** (яблык) пірог → яблычны пірог.

(Поўдзень) ве́цер, (жах) вы́гляд, (ву́сы) дзя́дзька, (бу́льба) стра́ва, (кішэ́ня) ліхта́рык, (малі́ны) колер, (ру́жа) пялёстак.

**6. Утварыце прыметнікі** (Образуйте прилагательные).

Нава́градак, Лі́да, Нясьві́ж, Вуша́чы, Сураж, латы́ш, завод, сьвет, каза́к, Ворша.

**7. Скажыце, якія тут прыметнікі — якасныя, а якія — адносныя ці прыналежныя?** (Скажите, какие из прилагательных являются качественными, какие — относительными, а какие — притяжательными?)



**бра́тава майстроўня**
(мастерская брата)



**ільняна́я ткані́на**
(льняная ткань)



**знаёмы лес**
(знакомый лес)



**марское ўзьбярэ́жжа**
**(**морское побережье)



**пяшча́ная вы́спа**
(песчаный остров)



**дзе́даў човен**
(дедова лодка)



**слоік мату́лінага сочыва**
(банка маминого варенья)



**зямна́я ку́ля**
(земной шар)



**высачэ́зны дом — хмарачос**
(высоченный дом — небоскрёб)




**камэрцы́йны кіёск / ша́пік**
(коммерческий киоск)

**8. Скажыце як мае быць** (Скажите правильно).
**Узор:** Пражыва́ньне ў шыкоўным гатэ́лі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Пражыва́ньне | у | шыкоўны | гатэ́ль |
| Белару́сь | на | вольны | ры́нак |
| Ра́дасьць | | свабодны | творства |
| Дзе́ці | | гульнёвы | за́ля |
| Гармі́дар | | школьны | двор |
| Згода | | супольны | пра́ца |
| Сьве́чкі | | старада́ўні | жырандоль |
| Імпрэ́за | | купа́лаўскі | парк |
| Дзяўчы́на | | нацыяна́льны | строй |

**9. Ад наступных прыметнікаў утварыце ступені параўнаньня** (Образуйте степени сравнения от следующих прилагательных).
**Узор:** Дарагі́ падару́нак → даражэ́йшы падару́нак → найдаражэ́йшы падару́нак.

Новае начы́ньне, мя́ккі каўне́р, чырвоны колер, сма́чны я́блык, прыва́бная мясьці́на, салодкія малі́ны, заба́ўныя прыгоды, цёплае паліто, згра́бная рэч, высокая буды́ніна, пісьме́нны ву́чань, малы́ саба́чка, цяжка́я валі́зка.

**10. Ад слова ў дужках утварыце прыналежны прыметнік і дапасуйце яго да назоўніка** (От слова в скобках образуйте притяжательное прилагательное и согласуйте его с существительным).
**Узор:** Хто гэ́та? (Ясь) найле́пшы ся́бра. → Я́сеў найле́пшы ся́бра.

| | | |
|---|---|---|
| **а)** | Хто гэ́та? | (Волька) большы сын.<br>(Людмі́ла) ме́ншая сястра́.<br>(Арка́дзь) крэ́ўныя. |
| **б)** | Што гэ́та? | (Пілі́п) студэ́нцкі пакой.<br>(Ксе́ня) буршты́навыя кара́лі.<br>(Максі́м) новае паліто. |

**11. Складзіце сказы** (Составьте предложения):
**Узор:** Тут уту́льны студэ́нцкі пакой.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Тут | студэ́нцкі | уту́льны | стол |
| Там | Мікі́таў | пісьмовыя | акуля́ры |
| На падлозе | Мікі́тавы | кампу́тарнае | ца́цка |
| На рагу́ стала́ | ма́тчын | патрэ́бныя | пакой |
| Каля́ стала́ | ба́цькавы | заўсёдны | папе́ры |
| | сяброўчын | заме́жны | ната́тнік |
| | сястры́ная | процісонцавыя | слоўнік |
| | Колеў | бліску́чая | ча́сапісы |
| | Сярге́евы | пісьмовы | начы́ньне |
| | мой | новыя | квіток |
| | наш | праязны́ | зэ́длік |
| | бра́тава | драўля́ны | прыла́ды |

**12. Замест кропак устаўце ў тэкст прапушчаныя словы** (Вместо точек вставьте в текст пропущенные слова).

**Сьве́тлы, арыгіна́льны, вы́штукаваны, кафлява́ны, крэ́мавы, старада́ўні, густоўны, прыгожы, белару́скі, розны, мя́ккі.**

Уту́льны … пакой. … інтэ́рʼе́р. Позірк прыцяга́ваюць адме́тныя рэ́чы ў … гу́сьце. Сурвэ́та. Прыгожа аформлены куфэ́рак. … колеру кветкі.

Што яшчэ́? На сьцяне́ — … відары́с ге́рбу «Пагоня». … гадзі́ньнік. Мэ́бля. … камі́нак. Каля́ сьцяны́, спра́ва, — ша́фа. Зьле́ва — … кана́па. Спра́ва — крэ́сла. Люстэ́рка. Яно ў … апра́ве. … кабе́рац на падлозе. Угары́, пад стольлю, — … жырандоля. На вокнах — … самаробныя фіра́нкі.

**13. Скарыстаўшы слоўнік і ўжо вядомыя вам словы, падайце свае прыметнікі да наступных назоўнікаў** (Используя словарь и уже известные вам слова, предложите свои прилагательные к следующим существительным).

**Дзяўча́ты** і **хлопцы** зь ме́нскага Трае́цкага прыме́сьця. Які́я яны́?
Самастойныя, дасьве́дчаныя, адукава́ныя, чы́нныя, самаві́тыя, ста́лыя чытачы́ Купа́лаўскай бібліятэ́кі.



**14. Складзіце сказы з ужываньнем прапанаваных словазлучэньняў і словаў** (Составьте предложения, употребляя предложенные словосочетания и слова).







| | | |
|---|---|---|
| Двухпавярховая камяні́ца;<br>старажы́тны мур; мурава́нка; | Валодзеў гасьці́нец;<br>адме́тны трае́цкі сувэні́р; | брукава́ная плошча;<br>даўне́йшая ву́ліца. |

**15. Падшукайце да прыметніка адпаведны назоўнік** (Подберите к прилагательному соответствующее существительное).
**Узор:** шаве́цкія → шаве́цкія ку́рсы.

| | |
|---|---|
| ву́лічны | хва́лі |
| марскі́я | дубе́ц |
| дарожны | ліст |
| дубовая | жук |
| лі́павы | цьвет |
| волкае | паве́тра |
| вярбовы | басэ́йн |
| рачны́ | мэ́бля |
| ма́йскі | рух |



## Кароткія размовы
(чытайце ўголас)

| | |
|---|---|
| — Дзе Я́сеў ба́цька?<br>— Ён пры старэ́йшым сы́ну, пры Пётру. | — Где отец Яся?<br>— Он со старшим сыном, с Петром. |
| — Ты е́зьдзіў у Івяне́ц?<br>— Е́зьдзіў, толькі ўчора вярну́ўся.<br>— Ну, і як вандроўка?<br>— Мне спадаба́лася. Адпачы́ў як ма́е быць.<br>— А ты яшчэ́ й загарэ́ў!<br>— Дык ты ня ве́даеш, які́я там мясьці́ны? Гэ́та ж у бок Налібоцкай пу́шчы. Адны́ бары́ чаго ва́ртыя!.. | — Ты ездил в Ивенец?<br>— Ездил, только вчера вернулся.<br>— Ну, и как путешествие?<br>— Мне понравилось. Отдохнул что надо.<br>— А ты ещё и загорел!<br>— Разве ты не знаешь, какие там места? Это же в сторону Налибокской пущи. Одни боры чего стоят!.. |
| — Вазьмі́це ў дарогу я́блыкаў.<br>— Які́х? Гэ́тых жоўтых?<br>— Не, жоўтыя яшчэ́ кі́слыя. Бяры́ вунь у той кардонавай скры́нцы. | — Возьмите в дорогу яблок.<br>— Каких? Этих жёлтых?<br>— Нет, жёлтые ещё кислые. Бери вон в том картонном ящике. |

| | |
|---|---|
| — Яны́ саладзе́йшыя?<br>— Саладзе́йшыя і больш сакаўны́я. | — Они слаще?<br>— Слаще и сочнее. |
| — Ці здольны гэ́ты дзяцю́к?<br>— Здольны, ды яшчэ́ і стара́нны! | — Способный ли этот парень?<br>— Способный, да ещё и старательный! |
| — Добры дзень, дзя́дзька Андрэ́й!<br>— Здароў, жэ́ўжык. А дзе ж бацькі́?<br>— За́раз пры́йдуць. Зайшлі́ ў кра́му.<br>— Ну, як ты дуж-здароў? Ці падрос за ле́та?<br>— Мы былі́ на моры, дзя́дзька Андрэ́й.<br>— На моры? А дзе ж гэ́та?<br>— У Турэ́ччыне, на Эге́йскім моры. Яно цёплае, ласка́вае. І вада́ ў ім чы́стая, празры́стая. | — Здравствуйте, дядя Андрей!<br>— Привет, пострел. А родители где?<br>— Сейчас придут. Зашли в магазин.<br>— Ну, как поживаешь? Подрос за лето?<br>— Мы были на море, дядя Андрей.<br>— На море? А где же это?<br>— В Турции, на Эгейском море. Оно тёплое, ласковое. И вода в нём чистая, прозрачная. |
| — Добры ве́чар у ха́ту!<br>— Добры ве́чар! Праходзь, калі́ ла́ска, сяда́й.<br>— Што чува́ць у вас?<br>— Наві́наў бага́та. Наш Па́вал ўжо ма́е новую кватэ́ру.<br>— Во як?! А ў які́м раёне?<br>— У Малі́наўцы.<br>— Дык я ж такса́ма ў Малі́наўцы! А на якой ву́ліцы?<br>— На ву́ліцы Слабодзкай.<br>— А… Гэ́та ад мяне́ нябле́зка. | — Добрый вечер!<br>— Добрый вечер! Проходи, пожалуйста, садись.<br>— Что у вас слышно?<br>— Новостей много. У нашего Павла уже новая квартира.<br>— Вот как?! А в каком районе?<br>— В Малиновке.<br>— Так я тоже в Малиновке! А на какой улице?<br>— На улице Слободской.<br>— А… Это от меня неблизко. |



## Майстры слова гавораць

…Слова жыве́ — яно ве́чнае й неўміру́чае. Бо яно бесьцяле́снае й неашчу́тнае. Бо яго можна толькі пачу́ць, на́ват прачыта́ць, але́ не́льга ўзяць у ру́кі — напісанае ці надрукава́нае слова ўжо не само слова, а толькі яго ілюстра́цыя. У самі́м слове няма́ ніводнага а́тама, няма́ нічога з таго, што падула́дна сьме́рці. Яно, хоць само жывое, не праходзіць звыча́йных ста́дыяў усяго жывога: нараджэ́ньне, стале́ньне, старэ́ньне, сьмерць. Бо яно дух, а дух ня ма́е сьме́рці.

Я́нка Сіпакоў

Хіба́ гэ́та наш Ясь?
Хтосьці і́ншы.
Не́йкі чужы́ чужані́ца.



**Лад мовы**

## Местоимение

Займеньнік

*Местоимение (займе́ньнік)* — изменяемая часть речи, которая не называет предметы, лица, качества, а только указывает на них. По своему значению местоимения делятся на:

- *личные (асабовыя)*: **я, мы, ты, вы, ён, яна́, яно, яны́**;
- *притяжательные (прынале́жныя)*: **мой, наш, твой, ваш, яго, ягоны, яе́, е́йны, свой, іх, і́хні, і́хны**;
- *указательные (паказа́льныя)*: **той, такі́, гэ́ты, гэ́такі, гэ́ны, гэ́ткі, столькі, гэ́тулькі**;
- *определительные (азнача́льныя)*: **сам, уве́сь, кожны, любы́, уся́кі, са́мы, і́ншы**;
- *вопросительно-относительные (пыта́льна-адносныя)*: **хто, што, які́, каторы, чый, колькі**;
- *возвратные (зваротныя)*: **сябе́**;
- *отрицательные (адмоўныя)*: **ніхто, нішто, нія́кі, нічы́й, ніводны, нікольki**;
- *неопределённые (неазнача́льныя)*: **не́хта, не́шта, хтосьці, штосьці, не́йкі, які́сьці, які-не́будзь, не́калькі, хто-не́будзь, некаторы, не́чы, не́йчы, чы́йсьці, абы-што, абы-хто, абы-які́, абы-чый**.

## Личные местоимения

Асабовыя займеньнікі

| | **Адзіночны лік** | | | | | **Множны лік** | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **1-я асоба** | **2-я асоба** | **3-я асоба** | | | **1-я асоба** | **2-я асоба** | **3-я асоба** |
| | | | **м. р.** | **ж. р.** | **н. р.** | | | |
| **Н.** | я | ты | ён | яна́ | яно | мы | вы | яны́ |
| **Р.** | мяне́ | цябе́ | яго | яе́ | яго | нас | вас | іх |
| **Д.** | мне | табе́ | яму́ | ёй | яму́ | нам | вам | ім |
| **В.** | мяне́ | цябе́ | яго | яе́ | яго | нас | вас | іх |
| **Т.** | мной (мною) | табой (табою) | ім | ёй (ёю) | ім | на́мі | ва́мі | і́мі |
| **М.** | па мне | па табе́ | па ім | па ёй | па ім | па нас | па вас | па іх |



## Практыкуйцеся

**1. Адкажыце на пытаньні** (Ответьте на вопросы).
**Узор:** Ці спада́р Жура́ўскі наста́ўнік? (вайсковец) → Не, спада́р Жура́ўскі не наста́ўнік, ён вайсковец.

Ці спада́р Ча́йка друка́р? (выдаве́ц)

Гэ́тыя лю́дзі, твае́ кале́гі, тутэ́йшыя? (прые́джджыя)
Хто гэ́тая дзяўчы́на, твая́ сястра́? (бра́тава сяброўка)
Ці спада́рыня Га́нна сакрата́рка? (пашта́рка)
Ці гэ́та Колева дзіця́? (Волька)

**2. Адкажыце на пытаньні** (Ответьте на вопросы).
**Узор:** Што ты ве́даеш пра (Сярге́й, ён)? → Што я ве́даю пра Сярге́я? Я нічога ня ве́даю пра яго.

Што ты ве́даеш пра (Вярбі́цкія, яны́)?
Што ты ве́даеш пра (той хлапе́ц, ён)?
Што ты ве́даеш пра (Волька, яна́)?
Што ты ма́еш сказа́ць (спада́р Ляві́цкі, ён)?
Ты павіншава́ў (спада́рыня Людмі́ла, яна́)?
Ты пае́дзеш з (Паўлю́к, ён) на адпачы́нак?
Ты дава́ў (дзіця, яно) папі́ць?

## Лад мовы

## Притяжательные местоимения

### Прыналежныя займеньнікі

Местоимения ***мой, мая́, маё, мае́*** (мой, моя, моё, мои), ***твой, твая́, тваё, твае́*** (твой, твоя, твоё, твои), ***свой, свая́, сваё, свае́*** (свой, своя, своё, свои):

| | **Адзіночны лік** | | | **Множны лік** |
|---|---|---|---|---|
| | **м. р.** | **ж. р.** | **н. р.** | |
| **Н.** | мой, твой | мая́, твая́ | маё, тваё | мае́, твае́ |
| **Р.** | майго, твайго | мае́й, твае́й | майго, твайго | маі́х, тваі́х |
| **Д.** | майму́, твайму́ | маёй, тваёй | майму́, твайму́ | маі́м, тваі́м |
| **В.** | майго, твайго (адуш.) | маю́, тваю́ | маё, тваё | маі́х, тваі́х (адуш.) |
| | мой, твой (неадуш.) | | | мае́, твае́ (неадуш.) |
| **Т.** | маі́м, тваі́м | маёю (маёй), тваёю (тваёй) | маі́м, тваі́м | маі́мі, тваі́мі |
| **М.** | маі́м, тваі́м | маёй, тваёй | маі́м, тваі́м | маі́х, тваі́х |

Местоимения ***свой***, ***свая́***, ***сваё***, ***свае́*** сколняются аналогично местоимениям, приведенным в таблице.

Местоимения ***ягоны***, ***ягоная***, ***ягонае***, ***ягоныя*** (его), ***е́йны***, ***е́йная***, ***е́йнае***, ***е́йныя*** (её):

| | **Адзіночны лік** | | | **Множны лік** |
|---|---|---|---|---|
| | **м. р.** | **ж. р.** | **н. р.** | |
| **Н.** | ягоны, е́йны | ягоная, е́йная | ягонае, е́йнае | ягоныя, е́йныя |
| **Р.** | ягонага, е́йнага | ягонай, е́йнай | ягонага, е́йнага | ягоных, е́йных |
| **Д.** | ягонаму, е́йнаму | ягонай, е́йнай | ягонаму, е́йнаму | ягоным, е́йным |
| **В.** | ягонага, е́йнага (адуш.) | ягоную, е́йную | ягонага, е́йнага (адуш.) | ягоных, е́йным (адуш.) |
| | ягоны, е́йны (неадуш.) | | ягонае, е́йнае (неад.) | ягоныя, е́йныя (неад.) |
| **Т.** | ягоным, е́йным | ягонай, е́йнай | ягоным, е́йным | ягонымі, е́йнымі |
| **М.** | ягоным, е́йным | ягонай, е́йнай | ягоным, е́йным | ягоных, е́йных |

Местоимения ***наш***, ***на́ша***, ***на́шы*** (наш, наша, наши), ***ваш***, ***ва́ша***, ***ва́шы*** (ваш, ваше, ваши):

| | **Адзіночны лік** | | | **Множны лік** |
|---|---|---|---|---|
| | **м. р.** | **ж. р.** | **н. р.** | |
| **Н.** | наш, ваш | на́ша, ва́ша | на́ша, ва́ша | на́шы, ва́шы |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Р.** | на́шага, ва́шага | на́шу, ва́шу | на́шага, ва́шага | на́шых, ва́шых |
| **Д.** | на́шаму, ва́шаму | на́шай, ва́шай | на́шаму, ва́шаму | на́шым, ва́шым |
| **В.** | на́шага, ва́шага (адуш.) | на́шу, ва́шу | на́ша, ва́ша | на́шых, ва́шых (адуш.) |
| | наш, ваш (неадуш.) | | | на́шы, ва́шы (неадуш.) |
| **Т.** | на́шым, ва́шым | на́шай, ва́шай | на́шым, ва́шым | на́шымі, ва́шымі |
| **М.** | на́шым, ва́шым | на́шай, ва́шай | на́шым, ва́шым | на́шых, ва́шых |

Местоимения ***і́хні, і́хны, і́хняя, і́хняе, і́хнія*** (их):

| | **Адзіночны лік** | | | **Множны лік** |
|---|---|---|---|---|
| | **м. р.** | **ж. р.** | **н. р.** | |
| **Н.** | і́хні / і́хны | і́хняя / і́хная | і́хняе / і́хнае | і́хнія / і́хныя |
| **Р.** | і́хняга / і́хнага | і́хняй / і́хнай | і́хняга / і́хнага | і́хніх / і́хных |
| **Д.** | і́хняму / і́хнаму | і́хняй / і́хнай | і́хняму / і́хнаму | і́хнімі / і́хным |
| **В.** | і́хняга / і́хнага (адуш.) | і́хнюю / і́хную | і́хняе / і́хнае | і́хніх / і́хных (адуш.) |
| | і́хні / і́хны (неадуш.) | | | і́хнія / і́хныя (неадуш.) |
| **Т.** | і́хнім / і́хным | і́хняй / і́хнай | і́хнім / і́хным | і́хнімі / і́хнымі |
| **М.** | пры і́хнім / і́хным | пры і́хняй / і́хнай | пры і́хнім / і́хным | пры і́хніх / і́хных |



Полная форма притяжательных местоимений ***— ягоны***, ***е́йны***, ***і́хні***, ***і́хны*** **—** употребляются для указания принадлежности к живому существу: **ягоны дзед**, **е́йны пэ́ндзаль**, **і́хная кватэ́ра**. В остальных случаях употребляется краткая неизменяемая форма: ***яго***, ***яе́***, ***іх***. Например: **яго (гораду) аблі́чча**, **яе́ (ракі́) бег**, **іх (кве́так) водар**.



## Практыкуйцеся

**3. Прыналежныя прыметнікі замяніце займеньнікамі *ягоны, ейны, іхны* ў адпаведнай форме** (Притяжательные прилагательные замените местоимениями *ягоны, ейны, іхны* в соответствующей форме).

Ві́ця і Ві́цева сястра́, Зі́на і Зі́нін муж, наста́ўніца і наста́ўніцына кля́са, гаспада́р і гаспадароў саба́ка, Вярбі́цкія і дзе́ці Вярбі́цкіх, цётка і цётчын уну́к, Васі́ль і Васілёў фунда́тар.

**4. Прачытайце, адзначце прыналежныя займеньнікі** (Прочитайте, отметьте притяжательные местоимения).

Прые́халі цётка зь дзя́дзькам. Гэ́та і́хны сын, і́хная дачка́ й і́хнае аўто.
Ю́ля ўжо тут. Ба́чу е́йнае паліто, е́йны капялю́ш і е́йную торбу.
Ба́цька пыта́ецца, дзе ягоны аловак, ягоная шкля́нка ды ягоныя акуля́ры.

**Лад мовы**

## Указательные местоимения

Паказальныя займеньнікі

| | **Адзіночны лік** | | | **Множны лік** |
|---|---|---|---|---|
| | **м. р.** | **ж. р.** | **н. р.** | |
| **Н.** | той | та́я | тое | ты́я |
| **Р.** | таго | тае́ / той | таго | тых |



## Практыкуйцеся

**8. Адкажыце на пытаньні.**
**Узор:** Адку́ль вы ішлі́ пехатой? (адту́ль) → Адту́ль мы ішлі́ пехатой.

| | |
|---|---|
| Калі́ пойдзеш на палу́дзень? | (за́раз) |
| Калі́ пры́йдзеш да нас? | (уве́чары) |
| Дзе вы стаіце́? | (збоку) |
| Дзе чува́ць му́зыка? | (наўкола) |
| Куды́ ён пайшоў? | (не́куды) |
| Куды́ вы пойдзеце? | (ніку́ды) |
| Як вы ішлі́ праз лес? | (пама́лу) |
| Калі́ ён папраўля́е акуля́ры? | (штора́з) |
| Колькі ме́сца ў кватэ́ры? | (досыць) |
| Колькі разоў вы былі́ на На́рачы? | (аднойчы) |
| Дзе вы былі́? | (дома) |
| Куды́ вы пае́дзеце? | (дамоў) |
| Як трэ́ба кла́сьці шво? | (упоперак) |
| Як перарабля́юць ходнік? | (ушы́р) |

**9. Ад прыметнікаў утварыце прыслоўі якасьці з ступенямі параўнаньня** (Образуйте от прилагательных наречия качества со степенями сравнения).
**Узор:** бе́лы → бе́ла — бяле́й — найбяле́й, са́ма бе́ла, найбольш бе́ла.

Роўны, доўгі, шырокі, добры, блі́зкі, салодкі, чырвоны, ву́зкі, прыгожы.

**10. Адкажыце на пытаньні з ужываньнем прыслоўяў з начэньнем месца.**
**Узор:** Дзе столь? → Столь уве́рсе.

Дзе столь? Дзе падлога? Дзе вакно?
Дзе кана́па? Дзе ша́фа? Дзе тэлеві́зар?
Дзе карці́на? Дзе дыва́н?



**11. Да наступных прыслоўяў падшукайце процілеглыя па значэньні** (К следующим наречиям подберите противоположные по значению).
**Узор:** холадна → цёпла.

| | | |
|---|---|---|
| холадна | зьле́ва | павольна |
| ці́ха | многа | дрэ́нна |
| далёка | удзе́нь | рэ́дка |
| тут | добра | высока |
| напе́радзе | ра́на | глыбока |
| туды́ | цёмна | ме́ней |
| па-новаму | чы́ста | зблі́зку |
| уве́рх | дорага | моцна |
| мя́кка | гу́чна | коратка |



## Ясь распавядае

Па ўсёй зямной ку́лі я ма́ю гасьці́нных і добрых сяброў. Празь іх я паба́чыў шмат чароўных мясьці́наў на двух кантынэ́нтах на́шага сьвету. Ды вось толькі нідзе́ не знайшоў стараны́, прыгажэ́йшай за маю́ Белару́сь. Згодныя са мной і мае́ новыя сябры́ — Ма́ртын і Луі́за, ірля́ндцы.

Сёньня яны́ ў гасьцёх у мяне́, і мы робім экску́рсію — у Ме́нску яны́ ўпершыню́. За́раз пакажу́ вам, дзе я асабі́ста спатыка́ю ра́дасьць… Касьцёл Сымона й Але́ны (Чырвоны касьцёл), помнік Я́нку Купа́лу, Залата́я Горка. Люблю́ Сьві́слач, Трае́цкае πрыме́сьце, помнік Максі́му Багдановічу…

Наш насту́пны маршру́т: Засла́ўе, Ра́дашкавічы, Вя́зынка, Крэ́ва, Ту́раў, Нясьві́ж, Гальша́ны — знакамі́тыя белару́скія гістары́чныя мясьці́ны.



## Практыкуйцеся

**12. Якое пытаньне папярэднічала адказу?**

**… ?** Па ўсёй зямной ку́лі.
**… ?** Не знайшоў стараны́, прыгажэ́йшай за Белару́сь.
**… ?** Ма́ртын і Луі́за.
**… ?** Яны́ ірля́ндцы.
**… ?** У гасьцёх у мяне́.
**… ?** У Ме́нску яны́ ўпершыню́.
**… ?** Люблю́ Сьві́слач, Трае́цкае прыме́сьце, помнік Максі́му Багдановічу.
**… ?** Знакамі́тыя белару́скія гістары́чныя мясьці́ны.

**13. Перакажыце тэкст.**

**14. Прачытайце. Адкажыце на пытаньні ў канцы практыкаваньня.**

Мы ў Ве́рхнім горадзе. Ідзём да плошчы Свабоды (даўне́й каза́лі: «Пляц Волі», «Катэдра́льная плошча»). У цэ́нтры ўзносіцца Катэ́дра. З ўсходняга боку — буды́нак кансэрваторыі. Воддаль — адноўлены касьцёл.

Сёньня моцна прыпяка́е сонца. Сма́га. Хочацца піць. Ба́чу, што і мае́ сябры́ замары́ліся ве́льмі, і прапану́ю ім:

— Можа, у рэстара́цыю сходзім?

— Пайшлі́ лепш у кавя́рню, тут во за павароткай, недалёка.

У кавя́рні мы трошкі адпачы́лі, падсілкава́ліся. Ідзём дале́й. Насу́страч нам — не́йкая кабе́та:

— Праба́чце, як адгэ́туль дае́хаць да Вясьня́нкі?

Гэ́тае пыта́ньне разуме́юць і мае́ сябры́, але́ ж тлума́чыць буду я:

— Вам трэ́ба ісьці́ да ГУМу, там якра́з ля ўваходу — трале́йбусны прыпы́нак. Сяда́йце на 56-ы трале́йбус.

— А на мэтро?

— Можна, але́ тады́ вам давядзе́цца е́хаць зь перася́дкамі.

— Зразуме́ла. Дзя́куй вам.



**Пытаньні:**
Дзе шпацыру́е Ясь з сваі́мі сябра́мі?
Дзе ме́сьціцца Катэ́дра?
Як даўне́й называ́лася плошча Свабоды?
Сёньня халодна?
Ці хочацца ім піць?
Дзе можна добра адпачы́ць і падсілкава́цца?
Я́севы сябры́ згадзі́ліся адпачы́ць у кавя́рні? Чаму́?
Каго яны́ сустрэ́лі па дарозе?
Пра што пыта́лася кабе́та?
Ці разуме́юць Я́севы сябры́ па-белару́ску?
Хто тлума́чыць?
Што адказа́ў Ясь кабе́це?
Ці даходзіць мэтро да Вясьня́нкі?

**15. Перакладзіце на беларускую мову.**

**а)** — Мы идём не в ту сторону.
— Наверно, надо вернуться, пройти по той аллее и повернуть влево.

**б)** — Попадём ли мы отсюда на улицу Гусовского?
— Как раз это – очень просто. Повернем вправо на третьем перекрёстке.

**в)** — Нам надо пересесть на семёрку и проехать ещё несколько остановок.
— Да, сейчас выходим.

**г)** — С чего начнём совещание?
— Во-первых, скажите, все ли пришли.

**д)** — Видел ли ты Михася?
— Иногда он заглядывает сюда. Но в последнее время — не видел.

**е)** — Мы забрели куда-то не туда.
— Это досадно.

**ж)** — Их дети ухожены и всегда хорошо одеты.
— Это крепкая, благополучная семья.

## Кароткія размовы
(чытайце ўголас)



— Як ма́ешся? Чаго гэ́ткі паны́лы?
— Ду́маю, што рабі́ць.
— Што ж зда́рылася?
— Ат, згубі́ў па́шпарт. І гэ́та ця́гне за сабою столькі праблé́маў! Зьбіра́ўся пае́хаць на поўдзень, да мора. А цяпе́р што ж?..
— А ў мілі́цыі ты быў? Зая́ву пакі́нуў?
— Быў! Ну, а што з гэ́тага? Новы па́шпарт бу́дзе рабі́цца ця́гам ме́сяцу. А там, глядзі́ш, і водпуск ля́сьне.

— Как дела? Почему такой понурый?
— Я думаю, что делать.
— Что же случилось?
— Ай, потерял паспорт. И это тянет за собой столько проблем! Собирался поехать на юг, к морю. А теперь что ж?..
— А в милиции ты был? Заявление оставил?
— Был! Ну, и что из того? Новый паспорт будет готов в течение месяца. А там, глядишь, и отпуск пропал.

| | |
|---|---|
| — Ой, Ю́рка, няўжо гэ́та ты?!<br>— Вось дык сустрэ́ча! Алёна, прывіта́ньне!<br>— Дзе ты цяпе́р? Што робіш? Ці ажані́ўся?<br>— Пачака́й, пачака́й, адра́зу гэ́тулькі пыта́ньняў.<br>— Ну, тады́ дава́й па пара́дку.<br>— Дык вось, паўгоду, як я вярну́ўся ў Менск. Купі́ў кватэ́ру ў Малі́наўцы. Ма́ю сваю́ фі́рму… То паку́ль было не да жані́мства. Але́ што мы тут стаі́м?! Тут жа во якра́з кавя́рня недалёка: пасядзі́м, пагаворым.<br>— Чаму́ ж не, пайшлі́. | — Ой, Юрка, неужели это ты?!<br>— Вот так встреча! Алёна, привет!<br>— Где ты теперь? Что делаешь? Женился?<br>— Подожди, подожди, сразу столько вопросов.<br>— Ну, тогда давай по порядку.<br>— Так вот, полгода, как я вернулся в Минск. Купил квартиру в Малиновке. Есть своя фирма… Так что пока было не да женитьбы. Но что мы тут стоим?! Здесь же как раз кафе недалеко: посидим, поговорим.<br>— Почему бы нет, пошли. |
| — Ну як?!<br>— Здаў!<br>— Здаў?! Дубовіку?! Зь пе́ршага ра́зу?!<br>— Кажу́ табе́: усё ве́даў, акрамя́ 16 і 18 пыта́ньняў, і якра́з адно зь іх вы́цягнуў!<br>— Ну, і…<br>— Сьпіса́ў, але́ ж аста́тняе — усё назубок. Ганя́ў ён мяне́ хвілі́наў з 30, змуша́ў цытава́ць яго слова ў слова.<br>— Віда́ць па табе́, што ты добра адбіва́ўся — чырвоны, як рак. | — Ну как?!<br>— Сдал!<br>— Сдал?! Дубовику?! С первого раза?!<br>— Говорю тебе: всё знал, кроме 16 и 18 вопросов, и как раз один из них вытянул!<br>— Ну, и…<br>— Списал, но остальное — всё назубок. Гонял он меня минут 30, заставлял цитировать его слово в слово.<br>— Видно по тебе, что ты хорошо отбивался — красный, как рак. |
| — Ну, усё, хлопча, вака́цыі твае́ скончыліся, падру́чнікі ўжо ў руках. Му́сім за́раз праве́рыць, чаго нам яшчэ́ браку́е да школы.<br>— Та-а-а-к. Партфэ́ль ку́плены яшчэ́ ле́тась, школьную форму ма́ма ўчора мне спра́віла…<br>— Добра. А школьнае начы́ньне?<br>— Дзёньнік, сшы́ткі, алоўкі, гу́мка, аса́дка, папе́ра для малява́ньня — гэ́та ў мяне́ ўсё ёсьць. А вось крэ́йды і фа́рбы — стары́я, ня шкодзіла б купі́ць новыя.<br>— Вось ба́чыш, як добра за́гадзя пра ўсё пару́піцца! За́ўтра субота, у мяне́ вольны дзень, пойдзем ды ку́пім. | — Ну, всё, парень, каникулы твои кончились, учебники на руках. Надо проверить, что ещё нужно к школе.<br>— Та-а-а-к. Портфель куплен ещё в прошлом году, школьную форму мама вчера мне купила…<br>— Хорошо. А школьные принадлежности?<br>— Дневник, тетради, карандаши, стирка, ручка, бумага для рисования — это у меня всё есть. А вот цветные карандаши и краски — старые, не помешало бы купить новые.<br>— Вот видишь, как хорошо заранее обо всём позаботиться! Завтра суббота, у меня выходной, пойдём и купим. |
| — Няўжо вы зачыня́ецеся?<br>— Выбача́йце, у нас тэхні́чны перапы́нак.<br>— Мне неадкла́дна трэ́ба заплаці́ць за камуна́льныя паслу́гі!<br>— Не бяды́, дава́йце ваш квіток. | — Неужели вы закрываетесь?<br>— Извините, у нас технический перерыв.<br>— Мне срочно надо заплатить за коммунальные услуги!<br>— Нет проблем, давайте вашу квитанцию. |
| — Здароў, Рама́не!<br>— Здароў!<br>— Ну, як там Э́дзік?<br>— Ні́як не наце́шыцца з свайго «Форда».<br>— А твой «Маскві́ч» усё яшчэ́ не на колах? | — Привет, Роман!<br>— Привет!<br>— Ну, как там Эдик?<br>— Никак не нарадуется своему «Форду».<br>— А твой «Москвич» всё ещё не на колёсах? |

| | |
|---|---|
| — З тэхагля́дам важда́юся. То праве́рку на $CO_2$ не прайшоў, то да тармазоў не́шта ме́лі, а цяпе́р, ба́чыш ты, ім не падаба́ецца, як пафарба́ваная мая́ машы́на!<br>— Так, бра́це. Машы́ны быва́юць толькі дзьвю́х ма́рак: новая і стара́я. | — С техосмотром вожусь. То проверку на $CO_2$ не прошёл, то к тормозам что-то прицепились, а теперь, видите ли, им не нравится, как покрашена моя машина!<br>— Да, брат. Машины бывают только двух марок: новая и старая. |
| — А ці ты абла́дзіў на зіму́ сваю́ ха́ту?<br>— Няма́ ўжо чаго ла́дзіць. Прада́ў. А цяпе́р во шкаду́ю.<br>— Прада́ў бацькоўскую ха́ту? Трэ́ба ж было перш усё ўзва́жыць!<br>— Каб за́дні розум ды напе́рад! | — А ты свой дом к зиме привел в порядок?<br>— Нечего уже приводить в порядок. Продал. А теперь вот жалею.<br>— Продал родительский дом? Надо ведь было сначала всё взвесить!<br>— Если бы раньше знал! |



## Майстры слова гавораць

Быва́е так, што сярод холаду, шэ́расьці, пустэ́льнасьці й нуды́ асе́ньняй прыроды, сярод пры́крага надвор’я са́май позьняй восені на не́бе не́як неўпрыця́м прагалі́цца мале́нькі сі́ненькі ла́пічак — адзі́н, другі́, трэ́йці. Вось ужо немала́я ча́стка не́ба вызваля́ецца з-за хмар, сі́няя, ра́дасная; яшчэ́ лёгка плыву́ць па яе́ берага́х прыгожыя фарботы цёмных пасяродку і бе́лых наўкол болачак. Яшчэ́ вісі́ць чорная палава́я ту́ча далёка-далёка над ле́сам, як слова, яна́ там ду́жа добра ўчапі́лася. А зірні́це, зірні́це скарэ́й, як вунь там шпа́рка перасу́нулася аста́тняя срэ́бная хма́рка це́раз сонца; блі́снуў зь не́ба пе́ршы сноп сьве́тлага калосься на кры́льлі пруда-ветрака́; перабе́г залатой пасьці́лкаю це́раз сад, — і ўсё весяле́е, робіцца прыгожым; ці́хенька варухну́ліся галі́нкі на старой бярозе, уба́чыўшы сонца, і мякчэ́йшая хоча быць ме́рзлая гру́да пад нага́мі дзяўчы́ны, што схапі́ла вёдры, бяжы́ць вады́, бяжы́ць і не́чага сьмяе́цца, а сонейка забы́лася, заба́вілася, любу́ецца на дзявоцкае прыгаство.

Максі́м Гарэ́цкі

## Лекцыя восьмая — Урок восьмой

**Я быў за ша́фера**

Ажані́ўся мой ся́бра Мікі́та. Але́ ж і добрае спра́вілі яму́ вясе́льле! Зь пе́сьнямі, з гу́марам, з гу́льнямі. Гасьце́й было поўнае застольле. Ста́ршы сват пільнава́ў пара́дку. Пілі́ квас, мяду́ху, пі́ва. Я дык на́дта ўпадаба́ў я́гадны напой — варану́ху. На гарэ́лку ніхто не наляга́ў, бо ўсі́м і так было ве́села. Нястомна гра́лі музы́кі. Сьпява́лі пе́сьні. Це́шыліся з малады́х. Ушаноўвалі іх падару́нкамі. Дзялі́лі карава́й.

### Лад мовы

## Предлог

Прыназоўнік

*Предлог (прыназоўнік)* — служебная неизменяемая часть речи, которая уточняет значение косвенных падежей и выражает отношения между словами в предложении или словосочетании: **іду́ *ад* цябе́** (иду от тебя), **прыйду́ *да* цябе́** (приду к тебе), **пойдзем *з* табою** (пойдём с тобой).

Предлоги бывают:
— *простые (простыя)*: **ад, аб, пад, над, пе́рад, з, за, без**;
— *сложные (склада́ныя)*: **накшта́лт, заме́ст, звыш, усьле́д, з-за, з-пад, па-над**;
— *составные (састаўны́я)*: **з прычы́ны, начале́ з, у ча́се**.

Предлог управляет падежом слова, перед которым стоит. Выбор предлога часто бывает обусловлен чисто стилистически. Можно сказать **пае́дзем *па* абе́дзе**, а можно — **пае́дзем *пасьля́* абе́ду** (поедем после обеда). Некоторые предлоги употребляются только с одним падежом. Например, предлоги ***пра, праз, це́раз, праз, скрозь*** употребляются с винительным падежом: **чыта́ю *пра* падзе́і за мяжой** (читаю о событиях за рубежом), **е́дзем *праз* Польшчу** (едем через Польшу), **мост *це́раз* раку́** (мост через реку), **прыйду́ *праз* тры гадзі́ны** (приду через три часа).

Есть предлоги, которые употребляются с несколькими падежами, например: **вы́йшаў *з* дому** (Р.), **быў тут *з* ты́дзень** (В.), **спатка́ўся *зь* сябра́мі** (Т.).


Следует отличать существительные с предлогами от похожих по звучанию наречий.

| | |
|---|---|
| **Прачыта́ю сьпіс *з пача́тку*.** | Прочту список с начала. |
| ***Спача́тку* прачыта́ю сьпіс, а потым удакладню́.** | Сначала прочитаю список, а потом уточню. |
| ***У ночы* зімовыя быва́е халодна.** | Ночами зимними бывает холодно. |
| **Я прые́хаў *уночы*.** | Я приехал ночью. |
| **Адʼяжджа́лі *ў восень* халодную.** | Уезжали в холодную осень. |
| ***Увосень* і вераб́ей бага́ты.** | Осенью и воробей богат. |
| ***У дзень* ле́тні хораша ў ле́се.** | В летний день хорошо в лесу. |
| ***Удзе́нь* было горача.** | Днём было жарко. |

!

В белорусском языке употребление предлогов отличается от русского.
1) Обратите внимание на использование предлогов ***да***, ***з***, ***за***, ***на***, ***процi***, ***у***:
— **ланцужок *да* гадзі́ньніка** (цепочка к часам),
— **пайшлі́ *да* ракі́** (пошли к реке),
— **сьмяю́ся *зь* цябе́** (смеюсь над тобой),
— **ажані́ўся *зь* ёю** (женился на ней),
— **дзі́вімся *з* гэ́тага** (удивляемся этому),
— **кпяць *зь* яго** (подтрунивают над ним),
— **экза́мэн *з* гісторыі** (экзамен по истории),
— **разумне́йшы *за* ўсіх** (умнее всех),
— **лічу́ *за* свой абавя́зак** (считаю своим долгом),
— **Мікі́ту ўважа́юць *за* галоўнага** (Никиту признают главным),
— **раз *на* ты́дзень** (раз в неделю),
— **скры́нка *на* лісты́** (ящик для писем),
— **вада́ *на* ўмыва́ньне** (вода для мытья),
— **сшы́так *на* арытмэ́тыку** (тетрадь по арифметике),
— **пае́дзем *на* госьці** (поедем в гости),
— **пачака́ем *на* надвор’е** (подождём погоды),
— **зае́дзем *па* сястру́** (заедем за сестрой),
— **зьвярну́ўся *па* дапамогу** (обратился за помощью),
— ***процi* яго я нішто** (по сравнению с ним я ничто).
2) В отличие от русского, в белорусском языке есть много оборотов с предлогом ***на***:
— **ба́чыў *на* свае́ вочы** (видел своими глазами),
— **слабы́ *на* вочы** (слаб глазами),
— **бага́ты *на* ла́ты, а не *на* ша́ты** (богат заплатами, а не нарядами).



## Практыкуйцеся

**1. Назоўнік пастаўце ў склоне, якога патрабуе прыназоўнік, і складзіце сказы, адказаўшы на пытаньні** (Существительное поставьте в падеже, которого требует предлог, и составьте предложения, ответив на вопросы).
**Узор:** Дзе ста́нцыя? Воддаль (дарога) → Ста́нцыя воддаль дарогі.

| | |
|---|---|
| Дзе ла́зьня? | Каля́ (дом). |
| Дзе машы́на? | На (двор). |
| Дзе яны́? | На (двор). |
| Дзе пра́льня? | Пры (завод). |
| Дзе гасьцёўня? | У (кватэ́ра). |
| Дзе возера? | Сярод (лес). |

!

Обратите внимание. В сочетании с предлогом ***на*** слово ***двор*** в предложном падеже имеет окончание:
**— *-ы*,** если имеется в виду двор как место, участок, площадка: **легкаві́к стаі́ць на двар*ы́*** (легковая машина стоит на дворе);
**— *-э*,** если ***двор*** — это наружная среда: **дзе́ці гуля́юць на дварэ́** (дети играют во дворе).

**2. Утварыце словазлучэньні з прыназоўнікамі** (Образуйте словосочетания с предлогами).
**Узор:** спазьні́ліся (ты) → спазьні́ліся празь цябе́.

| | |
|---|---|
| ажані́ўся | (дзяўчы́на), |
| дзіўлю́ся | (ён), |

| | |
|---|---|
| суму́ю | (яна́), |
| сьмяю́ся | (яны́), |
| кпя́ць | (я), |
| спазьні́ліся | (ты), |
| згодна | (арты́кул), |
| прайшоў | (гушча́р), |
| віншу́ю | (сьвя́та), |
| сяджу́ | (кампу́тар), |
| зайшоў | (дзіця́). |

**3. Складзіце сказы, скарыстаўшы прыназоўнік з адпаведным склонам** (Составьте предложения, используя предлог с соответствующим падежом).
**Узор:** Патэлефану́е каля́ (поўдзень). → Патэлефану́е каля́ паўдня́.

| | | |
|---|---|---|
| Пачне́цца | па | (абе́д) |
| Прые́дзе | праз | (гадзі́на) |
| | да | (ве́чар) |
| | каля́ | (сем гадзі́наў) |
| | у | (ра́ніца) |
| | пасьля́ | (сьне́жань) |
| | на | (нядзе́ля) |
| | | (сьвя́та) |
| | | (чацьве́р) |
| | | (паўтары́ хвілі́ны) |
| | | (золак) |

**4. Пастаўце пытаньні да наступных дзеясловаў і назавіце склон займеньніка** (Поставьте вопросы к следующим глаголам и назовите падеж местоимения).
**Узор:** здра́дзіць каму́? → давальны склон.

Перапрошваць, прабача́ць, дарава́ць, спагада́ць, слугава́ць, пагаджа́цца, сустрака́ць, дзя́каваць, даклярава́ць, сумава́ць, балі́ць, апрана́ць, спрыя́ць, выконваць.

**5. Складзіце сказы з наступнымі словазлучэньнямі** (Составьте предложения со следующими словосочетаниями).
**Узор:** па горадзе → Ясь цэ́лы ве́чар гуля́ў па горадзе зь сябра́мі.

Паводле сэзону (Д.), у сэзоне (М.), згодна з маршру́там (Т.), у маршру́це (М.), паводле зьме́сту (Р.), у зьме́сьце (М.), паводле на́дпісу (Р.), у на́дпісе (М.), па горадзе (М.), па ву́ліцах (М.), праз тэлефон (В.), па дарогах (М.).

**6. Утварыце словазлучэньні з прыназоўнікам *за*, пастаўце словы ў дужках у вінавальны склон** (Образуйте словосочетания с предлогом *за*, поставьте слова в скобках в винительный падеж).
**Узор:** дужэ́йшы (я) → дужэ́йшы за мяне́.

| | | |
|---|---|---|
| старэ́йшы | за | (я) |
| вышэ́йшы | | (ты) |
| маладзе́йшы | | (ён) |
| разумне́йшы | | (усе́) |
| мацне́йшы | | (мы) |
| ле́пшы | | (і́ншыя) |

**Лад мовы**

## Союз

Злучнік

*Союз (злу́чнік)* — служебная часть речи, оформляющая синтаксические связи слов, частей сложного предложения или самостоятельных предложений и показывающая смысловые отношения между ними: **у дарозе добра ду́маецца, *таму́* я й люблю́ дарогу** (в дороге хорошо думается, потому я и люблю дорогу).

Союзы бывают:

— *простые (простыя)*: **і, а, але́, бо, ды, каб, ні, ці, калі́, дзе, як**;
— *составные (склада́ныя)*: **таму́ што, для таго каб, пасьля́ таго як, з прычы́ны таго што**.

Функционально союзы делятся на:

— *сочинительные (злуча́льныя)*: **і, ды, дый, ні … ні, як … так і, такса́ма, а, але́, затое, але́ і, або, адна́к жа** и др. — используются для построения сложных предложений, части которых самостоятельны и равноправны, а также для связи однородных членов предложений;
— *подчинительные (падпарадкава́льныя)*: **што, калі́, каб, дзе, бы́ццам, таму́ што, ледзь, чуць, толькі, чым, раз, з тым каб, з прычы́ны таго што** и др. — используются для построения сложных предложений, в которых одна часть предложения подчинена другой.

Наиболее употребительные союзы:

| По-белорусски | По-русски | Пример |
|---|---|---|
| **і (й), а** | и | **Я люблю́ і ка́ву, і гарба́ту** (Я люблю и кофе, и чай). |
| **але́, адна́к, а** | но, однако, а | **Лю́двіг гаворыць па-белару́ску, але́ з гэ́ткім акцэ́нтам** (Людвиг говорит по-белорусски, но с таким акцентом). |
| **ды** | 1) и, да;<br>2) но, однако | 1) **Ён бяжы́ць насу́страч ды крычы́ць** (Он бежит навстречу и кричит).<br>2) **Ён ве́даў, ды нам не паве́даміў** (Он знал, но нам не сообщил). |
| **альбо, або** | либо, или | **Возьмем жураві́навага соку альбо кока-колы?** (Возьмём клюквенный сок или кока-колу?) |
| **ці** | или, ли | **Папыта́йся, ці бу́дзе ён уве́чары дома** (Спроси, будет ли он вечером дома). |
| **ні, ані́** | ни | **Ніку́ды ня ва́рты дзяцю́к, ані́ да та́нца, ані́ да ружа́нца** (Никчемный парень, не умеет ни веселиться, ни молиться). |
| **як, як толькі** | как, как только | **Як толькі пры́йдзеш, адра́зу патэлефану́й** (Как только придёшь, сразу позвони). |
| **калі́** | 1) когда;<br>2) если | 1) **Ска́жаш яму́, калі́ ўба́чыш яго** (Скажешь, когда увидишь его).<br>2) **Калі́ ве́рыш, то й спра́ўдзіцца** (Если веришь, то и сбудется). |
| **калі́ б** | если бы | **Калі́ б ня дождж, я б не намок** (Если бы не дождь, я бы не намок). |
| **бо, таму́ што** | потому что | **Я вучу́ белару́скую мову, бо жыву́ ў Белару́сі** (Я учу белорусский язык, потому что живу в Беларуси). |
| **што** | что | **Добра, што ў мяне́ былі́ грошы** (Хорошо, что у меня были деньги). |
| **каб** | 1) чтобы;<br>2) если | 1) **Сьпяша́юся, каб не спазьні́цца** (Спешу, чтобы не опоздать).<br>2) **Патэлефанава́ў бы, каб мог** (Позвонил бы, если бы мог). |
| **хоць** | хотя | **Я шчасьлі́вы, хоць і не бага́ты** (Я счастлив, хотя и не богат). |
| **балазе́** | так как; благо; хорошо, что | **За́раз пае́дзем, балазе́ машы́на зда́рылася** (Сейчас поедем, как раз машина подвернулась). |



## Практыкуйцеся

**7. Адшукайце ў сказах злучнікі. Скажыце, чым яны розьняцца ад падобных займеньнікаў** (Найдите в предложениях союзы. Скажите, чем они отличаются от похожих местоимений).

Адве́далі — і добра зрабі́лі, затое ня бу́дзем больш турбава́цца.
Колькі было хвалява́ньняў за тое падарожжа!
Я размаўля́ў з Але́сем, прычы́м ён сам расказа́ў мне пра тое здарэ́ньне.
Незразуме́ла, пры чым ён тут.
Робім усё магчы́мае, паколькі ёсьць надзе́я.
Ён спыта́ўся, па колькі грошай мы склада́ем.

**8. Замест кропак пастаўце злучнік, які больш пасуе дадзенаму выпадку** (Вместо точек поставьте союз, который более подходит в данном случае).

**а)** ***і / ды***

На сьвя́та спадзяёмся гасьце́й … пагуля́нкі.
У дарозе замары́ліся, … не зажуры́ліся.
Ясь — зда́тны дзяцюк, … яшчэ́ які́ зда́тны!

**б)** ***ні́бы / бы́ццам***

Адчува́ньне такое, … знаёмы зь і́мі шмат гадоў.
Нікому нічога ня ру́піць, … у мяне́ аднаго і́ншых клопатаў няма́.

**9. Прачытаўшы, як сустракалі гасьцей Гелена ды Мікіта, раскажыце, як вы сустракалі гасьцей.**

**I.**



— Добры дзень!
— Дзень добры. Толькі што тэлефанава́ў Андрэй. Ён за́раз пры́йдзе.
— Мы яго пачака́ем, калі́ вы дазволіце.
— Калі́ ла́ска. Магу́ прапанава́ць вам ка́ву, гарба́ту, ці, можа, кілі́шак віна́?
— Дзя́куй, гарба́ту пап’ём з прые́мнасьцю.
— Часту́йцеся!

**II.**



Геле́на й Мікі́та Барзды́кі чака́юць гасьце́й. Ты́я ме́ліся быць апаўдні́.
На гадзі́ньніку роўна двана́ццаць. За́раз паві́нны прыйсьці́.

**III.**



— Часту́йцеся, калі́ ла́ска, Сымон Мікала́евіч!
— Досыць, дзя́куй, На́стачка.

**IV.**

Да Барзды́каў папрыходзілі сваякі́ ды ўся сябры́на. Усе́ ра́ды, што вы́пала сабра́цца ра́зам, ба́чыць адзі́н аднаго.

— Віта́ем! Віншу́ем! Прывіта́ньне! Дзень добры! — чува́ць адусю́ль.

**V.**



— Добрага здароўя, спада́р Ва́цлаў.

— Дзень добры, Марты́не!

**VI.**



Сёньня нядзе́ля, чатырна́ццатае ве́расьня. Іду́ да майго ся́бра Мікі́ты Барзды́кі. У ягонай жонкі Геле́ны якра́з дзень народзінаў.

**VII.**



Яшчэ́ званок у дзьве́ры.

— А, Лявон!

— Дзень добры, цётка Амі́ля. Знаёмцеся, гэ́та мая́ сяброўка Та́ня.

— Ве́льмі прые́мна. Калі́ ла́ска, праходзьце. Хадзе́мце ў пакой. Сяда́йце. — Гаспады́ня запраша́е нас у гасьцёўню.

## Планировка квартиры

## Пляніроўка кватэры

1. **гасьцёўня** (гостиная),
2. **спа́льны пакой / спачыва́льня** (спальня),
3. **дзіця́чы пакой** (детская комната),
4. **ку́хня** (кухня),
5. **пярэ́дні пакой / прывіта́льня / віта́льня** (прихожая),
6. **калідор** (коридор),
7. **балькон / гаўбе́ц** (балкон),
8. **ла́зьніца / лазе́нка і прыбіра́льня** (ванная и туалет).




## Па-беларуску кажуць так



| | |
|---|---|
| **Ці можна запрасі́ць вас на вячэ́ру?** | Можно вас пригласить на ужин? |
| **Дзя́куй за запрашэ́ньне, прыйду́, як бу́дзе выпада́ць.** | Спасибо за приглашение, приду, как только смогу. |

| | |
|---|---|
| **На жаль, сёньня не магуʹ, а вось заʹўтра — з прыеʹмнасьцю.** | К сожалению, сегодня не могу, а вот завтра — с удовольствием. |
| **Раʹды зноў баʹчыць вас.** | Рады снова видеть вас. |
| **Праходзьце, распранаʹйцеся, сядаʹйце.** | Проходите, раздевайтесь, садитесь. |
| **Уладкоўвайцеся, як зручнеʹй.** | Устраивайтесь поудобнее. |
| **Ці магуʹ прапанаваʹць вам куʹбачак каʹвы ці шкляʹнку гарбаʹты?** | Я могу вам предложить чашку кофе или стакан чаю? |
| **Дзяʹкуй, не турбуʹйцеся.** | Спасибо, не беспокойтесь. |
| **Я вам не перашкоджу?** | Я вам не помешаю? |
| **Можа, я вам замінаʹю?** | Может, я не кстати? |
| **Каліʹ лаʹска, прашуʹ за стол!** | Пожалуйста, прошу к столу! |
| **Частуʹйцеся!** | Угощайтесь! |
| **Ці вам яшчэʹ чаго?** | Может, вам ещё чего-нибудь? |
| **Дзяʹкуй, каліʹ крыхуʹ.** | Спасибо, только немножко. |
| **Дзяʹкуй, не, досыць.** | Спасибо, нет, хватит. |
| **Я ўжо больш не магуʹ.** | Я уже больше не могу. |
| **Ды не, наадварот.** | Да нет, наоборот. |
| **Што чуваʹць у вас?** | Что у вас слышно? |
| **Як гадуʹецеся?** | Как дела, как семья, дети? |
| **Сядаʹйце, дзяʹдзька, каліʹ лаʹска!** | Садитесь, дядя, пожалуйста! |
| **Дзяʹкуй, вяліʹкі расьціʹ!** | Спасибо, расти большой! |
| **Дзяʹкуй за прыеʹмны веʹчар.** | Спасибо за приятный вечер. |
| **Я вам хачуʹ падзяʹкаваць за тое, што вы прыйшліʹ.** | Я вас хочу поблагодарить за то, что вы пришли. |
| **Прыходзьце яшчэʹ, мы заўсёды вам раʹдыя.** | Приходите ещё, мы всегда вам рады. |
| **Дзяʹкуй, што адвеʹдалі нас.** | Спасибо, что посетили нас. |
| **На жаль, я муʹшу ўжо ісьціʹ.** | К сожалению, мне уже надо уходить. |
| **Я хацеʹў бы з ваʹмі разьвітаʹцца.** | Я хотел бы с вами попрощаться. |
| **Ня буʹду вас затрыʹмліваць.** | Не буду вас задерживать. |



## Практыкуйцеся

**10. Прачытайце і адкажыце на пытаньні** (Прочитайте и ответьте на вопросы).

— Адкуʹль саʹмі буʹдзеце?
— Я зь Віʹльні.
— Каторы раз тут, у нас?
— Пеʹршы раз, я ў камандзіроўцы.
— Дзе працуʹеце, спадаʹру?
— З прафэʹсіі я інжынэʹр, алеʹ ж цяпеʹр у мянеʹ новая праʹца. Я загаʹднік гандлёвага аб'яднаʹньня.
— Ну і як, не шкадуʹеце?
— Не, я задаволены, гэʹта жываʹя работа.
— Як вам Менск?
— Яшчэʹ ня маʹю што сказаʹць. Вось толькі знаёмлюся з ваʹшым горадам. Маніʹўся сёньня пайсьціʹ ў тэаʹтар Яʹнкі Купаʹлы, алеʹ не дастаʹў білеʹта.



**Пытаньні:**
Як ва́ша імя́?
Адку́ль бу́дзеце?
Дзе працу́еце?
Які́ ваш заня́так?
Ну й як працу́ецца, ці не шкаду́еце?
Каторы раз вы ў Ме́нску?
Ці падаба́ецца вам наш горад?

**11. Прачытайце. Складзіце свае дыялёгі** (Прочитайте. Составьте свои диалоги).

**I.**



— Калі́ бу́дзе аўтобус на Валожын?
— У адзіна́ццаць дзе́сяць.
— А які́я ёсьць аўтобусы пасля́ чатырна́ццаці гадзі́наў?
— У чатырна́ццаць два́ццаць, потым у пятна́ццаць дзе́сяць.

**Ра́дашкавічы**: $8^{\underline{15}}$, $10^{\underline{29}}$, $13^{\underline{24}}$, $17^{\underline{48}}$, $19^{\underline{02}}$.
**І́ўе**: $10^{\underline{55}}$, $14^{\underline{14}}$, $18^{\underline{34}}$, $20^{\underline{18}}$.
**Засла́ўе**: $6^{\underline{10}}$, $6^{\underline{40}}$, $7^{\underline{10}}$, $7^{\underline{40}}$.
**Новы Двор**: $17^{\underline{00}}$, $18^{\underline{00}}$, $19^{\underline{00}}$, $20^{\underline{00}}$.

**II.**

— Бу́дзьце ласка́выя, адзі́н біле́т да Гомелю.
— Вам у адзі́н бок?
— Туды́ і наза́д.
— Калі́ ла́ска.
— Скажы́це, ці трэ́ба мне перасяда́ць?
— Не, гэ́ты цягні́к ідзе́ аж да Гомелю.
— А на якой ён кале́йцы?
— На трэ́цяй плятформе, на пя́тай кале́йцы.
— Ці чува́ць там абве́сткі вакза́льнага ра́дыё?
— Чува́ць, можаце не хвалява́цца.




**На Бе́расьце**: 2 плятформа, 3 кале́йка.
**На Горадню**: 5 плятформа, 9 кале́йка, перася́дка ў Маладэ́чне.
**На Магілёў**: 4 плятформа, 8 кале́йка.
**На Полацак**: 3 плятформа, 6 калейка, перася́дка ў Ві́цебску.

**III.**




— Праба́чце, як мне патра́піць на ву́ліцу Стараві́ленскую?
— Сяда́йце на тры́ццаць восьмы аўтобус і е́дзьце да прыпы́нку «ву́ліца Крапоткіна». А як нацянькі́, то можна і прайсьці́, тут недалёка.

**На ву́ліцу Каліноўскага**: трале́йбус № 2, прыпы́нак «Ву́ліца Каліноўскага».
**На ву́ліцу Гусоўскага**: аўтобус № 40, прыпы́нак «Ву́ліца Гусоўскага».
**На праспэ́кт Францішка Скары́ны**: ста́нцыя мэтро «Купа́лаўская».
**Да пля́цу Незале́жнасьці**: тралейбус № 1, перася́дка на мэтро: ста́нцыя «Ўсход», вы́хад на ста́нцыі «Плошча Незале́жнасьці».

**IV.**




— А ці гэ́тай ву́ліцай мы дойдзем да кра́мы «Кве́ткі»?

— Не, вы ідзяце́ ня ў тым кіру́нку. Вам трэ́ба за́раз павярну́ць напра́ва, гэ́та ву́ліца Максі́ма Багдановіча. Потым пройдзеце пры́кладна 100 мэ́траў. Кра́му «Кве́ткі» ўба́чыце зь ле́вага боку.

**Да пошты**: нале́ва — ву́ліца Луцке́віча, 50 мэ́траў, напра́ва — ву́ліца Коласа, 50 мэ́траў.
**Да аптэ́кі**: наўпрост — 100 мэ́траў, нале́ва — ву́ліца Петруся́ Броўкі, 50 мэ́траў.
**Да касьцёлу**: напра́ва — ву́ліца Я́нкі Ма́ўра, 200 мэ́траў.
**Да кра́мы «Хлеб»**: нале́ва — ву́ліца Гарэ́цкага, 100 мэ́траў, нале́ва — ву́ліца Баршчэ́ўскага, на рагу́.

**12. Прачытайце. Уявіце сабе, што вы прадстаўнік фірмы і прыйшлі на сустрэчу з дырэктарам гандлёвае арганізацыі. Раскажыце, як вы распачалі гутарку.**







— Добры дзень! Бу́дзьце ласка́вы, скажы́це, ці прыма́е дырэ́ктар?

— Добры дзень! А пра каго я ма́ю паве́даміць?

— Мяне́ заву́ць Яўге́н. Прозьвішча Рагу́ля. Я галоўны мэ́нэджар фі́рмы «АБЦ». Калі́ ла́ска, вось мая́ візытоўка. Перапраша́ю вас, што ня мог за́гадзя паве́даміць вам пра свой візы́т.

— Адну́ хвілі́нку, я за́раз папыта́юся. Спада́ру Васі́лю, да вас прыйшоў прадстаўні́к фі́рмы «АБЦ» спада́р Рагу́ля… Так… так… добра. Дырэ́ктар пры́ме вас. Вы ма́еце на гу́тарку 20 хвілі́наў. Калі́ ла́ска, праходзьце.

— Добры дзень, спада́р Рагу́ля. Сяда́йце, калі́ ла́ска. Які́ ў вас клопат?

— Добры дзень, спада́р Васі́ль. Вы пе́ршы, каго нам пара́ілі ў кіраўні́цтве канцэ́рну «Пяць зорак». Па дамоўленасьці з кіраўні́цтвам мы забясьпе́чваем канцэ́рн тэхналёгіямі кірава́ньня прадпрые́мствамі ў суча́сных умовах. Па су́тнасьці, гэ́та дадатковая (ускосная) інфарма́цыя пра ва́шых клie̋нтаў… Але́ вам трэ́ба паглядзе́ць. Калі́ ла́ска, вось тут пада́дзена больш падрабя́зная інфарма́цыя.

— Добра, ве́льмі добра. Сапраўды́, гэ́та ціка́ва…



## Кароткія размовы

(чытайце ўголас)

— Алё?
— Дзе ты падзе́ўся?! Ці ты забы́ўся, на калі́ мы дамовіліся спатка́цца?
— Выбача́йце, хлопцы, зусі́м забы́ўся! Запрацава́ўся, толькі што зірну́ў на гадзі́ньнік…
— Ну што ж, больш чака́ць нам не выпада́е. Мы даклярава́лі не пазьні́цца. За́раз выходзім.
— Тады́, можа, я вас перахаплю́ ў горадзе?

— Алло?
— Где ты пропал?! Или ты забыл, во сколько мы договорились встретиться?
— Извините, ребята, совсем забыл! Заработался, только что посмотрел на часы…
— Ну что ж, больше ждать нам не получается. Мы обещали не опаздывать. Сейчас выходим.
— Тогда, может, я вас перехвачу в городе?

| | |
|---|---|
| — Добра. Праз хвілі́наў пятна́ццаць мы бу́дзем на ста́нцыі «Ўсход».<br>— Дык я ўжо бягу́. | — Хорошо. Минут через пятнадцать мы будем на станции «Восток».<br>— Так я уже бегу. |
| — Зьбіра́юся браць біле́ты на ве́чар. Можаш сказа́ць дакла́дна, хто пае́дзе на спаборніцтвы?<br>— За́раз у добрай спарты́ўнай форме Сярге́й, Пятру́сь і Андрэ́й.<br>— Добра. Але ж кама́нда ма́е быць чаты́ры чалаве́кі.<br>— Хіба́ яшчэ́ Віта́ль?<br>— Ну, у Віта́ля цяпе́р спад, і ягоныя вы́нікі ня на́дта… Можа Ю́рка?<br>— О так, напэ́ўна, Ю́рка. Малады́, амбі́тны, паглядзі́м на ягоныя вы́нікі. | — Собираюсь брать билеты на вечер. Можешь сказать точно, кто поедет на соревнования?<br>— Сейчас в хорошей спортивной форме Сергей, Петр и Андрей.<br>— Хорошо. Но команда же должна быть из четырёх человек.<br>— Может, ещё Виталий?<br>— Ну, у Виталия сейчас спад, и его результаты не очень… Может, Юра?<br>— О да, наверное, Юра. Молодой, амбициозный, посмотрим на его результаты. |
| — А… Вось нарэ́шце й на́шыя грыбнікі́ вярну́ліся. Пакажы́це ж свае́ кошыкі.<br>— На, глядзі́.<br>— І гэ́та ўсё? А дзе ж ва́шыя грыбы́? Вы былі́ ў такі́м ле́се!<br>— Мы зайшлі́ не з таго боку. Му́сілі прабіра́цца праз калю́чы хмызьня́к.<br>— Ат, незайздросныя вы грыбнікі́. Знайшлі́ дзе заблука́ць — у трох соснах! Насту́пным ра́зам пойдзеце са мной. | — А… Вот наконец и наши грибники вернулись. Покажите-ка свои корзины.<br>— На, смотри.<br>— И это всё? А где же ваши грибы? Вы были в таком лесу!<br>— Мы не с той стороны зашли. Пришлось пробираться через колючий кустарник.<br>— Эх, незавидные вы грибники. Нашли где заблудиться — в трёх соснах! В следующий раз пойдёте со мной. |
| — Трэ́ба было б зайсьці́ ў кра́му. У нас жа няма́ ані́ хле́ба, ані́ да хле́ба!<br>— Пайшлі́ ў «Заможны двор», гэ́та тут, недалёка.<br>— А хіба́ ён яшчэ́ адчы́нены?<br>— Няўжо ж не, супэрма́ркет працу́е кругласодна. Тут мы ку́пім усё, што трэ́ба.<br>— Гэ́тую кра́му ва́рта запомніць. | — Надо было бы зайти в магазин. У нас же нет ни хлеба, ни к хлебу!<br>— Пошли в «Заможны двор», это тут, недалеко.<br>— А разве он ещё открыт?<br>— Конечно, супермаркет работает круглосуточно. Тут мы купим всё, что нужно.<br>— Этот магазин стоит запомнить. |
| — Зрабі́лі, віда́ць, усё, што вы хаце́лі: сталя́рка новая, шпале́ры пакле́еныя, столь пабе́леная, заме́нена сантэ́хніка.<br>— Я вам ве́льмі ўдзя́чны. Колькі я му́шу заплаці́ць за ва́шую пра́цу?<br>— Паводле кашта́рысу. Вось акт прыня́цьця работы, падпішы́це, калі́ ла́ска. Апла́ту можаце зрабі́ць за́ўтра ў офісе на́шае фі́рмы. | — Сделали вроде бы всё, что вы хотели: столярка новая, обои поклеены, потолок побелен, заменена сантехника.<br>— Я вам очень благодарен. Сколько я должен заплатить за вашу работу?<br>— По смете. Вот акт приёмки работ, подпишите, пожалуйста. Оплату можете сделать завтра в офисе нашей фирмы. |
| — Зьбіра́ецеся, а пра мяне́ й ня ду́маеце. На каго мяне́ пакіда́еце? Я суму́ю па дзяду́лю, па Міколу.<br>— Не хвалю́йся, ты пае́дзеш за́ўтра ра́ніцай зь дзя́дзькам Са́шкам. | — Собираетесь, а обо мне и не думаете. На кого меня оставляете? Я скучаю по дедушке, по Коле.<br>— Не волнуйся, ты поедешь завтра утром с дядей Сашей. |

| | |
|---|---|
| — Да Ме́нску яшчэ́ тры гадзі́ны язды́.<br>— А калі́ прыбыва́е наш цягні́к?<br>— А сёмай гадзі́не.<br>— На́ват ня ве́рыцца, што ху́тка бу́дзем сярод сваі́х. | — До Минска ещё три часа езды.<br>— А когда прибывает наш поезд?<br>— В семь часов.<br>— Даже не верится, что скоро будем среди своих. |
| — Прывіта́ньне! Я крыху́ прыпазьні́лася, выбача́й. Ну што, пайшлі́? Чаго ты суме́ўся? Я так ляце́ла…<br>— Можна было не сьпяша́цца. Няма́ біле́таў.<br>— Як няма́?!<br>— Гэ́так глядзі́ш на мяне́, ні́бы я вінава́ты.<br>— Ты ж даклярава́ў абавязкова даста́ць біле́ты! | — Привет! Я немного задержалась, извини. Ну что, пошли? Чего ты такой? Я так летела…<br>— Можно было не торопиться. Нет билетов.<br>— Как нет?!<br>— Ты на меня так смотришь, будто я виноват.<br>— Ведь ты обещал непременно купить билеты! |



## Майстры слова гавораць

… На скра́ю ле́су — у я́гадах угле́дзеў я дзяўча́т; пыта́ю дарогі.

— Дарога, — ка́жуць яны́, — тут найбліжэ́йшая адна́: пе́ршая паваротка нале́ва, а там — прасьцю́сенька, але́ тудой тру́дна прабра́цца — мост нягодны, лепш ісьці́ ўкру́г, хаця́ накла́ду й зробіце вярсты́ 3-4, але́ сьмяле́й.

— Воз мой ня ця́жкі, — кажу́, сьмеючы́ся, — усяго, што на пляча́х.

— Дармо, што ня ця́жкі, — адка́зваюць яны́, — там і з пусты́мі рука́мі дрэ́нна перабра́цца.

От, ду́маю сабе́, вядома, ба́бы — пужлі́вае насе́ньне; што за такі́ мост, каб пехатой не прабра́цца! Бяру́ся, прайшоўшы зь вярсту́, кру́та ўле́ва, качу́ простай дарогай, ажно й мост. Тпр-ру. Стой! Рэ́чка Шыльвя́нка не шырокая, але́ глыбокая — ня пройдзеш; «папа́ў як у не́рат: ні ўзад ні ўпе́рад»; наза́д — сорамна дый далёка варочацца; упе́рад — не́як адва́га адпа́ла…

Ядві́гін Ш.

## Лекцыя дзявятая — Урок девятый



— Я дзе́сьці ба́чыў яго. Гэ́та хто такі́?

— Пазнаёмцеся!

### Лад мовы

## Предложение

### Сказ

*Предложение (сказ)* — мысль, оформленная словами и высказанная с определённой интонацией.

В зависимости от того, что и зачем высказывается, предложения бывают:

— *повествовательные (апавяда́льныя)*: **Я тут жыву́. Я му́шу ве́даць ва́шу мову.**

— *вопросительные (пыта́льныя)*: **Што ты пакі́неш у спа́дчыну ўну́кам сваі́м?**

— *побудительные (пабуджа́льныя)*: **Жыве́ Белару́сь!**

Слова-предложения выражают законченную мысль одним словом: **Так. Ага́. Пэ́ўна ж. Але́. Не.**

## Частицы

### Часьцінкі

*Частица (часьці́нка)* — служебная часть речи, придающая речи смысловые и эмоциональные оттенки.

Примеры частиц:

| | |
|---|---|
| **Указа́льныя** | **гэ́та** (это), **вунь** (вон), **вось** (вот) |
| **Удакладня́льныя** | **якра́з** (как раз), **ама́ль** (почти), **менаві́та** (именно) |
| **Абмежава́льныя** | **толькі** (только), **хоць** (хоть, хотя), **хіба́** (разве) |
| **Сцьвярджа́льныя** | **так** (да), **ага́** (да), **але́** (да) |
| **Адмоўныя** | **не** (нет), **ні** (ни), **а́ні** (ни) |
| **Пабуджа́льныя** | **хай** (пусть, пускай), **няха́й** (пусть, пускай), **ну** (ну) |
| **Узмацня́льныя** | **аж** (аж), **ду́жа** (сильно, очень), **на́дта** (очень), **на́ват** (даже), **дык** (так, вот, поэтому), **ж (жа)** (же) |
| **Пыта́льныя** | **га?** (что? а?) **хіба́?** (разве?) **ці?** (ли?) **няўжо?** (неужели?) |
| **Клі́чныя** | **вось дык!** (вот так!) **во як!** (вот как!) **што за!** (что за!) **ну і!** (ну и!) **як!** (как!) **які́я!** (какие!) |

Частица ***а́ні*** используется для усиления отрицания: **мы прайшлі́ па вёсцы — не сустрэ́лі а́ні душы́** (мы прошли по деревне — не встретили ни души).

### Па-беларуску кажуць так





— Можна, я ад цябе́ патэлефану́ю?
— Чаму́ ж не? Вось ту́така тэлефон, калі́ ла́ска, звані́!





— Добры дзень. Гэ́та кватэ́ра Вожыкаў?
— Добры дзень. На жаль, вы памылі́ліся, гэ́та кватэ́ра Сьцяпа́навых.
— Праба́чце… Няўжо я набра́ла ня той ну́мар? Паспрабу́ю зноў …
— Слу́хаю.
— Добры дзень. Гэ́та кватэ́ра Вожыкаў?
— Добры дзень. Так, так, кватэ́ра Вожыкаў.
— Запрасі́це, калі́ ла́ска, Ві́ктара Дзям’я́навіча.
— Яго няма́, ён яшчэ́ на пра́цы.
— А вы ня ве́даеце, калі́ ён бу́дзе?
— Патэлефану́йце, калі́ ла́ска, а сёмай гадзі́не.
— Дзя́кую. Быва́йце.
— Быва́йце.



— Гэ́та я!
— А! Ка́ся! Прывіта́ньне!
— Мне патрэ́бны Андрэ́й. Ён ча́сам не ў цябе́?
— Ма́е быць. Ды во заба́віўся не́дзе. За́раз пады́дзе.
— Калі́ пры́йдзе — перада́й, каб адра́зу ж патэлефанава́ў мне. Ён мне на́дта патрэ́бны.
— Добра, абавязкова перада́м.



— Чака́ем ужо пятна́ццаць хвілі́наў, а Зьмітра́ ўсё няма́! Ну дзе ж ён блука́е?
— Глядзі́, пад’яжджа́е трале́йбус… А вось і Зьмі́цер!
— Здаровы, хлопцы! Му́сіць, даўно чака́еце мяне́? Выбача́йце, я затрыма́ўся на пра́цы.
— Добра, што пасьпе́ў. Яшчэ́ ма́ем хвілі́наў колькі.
— Хіба́ зайсьці́ ў кавя́рню?
— Не, на кавя́рню ча́су ўжо няма́. Канцэ́рт пачына́ецца праз два́ццаць хвілі́наў.
— Ну, тады́ пойдзем хутчэ́й.



— Ну як?! Якое ўра́жаньне ад спэкта́клю?
— Найле́пшае.
— І мне такса́ма спадаба́лася. А што за арты́сты!
— І я проста ў захапле́ньні!
— Добра, што мы нарэ́шце нава́жыліся пайсьці́ ў тэа́тар.
— Які́ прые́мны ве́чар!



— Можа пройдземся?
— Добра. Заадно праведзяце́ мяне́ да гатэ́лю.
— Дава́йце пойдзем праз Трае́цкае пры́ме́сьце, уздоўж Сьві́слачы. Я там ве́даю адзі́н такі́ куточак, дзе можна прые́мна пасядзе́ць.
— Згодна, толькі ў дзе́сяць гадзі́наў я му́шу быць пры тэлефоне. Бу́дуць тэлефанава́ць з дому.

— Алё?
— Алё! Віта́ньне.
— Паўлі́на?! Прывіта́ньне! Ці ты ўжо ў горадзе?
— Тут. І Маце́й са мной.
— Во як добра! Нарэ́шце пазнаёміш мяне́ з сваі́м му́жам. Дзе ж вы спынілі́ся?
— У сваякоў на Нямі́зе. А што ў вас чува́ць?
— Шмат ціка́вага! Былі́ на адпачы́нку ў Фра́нцыі, толькі вярну́ліся. Ура́жаньняў поўна, але́ гэ́та пры сустрэ́чы. Калі́ спатка́емся?
— Ты ве́даеш, сёньня нам нія́к не выпада́е. Дава́й, можа, за́ўтра?
— Добра. А якой гадзі́не бу́дзеце ў мяне́?
— Бу́дзем не́дзе а палове на пя́тую.
— Ну, дык я вас чака́ю.





— Што ў вас ёсьцека з напояў?
— Ка́ва, гарба́та, жураві́навы морс, пі́ва, сталовае віно.
— Можа, узя́ць па ке́ліху бе́лага віна́?
— Як сабе́ хочаце. Я дык вазьму́ гарба́ту. А ці ёсьць зь зёлкамі?
— Ёсьць. Зёлкі такі́я: сьвятая́ньнік, чабор, суні́чны ліст ды яшчэ́ й шыпшы́на.
— Ве́льмі добра. Калі́ ла́ска, ку́бачак гарба́ты.
— А нам дзьве ка́вы зь вяршка́мі ды піражкі́ «Сяброўскія»… тры.



## Практыкуйцеся

**1. Сцьвярджальныя сказы замяніце на адмоўныя** (Утвердительные предложения замените отрицательными).
**Узор:** Усе́ пае́халі на экску́рсію. → Ніхто не пае́хаў на экску́рсію.

Усе́ чака́лі ягонага прые́зду.
Усе́ пра не́шта пыта́юцца.
Усі́м пасла́лі запрашэ́ньні.
Усі́м трэ́ба браць квіткі́.
Усе́ хочуць е́хаць.
Я зьбіра́юся е́хаць хоць куды́!
Мы пае́дзем дадому цягніком.
Дзе́ці пойдуць з на́мі ў тэа́тар.
Штове́чар ходзім на шпа́цыр.

Яны́ сёньня не́кага сустрака́юць.
Ён не́чым нам можа паспрыя́ць.
Усе́ ме́сцы — вольныя.
Ула́дзю, паста́ў ку́бак на стол!
Заходзьце сюды́!
Тут я й сам дам ра́ды!

**2. Што будзеце рабіць?** (Что будете делать?)

| | |
|---|---|
| Ваш суразмоўца абура́е вас. | 1. Вы́кажу свой пратэ́ст словамі: «Даволі!» альбо «Ну, гэ́та ўжо зана́дта!»<br>2. Усё ўзва́жу, перш чым спрача́цца.<br>3. Бу́ду намага́цца стрыма́ць сябе́.<br>4. Коратка й я́сна вы́кажу сваю́ ду́мку, пастара́юся прыве́сьці перакана́ўчыя аргумэ́нты.<br>5. Бра́зну дзьвяры́ма. |
| Не́хта звоніць у дзьве́ры. | 1. Ніколі не адчыня́ю дзьве́ры, паку́ль не папыта́юся: «Хто там?»<br>2. Перш чым адчыня́ць, пагляджу́ ў дзьвярное вочка.<br>3. Адчыню́, скажу́: «Заходзьце, калі́ ла́ска», бо ве́даю, хто гэ́та.<br>4. Адра́зу адчыню́ дзьве́ры, бо ня ма́ю звы́чкі пыта́цца і глядзе́ць у дзьвярное вочка. |
| У пакоі на́дта холадна. | 1. Уключу́ абагрэ́ўнік.<br>2. Спыта́юся ў ЖЭСе пра тэмпэрату́ру ў пакоях.<br>3. Вазьму́ гара́чы душ альбо ва́нну.<br>4. Бу́ду варушы́цца, каб ня зьме́рзнуць. |

**3. Пабудуйце сказы з ужываньнем наступных слоў, часьцінак ды словазлучэньняў** (Составьте предложения, используя следующие слова, частицы и словосочетания).

Вось ён, няўжо ты згадзі́ўся, аж да ве́чару, хай пачака́е, ці гэ́та, як жа, досыць, як бы́ццам бы неблагі́, ні́бы я ня ве́даю.

**4. Папытайцеся па-беларуску** (Спросите по-белорусски).

Ты закончишь работу к воскресенью?
Куда ты направился?
Где мы сейчас находимся?
В какой стороне находится автовокзал?
Собраны ли все вещи?
Подождёшь меня на углу площади?
Придёшь к нам сегодня на ужин?
Пойдём завтра на прогулку в Верхний город?
Выберешь что-нибудь почитать из новых книг?
Наденешь на встречу новую шляпу?
Едите вы дома такой салат?
Купили ли вы яблок?
Чья это машина стоит во дворе?
Кто будет ухаживать за больным, пока вас нет?
Когда Алесь женился на Ольге?

**5. Прачытайце і перакажыце тэкст.**

Нам не сядзі́цца на ме́сцы. У сьвя́та мы зноў вы́браліся ў вандроўку. Е́дзем усе́ ўсемяры́х на роварах. Дарога — лясна́я, але́ скрозь чы́стая. Дзе-нідзе́ — пад гару́.

Праз якую́ю гадзі́ну мы ўжо ў Дубка́х. Трохі здарожыліся. За́раз жа дастае́м свае́ паку́нкі зь е́жай і ладку́емся сьне́даць. Я перш-на́перш пачына́ю кроіць хлеб. Сьпяша́емся, бо ўжо ўсі́м захаце́лася е́сьці.



— Я́дзя! Толік! Не раскіда́йце шкарлупі́ньня! Навошта бру́дзіць лес?! Мы сюды́ яшчэ́ ве́рнемся.

— Зьмі́тра, паглядзі́, калі́ ла́ска, у маёй су́мачцы касьцяну́ю лы́жачку — мне тра́пілася я́йка ўсьмя́тку.

— Грамада́, а ў мяне́ ёсьць бу́льба ў мундзіра́х — яе́ трэ́ба абабра́ць.

— Хто бу́дзе піць ка́ву? Яна́ трохі асты́лая, але́ ж усё роўна сма́чная.

Пасьля́ сьняда́ньня адпачыва́ем. Е́хаць ніку́ды ня хочацца. Сядзі́м, размаўля́ем:

— Чым ня ўту́льна мы ўладкава́ліся?

— Добра, але́ каб ня гэ́тыя грымлі́выя дына́мікі!

— Вяскоўцы забаўля́юцца, хто як можа.

— А мне бы толькі птушы́ны сьпеў…

— Ну, салоўку ты пад ве́чар яшчэ́ наслу́хаешся.

— Суце́шуся гэ́тым прыгожым спадзява́ньнем…

**6. Якое пытаньне папярэднічала адказу?** (Какой вопрос предшествовал ответу?)

**… ?** Е́дзем усемяры́х на роварах.
**… ?** Прые́халі ў Дубкі́.
**… ?** Сьпярша́ пачына́ю кроіць хлеб.
**… ?** Шкарлупі́ньня не раскіда́ем, бо сюды́ яшчэ́ ве́рнемся.
**… ?** Бу́льбу трэ́ба абабра́ць.
**… ?** Ка́ва трохі асты́лая.
**… ?** Не, е́хаць ня хочацца.
**… ?** Вяскоўцы забаўля́юцца.
**… ?** Яшчэ́ наслу́хаешся.

**7. Замест кропак устаўце ў тэкст прапушчаныя словы.**

Біле́т … дому я ўзяў туды й … . Цягні́к … у 11 гадзі́наў. Цяпе́р на маі́м … роўна 10. Зна́чыць, застае́цца яшчэ́ добрая … . Трэ́ба здаць рэ́чы на … і прайсьці́ся па бліжэ́йшых … . Хачу́ купі́ць дзе́цям … з ласу́нкаў. Та́нінай дачцэ́, … ме́ншай маёй пляме́ньніцы Ната́льцы, асаблі́ва … ме́нскія цуке́ркі. Куплю́, калі́ … . Якра́з па … тра́пілася кра́ма з прыва́бнаю … «Госьціца». Хіба́ … сюды́? Ту́така … ты́я … .



## Ясь распавядае




У мяне́ гасьцюе́ адзі́н мой знаёмец з Баўга́рыі. Сёньня мне заману́лася прайсьці́ся зь ім па ву́лках Трае́цкага прыме́сьця. Урэ́шце натра́пілі на рэстара́цыю «Мядзьве́дзь» пры Старой ву́ліцы. Гэ́та ве́льмі шанава́ная ўстанова. Ама́тары вы́піць і сма́чна пад'е́сьці горнуцца сюды́ дзе́ля прыстойнай белару́скай ку́хні. Тут табе́ і кру́пнік, і «кру́пнік іна́чай», і настойка з агрэ́сту — уся́кія ха́тнія тру́нкі й ква́сы. Што характэ́рна — усё белару́скае! І гу́тарка скрозь белару́ская.

…Нарэ́шце мы вы́бралі ўту́льны заку́так. Уладкава́ўшыся, узялі́ па ке́ліху чырвонага баўга́рскага віна́ і ка́чку ў руды́м соўсе. Пасядзе́лі, пагамані́лі. Мой госьць заўва́жыў між і́ншага, што белару́сы, віда́ць, — ве́льмі здольныя да моваў. Прызна́цца, я так ня ду́маў.



Пакі́нуўшы «Мядзьве́дзь», на Старой ву́ліцы мы спатка́лі Тамаша́. Ён, як заўсёды, штосьці здыма́ў. Тамаша́ я ўважа́ю за роўнага сабе́ ў майстэ́рстве фатаграфава́ньня.

— Як справу́нкі? — пыта́юся ў яго.

— Па сьвя́це е́дзем на Ўкраі́ну.

— На госьці?

— Ага, да крэ́ўных, у Бе́лую Царкву́.

— Кудой вы е́дзеце? Праз Кі́еў, га?

— Пэўна ж!

Падчас сёньняшняга на́шага шпацырава́ньня мой госьць не сумава́ў.

## Практыкуйцеся



**8. Прачытайце наступныя сказы. Скажыце «так» альбо «не», а потым патлумачце, чаму вы пагадзіліся альбо не.**

У Я́ся гасьцюе́ знаёмец з Польшчы.
Я́севага госьця зваць Тама́ш.
Яны́ ўчора хадзі́лі на шпа́цыр.
Яны́ пайшлі́ на шпа́цыр у Трае́цкае прыме́сьце.
Яны́ зайшлі́ ў рэстара́цыю «Мядзьве́дзь».
У рэстара́цыі не было вольных ме́сцаў.
У рэстара́цыі падаю́ць белару́скія стра́вы.
Яны́ ўзялі́ гусю́ зь я́блыкамі і па кілі́шку гарэ́лкі.
Яны́ былі́ ў рэстара́цыі аж да ве́чару.
Яны́ пілі́ баўга́рскае віно.
Ясь спатка́ў свайго ся́бра на праспэ́кце Франці́шка Скары́ны.
Я́сеў ся́бра — фатограф.
Ясь уважа́е свайго ся́бра роўным сабе́ ў майстэ́рстве фатаграфава́ньня.
Ясь па сьвя́це пае́дзе ва Ўкраі́ну.
Крэ́ўныя Тамаша́ жыву́ць у Кі́еве.
Тама́ш толькі што вярну́ўся зь Бе́лай Царквы́.
Тама́ш е́дзе па спра́вах.
Шпа́цыр прые́мна ўра́зіў госьця.

**9. Прачытайце тэкст. Раскажыце, як вы хадзілі на госьці да сваякоў.**



Сёньня нядзе´ля. Я палу´дную ў сям’і´ Пётры. Мне падаба´ецца і´хны прыгожы дом, чысьціня´, уту´льнасьць. І што ва´жна — дзе´ці не ўбаку´ ад бацькоў.

— Е´жце, дзе´ці, боршч.

— Ён заду´жа гара´чы.

— Ня дзьмі ў тале´рку. Е´сьці трэ´ба нячу´тна, і ня сёрбаць, бо гэ´та непрыгожа. А хто бацькоў ня слу´хае, той у па´льцы дзьму´хае.



На дэсэ´рт сёньня ма´ем вінагра´д. Цётка Фа´ня часту´е нас. Малы´ Ю´зя ве´дае, як даць ра´ды зь вінагра´дам.

Дзе´ці папалу´днавалі ды пабе´глі на ву´ліцу.

**10. Перакладзіце на беларускую мову.**




У нас сегодня свободный вечер, и я решил купить билеты в театр. «Какая прекрасная мысль, — сказала моя жена. — Я буду рада посмотреть хороший спектакль. Бери билеты лучше в середине, 9-11-й ряд, если можно».

Я так и сделал. Вечером к 7-ми часам мы пошли в Купаловский театр смотреть «Князя Витовта».

Поверьте, это было замечательно!.. Перенестись в XIV век, увидеть пышный цветок тех времён — Беларусь, тогда — Великое Княжество Литовское. Я испытал эстетическое удовольствие. Кроме того, лучше понял историю Беларуси.

«Князь Витовт», по-моему, — лучший спектакль, который я когда-либо видел. Все актёры играли замечательно. Особенно мне понравился исполнитель главной роли. Это действительно талантливый актёр. Советую вам непременно посмотреть «Князя Витовта».

## Кароткія размовы
(чытайце ўголас)



| | |
|---|---|
| — А хто гэ´на та´мака?<br>— Дзе?<br>— Вунь, у пле´ценым крэ´сьле.<br>— Вось табе´ й ма´еш! Дык гэ´та ж дзя´дзька Антось! Ты што, не пазна´ў яго? | — А кто это там?<br>— Где?<br>— Вон там, в плетёном кресле.<br>— Вот тебе и на! Так это же дядя Антон! Ты что, не узнал его? |
| — Усё, спыня´емся!<br>— Кі´даем гуля´ць, ці што?<br>— Чу´еш, нас клі´чуць на гарба´ту.<br>— Добра. Але´ пасьля´ перапы´нку, будзь пэ´ўны, я цябе´ перамагу´.<br>— Паглядзі´м… Дай Божа на´шаму ягня´тку ваўка´ зье´сьці. | — Всё, прекращаем!<br>— Бросаем игру, что ли?<br>— Слышишь, нас зовут к чаю.<br>— Хорошо. Но после перерыва, будь уверен, я буду победителем.<br>— Посмотрим… Не говори «гоп», пока не перепрыгнешь. |
| — Убра´лася, ні´бы князёўна. Куды´ ж гэ´та? | — Нарядилась, словно княжна. Куда это так? |

| | |
|---|---|
| — На дыскатэ́ку! Пойдзем ра́зам.<br>— А каб жа ты мне ране́й сказа́ла!<br>— Да дыскатэ́кі ма́ем яшчэ́ досыць ча́су.<br>Проста мне карце́ла прыме́рыць свае́ абноўкі. | — На дискотеку! Пошли вместе.<br>— Эх, если бы ты мне раньше сказала!<br>— До дискотеки ещё достаточно времени. Просто мне не терпелось примерить свои обновки. |
| — Дзе ты гэ́так затрыма́лася?<br>— Дык сёньня ж у школе быў бацькоўскі сход.<br><br>— Ну, і што сказа́ла наста́ўніца пра на́шага Па́ўлу?<br>— Ну, што. З мовамі ў яго нармалёва. А вось матэма́тыка… Наста́ўніца ка́жа, што тут трэ́ба яшчэ́ папрацава́ць.<br>— А як паводзіны?<br>— О-о-о, тут яго трэ́ба дукава́ць а дукава́ць. На перапы́нках лётае, не́слух гэ́ты. Ве́даеш, што было? Гэ́так ляце́ў, што ледзь ня зьбіў з ног дырэ́ктара школы. Наста́ўніца ме́ла вымову.<br><br>— Ба́чыш, за гэ́тымі камандзіроўкамі дзіця́ зусі́м раздуры́лася. | — Где это ты так задержалась?<br>— Так сегодня же в школе было родительское собрание.<br>— Ну, и что сказала учительница про нашего Павла?<br>— Ну, что. С языками у него нормально. А вот математика… Учительница говорит, что здесь нужно ещё поработать.<br>— А как поведение?<br>— О-о-о, тут его нужно воспитывать и воспитывать. На переменках носится, сорванец такой. Знаешь, что было? Так летел, что чуть не сбил с ног директора школы. Учительница получила выговор.<br>— Видишь, за этими командировками ребёнок совсем отбился от рук. |
| — Ну, як там на́шыя гарадзе́нцы?<br>— Зьве́стак ад іх няма́ а́ні зва́ньня.<br>— Гэ́та ж трэ́ба! Паўгода як перае́халі, і дагэ́туль — ні адка́зу, ні прыка́зу. | — Ну, как там наши гродненцы?<br>— От них нет никаких вестей.<br>— Это ж надо! Полгода как переехали, и до сих пор — ни ответа, ни привета. |
| — Прывіта́ньне!<br>— Здароў. Што чува́ць?<br>— Учора ўве́чары Сумі́цкія прые́халі.<br>— Няўжо ўсёй сям’ёю?<br>— Усе́ пяцёра.<br>— Вось дык навіна́! А ў каго яны спыні́ліся?<br>— Паку́ль у І́ркі. А потым ма́юць наме́р пажы́ць і ў мяне́. | — Привет!<br>— Здорово. Что слышно?<br>— Вчера вечером Сумицкие приехали.<br>— Неужто всей семьёй?<br>— Все пятеро.<br>— Вот так новость! А у кого они остановились?<br>— Пока у Иры. А потом собираются пожить и у меня. |
| — Яка́я там сёньня пошта?<br>— Прыйшлі́ газэ́ты ды ліст ад бабу́лі.<br>— Кажы́ мацне́й! Я нічога ня чу́ю!<br>— Пачака́й, пайду́ скажу́ Міхасю́, каб му́зыку цішэ́й зрабі́ў. Ужо ўвушшу́ зьвіні́ць, ра́ды няма́. | — Какая там сегодня почта?<br>— Пришли газеты и письмо от бабушки.<br>— Говори громче! Я ничего не слышу!<br>— Подожди, пойду скажу Михаилу, чтобы музыку сделал потише. Уже в ушах звенит, сил нет. |

## Майстры слова гавораць



Ве́дама, што ча́ста бацькі́ даю́ць сваі́м дзе́цям такое выхава́ньне, каб яны́ былі́ кары́сныя ім, а не сабе́.

Вось дзе́ля такі́х бацькоў раскажу́ я ба́йку аднаго нябошчыка-белару́са.

Ляці́ць бу́сел па-над морам і нясе́ пад сваі́мі кры́льлямі трох бусьляня́т. Як ста́ла ця́жка не́сьці, дык ён пыта́е ў пе́ршага дзіця́ці: «Ці бу́дзеш ты мяне́ не́сьці, як я састарэ́юся?» Бусьляня́ спалохалася, каб ба́цька ня кі́нуў яго ў мора, дый ка́жа: «Бу́ду». Бу́сел кі́нуў яго ў мора.

Паляце́ў ён далёка з дву́ма бусьляня́тамі. Зноў ста́ла ця́жка. Пыта́е ён тады́ ў другога бусьляня́ці: «Як састарэ́юся я, ці ты бу́дзеш не́сьці мяне́ так са́ма, як я цябе́ нясу́?» — «Бу́ду!» — са стра́ху адказа́ла й другое бусьляня́. Бу́сел кі́нуў яго ў мора, бо й яно сказа́ла няпра́ўду.

Паляце́ў ён цяпе́р з апошнім дзі́цем. Пасярэ́дзіне мора ізноў ста́ла ця́жка не́сьці. Бу́сел пыта́е ў свайго трэ́цяга бусьляня́ці, ці бу́дзе яно не́сьці ба́цьку, як ён зробіцца стары́м. «Не, ня бу́ду, — адказа́ла бусьляня́, — бо тады́ я бу́ду мець свае́ дзе́ці, і мне трэ бу́дзе насі́ць іх».

Трэ́цяе бусьляня́ сказа́ла пра́ўду, і ба́цька перанёс яго це́раз мора.

Язэ́п Лёсік

## Лекцыя дзясятая — Урок десятый



Спада́рыня, пачака́йце!
Вы забы́ліся рэ́шту!

### Тэма: Грошы, кошт, цана, пакупкі

**Колькі гэ́та кашту́е?**
(Сколько это стоит?)

**1 рубе́ль**
**2, 3, 4 рубл*і́***
**5, 6, 7, … рубл*ёў***

**1 даля́р**
**2, 3, 4 даля́р*ы***
**5, 6, 7, … даля́р*аў***

**1 э́ўра**
**2, 3, 4 э́ўра**
**5, 6, 7, … э́ўра**

### Лад мовы

## Существительное в родительном падеже

## Назоўнік у родным склоне

**КАГО? ЧАГО? ДЗЕ? АДКУ́ЛЬ? КАЛІ́?**

В единственном числе:

| | Аснова | Прыклады | Канчатак |
|---|---|---|---|
| **Ж. р., м. р., аг. р. на *-а, -я*** | мяккая і на *г, к, х* | сытуа́цы*і*, галянтарэ́*і*, Кол*і*, судзьдз*і́*, кале́г*і*, ціхон*і* | ***-і*** |
| | цьвёрдая і зацьвярдзелая | дзяўчы́н*ы*, мужчы́н*ы*, мяж*ы́*, зна́ўц*ы*, ста́раст*ы*, пла́кс*ы* | ***-ы*** |
| **М. р. без канчатка, н. р. на *-а, -о, -е, -ё*** | мяккая | бол*ю*, це́н*ю*, хаке*ю*, гасьц*я́*, кан*я́*, наваколль*я*, жыцц*я́* | ***-ю, -я*** |
| | цьвёрдая, зацьвярдзелая і на *г, к, х* | холад*у*, пяск*у́*, шэ́раг*у*, ке́ліх*а*, жы́т*а*, вакн*а́*, бор*у*, цу́кр*у*, даждж*у́*, бабр*а́*, малю́нк*а*, вок*а*, люстэ́рк*а*, ву́х*а* | ***-у, -а*** |
| **Ж. р. без канчатка** | мяккая | гу́с*і*, чвэ́рц*і*, су́вяз*і*, сьвекрыв*і́*, глыбін*і́*, глы́б*і*, крыв*і́* | ***-і*** |
| | зацьвярдзелая | поўнач*ы*, мы́ш*ы*, моц*ы* | ***-ы*** |
| **Розна-скланяльныя** | на ***-мя*** | ім*я́* (і́мен*і*), пле́м*я* (пле́мен*і*), стрэ́м*я* (стрэ́мен*і*) | ***-я, -і*** |
| | маладыя істоты | дзіця́ц*і*, кацяня́ц*і* | ***-і*** |

Во множественном числе:

| | Аснова | Прыклады | Канчатак |
|---|---|---|---|
| **Ж. р., м. р., аг. р. на *-а, -я*** | мяккая | зе́мл*яў*, су́дзьдз*яў*, ві́шн*яў* | ***-яў*** |
| | цьвёрдая і на *г, к, х* | мужчы́н (мужчын*аў*), дзяўча́т (дзяўча́т*аў*), кніг (кні́г*аў*), кале́г (кале́г*аў*), рэк (рэ́к*аў*), стрэх (стрэ́х*аў*) | [ ] (***-аў***) |
| | зацьвярдзелая | ме́ж*аў*, зна́ўц*аў* | ***-аў*** |
| **М. р. без канчатка, н. р. на *-а, -о, -е, -ё*** | мяккая | бол*яў*, це́н*яў*, ву́чн*яў*, вугл*ёў*, агн*ёў*, лас*ёў*, вугл*ёў*, гасьце́*й*, кон*ей*, пыта́ньн*яў* | ***-яў, -ёў, -ей*** |
| | цьвёрдая і зацьвярдзелая | друкар*оў*, сябр*оў*, халад*оў*, жыт*оў*, стал*оў*, вокн*аў*, бар*оў*, даждж*оў*, сэ́рц*аў* | ***-оў, -аў*** |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | на *г, к, х* | люстэ́рак (люстэ́рк***аў***), вачэ́***й***, вушэ́***й*** | [ ], ***-аў, -эй*** (пад націскам) |
| **Ж. р. без канчатка** | мяккая і цьвёрдая | сьвекрыв***е́й***, крыв***е́й***, ра́дасьц***ей*** (***-яў***), су́вяз***ей*** (***-яў***), вэ́рф***яў*** | ***-ей*** **(*-яў*)** |
| | зацьвярдзелая | мышэ́***й***, начэ́***й*** (ноч***аў***), рэ́ч***аў*** | ***-эй*** (пад націскам), ***-аў*** (не пад націскам) |
| **Розна-скланяльныя** | | кураня́т (куранят***аў***), імён***аў***, кацяня́т (кацяня́т***аў***), плямён (плямён***аў***) | [ ], ***-аў*** |

Правила употребления окончаний в родительном падеже для единственного числа существительных мужского рода второго склонения приведены в уроке 1.

## Родительный падеж в словосочетаниях

Родны склон у словазлучэньнях

Для литературного белорусского языка не характерны такие обороты с родительным падежом, как: *цела чалавека*, *адыход цягніка*, *спосабы барацьбы з сухотамі*, *па сканчэньні вячэры*, *лязо для галеньня* и проч.

Чтобы найти адекватную замену подобным оборотам, можно использовать:

— прилагательные: **чалаве́чага це́ла**;
— описательные обороты: **як змага́цца з сухотамі**; **калі́ адыходзіць цягні́к**;
— деепричастные обороты: **скончыўшы вячэ́ру**;
— глаголы: **лязо галі́цца**.

## Счёт по-белорусски

Лічэньне па-беларуску

**Склада́ньне.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| пе́ршы скла́днік | | другі́ скла́днік | | су́ма |
| **1** | **+** | **2** | **=** | **3** |

Адзі́н ды два — бу́дзе тры.
Адзі́н плюс два — раўня́ецца тры.
Да аднаго дада́ць два — бу́дзе тры.

**Адыма́ньне.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| памянша́нае | | адыма́нае | | розьнасьць |
| **5** | **–** | **3** | **=** | **2** |

Ад пяці́ адня́ць тры — бу́дзе два.
Пяць мі́нус тры — раўня́ецца два.

**Множаньне.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| пе́ршы множнік | | другі́ множнік | | здабы́так |
| **2** | ***** | **4** | **=** | **8** |

Два памножыць на чаты́ры — раўня́ецца восем.
Двойчы чаты́ры — восем.
Два, памножанае на чаты́ры, — бу́дзе восем.

**Дзяле́ньне.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| дзе́ліва | | дзе́льнік | | дзель |
| **6** | **:** | **2** | **=** | **3** |

Шэсьць падзялі́ць на два — раўня́ецца тры.
Шэсьць падзялі́ць на два — бу́дзе тры.
Шэсьць, падзе́ленае на два, — бу́дзе тры.



## Практыкуйцеся

**1. Скажыце як мае быць** (Скажите правильно).

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2 + 8 = 10 | 7 – 3 = 4 | 14,8 – 11,2 = 3,6 | 63 : 7 = 9 |
| 4 * 5 = 20 | 5 + 9 = 14 | 2 * 4 = 8 | 6 * 4 = 24 |
| 1,5 + 3,4 = 4,9 | 32 : 4 = 8 | 20 + 30 = 50 | 42 : 6 = 7 |

**2. Паглядзіце, якая гародніна прадаецца ў шапіку. Папытайцеся ў прадавачкі, колькі гэта каштуе. Скажыце, колькі й чаго вы хочаце ўзяць.**



**кавуны´**   **агуркі´**

**гарбу´з**   **бу´льба**

**сала´та**   **цыбу´ля**

**3. Прачытайце дыялёгі. Скажыце, у якую краму вы ідзяце ды што хочаце купіць.**



**I.**

— Ты ў кра´му?
— Але´.
— Купі´ мне, калі´ ла´ска, стры´жань, гу´мку й крэ´йды.
— Добра.

**Аловак, пэ´ндзаль, цыра´та, фа´рбы, сурвэ´ткі, аксамі´тная сту´жка, збанок, мачу´лька.**




**II.**

— Можа, лепш узя´ць гвазьдзікоў?
— Чырвоных няма´, а гэ´тыя не´йкія прывя´лыя.
— Дык што, бярэ´м ру´жы?
— Так, возьмем пяць пунсовых ру´жаў.

**Аксамі´ткі, рамонкі, глядыёлюсы, хрызантэ´мы, архідэ´і, вяргі´ні, тульпа´ны.**

## Торговля товарами широкого потребления

Гандаль таварамі шырокага спажываньня

Запраша́ем да паку́пкі.
Нас ціка́віць усё…
«О, гораду чароўныя прына́ды*!»




---
* Соблазны.



**фу́тра**



**вопратка**



**каўняры́**



**ху́сткі з фрэ́нзьлямі**



**вэ́люм**
(фата)



**укра́сы, упрыгажэ́ньні**



**кара́лі**
(ожерелья)



**па́церкі**
(бусы)



**бранзале́ты**



**панчохі**



**калготы**



**бялі́зна**



**пальча́ткі**



**дзя́гі, папру́гі**



**га́льштукі**



**чараві́кі на высокім абца́се**



**ца́цкі**



**парфумэ́рыя**



**мэ́бля**



**сродкі чы́сьціць**



**шкло**

## Ясь распавядае



Мой ся́бра Мі́шка Вайцяхоўскі ма́е кра́му, прадае́ адзе́ньне. І робіць гэ́та ён, скажу́ вам, проста па-майстэ́рску. Ці раз я чуў ад людзе́й, што ў кра́ме Вайцяхоўскага пачува́ешся так, ні́бы ты ў яго адзі́ны, толькі адзі́ны найле́пшы пры́яцель.

Во, гля́ньце, бацькі́ прывялі́ апрану́ць свайго малога. Ён так фацэ́тна выгляда́е ў гэ́тых штоніках. Пэ́ўна ж, яны́ яму́ завялі́кія.

Ба́чыце, ідзе́ прыме́рка… Можна паду́маць, што Мі́шку самому ўжо няма́ чаго надзе́ць і што ён сам бу́дзе насі́ць ты́я порткі альбо гэ́тую кашу́лю. Гэ́так пі́льна, гэ́так стара́нна ён шука́е патрэ́бнае. І ве́льмі ра́ды, калі́ чалаве́к вы́бера тое, што найбольш яму́ пасу́е. Нарэ́шце Мі́шка знайшоў патрэ́бнага паме́ру порткі і падае́ малому.

— А вось гэ́та якра́з! — ка́жа Мі́шка задаволена. А потым зьвярта́ецца да насту́пнага пакупніка́. — А што вы жада́еце? Што вам паказа́ць?

— Калі́ б які́ гарніту́р на штодзень…

— Добра, за́раз бу́дзе. — І Мі́шка зьніка́е. Празь не́калькі хвілі́наў ён з гарні́турам у руках. Зноў ідзе́ прыме́рка…

— Не, шэ́ры пінжа́к вам – не да тва́ру. Пачака́йце, калі́ ла́ска, за́раз паглядзі́м іна́кшы…

Тым ча́сам людзе́й у кра́ме паболела. Каму́ — шкарпэ́ткі, каму́ — ху́стку з фрэ́нзьлямі, каму — швэ́дар… Для кожнага ў Мі́шкі знойдуцца ве́тлівае слова, ува́га й пава́га.

— Паме́райце, калі́ ла́ска, гэ́ты швэ́дар.

…



— Спартовая жаноцкая вопратка? Калі́ ла́ска, вось ту́така.

…

— Жада́еце іна́кшы колер?

— Так, руды́ — ня модны.

— Хвілі́начку, за́раз знайду́.

…

— Вы хочаце сьвятле́йшую камізэ́льку? На жаль, няма́ ва́шага паме́ру.

…

— Калі́ ла́ска, паглядзі́це: вось гэ́та — рэч!

— Добра, але́ кошт!..

— Хіба́ ж гэ́та кошт?

— Не, дару́йце, але́ для мяне́ гэ́та — задорага.



## Практыкуйцеся

**4. Перакажыце тэкст.**

**5. Прачытайце верш. Знайдзіце колькасныя ды парадкавыя лічэбнікі. Адкажыце на пытаньне — колькі дзяцей у вераб'я?**

У старога вераб'я́ —
Грашаві́тая сям'я́:
У кожнага вера́бе́йкі —
Па чаты́ры капе́йкі.

Зьляце́ліся вераб'і́ —
Налічы́лі два рублі́.
У самога вераб'я́
Было роўна паўрубля́.

Кожнаму верабе́йку
Даў стары́ яшчэ́ капе́йку.
Колькі ж ма́е дзяце́й
Наш бага́ты верабе́й?

В. Ві́тка

## Торговля продуктами питания

### Гандаль прадуктамі харчаваньня

Шмат чаго я ма́ю купі́ць і ў гастраноме…





**кілба́сы**



**я́лавічына**
(говядина)



**руля́да**




**вяршкі́**
(сливки)



**жыва́я ры́ба**




**макарона**
(толькі адз. л.)




**геркуле́с**




**грэ́цкія кру́пы**



**бляша́нка кансэ́рвы**




**тлушч**
(жир)




**але́й**
(растительное масло)




**воцат**
(уксус)




**малако**
**згу́шчанае**




**кмін / кмен**




**ка́ва**
**распушча́льная**




**гарба́та**

## Практыкуйцеся



**6. Прачытайце, адкажыце на пытаньні.**



— І тут, і там — чарга́.
— Што даю́ць?
— Труска́лкі.
— За кім я?
— За мной, але́ тут — яшчэ́ два чалаве́кі. Яны́ адышлі́ на хвілі́нку.
— Дык я паку́ль што бу́ду за ва́мі.
— Добра. Але́ невядома, ці хопіць нам гэ́тых труска́лак.
— Яны́ такі́я адборныя, чырвоныя, сьпе́лыя.
— Ну, калі́ яны́ яшчэ́ й салодкія, ва́рта ўзяць больш.
— Але́ ці не зана́дта яны́ дарагі́я?
— Гэ́ткіх таньне́й вы нідзе́ ня знойдзеце.

**Пытаньні:**
Па што чарга́?
Хто апошні?
Ці ўсім хопіць труска́лак?
Які́я труска́лкі?
Ці ня на́дта яны́ дарагі́я?

**7. Скажыце, што яшчэ вы набылі.**







Я куплю́:
бохан хле́ба, во гэ́ты мякчэ́йшы батон, дзяся́так я́ек, па́чак гарба́ты, карабок запа́лак…

**8. Прачытайце тэкст. Раскажыце па-беларуску, пра што ідзе гаворка. Хто з вашых знаёмых вымушаны насіць акуляры, чаму?**



Ідучы́ з работы, зайшоўся па дарозе ў кра́му «Оптыка». Гляджу́, аж тут — Лёнік.
— Здароў!
— Віта́ньне!
— Па акуля́ры прыйшоў, ці што?
— Але, не́шта вочы тума́няцца. Як той каза́ў, бутэ́льку яшчэ́ ба́чу, а ча́рку — ужо не.
— Годзе жартава́ць, му́сіш насі́ць акуля́ры, калі́ зрок папсава́ў.
— Спада́рыня, скажы́це, гэ́та найлонавая апра́ва?
— Не, мэталёвая.
— Вось гэ́ткая апра́ва бу́дзе табе́ да тва́ру.
— Колькі яна́ кашту́е?

**9. Прачытайце. Скажыце па-беларуску, якія з ласункаў вам даспадобы.**

У кра́ме «Мігда́лік» — вялі́кі вы́бар розных прысма́каў. Мне асаблі́ва даспадобы ласу́нкі старада́ўняе рэцэпту́ры. «Хрушч* анге́льскі», «Ві́шні ў кашу́льках».
— Можа, узя́ць «Жураві́навы торт»?
— Не, лепш «Торт з суні́цамі». Ён такса́ма сма́чны, і таньне́йшы.
— Мы возьмем пірожнае з крэ́мам, пра́жаныя мігда́лы**, шакаля́дныя цуке́ркі й ляду́нкі.

---
* Хворост.
** Жареный миндаль.

**10. Прачытайце дыялёгі, дайце поўны адказ на пытаньні.**

**I.**



— Мо ты пазы́чыў бы мне грошай?
— Пазы́чу, калі́ гэ́так пі́льна трэ́ба.
— Дзя́куй. Каторы раз ты мне дапамага́еш?!
— Дык ты ж сам ве́даеш: шчаслі́вы ня той, у каго шмат грошай, а той, каму́ іх хапа́е.

Вы пазыча́еце грошы? Не, … таму́ што … .
Ці і́ншым ра́зам вы му́сіце дапамага́ць сябра́м? Так, … .
Ці вам хапа́е грошай? Не, … бо … .
Ці вы ма́еце не́йкія грошы? Так, … .
Ці вы бераце́ калі́-не́будзь пазы́ку? Так, … бо … .
Сябры́ заўсёды вам дапамага́юць? Не, … .
Цяпе́р вам пі́льна патрэ́бныя грошы? Так, … .

**II.**

— Нам не выпада́е е́хаць на госьці.
— Хацяˊ ж не даводзь мне, што грошай няма́. Я ве́даю адно: скупы́ — ве́чна бе́дны.
— Пры чым тут ску́пасьць? Было шмат выда́ткаў.
— Мы ж рабі́лі ўсё не́йкія дробязныя паку́пкі.
— Ну чаму́? Табе́ купі́лі модныя чараві́кі, мне — вопратку. Да таго ж шмат пайшло на харчы́.
— Не кажы́, што харчава́ньне ў нас было на́дта добрае.
— Так, так, але ж яшчэ́ — пла́та за кватэ́ру, пада́ткі розныя…




Ці ча́ста вы быва́еце ў гасьцёх? Так, … .
Ці вы пае́дзеце куды́-не́будзь сёлета? Не, … таму што … .
Ці вы прыязджа́еце на госьці з падару́нкам? Так, … .
Вы ма́еце шмат выда́ткаў падча́с пае́здкі? Не, … .
Ці шмат грошай у вас ідзе́ на харчава́ньне ў ча́се адпачы́нку? Так, … таму́ што … .
Ці адклада́еце вы грошы на «цёмны» дзень? Так, … .
Ці вялі́кая ў вас пла́та за кватэ́ру? Так (Не), … .

**11. Прачытайце дыялёгі. Узгадайце падобныя сытуацыі і раскажыце пра іх.**

**I.**



— Бу́дзьце ласка́вы, паклі́чце зага́дчыцу.
— Я вас слу́хаю.
— Ра́ніцай я купі́ў у вас гэ́ты ёгурт. Потым агле́дзеўся, што тэ́рмін яго скончыўся.
— Да адзіна́ццатага чысла́, трэ́цяга ме́сяца. Сёньня… ва́ша пра́ўда! Праба́чце, калі́ ла́ска, мы за́раз ве́рнем вам грошы.

**II.**

— Учора я купі́ў тут пінжа́к ра́зам во з гэ́тай камізэ́лькай. Але́ ж дома я заўва́жыў вось ту́така не́йкую пля́мку. Хаце́лася б абмя́няць камізэ́льку.

— Пля́мку, здае́цца, можна бу́дзе вы́весьці, але́, калі́ хочаце, камізэ́льку абмяня́ем. Дзе ваш квіток?

— Паві́нен быць… Вось ён.

— На жаль, ва́шага паме́ру ўжо няма́. Вы́бераце іна́кшы гарніту́р, ці хочаце, каб мы аддалі́ вам грошы?

— Што ж, калі́ так — вазьму́ грошы.

**12.Ператлумачце па-расейску. Зьвярніце ўвагу на зьмест і форму афіцыйнага ліста. Складзіце па-беларуску на гэты ўзор свой ліст.**

— Навошта ты мяне́ паклі́каў?

— Прачыта́й і скажы́, ці пісьме́нна па-белару́ску скла́дзены гэ́ты ліст?

— За́раз зірне́м…



*Шаноўны па́не!*

*На́ша кампа́нія ўжо 10 гадоў працу́е на ры́нку будаўні́чых матэрыя́лаў. Мы атрыма́лі Ваш а́драс ад на́шага гандлёвага партнэ́ра з рэкамэнда́цыяй прапанав́аць Вам наш тава́р. Гэ́тым ра́зам мы можам прапанава́ць насту́пныя вы́рабы: дзьве́ры мэталёвыя і драўля́ныя, вако́нныя паке́ты, падве́сную столь, парке́тную падлогу, шпале́ры зь Няме́ччыны — і сьпіс можна доўжыць, абы́ толькі было на гэ́та Ваша заціка́ўленьне.*

*У дада́тку высыла́ем праспэ́кты і прэйскура́нт на́шых вы́рабаў. Тэ́рмін паста́ўкі: 1-2 дні, у залежнасьці ад колькасьці й асартымэ́нту. Умовы плацяжу́: апла́та напе́рад. Прапанова дзе́йнічае тры ме́сяцы.*

*Зь сяброўскім прывіта́ньнем,*
*камэрцы́йны дырэ́ктар Сымон Івяне́цкі.*



## Кароткія размовы
(чытайце ўголас)

| | |
|---|---|
| — Во гэ́та абу́так! Якра́з на маю́ нагу́, і вы́гляд прыстойны, і я́касьць. Трэ́ба ўзяць. Што ты ска́жаш?<br>— Добрыя ту́флі. Кашту́юць не сказа́ць, каб на́дта дорага. Бяры́, калі́ падаба́юцца. Але́ давядзе́цца разьмяня́ць гэ́тыя грошы.<br>— Дзе́сьці ту́така ма́е быць мяняльня́ валюты.<br>— Вунь у буды́нку насу́праць ёсьць банк. Там і памяня́ем. | — Вот это обувь! Как раз по ноге, и вид приличный, и качество. Нужно взять. Что скажешь?<br>— Хорошие туфли. Стоят не сказать, чтобы очень дорого. Бери, если нравятся. Но придётся разменять эти деньги.<br>— Где-то здесь должен быть пункт обмена валюты.<br>— Вон в здании напротив есть банк. Там и поменяем. |
| — Мне ўжо абры́дла хадзі́ць па гэ́тых мяня́льнях.<br>— Пацярпі́ трохі. Паглядзі́м, які́ яшчэ́ тут курс даля́ру. І ці бу́дзе нам яка́я вы́гада.<br>— Каб жа так… | — Мне уже надоело ходить по этим обменникам.<br>— Потерпи немного. Посмотрим, какой ещё здесь курс доллара. И будет ли нам какая выгода.<br>— Если бы так… |

| | |
|---|---|
| — А вось паглядзі́ — найвышэ́йшы курс у горадзе!<br>— Ну, нарэ́шце! | — А вот посмотри — самый высокий курс в городе!<br>— Ну, наконец-то! |
| — Гэ́тая рэч — не раскоша. Чаму́ ты ня хочаш яе́ купі́ць?<br>— Лічу́, што задорага. Пачака́ю, можа бу́дзе яка́я зьні́жка коштаў.<br>— Дава́й зазірне́м яшчэ́ ў «Худы́ гамане́ц»? Там такса́ма неблагі́я рэ́чы. Ёсьць з чаго вы́браць, ды й та́нна! | — Эта вещь — не роскошь. Почему ты не хочешь её купить?<br>— Считаю, что дорого. Подожду, может будет какое-нибудь снижение цен.<br>— Давай заглянем ещё в «Худы гаманец»? Там тоже неплохие вещи. Есть из чего выбрать, да и дёшево! |
| — Што Мікала́й у цябе́ пыта́ўся?<br>— Пыта́ўся, ці магу́ я пазы́чыць яму́ трохі грошай. У яго былі́ вялі́кія выда́ткі. Шмат пайшло на будоўлю. А цяпе́р яшчэ́ гэ́тыя выштукава́ньні розныя ця́гнуць усё дарэ́шты.<br>— А колькі ён прасі́ў?<br>— Няшма́т, яму́ адно трэ́ба дакупі́ць фа́рбы. Праз ты́дзень даклярава́ў вярну́ць пазы́ку.<br>— Яму́ можна і пазы́чыць, ён ніколі нас не падводзіў. | — Что Николай у тебя спрашивал?<br>— Спрашивал, могу ли я одолжить ему немного денег. У него были большие расходы. Много ушло на стройку. А теперь ещё навороты всякие тянут всё до остатка.<br>— А сколько он просил?<br>— Немного, ему просто нужно докупить краски. Через неделю обещал вернуть долг.<br>— Ему можно и одолжить, он никогда нас не подводил. |
| — Вазьмі́це во я́блыкі. Зьясьцё на перапы́нку ў школе.<br>— А ці дасі́ нам сёньня яку́ю капе́йчыну з сабою?<br>— Магу́ даць пакрысе́. Учора якра́з разьмяня́ў грошы на дробныя.<br>— Чаму́ ж гэ́так ску́па? Хай жа б трохі буйне́йшымі.<br>— Досыць. Вы яшчэ́ малы́я. | — Возьмите вот яблоки. Съедите на перерыве в школе.<br>— А дашь нам сегодня какую копейку с собой?<br>— Могу дать понемножку. Вчера как раз разменял деньги на мелкие.<br>— Что ж так скупо? Пусть бы немного покрупнее.<br>— Достаточно. Вы ещё маленькие. |
| — Мне падаба́юцца вунь ты́я шпале́ры ў кве́ткі.<br>— За́раз паглядзі́м, колькі кашту́е адзі́н скру́так. | — Мне нравятся вон те обои в цветочек.<br>— Сейчас посмотрим, сколько стоит один рулон. |
| — У маёй кішэ́ні няма́ а́ні шэ́лега, усю́ вы́палашчыў.<br>— І я ўжо гама́н свой спустошыў. | — У меня в кармане нет ни гроша, всё спустил.<br>— И я уже опустошил свой кошелёк. |

## Майстры слова гавораць



**Новая зямля́**
(уры́вак з паэ́мы)

— Дзьве рэ′чы трэ′ба мець, каха′ны!
Адна′ рэч — розум выхава′ны:
Уме′ць прадгле′дзець, прылаўчы′цца
На цьвёрдым гру′нце закрапі′цца.
Друга′я рэч, Антось харошы:
Такса′ма трэ′ба мець і грошы, —
Міха′л прамовіў ці′хім ба′сам.
Але′сь і Костусь гэ′тым ча′сам
Гасьце′й пад ду′бам вартава′лі
І між сабою жартава′лі.
— Згада′й, Касту′сь, — Але′сь пыта′е, —
Хто пе′ршы ў госьці завіта′е?
— Ну, хто ж? вядома — Ю′рка, дру′жа.
— Чаму′? — Бо мёд ён лю′біць ду′жа,
А там, глядзі′, Язэ′п прыпрэ′цца
І Фабія′н зь ім з Каралі′ны…
Падвы′п'юць, ве′даеш, мужчы′ны,
Ото гаворка распачне′цца!
А там Кандра′т вазьме′цца ў бокі,
Напэ′ўна пойдзе ён у скокі;
Яго Ялэ′ўка падтрыма′е,
А Ву′хін пе′сьню засьпява′е:
«Пі гарэ′лку, сусе′дзе!..»
— Глядзі′, глядзі′! хто гэ′та е′дзе? —
Але′сь ускочыў, пазіра′е
І локцем Костуся таўха′е.
— Ды гэ′та ж Ву′хін, брат! ён са′мы! —
І хлопцы кі′нуліся ў бра′му,
Бягу′ць навы′перадкі ў ха′ту.
— Ўжо Ву′хін е′дзе! Ву′хін, та′та!
— Цыц! ня сьме′ць каза′ць мяну′шку,
А то зьніму′ на вас папру′жку!
І ба′цька бровы пасува′е,
Пільча′к чысьце′йшы адзява′е,
Ідзе′ на двор для прывіта′ньня
І для пачэ′снага спатка′ньня.
Андроцкі-Ву′хін пад'яжджа′е
І так каня′ свайго спыня′е,
Як бы супы′ну конь ня ма′е,
Хоць конь, як вол, непаваротны
І бе′гчы ўжо ня так ахвотны.
Каду′шка-Зося сонцам зьзя′е;
Міха′л ёй зла′зіць памага′е.
Яна′ ж, як глі′на, на′дта ця′жка,
Пад ёю крэ′хча калама′жка.
— Ну, проша ў ха′ту! проша, ку′мка.
Глядзі′ць бутэ′лька зь яе′ клу′мка.
Уперава′лку, як бы ка′чка,
У ха′ту йдзе кума′-свая′чка.
Тут гаспады′ня выбяга′е,
Ёй дзьве′ры ў се′ні адчыня′е;
Кабе′ты тва′рамі самкну′лісь
І так прые′мна ўсьміхну′лісь,
Як бы злучы′ліся дзьве рэ′чкі,
Гарохам сы′плюцца славе′чкі.
— А дзе ж дачка′ мая хрышчона? —
Спыта′ла Зося. — Дзе Алёна?
Ваўчком Алёнка пазіра′е;
Яе′ тут Зося абніма′е,
Гасьці′нцам дзе′ўчынку тракту′е,
Яе′ і пе′сьціць і цалу′е,
У вочкі ёй глядзі′ць прыве′тна —
Сама′ Яхі′міха бязьдзе′тна.
Але′сь пад гэ′ты шум віта′ньня
Разгле′дзеў клу′мак ўвесь дазва′ньня
І шэ′пча Костусю на ву′ха:
— Там, брат, гарэ′лка-весялу′ха,
І карава′й, і сыр, як пла′ха.
Калі′ б ня ве′даць таго стра′ху,
Ось бы дзе можна пажыві′цца!
Але′ чака′йце: даляжы′цца, —
І карава′ю закашту′ю,
Цябе′ такса′ма пачасту′ю!
І хлопцы толькі пасьмяя′лісь
Ды вон за дзьве′ры паімча′лісь.

Яку′б Колас

## Лекцыя адзінаццатая — Урок одиннадцатый



Яка́я яда́, така́я й хада́.

## Тэма: Харчаваньне, ежа, пітво, стравы, посуд

| | |
|---|---|
| **Я згалада́лы, мне хочацца е́сьці.** | Я проголодался, мне хочется есть. |
| **У мяне́ воўчы апэты́т.** | У меня волчий аппетит. |
| **Я галодны, калі́ ня зьем пе́ршай стра́вы.** | Я голоден, если не поем первого. |
| **На вячэ́ру ма́ем адны́ ала́дкі.** | На ужин у нас только оладьи. |
| **Я хачу́ ка́вы.** | Я хочу кофе. |
| **За́раз бу́ду піць ка́ву.** | Сейчас буду пить кофе. |
| **Жураві́навым морсам добра праганя́ць сма́гу.** | Клюквенным морсом хорошо утолять жажду. |
| **П’ю, паку́ль не праганю́ сма́гу.** | Пью, пока не утолю жажду. |
| **У сьвя́та за абе́дным сталом зьбіра́ецца ўся на́ша сям’я́.** | В праздник за обеденным столом собирается вся наша семья. |

## Готовим (варим, печём) и пробуем

Гатуем (варым, пячэм) і каштуем



Сюды́ дадамо яшчэ́ каля́ндру, пе́рац, часны́к ды ке́тчуп.



Колькі солі? Соль і сьмята́ну можна дадава́ць на ўла́сны густ, колькі хочаш.



Што яшчэ́ трэ́ба да халадніку́ для больш шляхе́тнага сма́ку? Пакладзі́це дробна пакры́шаную халодную запе́чаную цяля́ціну.



Нам патрэ́бныя розныя гату́нкі мя́са: я́лавічына — на рамштэ́кс, бара́ніна — на шашлыкі́, сьвіні́на — на галубцы́ і катле́ты, мя́са дзіка́ — на смажані́ну, індычы́на — на адбіўны́я, гусь — на тушані́ну. Яшчэ́ нам патрэ́бны тлу́шч для смажані́ны. Той, што ў слоіку, ужо зьялчэ́ў.

Зь пе́ршых стра́ваў найпрасьце́йшая — вясковы булён. Гату́ецца ён гэ́ткім чы́нам. Абабра́ць і пакрышы́ць бу́льбу, зьдзе́рці моркву на буйной тар́цы, ра́зам павары́ць у вадзе́, паку́ль ня ста́нуцца мя́ккія. Пакроіць са́ла, падсма́жыць яго з кры́шанай цыбу́ляй, дада́ць лы́жку мукі́ і падкалаці́ць гэ́тым соўсам булён.





Мы робім вясе́льны карава́й. Ён бу́дзе вялі́кі, прыгожы, вы́штукаваны, з кве́ткамі ды рознымі выя́вамі.




Калдуны́ му́сяць быць усьмя́глыя ў ма́сьле ці але́і.



Для бліноў заме́ст кі́слага малака́ я ўжыва́ю масьлянку.



У це́сьце для пірага́ досыць соладзі, але́ патрэ́бныя яшчэ́ й разы́нкі.



Вы ж ве́даеце: адзі́н зьясі́ хоць вала́ — адна́ хвала́, а як ста́неш зь людзьмі́ е́сьці — бу́дзеш пры чэ́сьці.

Вось рэлі́квія, яка́я застала́ся мне ў спа́дчыну. Вылу́чна ў гэ́тай бочцы я раблю́ мядовы квас. Калі́ нада́рыцца вы́падак, я абавязкова пачасту́ю вас.



Гэ́тым ра́зам, каб прыгатава́ць сьвяточны абе́д, нам спатрэ́бяцца:

| | |
|---|---|
| **слоік сочыва (канфіту́ру)** | банка варенья (конфитюра) |
| **кілягра́м тварагу́** | килограмм творога |
| **тры шкля́нкі але́ю** | три стакана растительного масла |

| | |
|---|---|
| **паўлі́тра сырадою** | пол-литра парного молока |
| **шкля́нка цу́кру** | стакан сахара |
| **ку́бачак па́ранага малака́** | чашечка кипячёного молока |
| **скі́бка батона** | ломтик батона |
| **лу́стачка хле́ба** | ломтик хлеба |
| **па́чак пе́чыва** | пачка печенья |
| **крыху́ геркуле́су** | немного геркулеса |
| **тры па́льцы солі** | щепотка соли |
| **столькі ж соды** | столько же соды |
| **лы́жка воцату** | ложка уксуса |
| **ка́ліва цу́кру** | немножко сахару |
| **кумпя́к** | окорок |
| **тлу́сты інды́к** | жирный индюк |
| **гароднiна** | овощи |
| **зеляні́на** | зелень |
| **садаві́на** | фрукты |



## Практыкуйцеся

**1. Назавіце некалькі страваў, якія маюць гэткі смак.**






**пры́кры** **востры** **салёны** **сма́чны**

**2. Прачытайце і адкажыце на пытаньні.**



Час ад ча́су* мне даводзіцца быць за ку́хара. Дык я ўжо ве́даю, што «ку́хар паві́нны быць аха́йны, з чупры́най альбо галавой вы́часанай, з паголеным тва́рам, памы́тымі рука́мі, абстры́жанымі пазногцямі, абвяза́ны бе́лым фартухом, цьвярозы, несварлі́вы, пакорлівы, спры́тны, добра адчува́ць смак… добра ве́даць патрабава́ньні да страва́ў, і пе́рад усі́м — быць паслу́жлівым».

---

* Время от времени.

**Пытаньні:**

Ці даводзіцца вам і́ншы раз быць за ку́хара?
Ці даспадобы вам гэ́ты заня́так? Чаму́?

Які/я стра/вы найбольш шану/юцца ў ва/шай сям'і/?
Ці заўсёды ў вас ёсьць на абе/д пе/ршая стра/ва? А друга/я?
Колькі солі вы звыча/йна бераце/ для сала/ты?
Калі/ вы гату/еце е/жу, праду/кты вы кладзяце/ на вока ці ва/жыце?
Які/ ў вас бязьме/н?
Ці ча/ста вы п'яце/ сырадой?
Ці каштава/лі вы калі/-не/будзь стра/ву зь індыка/? Яку/ю яна/ ма/е на/зву? Ці спадаба/лася вам?
Ці вы п'яце/ гарба/ту альбо ка/ву бяз цу/кру?
Колькі цу/кру вы кладзяце/ ў гарба/ту? Ці не замнога гэ/та?
Ці ў ва/шым ха/тнім наборы праду/ктаў ёсьць геркуле/с?
Для прыгатава/ньня які/х стра/ваў вам патрэ/бен воцат?
Ці ча/ста вы ла/суецеся кумпяком?
Які/ тварог вам больш падаба/ецца — тлу/сты ці не?
Ці п'яце/ вы па/ранае малако?
На які/я лу/сты вы кроіце хлеб?
Колькі па/чкаў пе/чыва вы бераце/?
Колькі слоікаў канфіту/ры вы рыхту/еце на зіму/?

**3. Якія стравы вы ўключыце ў сваё мэню? Скажыце, што вы будзеце есьці на сьняданак, на палудзень, на вячэру. Чым будзеце частаваць гасьцей?**

Грэ/цкая ка/ша; пераклада/нец (здесь: бутерброд) зь вясковай кілбасой, з агурком ці памідорам; паштэ/т з кураня/т; сала/та з крапівы/; капу/ста (здесь: щи); забе/лены панца/к (молочный перловый суп); клёцкі; макарона; сма/жні; ба/бка; вантрабя/нка; сма/жаная бу/льба; вяндлі/на; гарба/та; дра/нікі.

**4. Прачытайце. Скажыце, якая ваша любімая страва й зь якіх прадуктаў яна гатуецца.**

Каб згатава/ць белару/скі боршч, патрэ/бна шмат розных скла/днікаў. Вы пытае/цеся, што менавіта?
Інгрыдые/нты гэ/ткія: я/лавічына, фасоля, морква, пятру/шка, я/блыкі, буракі/, бу/льба, памідоры, цу/кар, воцат, сьмята/на, пампу/шкі. А ці вы е/лі боршч з пампу/шкамі? Гэ/та сапраўды/ смак!
Да баршчу/ іду/ць розныя дада/ткі. Пры/кладам, да буракоў* на/дта ўходзяць** клёцкі зь я/лавічыны.

* Здесь: борщ.
** Подходят.

**5. Прачытайце і перакажыце тэкст.**



Якра/з у пару/ я прыйшоў дамоў. Жонка завіха/ецца на ку/хні дый ка/жа мне:
— Трэ/ба, каб ты памог мне хоць што-кольвек.
— Добра, мне незаба/ва. Дзе бу/дзем вячэ/раць?
— У гасьцёўні.
— Ці не/хта ма/е быць у нас?
— Так. Максі/м тэлефанава/ў, ён за/раз пры/йдзе.
— Максі/м? Выда/тна! Даўно яго ня ба/чыў. А чым зьбіра/ешся частава/ць госьця?
— Ну, я ж ве/даю ягоны густ!
— Пэ/ўна, згатава/ла мача/нку з рэ/брачкамі?
— Не распы/твай, а лепш памага/й хутчэ/й.
— Што загада/еш, шаноўная гаспады/ня?
— Засьцялі/ стол кужэ/льным абру/сам.
— Гэ/тым?
— Не, зь зялёнымі шля/камі.
— Зроблена! Што яшчэ/?
— Прырыхту/й глыбокую тале/рку, сподкі, відэ/льцы, шкля/нкі, гарба/тныя лы/жачкі, цуке/рніцу.



— За́раз, за́раз усё зраблю́. А дзе ж той прыгожы і́мбрычак?… Ай, які́ ж я няге́глы!

— Такой бяды́! Зьбяры́ шкло. Скры́нка для сьме́цьця вунь у кутку́. Чу́еш? Званок у дзьве́ры. Гэ́та Максі́м. Я пайду́ адчыня́ць, а ты ху́ценька прыбяры́.

— Добры ве́чар!

— Ве́чар добры! Праходзь, Максі́ме. За́раз бу́дзем вячэ́раць.

**6. Прачытайце. Адкажыце на пытаньні ў канцы практыкаваньня.**

Шмат хто лю́біць шашлыкі́. Але́, паве́рце мне, ёсьць не́шта смачне́йшае: паляндві́ца, запе́чаная ў папе́ры. Паслу́хайце, як гэ́та я раблю́.

Кава́лак паляндві́цы нашпігоўваю салані́най, абкла́даю цыбу́ляй, пакроенай скры́лікамі. Пасыпа́ю духмя́ным пе́рцам. Загортваю ў папе́ру, добра нама́заную ма́слам, абвя́зваю шпага́там і пяку́ на ражне́, паліва́ючы на папе́ру але́й. Пад ражон ста́ўлю патэ́льню, куды́ бу́дзе сьцяка́ць тлушч. Гэ́тае мя́са найле́пш падава́ць з ражна́, таму́ трэ́ба так разьлі́чы́ць час, каб, сьпёкшы паляндві́цу, адра́зу ж пада́ць на стол, лепш за ўсё — з сма́жанай альбо ту́шанай у ма́сьле бу́льбай.

**Пытаньні:**

Ці ёсьць стра́ва, смачне́йшая за шашлы́к?
Што трэ́ба да кава́лка паляндві́цы?
Як пакроена цыбу́ля?
У што загортваецца паляндві́ца?
Чым трэ́ба абвяза́ць папе́ру?
Паляндві́ца пячэ́цца на патэ́льні?
Куды́ сьцяка́е тлушч?
З чым падаю́ць гэ́тую стра́ву?

## Ясь распавядае



На сьвя́та ўсёй сям’ёй пайшлі́ ў рэстара́цыю. Наконт вы́бару не было сумне́ву — толькі «Мядзьве́дзь». Мы прыйшлі́ якра́з на палу́дзень.

— Добры дзень!

— Дзень добры!

— Ці ёсьць які́ вольны стол?

— Хочаце зарэзэрвава́ць?

— Ды не, мы прыйшлі́ папалу́днаваць.

— Вунь там, ля вакна́ вольны столік. Калі́ ла́ска, праходзьце.

— Дзя́куй.

— Прашу́ вас. Вось сьпіс стра́ў.

*Рэстара́цыя «Мядзьве́дзь»*

**СТРА́ЎНЫ ЛІСТОК (МЭНЮ́)**

**Халодныя за́кусі**
Сала́та зь селядцом
Сала́та «Ме́нская»
Руля́да зь сьвіні́ны

**Су́пы**
Поліўка
Суп бульбяны́
Белару́скі боршч

**Мясны́я стравы**
Катле́ты «Белаве́скія»
Па́нская гусь зь я́блыкамі
Адва́раная інды́чка
Цецяру́к па-белару́ску
Дзік па-ві́ленску
«Вожыкі»

**Ры́бныя стра́вы**
Надзява́ны шчупа́к
Ры́ба, ту́шаная з бу́льбай (у гаршчочку)

**Стра́вы на зака́з**
Дра́нікі з брусьні́цамі
Яе́чня зь вяндлі́най
Вірла́тая яе́чня

**Гарні́р**
Бу́льба тоўчаная
Бу́льба сма́жаная
Бу́льба з сква́ркамі і цыбу́ляй

**Мучны́я вы́рабы**
Налі́сьнікі
Белару́скае пе́чыва

**Алькагольныя напоі**
Кактэ́йль «Весялу́ха»
Пі́ва «Стараві́ленскае»
Шампа́нскае
Каньяќ
Віно

**Напоі**
Мяду́ха
Гарба́та
Ка́ва
Кака́ва
Журaві́навы сок
Суні́чны сок

**Марозіва**
«Госьціца»
«Мядзьве́дзь»



**СМА́ЧНА Е́СЬЦІ! СЫЦЬ БОЖА!**

— Што замовіце?
— А што вы нам пара́дзіце?
— Ра́ю вам узя́ць што-не́будзь зь дзічы́ны. У нас сёньня — цецяру́к і сма́чная гусь зь я́блыкамі. Можна пачастава́цца мя́сам дзіка́.
— Вялі́кі дзя́куй! Не.
— Ну, тады́ — «вожыкі». Гэ́та белару́скія зра́зы.
— Добра! Бярэ́м тройчы «вожыкаў», сала́ту зь селядцом ды белару́скі боршч.
— Які́ гарні́р жада́еце да «вожыкаў»?
— Ма́быць… бу́льбу з сква́ркамі й цыбу́ляй?
— Так, так, гэ́та сма́чна. Што возьмеце піць? Пі́ва? Віна́? Гарэ́лкі?
— Калі́ ла́ска, філіжа́нку… дзьве добрага чырвонага віна́. А для малога — шкля́нку журaві́навага соку і марозіва «Мядзьве́дзь».
— Што болей?
— Дзя́куй, досыць гэ́тага.
— Добра. Усё за́раз бу́дзе.
Папалу́днавалі мы ўсмак. Пара́ зьбіра́цца дамоў.
— Па́не, бу́дзьце ласка́вы, раху́нак!
— Так, за́раз… Калі́ ла́ска, вось ваш раху́нак. Ці спадаба́лася вам у нас?
— Ве́льмі! Пад’е́лі ўсмак.
— От і добра. Я ра́ды, прыходзьце яшчэ́.



## Практыкуйцеся

**7. Перакладзіце пытаньні ў беларускую мову й адкажыце на іх.**

Приличный ли этот ресторан?
Как называется ресторан?
Сколько человек пришло в ресторан?
Они пришли обедать?
Где был свободный столик?
Что они заказали?
Какие блюда предложил официант?
Он им посоветовал взять дичь?
Взяли ли они гуся в яблоках?
Заказали ли они мясо дикого кабана?
Взяли ли они водку?
Они остались довольны?
Их счёт был большой?
Какие блюда в меню вас заинтересовали?
Какие белорусские блюда нравятся вам?
Кроме блюд, названных в тексте, какие ещё белорусские блюда вы знаете?
Какой белорусский эквивалент слову «меню» вы знаете?
Как вы пожелаете приятного аппетита?



## Кароткія размовы
(чытайце ўголас)

| | |
|---|---|
| — Вы палу́днуеце ра́зам ці паасобку?<br>— Як калі́. | — Вы обедаете вместе или по отдельности?<br>— Как когда. |
| — Але́ й добрая ж санаторыя! Буды́нак прыгожы, лес, возера пад бокам. А як харчава́ньне?<br>— Ужо кормяць дык кормяць!<br>— Колькі разоў вы ясьцё?<br>— Чаты́ры.<br>— А калі́ вы сьне́даеце?<br>— Спача́тку робім гімна́стыку, бярэ́м душ і не́дзе каля́ восьмай гадзі́ны сьне́даем.<br>— Палу́днуеце, му́сіць, а другой?<br>— Так.<br>— А калі́ ў вас падвячорак?<br>— Падвячорак ў нас — у пяць гадзі́наў дня, а вячэ́раем а сёмай. | — Ну, и хороший же санаторий! Здание красивое, лес, озеро под боком. А как питание?<br>— Уж кормят, так кормят!<br>— Сколько раз вы едите?<br>— Четыре.<br>— А когда вы завтракаете?<br>— Сначала делаем зарядку, принимаем душ и где-то около восьми часов завтракаем.<br>— Обедаете, наверное, в два?<br>— Да.<br>— А когда у вас полдник?<br>— Полдник у нас — в пять часов дня, а ужинаем в семь. |

| | |
|---|---|
| — Давай паглядзі́м, што нам прапану́юць у стра́ўным лістку́.<br>— Я б хаце́ў узя́ць што-кольвек зь белару́скіх стра́ваў.<br>— Выбіра́й: су́пы, ры́бныя, мясны́я стра́вы.<br>— А што там ёсьцека зь дзічы́ны?<br>— Ці каштава́ў ты ка́чку ў руды́м соўсе?<br>— Не.<br>— Тады́ бярэ́м. Гэ́та сма́чна, будзь пэ́ўны. | — Давай посмотрим, что нам предлагают в меню.<br>— Я бы хотел взять что-нибудь из белорусских блюд.<br>— Выбирай: супы, рыбные, мясные блюда.<br>— А что там есть из дичи?<br>— Ты пробовал утку в коричневом соусе?<br>— Нет.<br>— Тогда берём. Это вкусно, будь уверен. |
| — У гэ́тай рэстара́цыі я пе́ршы раз.<br>— Во калі́! Я хаджу́ толькі сюды́. Ба́чыш, як тут уту́льна, яка́я абслу́га. А вось якра́з і наш надзява́ны шчупа́к.<br>— Ды як прыгожа аздоблены! На́ват ня ве́даю, як падступі́цца…<br>— Ты не бянтэ́жся, а еж ле́пей. Адчу́й, які́ шляхе́тны смак у гэ́тае стра́вы! | — В этом ресторане я впервые.<br>— Что ты! Я хожу только сюда. Видишь, как здесь уютно, какое обслуживание. А вот как раз и наша фаршированная щука.<br>— Да как красиво разукрашена! Не знаю даже, как подступиться…<br>— Ты не теряйся, а ешь лучше. Ощути, какой благородный вкус у этого блюда! |
| — Ці няма́ памы́лкі ў раху́нку?<br>— Не, гэ́та сур’ёзная рэстара́цыя. Тут заўжды́ ўсё дакла́дна.<br>— І ўсё-ткі дава́й паклі́чам афіцыя́нта. Няха́й ён патлума́чыць. | — Нет ли ошибки в счёте?<br>— Нет, это серьёзный ресторан. Здесь всегда всё точно.<br>— И всё-таки давай позовём официанта. Пусть он объяснит. |
| — Віта́лік, дзіця́тка, згубі́лася мая́ бранзале́тка. Така́я бліску́чанькая, зь зялёнымі па́церкамі ды таню́сенькім ланцужком. Можа ты яе́ ба́чыў?<br>— Ба́чыў.<br>— Ба́чыў?! Дзе? Калі́?<br>— Дакла́дна ня ве́даю, калі́… але́ добра па́мятаю, што тады́ мы на́дта сма́чна е́лі. | — Виталик, деточка, потерялся мой браслетик. Такой блестященький, с зелёными бусинками и тоненькой цепочкой. Может, ты его видел?<br>— Видел.<br>— Видел?! Где? Когда?<br>— Точно не помню, когда… но хорошо помню, что тогда мы очень вкусно ели. |
| — Я вячэ́раю не пазьне́й як а сёмай. А ты?<br>— Быва́е, калі́ й пазьне́й. | — Я ужинаю не позже семи. А ты?<br>— Бывает, что и позже. |
| — Пе́ршы раз п’ю гэ́ткую сма́чную гарба́ту.<br>— Табе́ спадаба́лася? Гэ́тая гарба́та зь язьмі́нам. | — Первый раз пью такой вкусный чай.<br>— Тебе понравилось? Это жасминовый чай. |
| — Ма́ма, я несумы́сьля разьбі́ў шкля́нку.<br>— Які́ ж ты няге́глы! Калі́ ня можаш даста́ць сам, папрасі́ дарослых!<br>— Ага́! Вунь Ві́ця — дарослы, а сподак разьбі́ў!<br>— З гэ́ткімі спры́тнымі ху́тка зусі́м бяз посуду застане́мся. | — Мама, я нечаянно разбил стакан.<br>— Какой же ты неповоротливый! Если не можешь достать сам, попроси взрослых!<br>— Ага! Вон Витя — взрослый, а блюдце разбил!<br>— С такими ловкими скоро совсем без посуды останемся. |

## Майстры слова гавораць



### Бу́льба

Так ісьці́ на за́хад, гэ́так пе́рці
За эпоху можна толькі раз.
Е́сьці захаце́лася да сьме́рці,
Ну, а повар з ку́хняю загра́з.

Падцягну́лі рамяні́ з тугою,
Ле́глі адпачы́ць пад сі́няй хвояй,
На сухой абочыне шашы́.
Рай — для ног, цыга́рка — для душы́…

Спрэ́чка пачала́ся нечака́на:
Што смачне́й з усі́х вядомых страў?
«Хаш і лобі! — пе́ршым кры́кнуў Ва́но, —
Я б сем мі́сак за́раз увабра́ў».

«Плоў, — сказа́ў Ахме́т. — Калі́сьці дома…»
І пацмокаў сма́чна языком.
А Гурге́н ускочыў: «Вы знаёмы
Зь ерэва́нскім сочным шашлыком?»

Я тут узгарэ́ўся не на жа́рты:
«Ва́шых страў я га́ніць не хачу́:
І яны́ што-кольвек, пэ́ўна, ва́рты,
Як хвалі́лі зна́ўцы іх, я чуў.

Сорам пра найле́пшае ня ве́даць, —
Ры́нуўся я ў на́ступ на байцоў, —
Калі́ сма́чна хочаце пасьне́даць,
Закажы́це бу́льбу зь селядцом.

Пе́чаная бу́льба — гэ́та ка́зка,
Паскрабе́ш нажом — і калі́ ла́ска.
Жоўтая скары́нка як пірог,
Бу́дзеш уплята́ць яе за трох.

Тра́піш да кабе́ціны рахма́най —
Паспыта́еш, друг мой дарагі́,
Дра́нікі са сьве́жаю сьмята́най,
Ба́бку, клёцкі, на́ват пірагі́.

З на́шай бу́льбы ты́сячу, ня ме́ней,
Сма́жаць і гату́юць розных страў…»
Я ўсхапі́ўся зь ме́сца і з натхне́ньнем
Пе́сьню ім пра бу́льбу прасьпява́ў.

Ба́чу: праняла́ мая́ прамова,
За́раз кры́кнуць: «Дзе яна́? Гарні́!»
… Добра, што пад’е́хаў ротны повар
На руды́м запа́раным кані́.

Пі́мен Па́нчанка



«Здаровы быў, Божая пту́шка!
Каб жа ле́та нам добра з табой перале́таваць!»

## Тэма: Час, поры году

### Лад мовы

| | **Калі́?** (Когда?) | **у** | **ад / да** |
|---|---|---|---|
| **I** | **сту́дзень** | у сту́дзен***і*** | ад сту́дзен***я*** |
| **II** | **лю́ты** | у лю́тым | ад лю́таг***а*** |
| **III** | **сакаві́к** | у сакавік***у́*** | ад сакавік***а́*** |
| **IV** | **красаві́к** | у красавік***у́*** | ад красавік***а́*** |
| **V** | **тра́вень** | у тра́ўн***і*** | ад тра́ўн***я*** |
| **VI** | **чэ́рвень** | у чэ́рвен***і*** | ад чэ́рвен***я*** |
| **VII** | **лі́пень** | у лі́пен***і*** | ад лі́пен***я*** |
| **VIII** | **жні́вень** | у жні́ўн***і*** | ад жні́ўн***я*** |
| **IX** | **ве́расень** | у ве́расьн***і*** | ад ве́расьн***я*** |
| **X** | **кастры́чнік** | у кастры́чнік***у*** | ад кастры́чнік***а*** |
| **XI** | **лістапа́д** | у лістапа́дз***е*** | ад лістапа́д***а*** |
| **XII** | **сьне́жань** | у сьне́жн***і*** | ад сьне́жн***я*** |

## Ясь распавядае





**Што пара́ году, то й пераме́на!**

**Вясна́.**

Шпакі́ прылята́юць у сакавіку́. Хоць ноччу, быва́е, трошкі й прымарозіць, але́ штодзе́нь ясьне́е ўсё больш. Глядзі́ш — і гракі́ прыляце́лі. У вёсцы адзі́н пе́рад адны́м пе́ўні гука́юць вясну́. З палёў сыходзіць сьнег, пака́зваецца зямля́. Уздоўж дарог цурча́ць ручайкі́. Дрэ́вы пачына́юць гнаць сок.



Красаві́к — ме́сяц сьве́жых фа́рбаў. Гля́ньце на бярозкі — якое ўбра́ньне! Чы́сты смара́гд.

Расьце́ трава́, зеляне́юць дрэ́вы. Сіне́е не́ба, пяю́ць жа́ўранкі. У прыродзе — пара́ абуджэ́ньня. Зьвяры́ выводзяць сваі́х мале́чаў. Грэ́е сонца. У красавіку́ ча́сам здара́юцца гара́чыя дні.



Як толькі пачына́е адтава́ць зямля́, зьяўля́юцца пе́ршыя веснавы́я кве́ткі. У на́шым ле́се цэ́лы разлі́ў хараства́: сі́нія, бе́лыя, родныя кве́ткі ружовага мале́нства: «Мае́ мі́лыя прале́скі!»

Дрэ́вы віта́юць веснавое сонейка. За́раз мы пады́дзем да вольхі. Можаце пакра́таць яе́ завушні́чкі. Ба́чыце, які́я яны́? Чырвона-кары́чневыя!

Тра́вень, ці, як яшчэ́ ка́жуць, май — ме́сяц рознакаляровы. Усе́ дрэ́вы — у прыгожых кваці́стых уборах. Цьвіту́ць чаромха, бэз, агрэ́ст, парэ́чкі. У бе́лых кару́нках красу́юць ві́шні.



**Ле́та.**



Баль кве́так — у чэ́рвені. Цьвіту́ць тра́вы, каласу́е жы́та. А язьмі́н! Як па́хне язьмі́н! Чы́стыя даліка́тныя кве́ткі зь бе́лымі пялёсткамі — поўныя зачарава́ньня. А гэ́ткага дзі́ўнага па́ху, які́ разліва́юць яны́, здае́цца, няма́ больш у сьве́це.

Ле́там у мяне́ на стале́ — найпрыгажэ́йшы буке́т. Незабу́дкі, смолкі, рамонкі — розныя кве́ткі, дзівосныя й непаўторныя. Толькі трэ́ба ве́даць, які́я зь іх можна ра́зам ста́віць у ва́зу.

Лі́па цьвіце́ ў лі́пені. Гляджу́ на пчол і міжволі ўзга́дваю словы Багдановіча, што руплі́вая пчала́ ўмее й з горкіх кве́так у соты мёд сабра́ць. Во як сказа́ў паэ́та!

Сярэ́дзіна ле́та. Горача… Сёньня 25 гра́дусаў у це́ні. У садох сьпе́юць ві́шні, я́блыкі, гру́шы. Жні́вень.

Навальні́ца ўле́тку — гэ́та звыча́йная зья́ва.

— Дождж як зь вядра́. Добра, што мы ўжо дома!

— Глянь, як нязгра́бна яны́ пераскокваюць праз калю́жыны! Пы́рскі ляту́ць ва ўсе́ бакі́.

— Віда́ць, ужо й парасон не памага́е. Вада́ сьцяка́е ручая́мі.

— Дожджык, дожджык, перастань, бо ня вы́йду на раста́нь.

— Ты сабе́ пасклада́й ве́ршыкі, а я пайду́ на ку́хню, прыгату́ю што-не́будзь.

— Што, мы сёньня не пагуля́ем на дварэ́?

— Паглядзі́м! А ра́птам задажджы́цца да ве́чара.



**Восень.**



Прыгажосьць у ка́зачнай смузе́. Ху́тка адлята́юць дні ба́бінага ле́та. Надыходзіць су́мная пара́ восені. Кру́жыцца лі́сьце. Пту́шкі зьбіра́юцца ў вы́рай. Апрана́юцца ў зімовае фу́тра зьвяры́. За́йчык з шэ́рага ператвара́ецца ў бе́лага. Дзе ты яго знойдзеш, як ля́жа сьнег! Лю́дзі ўцыпля́юць свае́ ха́ты, кіту́юць вокны. Хто ве́дае, зіма́ можа быць суворая.

Шэ́рыя хма́ры зацягну́лі не́ба. Імжы́ць дробны дождж. Ве́цер. Ня ве́даеш, як апрану́цца. Холад зьмяня́ецца цяплом, сьнег — дажджом. Не заўсёды патра́піш узя́ць з сабой парасон. Надвор’е няўстойлівае.



**Зіма́.**



Узі́мку малы́м усё падае́цца ка́зкай: і сьнег, і сьняжы́нкі, і са́нкі. Паглядзі́це, колькі ра́дасьці дзе́цям, як яны́ ката́юцца з горкі на са́нках. Дзе ты іх цяпе́р дазаве́шся ў ха́ту?!

Зіма́ ня — толькі сьнег і сьцю́жа. Зіма́ — гэ́та яшчэ́ й Новы год — штосьці тае́мнае, чаго ве́льмі чака́еш, на што спадзяе́шся.

Дзе́ці заўсёды чака́юць ёлку й падару́нкаў.



## Памятные дни и даты в календаре

## Адметныя дні і даты ў календары

| | |
|---|---|
| **1 студзеня** | Новы год. |
| **28 сту́дзеня** | Зацьве́рджаны Ста́тут Вялі́кага Кня́ства Літоўскага, Ру́скага і Жамойцкага (1588). |
| **1 лю́тага** | Пача́так паўста́ньня за незале́жнасьць пад кіраўні́цтвам Кастуся́ Каліноўскага (1863). |
| **7 сту́дзеня** | Каля́ды правасла́ўныя. |
| **3 сакавіка́** | Бі́тва на Нямі́зе, пе́ршая зга́дка пра Ме́нск (1067). |
| **24 сакавіка́** | Пача́так паўста́ньня за незале́жнасьць пад кіраўні́цтвам Тадэ́вуша Касьцю́шкі (1794). |
| **25 сакавіка́** | Дзень Волі (абвяшчэ́ньне незале́жнасьці Белару́скай Народнай Рэспу́блікі, 1918). |
| **вясна́** | Вялі́кдзень каталі́цкі (да́та вызнача́ецца паводле царкоўнага календара́). |
| **вясна́** | Вялі́кдзень правасла́ўны (да́та вызнача́ецца паводле царкоўнага календара́). |
| **вясна́** | Ра́даўніца (да́та вызнача́ецца паводле царкоўнага календара́). |
| **26 красавіка́** | Дзень Сму́тку (дзень катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, 1986). |
| **9 тра́ўня** | Дзень Перамогі (1945) над фашы́змам. |
| **15 лі́пеня** | Дзень перамогі над крыжака́мі (дзень Гру́нвальдзкай бі́твы, 1410). |
| **6 жні́ўня** | Францы́шак Скары́на вы́даў у Пра́зе пе́ршую друкава́ную белару́скую кні́гу (1517). |
| **8 ве́расьня** | Дзень перамогі над маскоўскім войскам (бі́тва пад Воршай, 1514). |
| **лістапа́д** | Дзяды́ (дата вызнача́ецца паводле царкоўнага календара́). |
| **27 лістапа́да** | Дзень Герояў (дзень Слу́цкага збройнага чы́ну, 1920). |
| **25 сьне́жня** | Каля́ды каталі́цкія. |

**Колькі міну́ла з таго ча́су?**
(Сколько прошло с того времени?)

| |
|---|
| **1 год** |
| **2, 3, 4 гад*ы́*** |
| **5, 6, 7, … гад*о́ў*** |

| |
|---|
| **1 стагодзьдзе** |
| **2, 3, 4 стагодзьдз*і*** |
| **5, 6, 7, … стагодзьдз*я́ў*** |

## Ежедневник Яся

## Ясеў штодзёньнік

| Сакавік | | 25<br>Аўторак |
|---|---|---|
| 🕘 | 🕮 Што зрабі́ць | Пазна́ка<br>аб выкана́ньні |
| $10^{00}$ | *Павіншава́ць бацькоў з Днём Волі* | |
| $11^{00}$ | *Зайсьці́ ў ба́нк, праве́рыць раху́нкі* | ✓ |
| $12^{00}$ | *Перамовы з гандлёвым прадпрые́мствам (гуртавы́ за́куп)* | *падрыхтава́ць дагавор* |
| $13^{00}$ | *Скла́сьці каштары́с, адда́ць у бухгальтэ́рыю* | ✓ |
| $14^{00}$ | *Нара́да* | |
| $15^{00}$ | *Купі́ць Яні́не падару́нак* | |
| $16^{00}$ | | |
| $17^{00}$ | *Сустрэ́ча з Бары́сам (перада́ць касэ́ту)* | |

## Погода

Надвор’е

**Сёньня:**

**цёпла** (тепло)
**горача** (жарко)
**ду́шна** (душно)

**сьпякотна** (жарко, знойно)
**сонечна** (солнечно)
**ні хмуры́нкі** (ни облачка)

**На дварэ́:**

**бліскаві́цы** (молния),
**навальні́ца** (гроза),
**пахму́рна** (пасмурно),
**шэ́рань** (изморозь),
**адлі́га** (оттепель),
**не́ба хма́рыцца** (собираются тучи),
**холадна** (холодно),
**слота, ха́лепа** (слякоть),

**жы́хае мала́нка** (сверкает молния),
**дождж** (дождь),
**не́пагадзь** (ненастье),
**мароз** (мороз),
**заве́я / завіру́ха** (метель),
**дзьме ве́цер** (дует ветер),
**золка** (зябко),
**імжа́ / імгла́** (моросит).

**Пры́казкі пра надвор’е:**
Мароз каза́ў: і ў ма́і тры дні ма́ю.
У сакавіку́ тума́н, дык у жніво — пан дожджык.
Пыта́ецца лю́ты, ці добра абу́ты.
Хто ў жні́ўні гуля́е, той узі́мку няшма́т ма́е.
Калі́ ўзі́мку зямля́ ба́чыць не́ба, то ўле́тку ня ба́чыць зь яе́ хле́ба.

## На термометре

На тэрмомэтры

**Колькі гра́дусаў?** (Сколько градусов?)

1 гра́дус вышэ́й за нуль
20 гра́дусаў цяпла́
4 гра́дусы ніжэ́й за нуль
14 гра́дусаў марозу

**1 гра́дус**
**2, 3, 4 гра́дус*ы***
**5, 6, 7, … гра́дус*аў***



## На часах

На гадзіньніку



гадзі́ньнік



будзі́льнік



2 гадзі́ны і 7 міну́т
дзьве́ з хвілі́намі



2 гадзі́ны 20 хвілі́наў
20 хвілі́наў на трэ́цюю



3 гадзі́ны 30 хвілі́наў
палова на чацьве́ртую



4 гадзі́ны 35 хвілі́наў
без дваццаці́ пяці́ пяць



6 гадзі́наў
роўна шостая



1 гадзі́на
гадзі́на роўна



11 (гадзі́наў) 45 (хвілі́наў)
без 15 (хвілі́наў) 12
бяз чвэ́рткі 12
бяз чвэ́рці 12



12 гадзі́наў
поўдзень
поўнач



12 гадзі́наў 15 хвілі́наў
15 хвілі́наў на пе́ршую
чвэ́рць на пе́ршую

**Колькі ча́су?** (Сколько времени?)
**Каторая гадзі́на?** (Который час?)

**1 гадзі́н*а***
**2, 3, 4 гадзі́н*ы***
**5, 6, 7, … гадзі́н**

**Калі́? У колькі гадзі́н? А якой гадзі́не?**
(Когда? В котором часу? Во сколько?)

**у 1 гадзі́н*у***
**у 2, 3, 4 гадзі́н*ы***
**у 5, 6, 7, … гадзі́н**

### Па-беларуску кажуць так



| | |
|---|---|
| **Гадзі́ньнік добра йдзе́ (позьніцца, стаў, сьпяша́ецца).** | Часы хорошо идут (опаздывают, остановились, спешат). |
| **У на́шых студэ́нтаў няма́ вольнага ча́су.** | У наших студентов нет свободного времени. |
| **Сёньня ма́ем дваццáтага ве́расьня.** | Сегодня у нас двадцатое сентября. |
| **Ле́тась Каля́ды былі́ бязь сьне́гу.** | В прошлом году Рождество было без снега. |
| **Я ня ве́даю, што нас чака́е сёлета.** | Я не знаю, что нас ждёт в этом году. |
| **Ча́сапіс выходзіць двойчы на ме́сяц.** | Журнал выходит дважды в месяц. |
| **Ён е́зьдзіць за мяжу́ пяць разоў на год.** | Он ездит за границу пять раз в год. |
| **Аднойчы мне зда́рылася адпачыва́ць на На́рачы.** | Однажды мне случилось отдыхать на Нарочи. |
| **Аднаго ра́зу я сустрэ́ў Пётру на ву́ліцы.** | Однажды я встретил Петра на улице. |
| **Нале́та мы пае́дзем у Кана́ду.** | В будущем году мы поедем в Канаду. |
| **Ста́ла на пагодзе.** | Установилась хорошая погода. |
| **Дрэ́ннае (ке́пскае) надвор’е.** | Плохая (неважная) погода. |



— Дык ці чака́ць вас сёньня?
— Не, мы бу́дзем зьбіра́цца ў дарогу.
— Ды не́шта зара́на вы зьбіра́ецеся.
— Чаму́ зара́на? Каторае сёньня чысло, чатырна́ццатае?
— Не, сёньня ўжо пятна́ццатае, чацьве́р.
— Ну дык вось! А ў суботу на досьвітку пае́дзем.
— Ну добра, зьбіра́йцеся. А калі́ вы ве́рнецеся?
— Мярку́ем праз ме́сяц, трэ́цяга чэ́рвеня. Гэ́та бу́дзе нядзе́ля.



— Праба́чце, вы ня ве́даеце, калі́ гэ́ты цягні́к бу́дзе ў Стоўпцах? Няўжо позна ўве́чары?
— Так. Не́дзе каля́ адзіна́ццаці гадзі́наў.
— Трэ́ба сьпяша́цца, каб пасьпе́ць дамоў да Новага году.



— Ты ба́чыш, як ра́птам пахалада́ла.
— Пэ́ўна, зьбіра́ецца на дождж. Спахмурне́ла не́ба. Ні́зка лётаюць ла́стаўкі.
— На жаль, не выпада́е нам е́хаць у горад.



— Ты пакі́нуў гэ́ткую прыгожую мясьці́ну! Сёлета, пэ́ўна, ні ра́зу й ня быў ты ў сваёй Каралёўцы. Кожны раз, як іду́ ў грыбы́, зірну́ на твой дамок. Безь цябе́ ён выгляда́е не́як непрыве́тна й ну́дна. Бра́ма зачы́неная, скрозь трава́ парасла́.
— Усё ж адклада́ў, бо гэ́тулькі спра́ваў меў зала́твіць. Ну, у чэ́рвені-лі́пені, ду́маў, пае́ду. Ды дзе там — штось зноў заміна́е. Хіба́ нале́та зьбяру́ся.



## Практыкуйцеся

**1. Перакладзіце словазлучэньні й складзіце сказы.**

| | |
|---|---|
| Я вернусь | праз ты́дзень,<br>па сьвя́це,<br>пе́рад Каля́дамі. |
| Он видел твою сестру | а сёмай гадзі́не,<br>пасьля́ іспы́таў,<br>пад ве́чар. |
| Собрание начнётся | з хвілі́ны на хвілі́ну,<br>празь пяць хвілі́наў,<br>хвілі́на ў хвілі́ну. |
| Успеем вернуться | у пару́,<br>аб адзі́н дзень,<br>да нядзе́лі. |
| Последний раз мы виделись | у лістапа́дзе,<br>памі́ж 14 і 17 сту́дзеня,<br>ле́тась. |
| Мы должны встретиться | апаўдні́,<br>да палу́дня,<br>да зьмярка́ньня. |
| Они уезжают | сёлета,<br>на насту́пным ты́дні,<br>на досьвітку. |
| Мы возвратимся | нале́та,<br>апоўначы,<br>у сьне́жні,<br>на трэ́ці дзень. |

**2. Скажыце, якая дата на календары.**

7.03, 7.05, 4.10, 28.06, 17.11, 1.09, 14.02, 16.12, 23.05, 25.03

**3. Адкажыце на пытаньні, ужыўшы наступныя словы.**
**Узор:** Колькі ча́су бу́дзеце ў дарозе? → У дарозе бу́дзем гадзі́наў пяць.

**Ніколі, адзі́н раз на ты́дзень, на цэ́лы ты́дзень, паўгадзі́ны, двойчы на ме́сяц, рэ́дка, раз-пораз, год таму́ наза́д, адну́ гадзі́ну, праз паўтара́ ме́сяца, на не́калькі дзён, да палу́дня.**

| | |
|---|---|
| Ці доўга | трэ́ба е́хаць?<br>стая́ць у чарзе́? |
| Ці надоўга | е́дзеце? |

затрыма´ецеся?

Ці ча´ста — выходзіць маладзёвы ча´сапіс?
бa´чыцеся зь і´мі?
быва´еце за мяжой?

Калі´ — пачалі´ вучы´ць белару´скую мову?
вярта´ецеся назад?
трэ´ба скончыць работу?

**4. Па-рознаму скажыце, які час на гадзіньніку.**

**Узор:** $5^{\underline{15}}$ → а) Пяць гадзі´наў і пятна´ццаць хвілі´наў,
б) пятна´ццаць хвілі´наў на шостую,
в) чвэрць на шостую.

$3^{\underline{25}}$, $14^{\underline{30}}$, $1^{\underline{45}}$, $10^{\underline{55}}$, $7^{\underline{35}}$, $21^{\underline{05}}$, $20^{\underline{40}}$, $12^{\underline{00}}$, $6^{\underline{03}}$, $15^{\underline{45}}$

**5. Спраўдзіце ў сёлетнім календары:**

25.02 — нядзе´ля?
9.05 — чацьве´р?
31.07 — аўторак?
1.09 — серада´?
30.12 — панядзе´лак?

**6. Адкажыце на пытаньні.**

Калі´ вы нарадзі´ліся?
Калі´ нарадзі´лася ва´шая жонка (ваш муж, ся´бар, сяброўка)?
Калі народзіны ва´шых дзяце´й?
Назаві´це год, да´ту і ме´сяц нараджэ´ньня сваі´х родных і блі´зкіх.

**7. Скажыце, якія сьвяты і ў які дзень вы сьвяткуеце.**

**8. Прачытайце тэкст, адкажыце на пытаньні.**



Ста´ла на пагодзе. Тэрмомэтар пака´звае 23 гра´дусы вышэ´й за нуль. Ня на´дта горача. Я´сна, ці´ха. У гэ´ткае надвор'е можна е´хаць за горад. Сёньня якра´з нядзе´ля, і мы ўчацьвярох выпраўля´емся ў дарогу.

Праз гадзі´ны зь дзьве бу´дзем у сваёй улюбёнай мясьці´не.

Гэ´та невялі´чкае лясное возера. Ле´тась мы тра´пілі на яго ў вандроўцы, і яно нам ве´льмі спадаба´лася. Тут маляўні´чы краяві´д, прые´мная вада´, сонечны пясча´ны бе´раг.

…Адпачыва´ем, як хто можа. Пла´ваем, купа´емся, загара´ем.

Сёньня мы заба´віліся на возеры. Пара´ ўжо паці´ху зьбіра´цца.

Ра´птам адне´куль насу´нулася хма´ра. Зьні´кла сонца. Во і мала´нка блі´снула! Няўжо бу´дзе навальні´ца? Шкада´, але´ му´сім ад'яжджа´ць.

**Пытаньні:**
Ці ўжо ста́ла на пагодзе?
Ці горача сёньня?
Сёньня панядзе́лак?
Колькі чалаве́к вы́правіліся ў дарогу?
Што пака́звае тэрмомэтар?
Куды́ яны́ прые́халі?
Ці даспадобы ім тут?
Які́ краяві́д тут?
Як яны́ адпачыва́юць?
Хто-не́будзь ловіць ры́бу?
Ці добра было на возеры?
Што іх змуша́е ад’е́хаць?
Ці заўва́жна для іх праляце́ў час?



**9. Поўным сказам адкажыце на пытаньні, скарыстаўшы пададзеныя з правага боку словы.**

| | |
|---|---|
| Как сегодня на улице? | горача,<br>ду́шна,<br>сьпякота,<br>пачына́ецца навальні́ца. |
| Почему вы берёте зонтик? | пахму́рна,<br>блі́скае мала́нка,<br>зьбіра́ецца на дождж. |
| Нужно одеваться теплее? | дрэ́ннае надвор’е,<br>слота,<br>імжа́,<br>не́пагадзь. |

**10. Прачытайце. Раскажыце, што значыць, на вашую думку, добры настрой.**

Каб жыццё ўсьміха́лася мне, я падару́ яму́ свой добры настрой. Але́ што гэта? Ці ня гром грымі́ць?

«Голасам моцы, ці́ха і ва́жна
Гром пракаці́ўся ўгары́.
Луг адазва́ўся грому праця́жна,
Лес адгукну́ўся стары́».*



Гэ́та Яку́б Колас. У ягонай паэ́зіі я дазнаю́ той стан, які́ можна назва́ць натхне́ньнем.

* Яку́б Колас, «Пе́ршы гром».

**11. Прачытайце. Узгадайце зімовы дзень і раскажыце пра яго.**

Сёлета зіма́ прыйшла́ з мараза́мі й сьне́гам. За ноч заве́і намята́юць вялі́кія гу́рбы. Сьнег на стрэ́хах, на дрэ́вах, уздоўж платоў. Усю́ды — бе́лы дыва́н. Во гэ́та зіма́! Ня тое, што ты́я гады́. Сьне́гу было з камаровую жме́ню, і ні́як не выпада́ла паце́шыцца зімовымі гу́льнямі. Затое цяпе́рака, як толькі нядзе́ля, — мы ўсёй сям’ёй е́дзем за горад.

На Каля́ды былі́ ў ле́се майго мале́нства. Зімой ён нага́двае ка́зку. Дзе́ці даўно прасі́ліся ў гэ́ты цу́да-пала́ц Сьне́жнай Карале́вы. Кожнае дрэ́ва тут ма́е свой мудраге́лісты ўбор. Е́лкі стая́ць у пы́шных сьнегавы́х ша́тах. На сонцы гу́рбы сьне́гу зіхацяць дыямэ́нтамі. Дзе́ці ва ўсі́м ба́чаць ра́дасьць, усё ім ціка́ва. То яны́ хочуць зьме́рыць глыбіню́ кожнае гу́рбы, то схава́юцца ў

сьнегавы́х а́рках, то страсяну́ць з дрэ́ва сьнег так, каб ён добра абсы́паў нас. Ды ўвесь час не губля́юць надзе́і знайсьці́ бярлогу, бо вавёрчынымі ды зайчы́нымі сьляда́мі яны́ ўжо наце́шыліся.

Не адны́м нам падаба́ецца гэ́ты лес. Адпачыва́юць тут і стары́я, і малы́я. Хто ката́ецца на са́нках, хто — на і́ртах, а хто проста ходзіць па лясны́х сьце́жках і ды́хае сьве́жым паве́трам.

Хто як можа, так і сьве́дчыць, што здаровы дух — у здаровым це́ле.

**12. На падставе тэксту «Што пара году, то й перамена!» раскажыце пра пару году, якая вам найбольш падабаецца.**



## Кароткія размовы
(чытайце ўголас)

| | |
|---|---|
| — Мой гадзі́ньнік адстае́. На тваі́м колькі?<br><br>— Дакла́дна дзьве хвілі́ны на трэ́цюю. | — Мои часы отстают. Сколько времени на твоих?<br>— Точно две минуты третьего. |
| — На колькі табе́ наве́сьці будзі́льнік?<br>— Хвілі́наў пятна́ццаць на сёмую. | — На сколько тебе поставить будильник?<br>— Минут пятнадцать седьмого. |
| — У дзе́вяць гадзі́наў му́сім быць ля аўтобуса.<br><br>— Ці не́льга крыху́ пазьне́й?<br>— Не, не, дакла́дна ў дзе́вяць.<br>— Паглядзі́, колькі цяпе́р?<br>— Палова на шостую.<br>— А, дык яшчэ́ ма́ем паўгадзі́ны. | — В девять часов мы должны быть возле автобуса.<br>— Нельзя ли немного позже?<br>— Нет, нет, точно в девять.<br>— Посмотри, сколько сейчас?<br>— Половина шестого.<br>— Так, значит, у нас ещё есть полчаса. |
| — Да якога ча́су на вакза́ле працу́е даве́дачная слу́жба?<br>— Да адзіна́ццаці гадзі́наў ве́чару. | — До которого часа на вокзале работает справочная служба?<br>— До одиннадцати часов вечера. |
| — Ці Андрэ́й ужо дома?<br>— Яшчэ́ не. Чака́ю яго з хвілі́ны на хвілі́ну. | — Андрей уже дома?<br>— Ещё нет. Жду его с минуты на минуту. |
| — Сустрэ́немся на вакза́ле а сёмай гадзі́не.<br>— Ці не запозна гэ́та? Можа хай лепш застане́цца яка́я хві́ля ў запа́се?<br>— Ну, добра, тады́ — бяз чвэ́рткі сем. | — Встретимся на вокзале в седьмом часу.<br>— Не поздно ли это? Может пусть лучше останется какая минута в запасе?<br>— Ну, хорошо, тогда — без четверти семь. |
| — Як там на дварэ́?<br>— Цёпла. Хораша. Гэ́ткае ж надвор’е, каза́лі, чака́ецца й за́ўтра. | — Как там на улице?<br>— Тепло. Хорошо. Такая же погода, говорили, ожидается и завтра. |

| | |
|---|---|
| — Ва́шыя праграмі́сты зьбіра́юцца ў Маскву́ на выста́ву «Софтул»?<br>— Пэ́ўна ж. Ва́рта зье́зьдзіць, паглядзе́ць, што там новага прапану́юць.<br>— Бы́ццам вы ў Інтэрнэ́це ня ба́чылі тых наві́наў?<br>— У Інтэрнэ́це — гэ́та ня тое. А там жа — жывы́я прагра́мы!<br>— Хіба́ вы аб дзень спра́віцеся пама́цаць уве́сь софт?<br>— Та́мака паглядзі́м, колькі нам спатрэ́біцца ча́су. Трэ́ба ж атрыма́ць уяўле́ньне пра кан’юнкту́ру ры́нку. | — Ваши программисты собираются в Москву на выставку «Софтул»?<br>— Конечно. Стоит съездить, посмотреть, что там нового предлагают.<br>— Как будто вы в Интернете не видели тех новостей?<br>— В Интернете — это не то. А там ведь — живые программы!<br>— Разве вы успеете за день пощупать весь софт?<br>— Там посмотрим, сколько нам потребуется времени. Надо же получить представление о конъюнктуре рынка. |
| — Прывіта́ньне!<br>— А-а-а, Ка́сю! Прывіта́ньне! Нарэ́шце дачака́ліся твайго званка́. Калі́ ўжо ве́рнешся?<br>— Ды во, якра́з зьбіра́юся. За́ўтра ўве́чары выяжджа́ю цягніком.<br>— Ты ве́даеш, у нас зьмяні́лася надвор’е. Дождж, слота. Лепш бу́дзе, калі́ мы сустрэ́нем цябе́. Які́ ну́мар цягніка́?<br>— Два́ццаць другі́: «Пра́га-Менск».<br>— А вагон?<br>— Дзявя́ты.<br>— Усё, запіса́ў.<br>— Ну, да сустрэ́чы.<br>— Да сустрэ́чы. Бу́дзем чака́ць на цябе́. | — Привет!<br>— А-а-а, Катя! Привет! Наконец дождались твоего звонка. Когда уже вернёшься?<br>— Вот, как раз собираюсь. Завтра вечером выезжаю поездом.<br>— Ты знаешь, у нас переменилась погода. Дождь, слякоть. Лучше будет, если мы встретим тебя. Какой номер поезда?<br>— Двадцать второй: «Прага-Менск».<br>— А вагон?<br>— Девятый.<br>— Всё, записал.<br>— Ну, до встречи.<br>— До встречи. Будем ждать тебя. |

## Майстры слова гаворaць



Ці́ха цячэ́ ў нас Нёман, ці́ха і су́мна, як час па расста́ньню. Не імчы́цца ён з ры́зыкай упе́рад, не шумі́ць, не гудзе́ і ня пы́шыцца сі́лай, а паволі, ступою, моў, ску́ты журбою — лье́цца, як срэ́бра, па родным гру́нце. Чы́сты, як шкло, сьве́тлы, як дзень, су́мны і пе́кны, як хараство ў заду́ме, ходзіць ён, сму́клы юна́к, ва ўсе бокі, це́шыцца-пе́сьціцца на ма́тчыных гру́дзях, лье́цца-нясе́цца, суму́е-журбу́е і ня можа расста́цца з роднай краі́най…

Міл яму́ ці́хі гаёк каля́ ле́су, лю́бы зялёныя доўгія ні́ўкі; мі́лы лясы́, пяшча́ныя вы́мы, горы, азёры, груды́, сенажа́ці, люб яму́ й жоўты пясочак на ўла́сным бе́разе. Ды як скованы ду́мкай ве́чнай разлу́кі, пахаджа́е ён сму́тна па роднаму кра́ю — усё разгляда́е, з усі́м размаўля́е, усё ці́ха жагна́е, моў, ця́жка ўздыха́е. Ппады́дзе, засму́чаны, к цёмнаму ле́су — сьці́шыцца, змоўкне, замрэ́ й абамле́е, а потым заве́рнецца — пада́сца ўпе́рад ды зьні́кне ў ле́се. Там пагуля́е, у цяньку́ сапачы́не, пагамоніць заду́мліва зь е́лкамі, соснамі, пазіхне́, устрапяне́цца ды вы́бяжа ў поле — зазьзя́е, як срэ́бра, заблішчы́ць, — засьмяе́цца на сонцы ды разалье́цца ўсту́жкай па кваці́стым лу́зе.

Язэ́п Лёсік



Тэлеграма:

*СПАДАРЫНІ Й СПАДАРЫ!*
*ВІНШУЮ З НОВЫМ ГОДАМ.*
*ЗЫЧУ ЗДАБЫЦЬ УНУТРАНЫ СУПАКОЙ*
*ЛЮБОЎЮ І ДОБРЫМІ ЎЧЫНКАМІ.*

*ЯСЬ*

## Тэма: Пошта, тэлеграф, тэлефон

### Лад мовы

### Звательный падеж существительных

Клічны склон назоўнікаў

*Звательный падеж (клі́чны склон)* — самостоятельная падежная форма существительных, которая используется при обращении.

Образование звательного падежа существительных, стоящих в единственном числе:

| Аснова | Прыклады | Канчатак |
|---|---|---|
| **Цьвёрдая** | дзе́д***у***, па́н***е***, бра́ц***е***, народз***е***, сусе́дз***е***, Я́н***е*** | ***-у, -е*** |
| **Мяккая** | ву́чн***ю***, дзіця́ц***ю***, Мікала́***ю***, Ігна́с***ю***, Я́с***ю***, Ма́н***ю***, Га́л***ю***, ягамосьц***ю***, дабрадзе́***ю***, госьц***ю***, но: князь — кня́ж***а*** | ***-ю*** |
| **Зацьвярдзелая (*ж, ш, ч, дж, р, ц*) і на *г, к, х*** | Тадэ́вуш***у***, чыта́ч***у***, спада́р***у***, амбаса́дар***у***, Пётр***у***, зна́ўц***у***, выдаўц***у***, хлопч***а***, дру́ж***а***, чалаве́ч***а***, юна́ч***а***, Але́ж***а***, нябог***у***, абібок***у***, сы́нк***у***, Яўста́х***у*** | ***-а, -у*** |



Обратите внимание, что при образовании форм звательного падежа может происходить чередование согласных в основе слова: ***-т → -ц*[*е*]**, ***-д → -дз*[*е*]**, ***-к → -ч*[*а*]**, ***-ц → -ч*[*а*]**, ***-г → -ж*[*а*]**, ***-з → -ж*[*а*]**, ***-х → -ш*[*а*]**. Например, **бра*т* — бра́*це*, сусе́*д* — сусе́*дзе*, юна́*к* — юна́*ча*, друг — дру́*жа*, князь — кня́*жа*, хлопе*ц* — хлопч*а***.

Во множественном числе для обращения используется форма именительного падежа множественного числа: **брат*ы́*** (братья), **сябр*ы́*** (друзья), **сын*ы́*** (сыновья) или образуется существительное в звательном падеже с окончанием ***-ове***: **пан — пан*ове*** (господа), **сват — сват*ове*** (сваты), **брат — брат*ове*** (братья), **сын — сын*ове*** (сыновья).

## Па-беларуску кажуць так



| | |
|---|---|
| **Тэлегра́ма му́сіць быць кароткай і ўця́мнай.** | Телеграмма должна быть короткой и понятной. |
| **З паштовай скры́нкі лісты́ дастаю́ць два разы́ на дзень.** | Письма из почтового ящика вынимают два раза в день. |
| **Галоўная пошта ў Ме́нску працу́е кру́глыя содні.** | Главпочтамт в Менске работает круглосуточно. |

| | |
|---|---|
| **Лісты́ да запатрабава́ньня атры́мліваюць у ваке́нцы спра́ва.** | Письма до востребования получают в окошке справа. |
| **Канвэ́рты і папе́ра звыча́йна прадаю́цца ў ша́піках, кра́мах дру́каў і канцыля́рскіх тава́раў.** | Конверты и бумага обычно продаются в киосках, магазинах печатной продукции и канцелярских товаров. |
| **Куплю́ ма́ркі для ліста́ за мяжу́.** | Куплю марки для письма за границу. |
| **Трэ́ба ве́даць ну́мар абанэ́нта.** | Нужно знать номер абонента. |



— Колькі кашту́е заказны́ ліст з паведамле́ньнем?
— Што там у вас, зды́мкі?
— Але́, зды́мкі ды кні́жка.
— Дава́йце ўзва́жым, кошт зале́жыць ад вагі́… Не, замнога. Му́сіце пасыла́ць паку́нкам.



— Я хаце́ў бы атрыма́ць грашовы перавод. Вось мой па́шпарт.
— Калі́ ла́ска, расьпішы́цеся ту́т.



— Хачу́ адпра́віць пачок. Тут блі́зка кілягра́ма.
— Запаўня́йце блянк, калі́ ла́ска. Разборліва напішы́це а́драс.

— Добры дзень. Я хаце́ла б заказа́ць міжнародную размову. Ну́мар у Ві́льні — 517-201-44.
— Добра. Чака́йце. Ваш зака́з бу́дзе вы́кананы ця́гам 30 хвілі́наў.
…
— Бу́дзьце ласка́выя, паўтары́це. Нам перабі́лі гу́тарку.
— Добра. Але́ вам давядзе́цца трошкі пачака́ць.






— Алё!
— Кажы́це, калі́ ла́ска, гучне́й! Вас бла́га чува́ць.
— Можа, вы мне пэратэлефану́еце?
— Добра. Пачака́йце, я за́раз вазьму́ аловак і запішу́ ваш ну́мар.
— Калі́ ла́ска, дыкту́ю па лі́чбах: 7-4-4-1-2-9-0.

— Калі́ ла́ска! Я слу́хаю!
— Праба́чце, з кім я размаўля́ю?
— Язэ́п Богдан.
— Мне за́раз жа патрэ́бны інжынэ́р Сасноўскі. Ці не маглі́ б Вы яго паклі́каць?
— Хвілі́нку, я за́раз перада́м яму́ слу́хаўку.






Я знайшоў ну́мар Я́севага тэлефона ў тэлефоннай кні́зе.



## Практыкуйцеся

**1. Перакладзіце пытаньні на беларускую мову і адкажыце на іх.**

Что нужно, чтобы получить денежный перевод?
Какой максимальный вес может иметь бандероль?
Сколько нужно платить за бандероль?
Взвешиваются ли заказные письма?
Как скоро выполняется заказ на телефонный разговор?
От чего зависит стоимость телефонных переговоров?
Как позвать к телефону?
Всегда ли хорошая слышимость при телефонных разговорах?
Как нужно писать адрес на посылках?
Много ли вы платите за телефон?
Где можно найти нужный номер телефона?
Как вы скажете: «Сейчас передам ему трубку»?

**2. Скажыце па-беларуску як мае быць.**

Взвесить (паку́нак), опустить конверт в (скры́нка), заплатить за (паслу́га), окошко (да запатрабава́ньня), написать (ліст), купить марку для письма за (мяжа́), заполнить адреса (атрыма́льнік і адпра́ўнік), кабина (ну́мар тры).

**3. Складзіце сказы па-беларуску.**

| | |
|---|---|
| Возвращайся | до понедельника,<br>немедленно,<br>как можно быстрей. |
| Задерживаюсь | на неделю,<br>по делам,<br>на три дня. |
| Андрей в командировке | до 14 сентября,<br>на неделю,<br>до праздника. |
| Приезжай | за своими документами,<br>за детьми,<br>срочно. |
| Встречайте сегодня | поезд 25-й, вагон 11-й,<br>в четыре часа дня,<br>у меня слишком много багажа. |
| Буду утром | в семь часов,<br>ждите,<br>не волнуйтесь. |
| Я перезвоню | вас плохо слышно,<br>это по личному вопросу, |

это насчёт…

**4. Падоўжыце гутарку, адказаўшы на пытаньні:**

— Табе́ ідзе́ газэ́та «На́ша Ні́ва»?
— Няўжо ж не!
— І я падпіса́ўся, але́ да запатрабава́ньня.
— Хіба́ для цябе́ гэ́та зручне́й?
— Дзі́ва што!

**Пытаньні:**
Ці вы афармля́еце падпі́ску на пошце?
Які́я дру́кі вы атры́мліваеце?
Які́ кошт ва́шай падпі́скі?
Колькі гэ́та рублёў на ме́сяц?
На які́ тэ́рмін вы афармілі падпі́ску?
Колькі асобнікаў і які́х газэ́таў вы атры́мліваеце на ты́дзень?
У які́я дні выходзіць газэ́та?

**5. Перакладзіце на беларускую мову.**

**а)** Привет из Менска!
Почти все дела уладил, осталось провести две встречи. Рассчитываю вернуться 31 января.
Никита.

**б)** Приветствую вас!
У меня всё нормально. Не повезло с погодой, здесь бесконечные дожди. Скучаю. Увидимся через две недели. Знакомый ваш, Мартин, передает вам привет.
До свидания. Андрей.

**в)** Здравствуйте, Екатерина Васильевна!
Приеду поездом «Менск-Прага» во вторник вечером. Встречайте.
Максим.

**г)** Привет!
Не волнуйтесь, у меня всё хорошо. Задержусь ещё на пару дней. Передайте Ирине, что в понедельник утром уже буду дома.
Аркадий.



## Ясь распавядае

Я вярну́ўся з дарогі і толькі тады́ ўспомніў пра званок да Ю́ркі. Даклярава́ў, што пазваню́, ды забы́ўся, а ён чака́е. За́раз жа патэлефану́ю яму́ на пра́цу. На другі́м канцы́ не чува́ць ані́ Ю́ркі, ані́ яго супрацоўніка. Вось нарэ́шце:

— Слу́хаю, Лапі́цкі пры тэлефоне.
— Праба́чце, мне патрэ́бны спада́р Будаве́й.
— Які́ ну́мар вы набра́лі?
— 204-13-597.
— Не, вы памылі́ліся адной лі́чбай. Гэ́та ну́мар 204-16-597.

Ня ве́даю, хто памылі́ўся — ці я, ці тэлефон, — а ўсё ж я званю зноў. Цяпе́р — заня́та. Званю́ праз кожную чвэ́рць гадзі́ны, і ўсё ма́рна. Толькі а 10-й гадзі́не з палёгкай пачу́ў Ю́ркаў голас:

— Алё?

— Прывіта́ньне, Ю́рка!
— Я́сю? Здароў! Цэ́лае ра́ньне чака́ю. Дзе ты прапа́ў?
— Здароў, здароў! Ты чака́ў, а тэлефон уве́сь час быў заня́ты. Зна́чыцца, так…



## Практыкуйцеся

**6. Скажыце «так» альбо «не».**

Ясь тэлефанава́ў зь і́ншага гораду.
Ясь даклярава́ў, што патэлефану́е.
Ясь тэлефанава́ў ся́бру дадому.
Ён дазвані́ўся адра́зу ж.
Ён набра́ў ну́мар 204-13-597.
Ясь кі́нуў тэлефанава́ць.
Ясь так і не дазвані́ўся да свайго ся́бра.
Ён тэлефанава́ў раз-пораз.
Ся́бра паўшчува́ў Я́ся.
Ся́бра не чака́ў ягонага званка́.

**7. Складзіце па-беларуску паштоўку зь віншаваньнем да сваякоў, сяброў, партнэраў.**



Пе́рад сьвя́там у маёй паштовай скры́нцы поўна markdown рознай карэспандэ́нцыі. Вось і на гэ́ты раз адусю́ль прыйшлі́ лісты́, паштоўкі, тэлегра́мы. Я такса́ма павіншу́ю сваі́х сяброў, сваякоў, прыя́зьнікаў.



**I.**

Лю́быя мае́ сябры́!
У Новым годзе зы́чу вам росквіту ды ўся́кіх посьпехаў. Хай шча́сьціць вам!*

Ваш Я́ська.

* Пусть вам сопутствует удача!

**II.**

Дарагі́ Пётра!
Віншу́ю цябе́ й тваі́х блі́зкіх са сьвя́там Божага нараджэ́ньня. Зы́чу шча́сьця ў новым годзе, творчага росту. Ды не забыва́йся, што чым вышэ́й расьце́ш, тым ніжэ́й му́сіш апуска́ць галаву́ пе́рад Творцам усяго.

Я́ська.

**III.**

Добры дзень, мае́ дарагі́я!
Це́шуся з магчы́масьці* ху́тка быць у вас. Прые́ду якра́з на Каля́ды. Да прые́мнага пабачэ́ньня!

Ясь.

* Рад возможности.

**IV.**

Шаноўны па́не Каліноўскі!
Дазвольце шчы́ра падзя́каваць Вам за віншава́ньне зь дзесяцігодзьдзем на́шай суполкі. Ва́шая ўва́га ве́льмі дарага́я для нас. Дзя́куй Вам.

З пава́гай, Ясь.

**V.**

Прывіта́ньне!
Дру́жа Іва́не, даўно зьбіра́юся наве́даць цябе́, ды нія́к не пуска́юць розныя штодзённыя клопаты. Хачу́ расказа́ць табе́ пра сваё жыцьцё-быцьцё, але́ лістом…

Ясь.



## Кароткія размовы
(чытайце ўголас)

| | |
|---|---|
| — Спада́рыня, штосьці я не магу́ знайсьці́, дзе тут афармля́юць пачкі́?<br>— Пры ваке́нцы спра́ва адпраўля́юць ацэ́неныя лісты́. Дале́й — пасылкі. А пачкі́ прыма́юць вунь каля́ таго ваке́нца з таблі́чкаю «Прыём пачкоў».<br>— Так, ба́чу, ба́чу. Дзя́куй!<br>— Калі́ ла́ска. | — Девушка, что-то я не могу найти, где здесь оформляют бандероли?<br>— У окошка справа отправляют ценные письма. Дальше — посылки. А бандероли принимают вон у того окошка с табличкой «Приём бандеролей».<br>— Ага, вижу, вижу. Спасибо!<br>— Пожалуйста. |
| — Добры дзень. Маё прозьвішча Карпі́цкі. Я хаце́ў бы пагавары́ць з доктарам Яцэ́вічам.<br>— Якое ў вас пыта́ньне?<br>— Доктар прызна́чыў мне прыём ў сераду́ на 15 гадзі́наў, але́ мне нія́к не выпада́е. Можа доктар перанясе́ мой прыём на і́ншы дзень?<br>— Пачака́йце, калі́ ла́ска, я за́раз перада́м яму́ слу́хаўку. | — Здравствуйте. Мая фамилия Карпицкий. Я хотел бы поговорить с доктором Яцевичем.<br>— По какому вопросу?<br>— Доктор назначил мне приём в среду на 15 часов, но у меня никак не получается. Может, доктор перенесёт мой приём на другой день?<br>— Подождите, пожалуйста, я сейчас передам ему трубку. |
| — Добры дзень.<br>— Добры дзень. Я з пошты. На імя́ Бобрыка Антона Ві́ктаравіча прыйшоў ацэ́нены пачок.<br>— Гэ́та я.<br>— Вось квіток, напішы́це свае́ па́шпартныя зьве́сткі і расьпішы́цеся вось ту́т, проці гэ́тай пазна́кі, што атрыма́лі.<br>— Зразуме́ў. Вось, калі́ ла́ска.<br>— Вазьмі́це пачок. Быва́йце здаровы.<br>— Дзя́куй. Быва́йце. | — Здравствуйте.<br>— Здравствуйте. Я с почты. На имя Бобрика Антона Викторовича пришла ценная бандероль.<br>— Это я.<br>— Вот квитанция, напишите свои паспортные данные и распишитесь в получении вот тут, напротив этой отметки.<br>— Понял. Вот, пожалуйста.<br>— Возьмите бандероль. До свидания.<br>— Спасибо. До свидания. |
| — Пачака́й, я ўкі́ну пісьмо. Дзе ту́т паштовая скры́нка?<br>— Вунь там, зь ле́вага боку пры вы́йсьці. | — Подожди, я опущу письмо. Где здесь почтовый ящик?<br>— Вон там, с левой стороны возле выхода. |
| — Васі́ль, ці глядзе́ў ты сёньня пошту? | — Василий, ты смотрел сегодня почту? |

— Глядзе́ў. Сёньня пошта ў нас бага́тая. Скры́нка аж трашчы́ць.
— Ну, і што там ёсьць?
— Газэ́ты, рэкля́мавы дада́так, ча́сапіс для малой. Ну, а для цябе́, Ю́лька, ліст з Та́ліну. Гэ́та ўжо, напэ́ўна, ад твайго ся́бра. Та́нчыць бу́дзеш?
— Адчапі́ся! Дай мне ліст!

— Смотрел. Сегодня почта богатая. Ящик трещит.
— Ну, и что там есть?
— Газеты, рекламное приложение, журнал для ребёнка. Ну, а для тебя, Юлька, письмо из Таллинна. Это уж наверное от твоего дружка. Танцевать будешь?
— Отстань! Дай мне письмо!

## Майстры слова гавораць



### Вось ідзе́ пошта

(уры́вак пада́дзены з захава́ньнем а́ўтарскага пра́вапісу)

**I**

Ты кі́нуў ліст у паштовую скры́нку ды пайшоў сваёй дарогай. А ў скры́нцы тымча́сам загавары́лі:

— Ой, хто там яшчэ́!? Тут і так ужо няма́ ме́сца.

— Дармо. Як-не́будзь зьме́сьцімся. Пе́рад сьвя́там заўсёды така́я цесната́. Мне недалёка, у Гомель, а вам?

— Я ў Пінск.

— А мне ў Кі́еў.

— Я ў Горадзен.

— А я паве́транай поштай аж у Кана́ду, у Таронта.

— Каму́ куды́. А мне ў вёску Пру́сінава. Уну́чка бабу́лю віншу́е са сьвя́там.

— А я ня веаю, куды́ пае́ду. Мой гаспада́р «забу́дзька», забы́ўся горад на канвэ́рце напіса́ць. І свайго а́драсу ня даў. Куды́ ж мне цяпе́р?

— Куды́? Хе-хе. Ве́дама куды́ — у кошык.

— Ай-яй-яй! А на мяне́ там чака́юць, хвалю́юцца…

— А на мяне́ ма́рку забы́ліся накле́іць. Што са мною бу́дзе?

— Нічога. Вас даста́вяць «даплатны́м». І ўсё.

— Скажэ́це, а калі́ ну́мар дому не напіса́ны на канвэ́рце, як жа яго знойдуць? Я так баю́ся загі́нуць.

— Знойдуць, не хвалю́йцеся... Праз а́драсны стол. Толькі да сьвя́та наўда́чу ці тра́піце вы на ме́сца…

**II**

Каля́ ходзішча спыні́ўся мале́нькі аўтамабі́ль. На ім на́піс — СУ́ВЯЗЬ. З машы́ны вы́йшаў чалаве́к, падыйшоў да паштовае скры́нкі, падста́віў мяшок. Пстрык! Пстрык! — і лісты́ ў мяшку́. Шасна́ццаць такі́х машы́наў сную́ць па ўсім Ме́нску, выбіра́юць пошту тры разы́ на дзень. Ніводнае скры́нкі не прапу́сьцяць.

У мяшку́ сустрэ́ліся лісты́ з розных скры́нак. Ізноў пачала́ся гу́тарка:

— Куды́ гэ́та нас паве́зьлі, ня ве́даеце?

— Ве́дама куды́, на Галоўную пошту.

— Стой! Прые́халі!

— Выгружа́й!

І мяшкі́ зь ліста́мі паймча́ліся па йсту́жцы транспартэ́ра ў буды́нак. Іх падхапля́юць і на лі́фце падаю́ць на трэ́йці паве́рх. Там мяшкі́ адкрыва́юць і вытраса́юць зь іх усё на стол. Ты́сячы, дзеся́ткі ты́сячаў лістоў, паштовак, бандэроляў… усё трэ́ба разабра́ць і своечасова адпра́віць.

Як-жа з гэ́тым даду́ць ра́ды паштавікі́?

Ім памага́юць машы́ны. Разабра́ныя лісты́ трапля́юць у штэмплява́льную машы́ну. Што яна робіць? Пагаша́е ма́ркі ды ста́віць штамп. На шта́мпе паказа́ныя да́та, ме́сяц, год, гадзі́на, калі́ ліст надыйшоў. Ху́тка як мала́нка штампу́е машы́на лісты́ ды скіда́е ў скры́нкі. Раз-раз-раз-раз!.. 18 ты́сячаў лістоў за гадзі́ну!

— Ох, галава́ хадуном! Нічога ўжо не разуме́ю. Дзе мы? Куды́ мы цяпе́р?..

— Трыма́ймася ра́зам.

Куды́ ўжо там ра́зам! Поўныя скры́нкі лістоў зьяжджа́юць ра́зам па транспартэ́ры ўніз ды трапля́юць у сартава́льню. Тут дзяўча́ты-сартава́льніцы ху́тка-ху́тка разьбіра́юць лісты́ ды расклада́юць па кле́тках пэ́ўных маршру́таў. Адсю́ль іх возьмуць, ізноў запяча́таюць у мяшкі́ ды павязу́ць — адны́я на вакза́л, другі́я — на аэрапорт. Пагру́зяць у паштовыя вагоны ці ў самалёты ды… Ту-ту-у-у! Пае́халі. Шчасьлі́вае вам дарогі! Вясёлага сьвя́та!

Валянці́на Пашке́віч

## Лекцыя чатырнаццатая — Урок четырнадцатый

**Пільну́ймася свайго**



Малады́ я быў ху́ткі, як стронга, лёгкі на хаду́. Дарогу і адпачы́нак лічы́ў за адно. Ну, і пахадзі́ў я, пае́здзіў па сьве́це. Новыя мясьці́ны заўжды́ ва́білі мяне́.

З ча́сам зьмяні́ўся мой сьветагля́д. Цяпе́рака я, як дзя́дзька ў гадох, ве́даю, што ёсьць кра́ем жада́ньняў. Цяпе́рака я пільну́юся толькі свайго ды ня ду́маю, дзе праве́сьці адпачы́нак уле́тку.

Мая́ сядзі́ба, што застала́ся ў спа́дчыну, патрабу́е вялі́кага догляду. Гэ́тым ле́там удву́х з сы́нам бу́дзем ла́дзіць на́шыя буды́нкі. Вось нам бу́дзе й адпачы́нак.

## Тэма: Адпачынак

### Лад мовы

## Существительное в творительном падеже

Назоўнік у творным склоне

**КІМ? ЧЫМ? КАЛІ́? ДЗЕ?**

В единственном числе:

| | Аснова | Прыклады | Канчатак |
|---|---|---|---|
| **Ж. р. на *-а, -я*** | мяккая | зямл***ёй*** (***-ёю***), ральл***ёй*** (***-ёю***), Ю́л***яй*** (***-яю***), ві́шн***яй*** (***-яю***) | ***-ёй (-ёю), -яй (-яю)*** |
| | цьвёрдая, зацьвярдзелая і на *г, к, х* | рак***ой*** (***-ою***), страх***ой*** (***-ою***), дзяўчы́н***ай*** (***-аю***), сьцюж***ай*** (***-ою***) | ***-ай (-аю), -ой (-ою)*** |
| **Ж. р. без канчатка** | мяккая і цьвёрдая | косьц***ю***, су́вязьз***ю***, аповесьц***ю***, кроў***ю*** (крыв***ёю***), глы́б'***ю***, вэ́рф'***ю***, бярэ́м***ем***, пол***ем***, вучн***ем*** | ***-ю (-ёю), -ем*** |
| | зацьвярдзелая | ночч***у***, пе́чч***у***, мы́шш***у*** | ***-у*** |
| **М. р., н. р. і розна-скланяльныя** | мяккая | жа́л***ем***, Кол***ем***, ціхон***ем***, пол***ем***, і́м***ем*** (і́мен***ем***), пле́м***ем*** (пле́мен***ем***), агн***ём***, пн***ём***, судзьдз***ём***, жыцьц***ём***, кацян***ём***, куран***ём*** | ***-ем, -ём*** |
| | цьвёрдая, зацьвярдзелая і на *г, к, х* | горад***ам***, бра́т***ам***, відэ́льц***ам***, бе́раг***ам***, мужчы́н***ам***, кале́г***ам***, вок***ам***, мастак***ом***, хлапц***ом***, Кузьм***ом***, Абдул***ом***, сял***ом***, ядр***ом*** | ***-ам, -ом*** |

**!**

1) У существительных женского рода, не имеющих в именительном падеже окончания, в творительном падеже единственного числа согласные (кроме *б, ф, ў, р*) удваиваются, если находятся между гласными: **со*ллю*, рэ*чч*у**.

2) Обратите внимание, что в сочетании с глаголами **е́хаць**, **ісьці́**, **ляце́ць**, **плы́сьці** существительное употребляется в творительном падеже: **плы́сьці парапла́вам**, **ляце́ць самалётам**, **е́хаць аўтобусам**.

Во множественном числе:

| Аснова | Прыклады | Канчатак |
| --- | --- | --- |
| **Мяккая** | се́м’***ямі***, ві́шн***ямі***, зе́мл***ямі***, су́дзьдз***ямі***, струме́н***ямі***, бярэ́м***ямі***, паля́***мі***, ву́чн***ямі***, агня́***мі***, касьця́***мі*** (касьць***мі́***), конь***мі***, сьві́ньн***ямі*** (сьві́нь***мі***), дзе́ць***мі*** | ***-ямі* (*-мі*)** |
| **Цьвёрдая, зацьвярдзелая і на *г, к, х*** | дзяўча́т***амі***, відэ́льц***амі***, берааг***а́мі***, гарад***а́мі***, стал***а́мі***, брат***а́мі***, сёл***амі***, даждж***а́мі***, дарог***амі***, бацьк***а́мі***, шлях***а́мі***, імён***амі***, кацяня́т***амі***, вач***а́мі*** (вач***мі́***) і вач***ы́ма*** (вач***ма́***), вуш***а́мі*** (вуш***мі́***), грош***амі*** (граш***ы́ма***), дзьвяр***мі́*** (дзьвяр***ы́ма***), пляч***мі́*** (пляч***ы́ма***) | ***-амі* (*-мі*), *-ыма* (*-ма*)** |

## Па-беларуску кажуць так



| | |
| --- | --- |
| **У нядзе́лю ён ме́ўся е́хаць да бацькоў.** | В воскресенье он собирался ехать к родителям. |
| **Субота і нядзе́ля ў нас — непрацоўныя дні.** | Суббота и воскресенье у нас — выходные дни. |
| **Цяпе́р тут іна́кшы раскла́д ру́ху цягнікоў.** | Теперь здесь другое расписание движения поездов. |
| **Сустрэ́немся ў казыно.** | Встретимся в казино. |
| **Валі́зкі здамо ў схоў.** | Чемоданы сдадим в камеру хранения. |
| **Мой ну́мар у гатэ́лі з усі́мі выгодамі.** | Мой номер в гостинице со всеми удобствами. |
| **Мы е́дзем горадам.** | Мы едем по городу. |



Маё захапле́ньне — падарожжы. Люблю́ блука́ць па лясны́х сьце́жках. Лес ва́біць у любу́ю пару́ году. Зімой — сьне́гам, вясной — фа́рбамі, ле́там — пту́шкамі, восеньню — шу́мам дрэ́ваў.

Я люблю́ імша́рыну каля́ дзе́давай старой сядзі́бы. Люблю́ зьбіра́ць я́гады і слу́хаць дзівосную му́зыку ле́су. Жураві́ны, чарні́цы, брусьні́цы… Бяры́ колькі хочаш!

Рыба́цтва — захапле́ньне дзя́дзькі Рыгора. Ён рыба́к са ста́жам. Ма́е свой човен, адмысловыя рыбалоўныя сна́сьці, усе́ неабходныя інструмэ́нты ды прыстасава́ньні. Найбольш ён лю́біць лаві́ць шчупакоў і ўжо добра вы́знаў і́хны хара́ктар. Ве́дае ўсе хі́трыкі ловаў драпе́жнай ры́біны на бле́шню.



Падча́с свайго рыба́цтва дзя́дзька Рыгор меў мноства ціка́вых прыгодаў. Пры вы́падку ён раска́жа вам, як аднойчы шчупа́к ледзь не сьцягну́ў яго пад лёд — во на які́х вялі́зных ры́бін яму́ шанцава́ла!



Вось дзе ён ба́віць свой вольны час! Ды яшчэ́ ка́жа, што тэлеві́зар ёсьць найле́пшы адпачы́нак. Гэ́тага я ня здольны зразуме́ць.



Мы ідзём у я́гады, у грыбы́. Грыбны́я мясці́ны добра ве́дае Сяржу́к, бо ён зма́лку хадзі́ў зь дзе́дам у грыбы́, вучы́ўся іх зьбіра́ць. Так, тут патрэ́бная свая́ наву́ка. Добры грыбні́к, каб не пару́шыць грыбні́цу, ніколі ня бу́дзе сква́пна рваць грыб ра́зам зь зямлёй. Акура́тна падрэ́жа!

Сёньня ў маі́м кошыку — падасі́навікі, сырае́жкі, апе́ నькі — аніводнага баравіка́. Дзе́ці зьбіра́юць толькі лісі́чкі, бо бая́цца памылі́цца і ўзяць яку́юсь труці́зну.



Мой ме́ншы брат — спартовец, вандроўца, ся́бра прыроды. Наагу́л, ён скаўт ці, як ка́жуць па-белару́ску, ві́цязь. Мне падаба́ецца ягоны хара́ктар, ён здольны на добрыя ўчы́нкі. Бароніць слабе́йшых. На трэніроўках дапамага́е тым, у каго ня ўсё выходзіць.



Запраша́ем на вечары́нку! Мы тут пяём, танцу́ем, гуля́ем у розныя гу́льні. Сёньня ў нас усе́ — вядомыя выкана́ўцы. Мікола Палача́нін прачыта́е свае́ новыя ве́ршы. Олік Мароз бу́дзе граць на гармоніку, Лары́са Ша́вель — на скры́пцы. Паслу́хаем і кружэ́лкі з новымі за́пісамі белару́скіх гуртоў.

Мая́ сястра́ Ні́на лю́біць суча́сную му́зыку і стара́ецца ўключы́ць яе́ мацне́й. Тады́ наш дзяду́ля злуе́цца. А калі́ ён у гуморы, дык ка́жа: «Ня я кансэрва́тар, а ва́шая му́зыка закансэрвава́ная. Дыскатэ́ка не́йкая, няха́й яе́ кот брыкне́, гэ́тую му́зыку. Калі́сьці былі́ вечары́ны. Яны́ зва́ліся яшчэ́ “ігры́шчы”. На ігры́шчы граў музы́ка або цэ́лы гурт. Цымбалі́сты — на цымба́лах, дуда́р — на дудзе́, а скрыпа́ч — на скры́пцы». І тут наш дзед гатовы зайгра́ць на сваі́м бая́не «Тума́н я́рам, я́рам-даліною».



## Практыкуйцеся

**1. Адкажыце на пытаньні па-беларуску.**

Как вы проводите свободное время?
Есть ли у вас хобби?
Занимаетесь ли вы спортом?
Где собираетесь провести свой отпуск?
Чем увлекаются ваши родные и близкие?
Чем увлекается ваш друг? Какое его любимое занятие?
Ходите ли вы в кино?
Как часто вы смотрите телевизор?
Есть ли у вас любимая телевизионная передача?
Любите ли вы разгадывать кроссворды?
Какой вид литературы вы предпочитаете?

Есть ли у вас любимые писатели?
Каких белорусских писателей вы знаете?
Выходной вы проводите с семьей?
Что вы обычно делаете в воскресенье?
Часто ли вы бываете на природе?
Любите ли вы гулять по лесу?
Ходите ли вы по грибы, по ягоды?
Что ещё вас интересует?
О чем мы вас ещё не спросили?

**2. Прачытайце тэксты. Выберыце той, які вам больш даспадобы, і далей вядзіце гутарку пра свой адпачынак.**

**I.**

Ня ве́даю, як вы, а я не люблю́ сядзе́ць на адны́м ме́сцы. Мне падаба́ецца быць у ру́ху. Люблю́ е́хаць на сваёй машы́не па добрай дарозе. Люблю і пе́шую вандроўку. Які́ б ты зьнямоглы ні быў, пачне́ш ісьці́ — і ўсё пераходзіш. Нездарма́ колісь лю́дзі лячы́лі хваробы хадою. Найбольш мне падаба́ецца ісьці́ басанож. Зялёная траві́ца пад нага́мі перадае́ сэ́рцу ра́дасьць. На кожную зёлку гляджу́ так, нібы ніколі ня ба́чыў яе́. Гэ́та папра́ўдзе шчасьлі́вы стан, які вызваля́е мяне́ ад усяго звыча́йнага, будзённага…

**II.**

З панядзе́лка я іду́ ў адпачы́нак. Але́ ж плян адпачы́нку давядзе́цца перайна́чыць. Спача́тку ду́маў пае́хаць да сваякоў. А тут зда́рылася пуцёўка на Сьві́цязь. Пэ́ўна ж, я скарыста́юся магчы́масьцю, «каб гля́нуць на возера зблі́зку». Я зачарава́ны паэ́зіяй Ада́ма Міцке́віча:



«Гушча́р ле́су па́хне чаборам і мёдам,
Жыві́цы настоем смалі́стым.
Там возера Сьві́цязь, як шы́біна лёду,
Ляжы́ць памі́ж дрэ́ваў цяні́стых».

**3. Складзіце сказы з ужываньнем наступных слоў і словазлучэньняў:**

**Ста́ла на пагодзе** (установилась хорошая погода),
**горача** (жарко),
**пасьля́ іспы́таў** (после экзаменов),
**кане́ц ты́дня** (конец недели),
**вы́правіліся** (отправились),
**адпачы́нак** (отдых),
**вандроўка** (поход),
**шпа́цыр** (прогулка),
**за горад** (за город),
**на возера** (на озеро),
**на мора** (к морю),
**на вёску да бабу́лі** (в деревню к бабушке),
**купа́цца** (купаться),
**загара́ць** (загорать),
**гуля́ць у футбол** (играть в футбол),
**гуля́ць у тэ́ніс** (играть в теннис),
**задаволены** (довольны).

## Ясь распавядае



Гэ́тую нядзе́лю я правёў на ле́цішчы ў майго дзя́дзькі Васіля́. Я ўвогуле люблю́ прыязджа́ць сюды́ ў любу́ю пару́ году. Ва ўсім адчува́юцца лад і пара́дак. Чалаве́к шчыру́е на сваёй дзяля́нцы зь вясны́ да восені.



Гля́ньце на гра́дкі, парні́к. Тут «гаду́юцца» бу́льба, буракі́ ды морква, кабачкі́, памідоры і агуркі́, гарбузы́, цыбу́ля, часны́к, капу́ста. А яшчэ́, уяві́це сабе́, на́ват кавуны́ і вінагра́д.

Заўва́жце, як усё спара́дкавана на невялі́чкай дзя́лянцы. Яна́ сплянава́ная так, што зьмясьці́ліся гарод, сад ды яшчэ́ ла́зьня й паве́тка. Пэ́ўна ж, пра́цы тут шмат. Хоць я і ня ма́ю вялі́кага замілава́ньня да земляробства, але́ калі́ прыязджа́ю — не сяджу́ скла́ўшы ру́кі, дапамага́ю дзя́дзьку чым магу́ і як магу́. Бяру́ ў ру́кі рыдлёўку ці гра́блі, а як рабі́лі парні́к, — то гэ́баль і сяке́ру. Але́, скажу́ вам, ве́льмі прые́мна працава́ць на вольным паве́тры.

Дзя́дзькавы клопаты на ле́цішчы пачына́юцца з ра́ньняй вясны́. Ён за́гадзя прыкі́двае, што і дзе бу́дзе садзі́ць, якое насе́ньне се́яць, як трэ́ба ўгноіць зямлю́. Ужо ў красавіку́ пачына́е абрабля́ць зямлю́, дагляда́е раса́ду.



У Васіля́ ёсьць на́ват кве́тнік. І тульпа́ны, і глядыёлюсы… Тут — дрэ́ўцы фруктовыя, там — ку́сьцікі глогу, калі́ны. Гэ́ткі вось сьве́т майго дзя́дзькі.

Няда́ўна яму́ дадалося яшчэ́ турботаў. Ён завёў пчолы і кожнаму раска́звае пра гэ́та.

Увосень дзя́дзька бярэ́ гэ́тулькі розных дароў! Дый якое тут дзі́ва, проста «прырода на дзі́ва праўдзі́ва». Яна́ аддзя́чвае, калі́ чалаве́к празь яе́ ма́е гэ́тулькі клопату. А «дзе недагля́д, там дрэ́вы перародзяцца ў дзі́чкі, поле радзі́ць пераста́не, бур’я́нам заглу́хне». Дзя́дзька Васі́ль ця́гне гужок свой, як толькі можа цягну́ць сапра́ўдны гаспада́р.

## Практыкуйцеся



**4. Скажыце, ці ёсьць у вас лецішча, як яно выглядае, і што вы робіце там ў розныя поры году.**

**5. Уявіце сабе, што вы мэтрдатэль і сустракаеце турыстаў. Вам неабходна пазнаёміць іх з правіламі пражываньня ў гатэлі, расказаць пра часы працы рэстарцыяў і крамаў, даць іншыя неабходныя зьвесткі. Карыстайцеся наступным дыялёгам.**



Да гатэ́лю мы дае́халі аўтобусам.

— Добры дзень! Я ма́ю тут два зарэзэрвава́ныя пакоі на імя́ Смык. Вось мой па́шпарт.

— Так, ёсьць на ва́шае імя́ два пакоі. Нумары́ 310 і 311. Гэ́та на трэ́цім паве́рсе.

— Калі́ я му́шу плаці́ць? Цяпе́р ці пазьне́й?

— Ня ма́е значэ́ньня. Можаце за́раз, а можаце і пазьне́й. Колькі ча́су вы ў нас бу́дзеце?

— Дакла́дна ня ве́даю, але́ да канца́ ты́дня — без сумне́ву.

— Добра. Падпішы́це вось ту́т, калі́ ла́ска. Гэ́та ва́шыя ключы́. Вось ка́ртка наве́дніка. Яе́ трэ́ба заўсёды пака́зваць пры ўваходзе ў гатэ́ль. Пара́дак пра́цы рэстара́цыі гэ́ткі: сьняда́нак — з $8^{\underline{00}}$ да $10^{\underline{00}}$, палу́дзень — з $12^{\underline{00}}$ да $15^{\underline{00}}$, вячэ́ра — з $18^{\underline{00}}$ да $21^{\underline{00}}$, начна́я вячэ́ра з $23^{\underline{00}}$ да $24^{\underline{00}}$. Апроч гэ́тага, на кожным паве́рсе ўвесь час працу́юць кавя́рні. Можаце наве́даць казыно. Яно адчы́ненае з $19^{\underline{00}}$ да $6^{\underline{00}}$. За́раз я гукну́ абслу́гу, каб вам паказа́лі ва́шыя пакоі.

**6. Як гэтыя дыялёгі будуць гучаць па-беларуску? Перакладзіце.**

**а)** — Простите, вы не знаете, камера хранения ручной клади сейчас открыта?
— Она открыта, но надо поспешить: через несколько минут будет перерыв.
— Носильщик, занесите, пожалуйста, мои вещи в камеру хранения.

**б)** — Ах, какая длинная очередь в кассу! Простите, может, вы меня пропустите? Мой поезд сейчас отправляется. Я боюсь опоздать.
— Я не против. Но спросите у тех, кто стоит впереди.

**в)** — Это место у окна свободно? Можно его занять?
— Пожалуйста, прошу.
— Спасибо.

**г)** — Интересно, сколько мы стоим на этой станции?
— Не знаю. Первый раз еду по этому маршруту.
— А куда вы едете?
— До Бреста.
— Значит, вы в шестом часу будете там. А мне ещё — ехать и ехать.

**д)** — Душно в вагоне. Может, немного приоткрыть окно? Вы не возражаете?
— Конечно, открывайте, пожалуйста, ведь вы же ещё и в теплом свитере!

## Кароткія размовы
(чытайце ўголас)



| | |
|---|---|
| — Хаце́лася б пае́зьдзіць, паба́чыць больш ціка́вых мясьці́наў.<br>— Дык у нас жа яшчэ́ ты́дзень ча́су!<br>— Што — ты́дзень?! Праляці́ць, ні́бы адзі́н дзень. | — Хотелось бы поездить, увидеть больше интересных мест.<br>— Так ведь у нас ещё неделя времени!<br>— Что — неделя?! Пролетит, будто один день. |
| — Ці не схадзі́ць нам у бар? | — Не сходить ли нам в бар? |

| | |
|---|---|
| — У мяне́ няма́ звы́чкі хадзі́ць па ба́рах. Я лепш люблю́ ба́віць час у музэ́і, тэа́тры альбо кіно.<br>— Дык што ты прапану́еш?<br>— Сёньня мы можам схадзі́ць у краязна́ўчы музэ́й, а на суботу ці нядзе́лю запляну́ем пае́здку ў Дуду́ткі. Паглядзі́м музэ́й драўля́нага дойлідства.<br>— Гэ́та ціка́ва. А я й ня ве́даў, што ёсьць гэ́ткі музэ́й.<br>— Ты, бра́це, шмат чаго ня ве́даеш. Я табе́ яшчэ́ раскажу́, чым ціка́вы наш край. | — У меня нет привычки ходить по барам. Я предпочитаю проводить время в музее, театре или кино.<br>— Ну, и что ты предлагаешь?<br>— Сегодня мы можем сходить в краеведческий музей, а на субботу или воскресенье запланируем поездку в Дудутки. Посмотрим музей деревянного зодчества.<br>— Это интересно. А я и не знал, что есть такой музей.<br>— Ты, друг, много чего не знаешь. Я тебе ещё расскажу, чем интересен наш край. |
| — Куды́ ж гэ́та ты назьбіра́ўся?<br>— У туры́сцкі паход.<br>— Не забу́дзься пакла́сьці ў пляца́к са́мае патрэ́бнае.<br>— Я ўжо ўсё спакава́ў: ліхта́р, запа́лкі, патэ́льню, конаўку. І на́ват матра́ц надзіма́ны.<br>— Прыхапі́ з сабой яшчэ́ й компас. | — Куда это ты собрался?<br>— В туристический поход.<br>— Не забудь положить в рюкзак самое необходимое.<br>— Я уже всё упаковал: фонарь, спички, сковороду, кружку. И даже матрас надувной.<br>— Прихвати с собой ещё и компас. |
| — За́ўтра ма́ем выходны. Што ты зьбіра́ешся рабі́ць?<br>— Звыча́йна я іду́ на канцэ́рт, у кіно ці тэа́тар. Але́ за́раз у мяне́ такі́ настрой, што ніку́ды ня хочацца. Пэ́ўна, бу́ду дома.<br>— І што? Няўжо ты прасе́дзіш цэ́лы дзень пе́рад тэлеві́зарам? Па-мойму, табе́ трэ́ба крыху́ разьве́яцца. Я ве́даю не́калькі куткоў, дзе можна прые́мна пасядзе́ць, сма́чна пад’е́сьці, пата́нчыць. Зрабі́ ты хоць раз выключэ́ньне з сваі́х звы́чак!<br>— Бра́тку ты мой, я ўжо й забы́ўся, калі́ апошні раз быў у рэстара́цыі.<br>— Усё, дамовіліся. За́ўтра пойдзем. | — Завтра у нас выходной. Что ты собираешься делать?<br>— Обычно я иду на концерт, в кино или театр. Но сейчас у меня такое настроение, что никуда не хочется. Наверное, буду дома.<br>— И что? Неужели ты просидишь целый день перед телевизором? По-моему, тебе нужно немного развлечься. Я знаю несколько местечек, где можно приятно посидеть, вкусно поесть, потанцевать. Сделай ты хоть раз исключение из своих привычек!<br>— Старик, я уже и забыл, когда последний раз был в ресторане.<br>— Всё, решено. Завтра идём. |
| — Гэ́тулькі рэ́чаў!.. А ці забярэ́ш усё за раз?<br>— Сьпярша́ вазьму́ фля́нсы, а па дрэ́ўцы прыйду́ другі́м наваротам. | — Столько вещей!.. А ты заберёшь всё за раз?<br>— Сначала возьму саженцы, а за деревцами приду второй раз. |
| — Мне хаце́лася б паба́чыць Аўстра́лію.<br>— Няке́пскае ў цябе́ жада́ньне. А вось магчы́масьці… Дарагое падарожжа! | — Мне хотелось бы повидать Австралию.<br>— Неплохое у тебя желание. А вот возможности… Дорогое путешествие! |
| — На ўсё ле́та пае́дзем у вёску.<br>— А я ве́льмі шкаду́ю, што прада́ў свой дамок у вёсцы. Ле́цішча для мяне́ — чужое. | — Мы поедем на всё лето в деревню.<br>— А я очень жалею, что продал свой домик в деревне. Дача для меня — чужая. |
| — Ці падаба́ецца табе́ спорт? | — Тебе нравится спорт? |

— Дзі/ва што! Стадыён побач. Кожнае ра/ньне займа/юся па цэ/лай гадзі/не. І два разы/ на ты/дзень хаджу/ ў басэ/йн. А ты?
— Я такса/ма. Як дома — ў Пала/цы спорту.
— І чым ты там займа/ешся?
— Перажыва/ю за сваю/ любі/мую кама/нду.
— І гэ/та ты называ/еш спортам?
— А як ты ду/маў?.. Гады/ прайшлі/. Я ўжо сваё адгуля/ў, а вось ця/га да спорту застала/ся. Ды, урэ/шце, гэ/та куды/ лепш, чым сядзе/ць дома.

— Конечно! Стадион рядом. Каждое утро занимаюсь по часу. И два раза в неделю хожу в бассейн. А ты?
— Я тоже. Как дома во — Дворце спорта.
— И чем ты там занимаешься?
— Болею за свою любимую команду.
— И это ты называешь спортом?
— А как ты думал?.. Годы ушли. Я уже своё отыграл, а вот тяга к спорту осталась. И, наконец, это куда лучше, чем сидеть дома.



## Майстры слова гавораць

Было гэта пагодлівым чэ/рвеньскім днём. Крадучы/ся, каб ня ба/чыла ма/ці, зьбе/гаў я ра/на-ра/нenька ў так зва/ны Лог — роў за на/шымі агародамі. У са/май упа/дзіне рова, у зялёнай бязла/днай гушчэ/чы выраста/е гонкі ляшчы/ньнік — ствол у ствол, з гну/ткімі й тугі/мі па/расткамі-хлу/дамі. Там я вы/браў і вы/разаў сабе/ пе/ршае сваё вудзі/льна. Ачы/сьціў ад кары/, прынёс паці/хеньку даха/ты, схава/ў пад страхою паве/ці. Паплаве/нь зь ле/ташняй сі/тціны ўжо ляжа/ў у мяне/ ў кішэ/ні. Меў я і кручок — яго даў мне ану/чнік за старое рызьзё. Не было толькі лёскі. Але/ я ба/чыў, як сука/юць лёску з конскіх валасоў. Бе/лы наш конь якра/з стая/ў ля паве/ці. Даўно ўжо ў ду/мках рыхтава/ўся я да адка/знай апэра/цыі — здабы/ць з конскага хваста/ пучок так патрэ/бнага мне валосься. Ды ўсё не асьме/льваўся. Але/ ў ту/ю ра/ніцу, напэ/ўна, я дасьпе/ў-ткі для ва/жнага подзьвігу. Падсу/нуўся да каня/, збоку ўзя/ўся за хвост. Конь даве/рліва пераступі/ў з нагі/ на нагу/. Я вы/браў зь сярэ/дзіны хваста/ са/мы доўгі пучок валасоў, намата/ў на руку/ і тузану/ў з усі/х сіл. Каня/ бы/ццам падмяні/лі — як ад раптоўнага стрэ/лу, узьві/ўся за/дам аж пад са/мую страху/. І з гара/чым полымем у вачох я пакаці/ўся на сьве/жае пілаві/ньне за варотамі. Колькі там ляжа/ў — ня ве/даю. Калі/ ж ачну/ўся, то ня ду/маў, дзе й што мне балі/ць, бо з ра/дасьцю ўба/чыў: пучок конскага валосься ў руцэ/!

Касту/сь Кірэ/енка



Як я е́хаў да яе́, —
Бры́чка на рысорах,
А прые́хаў ад яе́, —
Ха́та на падпорах.

Як я е́хаў да яе́, —
Ты́сячамі лі́чыў,
А як е́хаў ад яе́, —
Тры грашы́ пазы́чыў.

Як я е́хаў да яе́, —
Боты лякава́ны,
А прые́хаў ад яе́
Ў ша́пцы палата́най.

Белару́ская народная пе́сьня

## Тэма: Шлях

### Лад мовы

## Существительное в предложном падеже

Назоўнік у месным склоне

**ПРЫ КІМ? ПРЫ ЧЫМ? ДЗЕ?**

В единственном числе:

| Аснова | Прыклады | Канчатак |
|---|---|---|
| **Мяккая** | у ла́зьн***і***, на стал***і***, у агн***і́***, у кра́***і***, у це́н***і***, на ве́траз***і***, на палява́ньн***і***, у жыцц***і́***, у немаўля́ц***і***, у дзіця́ц***і***, у і́м***і*** (і́мен***і***), у стрэ́м***і*** (стрэ́мен***і***) | ***-і*** |
| **Цьвёрдая** | *І-е і ІІ-е скланеньне**: у ва***дзе́***, у ле́***се***, у кра́***ме***, на лёдз***е***, у сьве́ц***е***, на рукав***е́***, у вакн***е́***, пры сьвятл***е́*** | ***-е*** |
| | *ІІІ-е скланеньне*: у глы́б***і***, на вэ́рф***і***, у сьвекрыв***і́*** | ***-і*** |
| **Зацьвярдзелая** | на ву́ліц***ы***, на На́рач***ы***, на мяж***ы́***, на шаш***ы́***, у гараж***ы́***, на мор***ы***, у бар***ы́***, у ма́рш***ы*** | ***-ы*** |
| **На *г, х*** | у дароз***е***, на страс***е́***, на лу́з***е***, у гарос***е***, на раг***у́***, на сьцяг***у́***, на да́х***у***, у сьме́х***у*** | ***-е, -у*** |
| **На *к* (ж. р. і н. р.)** | *аснова пад націскам*: на вопратц***ы***, у вёсц***ы***, у лісі́ц***ы***, пры цётц***ы***, на сьце́жц***ы*** | ***-ы*** |
| | *аснова не пад націскам*: у руц***э́***, на шчац***э́***, у муц***э́***, пры дачц***э́***, у малац***э́*** | ***-э*** |
| **На *к* (м. р.)** | у ба́нк***у***, на ручнік***у́***, на досьвітк***у***, у садочк***у*** | ***-у*** |

* Типы склонений рассмотрены в уроке 1.



Существительные мужского рода, обозначающие живых существ, независимо от характера основы имеют в предложном падеже окончание ***-у*** (***-ю***). Например: **пры Мі́ш*у*, пры белару́с*у*, пры Бары́с*у* Смоліч*у*, пры Пётр*у* Сьмірнов*у*, пры це́сьц*ю*, пры Мікала́*ю* Таўген*ю́*, пры ву́чн*ю***.

Основа существительных в предложном падеже может меняться в результате чередования твёрдых согласных с мягкими:

| | |
|---|---|
| ***-га, -г → -зе*** | Нямі́***га*** — на Нямі́***зе***, Пра́***га*** — у Пра́***зе***<br>бе́ра***г*** — на бе́ра***зе***, паро***г*** — на паро***зе*** |
| ***-ха, -х → -се*** | стра***ха́*** — на стра***се́***, эпо***ха*** — аб эпо***се***<br>кажу́***х*** — у кажу́***се***, гаро***х*** — у гаро***се*** |
| ***-ка → -цэ*** | ра***ка́*** — на ра***цэ́***, го́р***ка*** — на гор***цы*** |
| ***-да, -до, д → -дзе*** | Кана́***да*** — у Кана́***дзе***, гняз***до*** — у гнязь***дзе́***<br>чаро***д*** — у чара***дзе́***, агаро***д*** — у агаро***дзе*** |

| | |
|---|---|
| ***-та, -т → -це*** | Мікі′***та*** — пры Мікі′***це***, сіра***та***′ — аб сіра***це***′<br>бы***т*** — у бы′***це***, бра***т*** — пры бра′***це*** |

Во множественном числе:

| Аснова | Прыклады | Канчатак |
|---|---|---|
| **Мяккая** | у се′м’***ях***, у ві′шн***ях***, у зе′мл***ях***, пры су′дзьдз***ях*** (-***ёх***), у струме′н***ях***, у пал***я′х*** (-***ёх***), пры ву′чн***ях***, у агн***я′х*** (-***ёх***), у касьц***я′х*** (-***ёх***), пры сьвекрыв***я′х***, пры дзе′ц***ях*** | ***-ях*** (***-ёх***) |
| **Цьвёрдая, зацьвярдзелая і на *г, к, х*** | пры дзяўча′т***ах***, на дарог***ах***, на відэ′льц***ах***, у гарад***а′х*** (-***ох***), на стал***а′х*** (-***ох***), пры брат***а′х*** (-***ох***), у даждж***а′х*** (-***ох***), на бераг***а′х*** (-***ох***), пры бацьк***а′х*** (-***ох***), аб кале′г***ах***, у вач***а′х*** (-***ох***), у сёл***ах***, у вуш***а′х*** (-***ох***), у нач***а′х***, у імён***ах***, пры плямён***ах***, пры кацяня′т***ах***, пры птушаня′т***ах*** | ***-ах*** (***-ох***) |



## Па-беларуску кажуць так

| | |
|---|---|
| **Паглядзі′м, які′ шлях бу′дзе для нас зручне′йшы — чыгу′начны ці паве′траны.** | Посмотрим, какой путь для нас будет удобнее — железнодорожный или воздушный. |
| **Мне лепш ляце′ць самалётам.** | Мне лучше лететь на самолёте. |
| **Тры ты′дні мы бу′дзем у марскі′м падарожжы.** | Три недели мы будем в морском путешествии. |
| **Язда′ на электры′чцы зойме ў нас паўтары′ гадзі′ны.** | Поездка на электричке займёт у нас полтора часа. |
| **Для аўтамабі′льнага тра′нспарту існую′ць дарожныя зна′кі.** | Для автомобильного транспорта существуют дорожные знаки. |
| **На гэ′тым ты′дні рыхту′ем на′ш ад’е′зьд.** | На этой неделе готовим наш отъезд. |
| **У яго матацыкле′т з каля′скай.** | У него мотоцикл с коляской. |
| **Да дому я магу′ дабра′цца і на ровары.** | Домой я могу добраться и на велосипеде. |
| **Добры пешаход пільну′ецца пра′вілаў дарожнага ру′ху.** | Хороший пешеход соблюдает правила дорожного движения. |
| **Дарога непракла′дзеная.** | Дорога нехоженая. |
| **Падрыхту′ем бага′ж для мы′тнага кантролю.** | Подготовим багаж для таможенного контроля. |
| **У нас нічога няма′ для спагна′ньня мы′ты.** | У нас ничего нет для обложения пошлиной. |

— Гэ′та не прыва′тная машы′на, гэ′та таксоўка.
— І, віда′ць, вольная.
— Куды′ вам е′хаць? Які′ ваш а′драс?
— На ву′ліцу Каліноўскага, калі′ ла′ска, да кінатэа′тру «Ві′льня».





Мне давялося галасава′ць пры дарозе.

За′раз паглядзі′м, чаго тут браку′е. Бэнзы′навы бак ху′тка бу′дзе парожні. І алі′ва патрэ′бная.

— Скажы′це, калі′ ла′ска, дзе тут найбліжэ′йшая запра′ўка?
— Прае′дзьце ўпе′рад. Потым — праз мост і адра′зу ж — нале′ва.



Трэ́ба зма́лку вучы́ць дзяце́й пра́вільна пераходзіць це́раз дарогу.



— Я не пераходжу праз ву́ліцу на чырвонае сьвятло.
— І я такса́ма пільну́юся зялёнага!



— Я шука́ю ме́сца для стая́нкі. На жаль, ту́така стая́нка аўтамашы́н забароненая.

— Можаце паста́віць сюды́, але́ толькі на гадзі́ну. Заяжджа́йце за́днім ходам.



— Можаце адрамантава́ць маю́ машы́ну да за́ўтра?
— Не-е-е, хутчэ́й як за два дні гэ́тага ня зробіш.
— А за ты́дзень?
— Ну,… калі́ паду́маць,… то можна.
— А за два ты́дні?
— Тады́ без памочніка ўжо не абысьці́ся!



— Ці ёсьцека ў вас запча́сткі да мадэ́лі «ВАЗ-2101»?
— Не, для ва́шай «капе́йкі», на жаль, ужо няма́.
— А што ж мне рабі́ць?
— Паспрабу́йце пад’е́хаць у нядзе́лю на ры́нак у Ждановічы, хіба́ там што-не́будзь знойдзеце.



— Нам на той бок?
— Ты ўсё яшчэ́ блы́таешся! Глядзі́ на паказа́льнікі напра́мкаў.



## Практыкуйцеся

**1. Прачытайце тэкст і адкажыце на пытаньні.**

Паяжджа́не ўсю́ды ма́юць свае́ шляхі́. На чыгу́нцы, на вадзе́, у паве́тры. Кожны па-свойму зважа́е на такі́я акалі́чнасьці, як ху́ткасьць, камфорт, выгода, бясьпе́ка.

Цягні́к ці самалёт? Асабі́ста для мяне́ гэ́ткага пыта́ньня не існуе́. Я лічу́ за ле́пшае* падарожнічаць на сваі́м легкавіку́. Па-мойму, гэ́та ве́льмі зру́чна. Мне ня трэ́ба хваля́ва́цца ані́ пра біле́ты, ані́ пра цяжкі́я валі́зкі. Я ня ўці́снуты ў казённыя ра́мкі ча́су. Магу́ спыні́цца і пабы́ць там, дзе пажада́ю, колькі мне неабходна.

Вось і цяпе́рака, па дарозе зь Ві́льні я зае́хаўся ў Сьвіра́ны. Тут радзі́ма Франці́шка Багушэ́віча. Ве́льмі яго паважа́ю. Ве́даеце, які́ гэ́та быў паэ́т, чалаве́к, белару́с?!

…За́раз мне трэ́ба зьвярну́ць уле́ва і прае́хаць ты́мі лі́павымі прыса́дамі. Там я спыню́ся і вы́йду на шпацы́р. Але́ дзе ж мой фотаапара́т?..

---

* Лічу́ за ле́пшае — Предпочитаю.

**Пытаньні:**

Як вам лепш падарожнічаць: самалётам, цягніком ці на легкавіку́?
Што для вас найціка́вае ў падарожжах?
Ці падарожнічалі вы калі́-не́будзь аўтастопам альбо пе́шшу?
Ці спадаба́лася вам? Чаму́?
Прыгада́йце што-кольвек з свайго са́мага да́льняга падарожжа.

**2. Прачытайце. У вас ці вашых знаёмых былі падобныя здарэньні? Узгадайце пра іх.**

**I.**

Аднойчы ў мяне́ было гэ́ткае здарэ́ньне. Падвозіў я свайго госьця да аэрапорту. Ча́су нам бракава́ла. На шашы́ я падвы́сіў ху́ткасьць. А тут якра́з — аўтаінспэ́кцыя. Прывіта́ліся. Міліцыя́нт папрасі́ў дакумэ́нты. Я пада́ў свае́ шафёрскія правы́, тэхпа́шпарт і страхавы́ поліс. Ён папыта́ўся, зь якой ху́ткасьцю я е́хаў, чаму́ не пільну́юся пра́вілаў дарожнага ру́ху. Я спрабава́ў тлума́чыць, што вы́мушаны быў падвы́сіць ху́ткасьць, бо рэгістра́цыя на рэйс скончыцца праз 15 хвілі́наў, а насту́пны рэйс ма́е быць толькі праз два дні, і што дагэ́туль у мяне́ ніколі не было ані́я́кіх парушэ́ньняў…







Гу́тарка скончылася тым, што міліцыя́нт загада́ў мне плаці́ць штраф. Ну, я й заплаці́ў. Гэ́ны штраф бу́дзе наву́ка…

Дык вось, на рэгістра́цыю мы спазьні́ліся. Але́ супрацоўнікі аэрапорту паспагада́лі майму́ госьцю і ўрэ́шце дазволілі прайсьці́ на паса́дку.

**II.**

Патру́ль ДАІ спыні́ўся ля машы́ны, што стаі́ць пры аўтастра́дзе.
— Па́не кіроўцу, які́я ў вас ця́жкасьці? Што-не́будзь сапсава́лася?
— Не, машы́на ў пара́дку.
— Дык што, бэнзы́н скончыўся?
— Поўны бак!
— Дык што ж зда́рылася? Чаму́ тут спыні́ліся?
— Ве́даеце, у дарозе мне ра́птам зрабі́лася ке́пска. Але́ ўжо чу́юся лепш, за́раз пае́ду дале́й.

— Праз тры кілямэ́тры бу́дзе ке́мпінг з усі́мі выгодамі. Там можаце адпачы́ць. Жада́еце, каб мы вас правялі́?

— Дзя́куй, ня трэ́ба. Мне ўжо ле́пей.

**3. Адкажыце на пытаньні, скарыстаўшы пададзеныя словазлучэньні.**
**Узор:** Трэ́ба адбукс́іраваць машы́ну ў аўтасэ́рвіс: у яе́ не працу́е рухаві́к.

**I.** Зь якой прычы́ны вы пайшлі́ ў пастару́нак?

**Згубі́ў страхавы́ поліс** (потерял страховой полис),
**не́хта скраў па́шпарт** (кто-то украл паспорт),
**заяві́ць пра стра́ту** (заявить о пропаже),
**не́хта скра́ў «дворнікі»** (кто-то украл «дворники»).

**II.** Навошта вам аўтасэ́рвіс?

**Прапаролі шы́ну** (прокололи шину),
**радыя́тар сапсава́ўся** (радиатор неисправен),
**не́шта матор гру́кае** (что-то мотор стучит),
**тармазы́ благі́я** (тормоза плохие),
**паскорыць рамонт** (ускорить ремонт),
**зьмяні́ць алі́ву** (поменять масло).

**4. Што будзеце рабіць?**

| | |
|---|---|
| На шашы́ ў вас скончыўся бэнзы́н. | 1. Спы́ніце падарожную машы́ну і ку́піце бэнзы́н.<br>2. Пойдзеце шука́ць найбліжэ́йшую аўтазапра́ўку.<br>3. Патэлефану́еце ў аўтасэ́рвіс. |
| Вы за стырном ужо доўгі час і ве́льмі старлі́ся. | 1. Прыпы́ніцеся на стая́нцы, каб адпачы́ць.<br>2. Праця́гнеце шлях дадому, каб ужо там адпачы́ць.<br>3. Адпачняце́, паку́ль кірава́ць машы́наю будзе жонка (муж). |
| У машы́не вы пачу́ліся ке́пска. | 1. У гэ́тым ме́сцы няможна спыня́цца, таму́ намага́ецеся дае́хаць усё ж да стая́нкі.<br>2. Адра́зу ж спы́ніцеся, не зважа́ючы, што тут прыпы́нак забаронены.<br>3. Спы́ніце машы́ну і папросіце дапамогі. |
| На шашы́ зда́рылася паломка, а тэлефону ня ма́еце. | 1. Адраманту́еце машы́ну самастойна.<br>2. Папросіце дапамогі ў рамонце ў каго-не́будзь з кіроўцаў.<br>3. Папросіце, каб вас узялі́ на буксі́р.<br>4. Папросіце і́ншага кіроўцу, каб затэлефанава́ў у аўтасэ́рвіс. |
| Пры дарозе галасу́е малада́я кабе́та. | 1. Ня спы́ніцеся, бо ня ма́еце звы́чкі падвозіць незнаёмых людзе́й.<br>2. Кабе́та вам спадаба́лася, і вы возьмеце яе́ з сабою.<br>3. Спы́ніцеся і папыта́ецеся. Калі́ вам па дарозе, то возьмеце. |

**5. На грунце наступных дыялёгаў раскажыце, як вы адляталі на адпачынак, альбо вярталіся з падарожжа, альбо ў аэрапорце сустракалі сяброў.**



**I.**

— Калі́ наш вы́лет?
— А двана́ццатай гадзі́не. Палёт доўжыцца дзьве гадзі́ны.
— Можа, трэ́ба зва́жыць бага́ж?
— Не хвалюйся, за лі́шнюю вагу́ я заплаці́ла напе́рад, калі́ купля́ла квіткі́. Гэ́так нашма́т таньне́й.

**II.**



— Праба́чце, як адсю́ль дабра́цца да гораду?
— Туды́ можна дае́хаць аўтобусам альбо на таксоўцы.
— Не, на таксі́, пэ́ўна, задорага. Дзе тут аўтобусны прыпы́нак?
— Адсюль гэ́та недалёка. Вы́йдзеце з буды́нку, зьве́рнеце напра́ва і ўба́чыце прыпы́нак. Аўтобус адыходзіць якра́з у $15^{00}$, і вы яшчэ́ пасьпе́еце.



**III.**

— Хадзе́м хутчэ́й! Трэ́ба сьпяша́цца. На наш рэйс ужо пачала́ся рэгістра́цыя.
— Ты ж сама́ мне загада́ла гэ́тулькі ўсяго панакупля́ць! Ці ж я табе́ з прапэ́лерамі, каб усе́ кра́мы абляце́ць умомант?
— Але́ ж трэ́ба было й пагляда́ць на гадзі́ньнік!
— Ну, што ты злуе́шся?! Хіба́ я так замару́дзіў?
— Добра, добра, пайшлі́…

**IV.**



— Праба́чце, ці прыляце́ў самалёт з Салонікаў?
— Яшчэ́ не. Зноў аб’яві́лі спазьне́ньне на пятна́ццаць хвілі́наў.
— Дык невядома, ці дачака́емся мы сёньня?
— А я яшчэ́ ма́ю надзе́ю.

**6. Адкажыце на пытаньні.**

Ці даўно вы былі́ ў аэрапорце?
Ці былі́ вы ў аэрапорце «Менск-2»? Што ска́жаце пра яго?
Не баіце́ся лётаць самалётам?
Ці лётаць самалётам для вас задорага?
Калі́ і куды́ апошні раз вы ме́лі вандроўку?
Як пачува́ецеся ў самалёце?
Якое, на ваш погляд, харчава́ньне ў самалёце?
У які́х краёх вы пабыва́лі?
Яка́я была́ ў вас нагода падарожнічаць за мяжу́?
Дзе вам найбольш спадаба́лася?
Ці ме́лі ціка́выя знаёмствы падча́с падарожжа?
Ці ча́ста мяня́еце маршру́ты сваі́х падарожжаў?
Вы быва́еце ў дарозе па службовых спра́вах ці зь не́йкіх прыва́тных прычы́наў?
Ці было такое, каб вы перабллы́талі маршру́т і апыну́ліся ў нечака́ным ме́сцы?
Калі́ б ме́лі водпуск ця́гам цэ́лага году, дзе і як хаце́лі б яго праве́сьці?

## Ясь распавядае



Дзьве гадзі́ны праляце́лі непрыкме́тна. З самалёта я зайшоў у аўтобус, які́ падвёз нас да буды́нку аэрапорту. За́раз усі́м нале́жыць прайсьці́ па́шпартны і мы́тны кантроль. Вось напе́радзе дзяцю́к у клятча́стым гарніту́ры падае́ дакумэ́нты.



— Добры дзень! Калі́ ла́ска, ваш па́шпарт.

— Дзень добры! Вось ён, калі́ ла́ска.

— Вы прые́халі ў Белару́сь як туры́ст?

— Не, я з кампа́ніі «Ліхта́р», бу́ду працава́ць у Белару́сі.

— Добра… Усё ў пара́дку. Можаце ісьці́ на мы́тны агля́д. Усяго добрага, па́не!

Цяпе́р мая́ чарга́. Але́ да мяне́ няма́ ані́кіх пыта́ньняў — я ж вярну́ўся на радзі́му.

Мы бярэм з транспартэ́ру свае́ валі́зкі ды падыходзім да стала́, каб запоўніць уе́зныя лісты́. А потым ідзе́м да мы́тнікаў. Але́ ж тут і чарга́! Прыляце́ў яшчэ́ адзі́н самалёт, і ў мы́тнікаў шмат пра́цы:



— Добры дзень! Ва́шыя ўе́зныя лісты́.

— Добры дзень! Калі́ ла́ска.

— Валю́та ўся запіса́ная?

— Уся́.

— Ці ма́еце што да спагна́ньня мы́ты? Алькаголь? Цыгарэ́ты?

— Не, у мяне́ нічога гэ́ткага няма́. Вось мае́ рэ́чы. Пака́зваць валі́зку?

— Не, ня трэ́ба. Можаце ісьці́… Што тут у вас?



— Чэ́скі парцаля́навы сэрві́з. Але́ гэ́та я вязу́ ў адпаве́днасьці з пра́віламі.

— Зброя ды боепрыпасы? Псыхатропныя і радыёакты́ўныя рэ́чывы?

— Не-е-е, ну што вы! Нічога гэ́ткага я ня ма́ю!

— Добра. Што ў вас у валі́зцы? Пакажы́це… Усё ў пара́дку, можаце ісьці́.

Нарэ́шце, мая́ чарга́. Мы́тны кантроль для мяне́ — не першына́. Падаю́ абодва лісты́ — уе́зны і вые́зны.

— Ці ма́еце што-не́будзь забароненае да ўвозу? — пыта́ецца мы́тнік.

— Не, толькі рэ́чы для штодзённых патрэ́баў.

— Добра. Можаце ісьці́.

Праз які́я паўгадзі́ны я — на прыпы́нку таксі́. Час ужо позьні, і мне без таксоўкі ні́як не абысьці́ся. Машы́ны іду́ць адна́ па адной, і мне доўга чака́ць не спатрэ́білася…

Таксоўка ху́тка даімча́ла мяне́ дадому. А тут мяне́ ўжо чака́лі Яні́на й дзе́ці.

## Практыкуйцеся



**7. Адкажыце на пытаньні.**

Колькі ча́су доўжыўся палёт?

Чаму́ Ясь праходзіў па́шпартны і мы́тны кантроль?
Ці быў хто пе́рад Я́сем у чарзе́?
Ён прые́хаў як туры́ст?
Як праходзіў мы́тны агля́д?
Ясь адра́зу пае́хаў дадому?
Пра што звыча́йна пыта́юцца мы́тнікі?
Які́я рэ́чы ня ма́юць забароны на ўвоз?
Ці трэ́ба было Я́сю адчыня́ць сваю́ валі́зку?
Які́я дакумэ́нты правяра́юць паме́жнікі?
Які́я дакумэ́нты правяра́юць мы́тнікі?
Што вёз Ясь?
Як Ясь дабра́ўся дадому?
Ці былі́ які́я прыгоды ў дарозе?
Ці даводзілася вам міна́ць дзяржа́ўную мяжу́?
У вас не было прабле́маў на па́шпартным ці мы́тным кантролі?

**8. Перакажыце тэкст.**



## Кароткія размовы
(чытайце ўголас)

| | |
|---|---|
| — Трэ́ба паду́маць, як нам вярта́цца наза́д.<br>— Я закажу́ зваротны біле́т на самалёт. | — Надо подумать, как нам возвращаться назад.<br>— Я закажу обратный билет на самолёт. |
| — Дзе ж та́я паваротка?<br>— За́раз паві́нны быць дарожны пака́зальнік.<br>— Паку́ль што ба́чу толькі дарожны знак «Абмежава́ньне ху́ткасьці». | — Где же этот поворот?<br>— Сейчас должен быть дорожный указатель.<br>— Пока что вижу только дорожный знак «Ограничение скорости». |
| — Сяржу́к, ты ж зна́ўца анге́льскае мовы. Што тут напіса́на?<br>— Вагон для курцоў.<br>— Вось дык прыгода! А ў які́м жа вагоне мы пае́дзем? Тытунёвы смурод такі́ мне агі́дны, што ад яго аж у носе дрымкоча.<br>— Не хвалю́йся. У нас вагон для некурцоў. | — Серёга, ты ведь знаток английского языка. Что здесь написано?<br>— Вагон для курящих.<br>— Вот тебе раз! А в каком же вагоне мы поедем? Табачная вонь так мне противна, что от нее даже в носу свербит.<br>— Не волнуйся. У нас вагон для некурящих. |
| — Ну, усё, рэ́чы пазьбіра́ныя. У колькі наш вы́лет?<br>— У $5^{20}$ ра́ніцы.<br>— Дык у тры гадзі́ны ночы нам трэ́ба выходзіць з дому?<br>— Не. Ране́й. Рэгістра́цыя ска́нчаецца за гадзі́ну да вы́лету, ды яшчэ́ дада́й гадзі́ну на дарогу да аэрапорту «Менск-2». Атры́мліваецца, выходзіць трэ́ба не пазьне́й як у дзьве гадзі́ны.<br>— Няма́ калі́ й паспа́ць.<br>— Нічога, у самалёце вы́сьпішся. | — Ну, всё, вещи собраны. Во сколько наш вылет?<br>— В $5^{20}$ утра.<br>— Значит, нам нужно выходить из дома в три часа ночи?<br>— Нет. Раньше. Регистрация заканчивается за час до вылета, да ещё добавь час на дорогу до аэропорта «Менск-2». Получается, что выходить нужно не позже чем в два часа.<br>— Некогда и поспать.<br>— Ничего, в самолёте выспишься. |

| | |
|---|---|
| — Ты чу́еш, што ка́жа стуардэ́са? Просіць зашпілі́ць рамяні́.<br>— Ат, гэ́та я чу́ю. Хай яна́ лепш ска́жа, дзе я магу́ пакуры́ць.<br>— Хіба́ ты ня ве́даеш, што ў самалёце палі́ць забаронена?<br>— Гэта што, мне дзьве гадзі́ны тут сьмя́гнуць?<br>— Так, дру́жа, і́ншага вы́йсьця няма́. | — Ты слышишь, что говорит стюардесса? Просит застегнуть ремни.<br>— Ай, это я слышу. Пусть лучше она скажет, где я могу покурить.<br>— Разве ты не знаешь, что в самолёте курить запрещено?<br>— Так что, мне два часа тут томиться?<br>— Да, дружок, другого выхода нет. |
| — Куды́ б ты хаце́ў вы́правіцца на адпачы́нак?<br>— Мне ўсю́ды добра. Як ка́жуць, добраму чалаве́чку добра і ў запе́чку.<br>— А мяне́ ва́бяць новыя мясьці́ны. Даўно хаце́ў бы ў круі́з па Міжзе́мным моры. Паглядзе́ць Афі́ны, Рым, востраў Крыт, Александры́ю…<br>— І я ня су́праць. Пэ́ўна ж, гэ́та ціка́ва, але́ падарожжа морам не для мяне́.<br>— А я з ахвотаю падарожнічаю парапла́вам. Мне да душы́ марскі́я далягля́ды і салёны ве́цер. | — Куда бы ты хотел отправиться в отпуск?<br>— Мне везде хорошо. Как говорят, хорошему человеку везде хорошо.<br>— А меня влекут новые места. Давно хотел бы в круиз по Средиземному морю. Посмотреть Афины, Рим, остров Крит, Александрию…<br>— И я не против. Конечно, это интересно, но путешествие по морю не для меня.<br>— А я с удовольствием путешествую на пароходе. Мне по душе морские просторы и солёный ветер. |
| — Добры дзень. Інспэ́ктар дарожнай мілі́цыі сяржа́нт Валодзька. Праве́рка дакумэ́нтаў.<br>— Добры дзень. Калі́ ла́ска, вось мае́ шафёрскія правы́, тэхпа́шпарт і страхавы́ поліс.<br>— Добра. А дзе ваш дарожны лі́ст і накладна́я на груз?<br>— Так, так, пачака́йце хвілі́нку… Вось яны́. | — Здравствуйте. Инспектор дорожной милиции сержант Володько. Проверка документов.<br>— Здравствуйте. Пожалуйста, вот мои водительские права, техпаспорт и страховой полис.<br>— Хорошо. А где ваша путёвка и накладная на груз?<br>— Да, да, подождите минутку… Вот они. |

## Майстры слова гавораць



З да́ўніх часоў, ве́льмі да́ўніх часоў Белаве́ская пу́шча была́ аплотам на́шых продкаў, надзе́йным прыту́лкам у цяжкі́я гады́. Яна́ кармі́ла і паі́ла, гартава́ла му́жнасьць і сі́лу людзе́й.

Зу́бар — сла́ва й галоўная прыкме́та пу́шчы — можа вы́валіць сваі́мі рогамі частакол зь бярве́ньняў, дагна́ць на лясной дарозе матацы́кл. Толькі ён рэ́дка гэ́та робіць. Зу́бар, як кожны, хто ма́е праўдзі́вую сі́лу, рахма́ны і добры зьвер. Пра́ўда, ёсьць адно пра́віла: не чапа́й яго.

…Усё тут было: карале́ўскія і ца́рскія палява́ньні, браканье́ры, ма́савыя вы́сечкі ле́су, грабе́жніцтва акупа́нтаў. Цяпе́р тут — запаве́дна-паляўні́чая гаспада́рка. Высяка́юць толькі нязна́чную ча́стку таго ле́су, што нараста́е за год, рэ́дкіх зьвяроў берагу́ць. Стрэл у пу́шчы — непрые́мная падзе́я для таго, хто страля́е.

І вось чалаве́к се́е канюшы́ну і авёс, са́дзіць бу́льбу, каб узі́мку, калі́ такі́я халодныя дні й ночы, калі́ зубра́м, але́ням, дзіка́м, усі́м жыхара́м пу́шчы — хоць з голаду памры́, сюды́ пацягну́ліся сьце́жкамі са́ні з кормам. Дзікі́ іду́ць за і́мі й на хадзе́ ча́мкаюць, падбіра́юць

бу́льбу. Зубры́ і але́ні прыходзяць да карму́шак і жвуць се́на, што па́хне ле́там, лі́жуць вялі́кія кава́лкі солі. І гэ́та азнача́е — можна вы́жыць усі́м. А ле́там можна зноў грэ́цца на тым сонечным дзі́ве, што заве́цца паля́най, дзе столькі кве́так, дзе, як жывы́я кве́ткі, лётаюць матылі́. Можна нязлосна ду́жацца з брата́мі, хадзі́ць няме́ранымі сьце́жкамі пу́шчы, піць на сьвіта́ньні з вадаёмаў і чу́йна слу́хаць, як па́даюць з пы́сы ружовыя ад сонца кроплі.

А як зьвіні́ць Белаве́жжа сьпе́вамі! Вучоныя абмеркава́лі і вы́рашылі, што белаве́скія салаўі́ — са́мыя галасі́стыя й бага́тыя на сьпе́вы ў цэ́лым сьве́це. А тут жа — яшчэ́ больш за дзьве́сьце ві́даў пту́шак. Уяўля́еце, што такое веснавы́ белаве́скі канцэрт?!

Уладзіме́р Каратке́віч

## Лекцыя шаснаццатая — Урок шестнадцатый



**Большыя дзеці — большы клопат**

Добра ву́чыцца на́шая Га́нька. Але́ ж яна́ й модніца! Носіць абу́так на высокім абца́се. Лю́біць розныя біру́лькі, ма́рыць пра ні́зку сапра́ўдных пэ́рлінаў. Кру́ціцца пе́рад люстэ́ркам. Яе́ парфу́мная ша́фка ўся заста́ўленая бутэ́лечкамі, ту́бікамі з рознымі пахні́дламі ды фа́рбамі.

Ма́ці, быва́е, на яе́ злуе́. Бо й пра́ўда, навошта гадава́ць гэ́ткія даўгі́я пазногці? Яны́ ўжо ста́лі падобныя да кіпцюроў. Га́нька фарбу́е іх у не́йкі модны колер. І не ляну́ецца! На ўсё ж патрэ́бныя час і цярпе́ньне.

Паспрабу́й ты напле́сьці мноства таню́сенькіх косак на галаве́. На́шая дзе́ўка да кожнага вы́падку ма́е новае ўчаса́ньне. Цяпе́р яна́ ходзіць зь не́йкай моднай істу́жкай у касе́.

Калі́ Га́нька зьбіра́ецца на вечары́нку, ма́ці заўсёды нага́двае ёй, каб яна́ не пазьні́лася: «Глядзі́ ж ня ба́ўся, дзіця́».

## Тэма: Чалавек, здароўе

### Лад мовы

### Склонение существительного *«человек»*

Скланеньне назоўніка «*чалавек»*

| | Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|---|
| **Н.** | чалаве́к | лю́дзі |
| **Р.** | чалаве́к***а*** | людз***е́й*** |
| **Д.** | чалаве́к***у*** | людз***я́м*** |
| **В.** | чалаве́к***а*** | людз***е́й*** |
| **Т.** | чалаве́к***ам*** | людзь***мі́*** |
| **М.** | пры чалаве́к***у*** | у людз***я́х*** (***-ёх***) |
| **К.** | чалаве́ч***а***! | лю́дзі! лю́дцы! |

### Существительное в дательном падеже

Назоўнік у давальным склоне

**КАМУ́? ЧАМУ́?**

В единственном числе:

| | Аснова | Прыклады | Канчатак |
|---|---|---|---|
| **М. р. і н. р.** | мяккая | Кол***ю***, ціхон***ю***, Арсе́н***ю***, сты́л***ю***, жа́л***ю***, ву́чн***ю***, агн***ю́***, бярэ́м***ю***, пол***ю***, жыцц***ю́*** | ***-ю*** |
| | цьвёрдая, зацьвярдзелая і на ***г, к, х*** | мужчы́н***у***, кале́г***у***, та́т***у***, горад***у***, відэ́льц***у***, бор***у***, стал***у́***, кампу́тар***у***, хлапц***у́***, дажджу́***у***, шля́х***у***, бе́ораг***у***, мастак***у́***, сял***у́***, вок***у***, ворыв***у***, вакн***у́*** | ***-у*** |
| **Ж. р.** | мяккая | зямл***і́***, ла́зьн***і***, Ю́л***і***, гу́с***і***, скрон***і***, ма́з***і*** | ***-і*** |
| | цьвёрдая*, і на ***г, х*** | дзяўчы́н***е***, станов***е***, ула́дз***е***, ува́з***е***, клю́мб***е***, п'е́с***е***, цэ́гл***е***, чарз***е́***, ільві́ц***е*** | ***-е*** |
| | на ***к*** | *аснова пад націскам*: ху́стц***ы***, суке́нц***ы*** | ***-ы*** |
| | | *аснова не пад націскам*: руц***э́***, талац***э́*** | ***-э*** |
| | зацьвярдзелая | зада́ч***ы***, гар***ы́***, папе́р***ы***, поўнач***ы***, мы́ш***ы*** | ***-ы*** |

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Розна-скланяльныя** | на *-**мя*** | і́м***ю*** (і́мен***і***), пле́м***ю*** (пле́мен***і***) | ***-ю (-і)*** |
| | назвы маладых істот | кацяня́ц***і***, дзіця́ц***і***, кураня́ц***і***, | ***-і*** |



* Если существительное III-го склонения (ж. р. без окончания) оканчивается на ***б, у, ф***, то в дательном падеже оно имеет окончание ***-і***: **глы́*бі*, сьвекрыв*і́*, вэ́рф*і*.**

Основа существительных в дательном падеже может меняться в результате чередования:

| | |
|---|---|
| ***-га → -зе*** | падло***га*** — падло***зе***, ду***га́*** — ду***зе́***, на***га́*** — на***зе́*** |
| ***-ха → -се*** | стра***ха́*** — стра***се́***, скру́***ха*** — скру́***се***, чаром***ха*** — чаром***се*** |
| ***-ка → -цэ́*** (***-цы***) | ра***ка́*** — ра***цэ́***, гор***ка*** — гор***цы***, ха́т***ка*** — ха́т***цы*** |
| ***-да → -дзе*** | ва***да́*** — ва***дзе́***, нара́***да*** — нара́***дзе*** |
| ***-та → -це*** | сіра***та́*** — сіра***це́***, Мікі́***та*** — Мікі́***це***, само***та*** — само***це*** |

Во множественном числе:

| Аснова | Прыклады | Канчатак |
|---|---|---|
| **Мяккая** | се́м’***ям***, ві́шн***ям***, зе́мл***ям***, су́дзьдз***ям***, ла́зьн***ям***, струме́н***ям***, пал***я́м***, ву́чн***ям***, гу́с***ям***, далон***ям***, агн***я́м***, касьц***я́м***, сьвекрыв***я́м***, ве́траз***ям***, дзе́ц***ям*** | ***-ям*** |
| **Цьвёрдая, зацьвярдзелая і на *г, к, х*** | дзяўча́т***ам***, дарог***ам***, ідэ́льц***ам***, берагá***м***, бацьк***а́м***, кале́г***ам***, гарад***а́м***, стал***а́м***, брат***а́м***, сёл***ам***, дажджа́***м***, вач***а́м***, вуш***а́м***, кампу́тар***ам***, наві́н***ам***, прагра́м***ам***, закон***ам***, пастанов***ам***, імён***ам***, плямён***ам***, кацяня́т***ам***, зайчаня́т***ам***, птушаня́т***ам*** | ***-ам*** |



## Па-беларуску кажуць так

| | |
|---|---|
| **Гэ́ты чалаве́к пры здароўі. Здаравя́ка.** | Это здоровый человек. Крепыш. |
| **Ён моцнага скла́ду.** | Он крепкого телосложения. |
| **Ду́жы. Руха́вы. Борзды.** | Крепкий. Подвижный. Быстрый. |
| **Стройная паста́ва. Бляндзы́н.** | Стройная осанка. Блондин. |
| **Мне не падаба́ецца ягоны вы́гляд.** | Мне не нравится, как он выглядит. |
| **Чалаве́к зьнямогся, ледзь ня стра́ціў прытомнасьць.** | Человек изнемог, едва не потерял сознание. |
| **Дзя́дзьку няма́ яшчэ́ й пяці́дзесяці, а валасы́ ўжо сівы́я.** | Дяде нет ещё и пятидесяти, а волосы уже седые. |
| **Твая́ сяброўка — згра́бная дзяўчы́на.** | Твоя подруга — изящная девушка. |
| **У ме́ншай сястры́ валасы́ са́мі ві́юцца.** | У младшей сестры волосы сами вьются. |
| **Яна́ прыве́тная.** | Она приветливая. |
| **А ён слова не прабу́ркне, гэ́ткі ту́марнік.** | А от него и слова не дождёшься, такой спесивый. |



— Трэ́ці дзень мне балі́ць горла. Табле́ткі не дапамага́юць. Што рабі́ць, ня ве́даю.

— Як жа ж ты ле́каваўся, калі́ ў ложку не ляжа́ў? Быў на дварэ́, ды яшчэ́, пэ́ўна, халоднае пі́ва піў?

— Так. Ну, а цяпе́р яку́ю дасі́ мне ра́ду?

— Сьпярша́ пара́йся з доктарам — што ён табе́ ска́жа. Часьце́й палашчы́ горла, трыма́й шы́ю ў цяпле́ ды ляжы́ ў ложку.

— У мяне́ моцны сухі́ ка́шаль. Бла́га чу́юся. Апошнім ча́сам я шмат працава́ў, стамля́ўся ве́льмі.

— Да таго ж ты яшчэ́ й курэ́ц. Абы́ толькі прачну́ўся, адра́зу бярэ́ш цыгарэ́ту. Кі́дай, бра́це, куры́ць — вось табе́ мая́ ра́да. Ідзі́ на шпа́цыр. Ды́хай сьве́жым паве́трам.





— Я павалі́ўся і зьдзёр ску́ру наназе́.
— Ат! Небара́ка! Як гэ́та табе́ собіла?*
— Ды вось, сьпяша́ўся й зачапі́ўся за не́йкі корч.
— Такой бяды́! Паку́ль жані́цца — загаі́цца.**

* Как это тебя угораздило?
** До свадьбы заживёт.

— Як ма́ешся?
— Галава́ сьці́хла, ужо чу́юся лепш.
— Можа, цяпе́р ты не́шта зьясі́?
— Не, мне моцна хочацца піць.
— Што табе́ даць, каб прагна́ць сма́гу?
— Налі́ мне шкля́нку жураві́навага морсу.
— Добра, за́раз…





— Ке́пска чу́юся праз стра́ўнік. Раблю́ся гэ́ткі нэрвовы, што аж ноччу ня сплю. Доктарка ка́жа, каб я больш адпачыва́ў.

— Пра́ўду яна́ ка́жа. Пэўна ж, твае́ прабле́мы — у нэ́рвах. Добра было б табе́ пайсьці́ ў адпачы́нак, паляжа́ць на маляўні́чым бе́разе, паслу́хаць марскі́я хва́лі.

— Калі́ мне е́хаць? Гэ́тулькі пра́цы! То тое, то гэ́нае — і ўсё неадкла́дна.

— Пра́ца пра́цай, але́ ты глядзі́, бо здароўе ня ве́рнеш.

— Дык што? Усё кі́нуць ды ісьці́ ў адпачы́нак?

— А чаму́ й не? На́дта ж бла́га ты выгляда́еш.

Вось чалаве́к, ва́рты жа́лю. Мне яго шкада́. Ён хворы на алькаголь. Небара́ка, ён сам ужо ня ў ста́не дапамагчы́ сабе́. Яму́ застае́цца адно — пайсьці́ да доктара.





— Прывіта́ньне!

— Прывіта́ньне.

— Чаму́ ж гэ́ткі зажу́раны? Што зда́рылася?

— Мне моцна балі́ць зуб і ўся скі́віца.

— А ці быў у данты́ста?

— Якра́з во іду́ да яго і на́дта ж баю́ся. Зуб, пэ́ўна, трэ́ба плямбава́ць...

— Ня бойся, доктар усё зробіць як сьлед. Але́ надале́й ве́дай, што да доктара трэ́ба ісьці́ адра́зу, як забалі́ць.

— Гэ́та так, але́ ты ж ве́даеш, як да іх хочацца ісьці́!

— Хоцькі-няхоцькі, а лячы́цца ж трэ́ба. Трыма́йся! Ве́чарам я да цябе́ наве́даюся.




У аптэ́цы мне трэ́ба купі́ць ёд, пля́стыр, ту́бік з ма́зьзю Вішне́ўскага, валідол, валякарды́н, папяровыя сурвэ́ткі, ды яшчэ́ зёлкі: сьвятая́ньнік, трыпу́тнік, бацяновыя ножкі.



## Практыкуйцеся

**1. Адкажыце на пытаньні.**

Вам нічога не балі́ць?
Што робіце, каб быць здаровым?
Ці трыма́ецеся ме́ры ў ядзе́ і піцьці́?
Ці лю́біце тлу́стыя і салодкія стра́вы?
Ці шмат ясьце́ гародніны і садавіны́?
Ці ходзіце на шпа́цыр, у басэ́йн, на футбол?
Які́ спорт лю́біце?

**2. Складзіце сказы, ужыўшы замест кропак прыведзеныя словы.**

| | |
|---|---|
| Мне балі́ць ску́ра на … | адзёр (корь) |
| Дзіця́ захварэ́ла на … | на рамёнах (на плечах) |
| У самалёце яго … | прасьве́т / рэнтге́н (рентген) |
| Трэ́ба ісьці́ на … | ваніту́е (тошнит) |
| Балі́ць у грудзёх, доктар прызна́ў … | дзя́сны (дёсны) |
| Ён ле́чыць … | запале́ньне лёгкіх (воспаление лёгких) |

**3. З наступнымі словамі складзіце сказы.**
**Узор:** хворы + сэрца → Дзя́дзька ўжо даўно хворы на сэ́рца.

| | |
|---|---|
| **Жа́ласны** (жалкий) | **вы́гляд** (вид), |
| **пану́ры** (мрачный) | **цукры́ца** (сахарный диабет), |
| **няўклю́дны** (неуклюжий) | **небара́ка** (бедняга), |
| **неаха́йны** (неопрятный) | **весялосьць** (веселье), |
| **хворы** (больной) | **ву́чань** (ученик), |
| **недарэ́чны** (неуместный) | **жарт** (шутка). |

**4. Што будзеце рабіць?**

| | |
|---|---|
| Балі́ць ступня́, загна́ў стрэ́мку. | 1. Паспрабу́еце самату́гам даста́ць стрэ́мку.<br>2. Ня бу́дзеце зьвярта́ць ува́гі на гэ́ткую драбязу́.<br>3. Нама́жаце дра́піну ёдам. |
| Набі́ў гуза́к. | 1. Бу́дзеце прыклада́ць халодныя павя́зкі.<br>2. Пойдзеце да доктара.<br>3. Пры́мецe заспакая́льны сродак. |
| Балі́ць стра́ўнік. | 1. Бу́дзеце пільнава́цца дые́ты.<br>2. Сваі́м аду́мам наку́піце ле́каў. |

| | |
|---|---|
| | 3. Пара́іцеся з доктарам, які́я ле́кі прыма́ць.<br>4. Бу́дзеце ашчаджа́ць стра́ўнік, ня е́сьці шмат вострага і тлу́стага.<br>5. Вы́п’еце трошкі гарэ́лкі, каб супакоіць моцны боль. |
| Штосьці паве́ка зачырване́лася. | 1. Прыкладзяце́ мазь.<br>2. Зробіце кампрэ́с.<br>3. Счака́еце не́калькі дзён і пойдзеце да доктара. |
| Пачалі́ адчува́ць свае́ ны́ркі. | 1. Адра́зу пойдзеце да доктара.<br>2. Праве́рыце ны́ркі ультрагу́кам.<br>3. Назьбіра́еце зёлак і бу́дзеце піць гарба́ту зь іх.<br>4. Нала́дзіце пра́вільнае харчава́ньне.<br>5. Ня бу́дзеце зважа́ць, што вам балі́ць, аж паку́ль не прыці́сьне. |
| Адчува́еце мля́васьць. | 1. Паме́раеце тэмперату́ру, ціск.<br>2. Вы́клічаце доктара.<br>3. Пры́меце аспіры́н. |

**5. Прачытайце тэкст. Прыгадайце знаёмую сытуацыю ў доктара. Складзіце дыялёг, скарыстаўшы пытаньні ў канцы практыкаваньня.**



— Добры дзень!

— Дзень добры! Праходзьце, калі́ ла́ска, сяда́йце. Слу́хаю вас.

— Да́йце ра́ду, доктар. Бла́га чу́юся. Учора прыйшоў з пра́цы й адра́зачку лёг у ложак. Балі́ць паты́ліца, не́як млосна мне.

— Чым ле́каваліся? Ці што прыма́лі на́нач?

— Узя́ў сульфадымэтаксы́н, вы́піў па́ранага малака́.

— Да́йце я пагляджу́ ва́шыя гля́нды. Разя́ўце рот. Калі́ я націска́ю вось гэ́так, вам балі́ць?

— Балі́ць.

— Палашчы́це горла адва́рам рамонку як мага́ часьце́й. І яшчэ́ я за́раз вы́пішу вам рэцэ́пт. Трэ́ба бу́дзе зь які́ ты́дзень папрыма́ць гэ́тыя ле́кі. Але́ на́шча!

**Пытаньні:**
Як вы сябе́ адчува́еце?
Што вам балі́ць?
Ці ёсьць тэмперату́ра?
Колькі пака́звае гра́дусьнік за́раз?
Які́ ў вас ціск?
Чым ле́каваліся?
Ці на́шча прыма́еце міксту́ру?
Як пачува́ліся ўчора?
Які́я інфэкцы́йныя захворваньні ме́лі ў дзяці́нстве?
Ці даўно вам балі́ць?
Калі́ апошні раз былі́ ў доктара?
Як у вас з ча́сам? На калі́ доктар прызна́чыў вам працэду́ры?
Ці можаце праз ты́дзень прыйсьці́ на агля́д?

## Ясь распавядае



Як вы ўжо ве́даеце, у мяне́ шмат сяброў. Кожны з сваі́м хара́ктарам, схі́льнасьцямі, гу́стам, але́ галоўнае, што нас ядна́е, — агу́льныя інтарэ́сы і сьветагля́д. Мы працу́ем у адной кампа́ніі, і ў нас — добры стары́ дэві́з: «Адзі́н — за ўсіх, і ўсе — за аднаго». Дзе б мы ні былі́ — ці ў камандзіроўцы, ці на адпачы́нку, ці ў сьвя́та, мы заўсёды ра́зам, і яшчэ́ ніколі ніхто нікому не надаку́чыў.

За́раз я пазнаёмлю вас з маі́мі сябра́мі.

Вось Зьмі́тра, ён са́мы сьці́плы. Адкры́ты пагля́д. Зьмі́тру лёгка працава́ць з клiе́нтамі. Ён усі́м падаба́ецца, з кожным можа паразуме́цца. Пры Зьмі́тру наш ма́ркетынг пайшоў угару́. Узрос збыт праду́кцыі. Шкада́, што я не магу́ вам за́раз яго паказа́ць — ён у ад’е́зьдзе.



А вось Максі́м. Мне падаба́ецца ягонае высакароднае інтэліге́нтнае аблі́чча. Кампэтэ́нтны спэцыялі́ст, кампу́тарнік. Зь яго дапамогаю ўсе кампутаровыя прабле́мы за́раз жа разьвя́зваюцца. Гэ́ты чалаве́к заўсёды ў пошуку новых ве́даў, новых шляхоў. Ва́жкі ўнёсак Максі́ма ў агу́льную спра́ву! Гэ́та ёсьць вы́нікам ягонай высокай кваліфіка́цыі і прафэсі́йнага майстэ́рства.

А гэ́та Мікі́та, наш дырэ́ктар. Высокі, прыгожы, увогуле ве́льмі абая́льны чалаве́к. Мікі́та — ня толькі добры кіраўні́к, але́ й душа́ кампа́ніі. Ён ствары́ў прые́мную атмасфэ́ру тавары́скасьці на фі́рме. Кожны адчува́е сваю́ ва́жнасьць і адка́знасьць пе́рад і́ншымі. Усе́ супрацоўнікі спраўля́юць сваю́ работу як мага́ лепш, бо яна́ ца́лкам адпавяда́е іх схі́льнасьцям. Мікі́та добра ве́дае кожнага чалаве́ка, ён сапра́ўдны псыхоляг.





Ва́лік. Натуралёвы бухга́льтар. Усё штосьць раху́е, падлі́чвае, сочыць за кожнаю лі́чбаю — хапа́е ж цярпе́ньня! Ва́лік шчыгу́льны, карпатлі́вы працаўні́к. Калі́ Ва́лік падрыхтава́ў справазда́чу ў падатковую інспэ́кцыю, то будзь пэ́ўны — анія́кіх заўва́гаў і непаразуме́ньняў ня бу́дзе. Адны́м словам, чалаве́к на сваі́м ме́сцы.

А вось Мі́шка — заўзя́ты весялу́н. Ён заўсёды ў гуморы. Не глядзі́це, што ён бы́ццам зусі́м бесклапотны. Ён толькі з вы́гляду гэ́ткі, а за рулём у нас больш надзе́йнага чалаве́ка няма́. Мі́шка лю́біць сваю́ работу, яму́ падаба́ецца быць шафёрам. Вось чаму́ ён заўсёды ў добрым настроі.





Тадэ́вуш — ма́жны плячы́сты мужчы́на. Ён наш ахоўнік. Дакла́дны, акура́тны. Тадэ́вуш пі́льна выконвае свае́ абавя́зкі і гэ́ткім чы́нам ён добра ўплыва́е на наш мікраклі́мат. Безь яго я б пачува́ўся не́як няўту́льна.

Вось гэ́ткае маё атачэ́ньне. Як ба́чыце, я не самотны. Зь сябра́мі мне пашанцава́ла, я заўсёды магу́ спадзява́цца на і́хную падтры́мку. Хаце́лася б, каб у кожнага былі́ такі́я сябры́.

# Практыкуйцеся



**6. Перакажыце тэкст.**

**7. Прачытайце. Апішыце каго-небудзь з сваіх знаёмых.**





Мой брат Пётра — ніжэ́йшы за ба́цьку, але́ вышэ́йшы за мяне́. Ла́дны зь фігу́ры. Ягоная жонка Лю́ба — сярэ́дняга росту. Згра́бная, з хва́лістымі কашта́навымі валаса́мі, блакі́тнымі вачы́ма. Ма́е прыгожыя ву́сны.

А гэ́та — мой пляме́ньнік Ю́зя. Хва́цкі вясёлы хлапе́ц. Шэравокі. Ву́чыцца ў музы́чнай школе, ву́чань трэ́цяе кля́сы.

Мая́ пляме́ньніца Я́ня. Ве́льмі пяшчотная. Гэ́ткае мі́лае дзіця́. Гля́ньце, які́ пава́бны тва́рык, які́я чы́стыя і добрыя вачаня́ты. А косы ж, косы! Валасы́ — ні́бы лён.

**8. Складзіце сказы.**

| | | |
|---|---|---|
| Мне балі́ць зуб. | Трэ́ба ісьці́ да | данты́ст (зубны лекар). |
| На руках зьяві́ліся не́йкія пля́мы. | | акулі́ст (вочны лекар). |
| Баля́ць ця́гліцы на шы́і. Пэ́ўна, застудзі́ў. | | тэрапэ́ўт. |
| Бла́га сплю, ху́тка стамля́юся. | | траўматоляг. |
| Не́шта зрок саслабе́ў. | | дэрматоляг. |
| Вы́цяў руку́. Баю́ся, каб не было пераломy. | | нэўрапатоляг. |
| Балі́ць галава́, пал. | | масажы́ст. |

**9. Раскажыце пра адметныя звычкі й характары сваіх сяброў.**

**10. Перакладзіце на беларускую мову.**

Из моих друзей младше всех — Андрей. Хотя ему 21 год, выглядит он несколько старше. Высокий, его рост — 190 см. Крепкий, хорошо сложен. Красивый овал лица, открытый взгляд. Нос — обыкновенный, прямой, волосы — русые, глаза — карие.

У Андрея приятная улыбка. По характеру он дружелюбный, располагающий к себе человек. Доброжелательный, отзывчивый, сострадательный. Когда друг в беде, Андрей всегда поможет. Единственное, что мне не нравится в нем — он курит сигареты. Вот это досадно. Я хотел бы, чтобы он избавился от этой вредной привычки.

Андрей учится на третьем курсе Минского радиотехнического института. Его день расписан с утра до вечера. С восьми часов он уже на лекциях, а примерно в два часа дня заканчивает занятия. Пообедав, идет в библиотеку. До 17 часов ему нужно успеть подготовиться к очередным занятиям и встретиться с друзьями, а потом он должен быть на своём рабочем месте. Андрей подрабатывает в одной компьютерной фирме и после окончания института намерен остаться там работать.

## Кароткія размовы
(чытайце ўголас)



| | |
|---|---|
| — Знаёмы твар. Хто така́я?<br>— Дык гэ́та ж Вэрані́ка Багдановіч з парале́льнага патоку!<br>— А-а-а, прыпаміна́ю. Але́ ж тады́ ў яе́ былі́ такі́я прыгожыя валасы́! Усе́ на́шыя дзяўча́ты зайздросьцілі яе́ касе́.<br>— Час ідзе́, лю́дзі зьмяня́юцца. | — Знакомое лицо. Кто такая?<br>— Так это же Вероника Богданович с параллельного потока!<br>— А-а-а, припоминаю. Но тогда у неё были такие красивые волосы! Все наши девчонки завидовали её косе.<br>— Время идёт, люди меняются. |
| — Як табе́ наш новы супрацоўнік?<br>— Нічога ня ма́ю сказа́ць благога. Пава́жны чалаве́к. Ру́пна спраўля́е сваю́ работу, напорысты, акты́ўны і энэргі́чны. Зь любой сытуа́цыі дастае́ станоўчы вы́нік.<br><br>— Ве́даеш, я хаце́ў бы даручы́ць яму́ пра́цу з на́шымі новымі кліе́нтамі. Як лі́чыш, дасьць ра́ды?<br>— Лічу́, што так.<br>— Тады́ пакажы́ яму́ дакумэ́нты і патлума́ч, што да чаго. | — Как тебе наш новый сотрудник?<br>— Ничего не могу сказать плохого. Серьёзный человек. Тщательно выполняет свою работу, напорист, активен и энергичен. В любой ситуации добивается положительного результата.<br>— Знаешь, я хотел бы поручить ему работу с нашими новыми клиентами. Как ты считаешь, справится?<br>— Считаю, что да.<br>— Тогда покажи ему документы и введи в курс дела. |
| — Добры дзень, па́не доктар!<br>— Добры дзень. Як вы цяпе́р сябе́ адчува́еце?<br>— Я пільнава́ўся ва́шых пара́даў і больш, дзя́каваць Богу, ня мле́ю.<br>— У вас зьнясі́леньне аргані́зму, вось таму́ вы і мле́лі. І ана́лізы сьве́дчаць пра гэ́та. Больш быва́йце на сьве́жым паве́тры, е́жце болей вітамі́наў, садавіны́ й гароднiны. Праз два ты́дні пры́йдзеце на кантроль.<br>— Добра. Дзя́кую. Быва́йце.<br>— Быва́йце здаровы. | — Здравствуйте, доктор!<br>— Здравствуйте. Как вы теперь себя чувствуете?<br>— Я придерживался ваших рекомендаций и больше, слава Богу, в обморок не падаю.<br>— У вас истощение организма, поэтому и были обмороки. И анализы это подтверждают. Чаще бывайте на свежем воздухе, ешьте больше витаминов, овощей и фруктов. Через две недели придёте на контроль.<br>— Хорошо. Спасибо. До свидания.<br>— До свидания. |
| — Добры дзень.<br>— Добрага здароўя.<br>— Як ма́ецеся? Як жонка? Як дзе́ці?<br>— Волька на́ша паступі́ла ў Мэды́чны ўнівэрсытэ́т. Бу́дзе вучы́цца на хіру́рга.<br>— Дык, лічы́, мы ма́ем сваю́ доктарку.<br>— Паглядзі́м яшчэ́, як бу́дзе вучы́цца.<br>— А як Андрэ́й?<br>— Ды, што Андрэ́й! Ву́чыцца ў адзіна́ццатай кля́се. Але́ пра́гі да ве́даў ня ма́е. Адно ў яго ў галаве́ — сябры́, дыскатэ́кі ды вечары́нкі. Па кім ён пайшоў, гэ́ткі гульта́й?<br>— А дзе ж ты ране́й быў? Трэ' было зма́лку прыстаўля́ць дзіця́ да наву́кі. | — Добрый день.<br>— Здравствуйте.<br>— Как дела? Как жена? Как дети?<br>— Ольга наша поступила в Медицинский университет. Будет учиться на хирурга.<br>— Так, считай, у нас есть свой доктор.<br>— Посмотрим ещё, как будет учиться.<br>— А как Андрей?<br>— Да, что Андрей! Учится в одиннадцатом классе. Но жажды знаний нет. Одно у него на уме — друзья, дискотеки да вечеринки. В кого он пошёл, разгильдяй этакий?<br>— А где же ты раньше был? Надо было с детства приучать ребёнка к учёбе. |
| —У цябе́ зморaны вы́гляд. Як ты чу́ешся?<br><br>— Не́як ке́пска мне. Млосна, баля́ць скроні. | — Ты выглядишь уставшим. Как ты себя чувствуешь?<br>— Как-то плохо мне. Подташнивает, болят виски. |

| | |
|---|---|
| — А тэмпэрату́ра?<br>— Ды не, па́лу няма́. Толькі што ме́раў.<br><br>— І ўсё-ткі мне здае́цца, што ты захварэ́ў. Ідзі́ дамоў, кладзі́ся ў ложак і кліч доктарку. | — А температура?<br>— Да нет, температуры нету. Только что проверял.<br>— И всё-таки мне кажется, что ты заболел. Иди домой, ложись в постель и вызывай доктора. |
| — Ну, як ты сёньня пачува́ешся?<br>— Нябла́га, ле́пей, чым учора.<br>— Ба́чу, ба́чу па табе́. Весялосьць у вачох, дый з твару спраўне́йшы.<br>— Дзя́куй доктарцы. Не замару́дзіла, адра́зу ж разабра́лася, што да чаго, і прызна́чыла лячэ́ньне. Дый як чалаве́к яна́ мне падаба́ецца — малада́я, сымпаты́чная і заўсёды знойдзе ве́тливае слова. | — Ну, как ты сегодня себя чувствуешь?<br>— Неплохо, лучше, чем вчера.<br>— Вижу, вижу по тебе. Живой взгляд, да и с лица лучше выглядишь.<br>— Спасибо доктору. Не упустила время, сразу разобралась, что к чему, и назначила лечение. Да и как человек она мне нравится — молодая, симпатичная, и всегда найдёт приветливое слово. |



## Майстры слова гавораць

Кожны чалаве́к — прыгожы. Адзі́н прыгожы тва́рам. А ў другога твар — непрыгожы, але́ ён не́як ве́льмі ж ужо цёпла асьвятля́ецца ўну́траным сьвятлом, ад чаго чалаве́к прыгажэ́е… Трэ́ба толькі ўлаві́ць той момант, калі́ чалаве́чы твар можна чыта́ць, як цудоўную займа́льную кні́гу, не зьвярта́ючы ўва́гі на афармле́ньне. Пра́ўда, для гэ́тага трэ́ба, каб і на́шыя ду́шы былі́ такса́ма добрыя…

Я́нка Сіпакоў

### Спра́ўны да работы

Гэ́та пра майго шва́гра Толіка Грудзі́нку. Ён і пячка́р, ён і сталя́р. Усё ўме́е, за што б ні ўзя́ўся. Зробіць ня толькі мэ́блю, вокны, дзьве́ры, але́ й ключы́ да дзьвярэ́й. У эле́ктрыцы зна́ецца, адраманту́е, што хочаш: прас, пыласмок, парасон, чараві́кі. Можа быць за краўца́ і за шаўца́. Ма́йстра на ўся́кія шту́кі. Майстру́е, ла́дзіць, штуку́е.

Цяпе́рака мой шва́гер працу́е цесьляром на будоўлі. Яго запрасі́лі ста́віць дом на два паве́рхі, з адме́тным гзы́мсам, з камі́нкам… Гаспадары́ ве́далі, каму́ даве́рыць гэ́ткую пра́цу. Анатоль ма́е спрыт у рукох, ён добры фаховец.

## Тэма: Абслуга

### Па-беларуску кажуць так



| | |
|---|---|
| **Насе́льніцтву прапану́юцца новыя ві́ды паслу́гаў.** | Населению предлагаются новые виды услуг. |
| **Паслу́га — гэ́та дапамога, дзе́яньне, якое прыносіць кары́сьць і́ншаму.** | Услуга — это помощь, действие, которое приносит пользу другому. |
| **Распара́днік прапанава́ў нам свае́ паслу́гі.** | Распорядитель предложил нам свои услуги. |
| **Разьвяза́ць прабле́мы побыту нам дапаможа бюро паслу́гаў.** | Решить бытовые проблемы нам поможет бюро услуг. |
| **Яму́ падпара́дкаваная ўся абслу́га.** | В его распоряжении — весь обслуживающий персонал. |
| **Я ўвесь час слугава́ў вам, а цяпе́р вы мне паслугу́йце.** | Я всё время ухаживал за вами, а теперь вы за мной поухаживайте. |
| **Нам паслугу́е кампу́тар.** | Нам послужит компьютер. |

Мы пераяжджа́ем на новую кватэ́ру. Рэ́чаў поўна, і нам трэ́ба замовіць машы́ну ў тра́нспартным аге́нцтве. Там дапамогуць усё пераве́зьці.






— Добры дзень!
— Добры дзень! Чым я магу́ вам дапамагчы́?
— Я хаце́ў бы аформіць замову.
— Яку́ю работу вам трэ́ба вы́канаць?
— Замяні́ць у кватэ́ры сантэхніку, шы́бы ды лінолеўм.
— Добра. Калі́ ла́ска, вазьмі́це каталёг і вы́берыце, што вам больш падаба́ецца.

— Ці можна было б пачы́сьціць гэ́ты дыва́н да за́ўтра?
— Разгарні́це, калі́ ла́ска. Не, дываны́ з шаўкагра́фіяй мы бярэ́м на чы́шчаньне тэ́рмінам на ты́дзень.

— Ці пафарбу́еце гэ́ты каўне́р у руды́ колер?
— Не, паку́ль што мы фарбу́ем рэ́чы толькі з натура́льнага фу́тра. Але́ тут недалёка, пры ву́ліцы Бранісла́ва Тарашке́віча, ёсьць адна́ фарбава́льня. Падыдзі́це да іх, яны́ выконваюць такі́я работы. Дава́йце я вам пакажу́, як туды́ патра́піць.





У гэ́тым атэлье́ — добрыя шва́чкі. Яны́ ня толькі спры́тныя майстры́хі, але́ й ве́тлівыя, і ўва́жлівыя да сваі́х зака́зьнікаў.
— Ці падаба́ецца вам кару́нкавая аздоба?
— Дзі́ва што! Добра стасу́ецца з фасонам суке́нкі.
— А па́сак?
— Усё па модзе!

— Зрабі́це паслу́гу. Мне патрэ́бны лі́штвы.
— Зірні́це, ці гэ́ткі ўзор вам даспадобы?
— Не, я б хаце́ў сустрэ́цца з мастаком і патлума́чыць, чаго мне трэ́ба.
— Калі́ ла́ска. Падымі́цеся на другі́ паве́рх, пе́ршыя дзьве́ры напра́ва. Запыта́йцеся Тодара.
— Дзя́куй.

— Гарніту́р мне падаба́ецца, а вось як ён бу́дзе насі́цца?
— Не турбу́йцеся, ткані́на не каме́чыцца.
— А як гэ́тыя швы?..
— Ну што вы! З гэ́тымі дэкараты́ўнымі шва́мі гарніту́р выгляда́е ве́льмі эфэ́ктна і бу́дзе падкрэ́сьліваць ва́шую індывідуа́льнасьць.





Мыць бялі́зну мне зру́чна ў пра́льні самаабслу́гай. Я ху́тка магу́ ўсё памы́ць, накрухма́ліць, папрасава́ць.

— Я б хаце́ў пастры́гчыся й пагалі́цца.
— Як вас пастры́гчы?
— Зза́ду — коратка, а сьпе́раду — ня ве́льмі.
— Ву́шы адкры́тыя?
— Так.
— Скроні прамы́я ці касы́я?
— Хай бу́дуць прамы́я.



— Вы жывяце́ ў гатэ́лі з усі́мі выгодамі?
— Так. Тэлеві́зар, лядоўня, ва́нна, душ. Ёсьць цыру́льня і, на́ват, ла́зьня.
— Але́ ж усё гэ́та, пэ́ўна, дорага кашту́е?
— Ве́дама, затое з абслу́гай няма́ анія́кіх прабле́маў — усё прыя́зна, ху́тка і зычлі́ва.

Не магу́ зачыні́ць дзьве́ры: палама́лася кля́мка. Але́ ці дам ра́ды папра́віць? Я ж не сталя́р і не цясьля́р. Найму́ майстроў, каб абла́дзілі ха́ту. Дарма́ што стара́я. Хай фарні́ру пакладу́ць, паліту́рай пафарбу́юць. Сусе́д мой гэ́так зрабі́ў, — загавары́ла ха́та!



Мне трэ́ба добра выгляда́ць. Яшчэ́ мне патрэ́бны дробныя грошы для рэ́шты і… настрой для кліе́нта.

Я ке́льнэр. Да мяне́ зьвярта́юцца з усі́х бакоў. З кожным я размаўля́ю, з кожным му́шу ўсталява́ць конта́кт. Таму́ мае́ кліе́нты задаволеныя.



## Практыкуйцеся

**1. Адкажыце на пытаньні.**

Які́мі жыльлёвымі паслу́гамі вы карыста́ецеся?
Ці даводзілася вам выконваць цясьля́рскую, тынкава́льную работу?
Ці для вас склада́ная прабле́ма — рамонт кватэ́ры?
Ці вы дава́лі калі́ абве́стку ў бюро паслу́гаў? Пра што?
Ад каго ме́лі сяброўскую дапамогу на будаўні́цтве ле́цішча?
Як вы разуме́еце сэнс слова «абслу́га»?
Ці ахвотна вы дапамага́еце і́ншым?
Ці ве́даеце, адку́ль узя́тыя словы: «Усё, што хочаце, каб рабі́лі вам лю́дзі, тое і вы рабі́це ім»?
Ці вы згодныя з тым, што гэ́та ёсьць «залатое пра́віла» мара́льнасьці?

**2. Ці вы наведваеце фізкультурна-аздараўленчыя цэнтры? На падставе прапанаванага тэксту раскажыце, што там ёсьць, якімі паслу́гамі можна карыстацца.**

Каля́ на́шага дому ёсьць фізкульту́рна-аздараўле́нчы цэ́нтар. У іх і басэ́йн, і ла́зьня з пары́льняй, і шэ́йпінг, і розныя спартовыя сэ́кцыі. Кожны там можа знайсьці́ заня́так сабе́ пад густ. Пры́кладам, сёньня пасьля́ ла́зьні з сухой па́рай я з гадзі́ну яшчэ́ папла́ваў у басэ́йне.

А мая́ Лёдзя ходзіць туды́ на шэйпінг. Гэ́та такі́я скокі пад му́зыку дзе́ля добрай фігу́ры. І здае́цца мне, постаць цяпе́р у маёй Лёдзі ня горшая, чым у фотамадэ́лі. Калі́ ідзём ра́зам зь ёю па ву́ліцы, на яе́ зьвярта́юць ува́гу. Не скажу́, што гэ́та мне непрые́мна.

На́шыя дзе́ці гуля́юць там у тэ́ніс. Хто ве́дае, можа зь іх вы́йдуць які́я чэмпіёны? А ня бу́дзе зь іх чэмпіёнаў — такой бяды́, усё адно ва́рта займа́цца спортам.

Наагу́л, мне ў гэ́тым фізкульту́рна-аздараўле́нчым цэнтры ўсё падаба́ецца: і відэасалён, і і́хная камі́нная за́ля, а найбольш — і́хная ве́тлівая абслу́га.

**3. Што будзеце рабіць?**

| | |
|---|---|
| Сапсава́лася пра́льная машы́на. | 1. Патэлефану́ю ў рамонтнае атэлье́.<br>2. Паспрабу́ю адла́дзіць сам.<br>3. Мне надаку́чыла рамантава́ць — ма́быць, куплю́ новую.<br>4. Паводле гара́нтыі вярну́ наза́д у кра́му.<br>5. Бу́ду мыць бялі́зну рука́мі. |
| Даўно пара́ рабі́ць рамонт кватэ́ры. | 1. Ніколі не бяру́ся за спра́ву, якой ня дам ра́ды.<br>2. Дамоўлюся з рамонтнікамі з ЖЭСу.<br>3. Пашука́ю майстроў, пагляджу́ абве́сткі ў газэ́тах.<br>4. Зраблю́ ўсё самастойна: пабялю́, паклею́, пафарбу́ю. Лепш за мяне́ ніхто ня зробіць. |

Ва́ша ле́цішча — убаку́ ад тра́нспарту.

1. Бу́ду хадзі́ць пехатою ці е́зьдзіць на ровары.
2. Перае́ду жыць на ле́цішча.
3. Куплю́ легкаві́к.
4. Бу́ду шука́ць, хто падвязе́.
5. Хоцькі-няхоцькі, давядзе́цца прада́ць.



## Ясь распавядае

У мяне́ зноў ёсьць нагода вы́правіцца ў падарожжа. Прыяжджа́юць мае́ да́ўнія сябры́ з Ба́лтыі. Ну, а госьці ёсьць госьці — іх трэ́ба забаўля́ць. Гасьцява́ць бу́дуць усяго толькі шэсьць дзён. Таму́ я за́гадзя пляну́ю, як скарыста́ць час. Найверагодней, што пае́дзем па гістары́чных мясьці́нах. Зьбіра́юся прапанава́ць ім пае́здку ў Мі́рскі за́мак, Нава́градак і Нясьві́ж, бо яны́ там яшчэ́ не былі́.



У які́я дні й куды́ можна пае́хаць? Пра гэ́та я папыта́юся ў экскурсі́йным бюро. Зра́ньня мы зь Яні́най і прыйшлі́ сюды́.

— Добры дзень!

— Добры дзень! Праходзьце, сяда́йце! Што мы можам вам прапанава́ць?

— Нас ціка́віць «Белару́скае гістары́чнае кола».

— Калі́ ла́ска. У нас ёсьць экску́рсіі ў Мі́рскі за́мак, Нава́градак, Нясьві́ж, Засла́ўе, Вя́зынку, Ра́дашкавічы, Гальша́ны, Хаты́нь і на Курга́н Сла́вы, у Малы́ Трасьцяне́ц. Прапану́ем такса́ма экску́рсіі ў Ту́раў, Крэ́ва, Горадню, Полацак, Берасьце́йскую крэ́пасьць і да Камяне́цкай ве́жы.

— За́ўтра мы сустрака́ем гасьце́й. Што ў вас ёсьцека на сераду́?

— На сераду́… За́раз зірне́м… Вось, ёсьць экску́рсія ў Полацак, пае́здка аўтобусам, выпраўля́емся а 6-й гадзі́не ра́ніцы. Там мы ма́ем экску́рсію з агля́дам гораду, Сафі́йскага сабору ды адну́ гадзі́ну вольнага ча́су.

— Шкада́, ура́нку нам анія́к не выпада́е.

— Добра, тады́ ёсьць апоўдні экску́рсія «Засла́ўе, Вя́зынка і Ра́дашкавічы». Вы пазнаёміцеся са старажы́тным Засла́ўем, паба́чыце «Замэ́чак» (X-е стагодзьдзе), магі́лу Рагне́ды, пабыва́еце ў Вя́зынцы, на радзі́ме Я́нкі Купа́лы, паба́чыце Ра́дашкавічы.

— Во як! Мы пае́дзем на гэ́тую экску́рсію. Нам патрэ́бныя чаты́ры ме́сцы.

— Калі́ ла́ска, вось ва́шыя біле́ты. Аўтобус адпраўля́ецца ад літарату́рнага музэ́ю Я́нкі Купа́лы ў сераду́ а 14-й гадзіне.

— Дзя́куем. І яшчэ́ хаце́лася б што-не́будзь на пя́тніцу.

— У пя́тніцу ў нас «Нясьві́ж, Мі́рскі за́мак і Нава́градак». Сьпярша́ мы агляда́ем Нясьві́скі за́мак. Потым вы ма́еце вольны час і можаце прайсьці́ся па старада́ўнім па́рку, пасядзе́ць на бе́разе маляўні́чага возера, абня́ць знакамі́ты дуб — жывы́ помнік белару́скай гісторыі. Пасьля́ гэ́тага мы пае́дзем агляда́ць Мі́рскі за́мак і зае́дзем у Нава́градак — пе́ршую сталі́цу Вялі́кага Кня́ства Літоўскага. Я прапану́ю вам гэ́ты маршру́т.

— Але́ ці не зана́дта гэ́та дорага?

— Заўва́жце, у кошт экску́рсіі ўваходзіць харчава́ньне. Я ўпэ́ўненая, што вы не пашкаду́еце.

— Добра. Пэ́ўна ж, пае́дзем. Шчы́ра дзя́кую вам за дапамогу. Да сустрэ́чы.

— Вось ва́шыя біле́ты, чака́ем вас у пя́тніцу а 6-й гадзі́не на плошчы Незале́жнасьці. Да сустрэ́чы.



## Практыкуйцеся

**4. Адкажыце на пытаньні.**

Хто прыяжджа́е да Я́ся?
Ці шмат ча́су ма́юць Я́севы госьці?
Як яны́ бу́дуць ба́віць час у Белару́сі?
Што саваі́м гасьця́м ма́е прапанава́ць Ясь і чаму́?
Ясь выбіра́е маршру́ты паводле праспэ́ктаў ды каталёгаў?
На які́я маршру́ты скіроўваюць туры́стаў у экскурсі́йным бюро?
Які́я экску́рсіі прапанава́лі Я́сю?
Ясь згадзі́ўся з усі́мі прапановамі? Чаму́?
Што заціка́віла Я́ся?
Чым адме́тная экску́рсія ў Полацак?
Чым адме́тная экску́рсія «Засла́ўе, Вя́зынка і Ра́дашкавічы»?
Чым адме́тная экску́рсія «Нясьві́ж, Мі́рскі за́мак і Нава́градак»?
Адку́ль адпраўля́ецца аўтобус на экску́рсію ў Вя́зынку?
Чаму́ Ясь удакладні́ў кошт пуцёўкі?
Які́я з маршру́таў заціка́вілі вас? Чаму́?
Які́я яшчэ́ белару́скія гістары́чныя мясьці́ны вы ве́даеце?
У які́х белару́скіх гістары́чных ме́сцах вы былі́?
На яку́ю экску́рсію вы пае́дзеце неўзаба́ве?

**5. Дайце слушны адказ, хто што робіць.**

| | |
|---|---|
| 1) цыру́льнік | 1) буду́е дамы́ з цэ́глы |
| 2) ма́йстар гадзі́ньнікаў | 2) шы́е абу́так: чараві́кі, боты, пантофлі |
| 3) краве́ц | 3) тынку́е столь і сьце́ны |
| 4) шаве́ц | 4) ла́дзіць аўто |
| 5) му́ляр | 5) ла́дзіць электронныя і мэхані́чныя гадзі́ньнікі |
| 6) тынкоўнік | 6) гату́е розныя сма́чныя стра́вы |
| 7) цясьля́р | 7) шы́е вопратку: суке́нкі, кашу́лі, камізэ́лькі |
| 8) ку́хар | 8) дагляда́е эле́ктрыку |
| 9) касмэтоляг | 9) дапамага́е людзя́м быць прыгожымі |
| 10) аўтамэха́нік | 10) стрыжэ́ валасы́ ды голіць бароды |
| 11) эле́ктрык | 11) ста́віць вокны і дзьве́ры |

**6. На падставе наступнага тэксту раскажыце пра свой паход у рэстарацыю. Зь якой нагоды вы былі ў рэстарацыі? З кім вы былі? Як вас абслугоўвалі? Што вы замовілі? Ці было смачна? Ці бралі што з алькагольных напояў? Колькі каштаваў ваш заказ? Ці спадабалася вам? Ці пойдзеце наступным разам у гэтую рэстарацыю?**



Прые́хаўшы з адпачы́нку, мы адра́зу му́сілі пару́піцца пра вячэ́ру. Ве́дама ж, лядоўня парожняя! А тут якра́з госьць нада́рыўся.

Мы запрасі́лі яго ў «Мядзьве́дзя». Гэ́та рэстара́цыя зь белару́скай ку́хняй. І абслу́га тут як ма́е быць.

Да нас за́раз жа падышла́ ке́льнэрка.

— Ці гэ́тыя ме́сцы вольныя?

— Так! Сяда́йце, калі́ ла́ска.

Мы заказа́лі стра́ваў, які́х яна́ нам нара́іла.

— Вось ваш зака́з. Сма́чна е́сьці!
— Дзя́куй!
Дагэ́туль наш госьць зь белару́скай ку́хні каштава́ў толькі дра́нікі. А тут — гэ́ткі вы́бар! Ды яшчэ́ і афіцыя́нтка не пакіда́е нас без ува́гі.
— Досыць уту́льны куток, ці ня пра́ўда?
— Дык гэ́та ж найле́пшая рэстара́цыя ў горадзе!



**7. Раскажыце, як вы замаўлялі пуцёўку ў экскурсійным бюро ці турысцкай агенцыі.**

**8. Перакладзіце на беларускую мову.**

Сегодня у меня выходной день, и я занимаюсь хозяйственными делами. Пересмотрел нашу обувь — надо кое-что починить. Нужны новые подмётки, набойки. В ботинках нужно укрепить каблуки и ещё придется поменять молнию. Вот эти кожаные туфли поначалу были как раз, а теперь что-то колет. Не пойму, откуда здесь взялся гвоздь?

В общем, собираюсь в мастерскую. Ремонт обуви — рядом. Мастера у нас неплохие, быстро выполняют заказы. Всегда посоветуют, подскажут, что и где нуждается в ремонте. Услуги иногда стоят недёшево, зато на качество работы жаловаться не приходится.

Пойду, пока есть время, через полчаса мастерская закрывается.



## Кароткія размовы
(чытайце ўголас)

| | |
|---|---|
| — На чым павязе́м мэ́блю?<br>— Ёсьць жа тра́нспартныя паслу́гі!<br>— А ты ўжо заплаці́ла за даста́ўку?<br>— Яшчэ́ не. За́раз пойдзем. | — На чём мы повезём мебель?<br>— Есть же транспортные услуги!<br>— А ты уже заплатила за доставку?<br>— Ещё нет. Сейчас пойдём. |
| — Нам трэ́ба знайсьці́ ня́ньку для свайго малога.<br>— Ня ве́даеш, што рабі́ць? Вазьмі́ рэкля́мны дада́так і прагле́дзь абве́сткі. Будзь пэ́ўны, што-не́будзь ды знойдзеш. | — Нам надо найти няню для своего малыша.<br>— Не знаешь, что делать? Возьми рекламное приложение и просмотри объявления. Будь уверен, что-нибудь да найдёшь. |
| — Я б хаце́ла гэ́ткае ўчаса́ньне, як на мадэ́лі.<br>— Калі́ ла́ска, зробім так, як хочаце. У нас жада́ньне кліе́нта — гэ́та закон. | — Я бы хотела такую причёску, как на модели.<br>— Пожалуйста, сделаем так, как хотите. У нас желание клиента — это закон. |
| — Што менаві́та не задавальня́е жыхароў ва́шага дому?<br>— Цясьля́рна-сталя́рныя, тынкава́льна-маля́рныя і да́хавыя работы. | — Что именно не удовлетворяет жильцов вашего дома?<br>— Плотницко-столярные, штукатурно-малярные и кровельные работы. |

| | |
|---|---|
| — Паслу́хай, яка́я абве́стка: «За 10 кілямэ́траў ад гораду прадае́цца катэ́дж з усі́мі выгодамі».<br><br>— Ціка́ва, колькі ж ён бу́дзе каштава́ць?<br>— Блі́зка ад гораду, усе́ выгоды. Пэ́ўна ж, цана́ бу́дзе немала́я.<br>— Што там доўга разважа́ць, дава́й патэлефану́ем. | — Послушай, какое объявление: «В 10 километрах от города продаётся коттедж со всеми удобствами».<br>— Интересно, сколько же он будет стоить?<br>— Близко от города, все удобства. Конечно, цена будет немалая.<br>— Что там долго гадать, давай позвоним. |
| — Куды́ ж так надоўга зьнік?<br>— Хадзі́ў у туры́сцкае бюро, узя́ў пуцёўку ў Гішпа́нію.<br>— У Гішпа́нію? І колькі ж ты га́хнуў?<br>— Уве́сь гама́н спустошыў.<br>— А ці ня лепш падарожнічаць самату́гам? Гэ́та выходзіць таньне́й.<br>— Не. Для мяне́ добрае тое падарожжа, дзе выгода і бясьпе́ка. | — Где так долго пропадал?<br>— Ходил в туристическое бюро, взял путёвку в Испанию.<br>— В Испанию? И сколько же ты всадил?<br>— Все деньги с кошельком.<br>— А не лучше ли путешествовать дикарём? Это получается дешевле.<br>— Нет. Для меня хорошо то путешествие, где комфорт и безопасность. |



## Майстры слова гавораць

Гравю́ры Скары́ны! Ён выраза́ў іх
На спракаве́чным дрэ́ве гісторыі
Свайго народу,
Хоць мог бы падабра́ць
І больш пада́тлівы
І больш удзя́чны матэрыя́л.
І выраза́ў ён іх ня шты́хелем-разцом,
А промнем сонца, промнем сваёй ве́ры
І любові да народу.
Таму́ штрых кожны быў такі́ глыбокі,
Што ні агонь, ні забыцьцё, ні ворагі, ні час
Гравюраў гэ́тых зьні́шчыць не змаглі́.
І сёньня не́йкая чароўная жыве́ ў іх сі́ла,
Яка́я сьляпы́м вярта́е зрок,
Глухі́м — іх слых, няпомнячым — іх па́мяць,
А безьязы́кім — мову.

Максі́м Танк

## Контрольная работа

**1. Замест кропак устаўце ў тэкст адсутныя словы.**

Прыехаўшы ў сталіцу, асабліва не раздумвайце, на … дабірацца ў Стоўбцы, — аддайце … чыгунцы: … на электрычцы зойме ўсяго паўтары … Менавіта столькі ж … ў нас будзе на … з, так бы мовіць, калячыгуначнымі славутасьцямі, найперш — літаратурнымі. Праўда, да драбніцаў разабраць і засвоіць … за гэты час проста … Таму засяродзім … толькі на тым значным і адметным, што …

За … вагона мільгаюць абрысы … сталіцы, ззаду … гарадзкія чыгуначныя … «Бальніца», «Курасоўшчына» і «Гай». Залюбаваўшыся мясцовымі краявідамі, мы неўпрыкмет … і станцыю «Памысьлішча», і схаваныя ў зеляніне … ахоўнай паласы … «Пціч» … «Воўкавічы». І вось, … «Фаніпаль».

Сяргей Галоўка

**2. Прачытайце верш Канстанцыі Буйло.**

**Lublu naš kraj**

Lublu naš kraj, staronku hetu,
Dzie ja radziłasia, rasła,
Dzie pieršy raz paznała ščaście,
Ślazu niadoli praliła.

Lublu narod naš biełaruski
I chaty ŭ zieleni sadoŭ,
Załočanyja zbožžam nivy,
Šum našych hajaŭ i lasoŭ.

Lublu raku, što svaje vody
Imčyć u niaviedamuju dal,
I žoŭtaść bierahoŭ piaščanych,
I jasnaść čystych jaje chval.

I pieśniu rodnuju lublu ja,
Što dzieŭki ŭ poli zapiajuć,
A tony hołasna nad nivaj
Pieralivajucca, pływuć.

Usio ŭ kraju tym sercu miła,
Bo ja lublu kraj rodny svoj,
Dzie ź pieršym ščaściem ja spaznałaś
I z hora pieršaju ślazoj.

**3. З наступных словаў складзіце паводле правілаў беларускае граматыкі складзіце тэкст і вызначце, як у першакрыніцы гучаў урывак з кнігі Ўладзімера Арлова і Генадзя Сагановіча «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі».**

а Аб'яднаньне адбылося адну асаблівага балцкага без беларускае бо буйную было Вялікага гісторыі гвалту даўнія дзяржаву дзяржавы з з захаду земляў і і і і інтарэсах існавалі Княства крывічамі літвой Літоўскага мангола-татары насельніцтва натуральна новая нямецкія пагражалі Паміж пачынаецца пачыналі разрозьненых рыцары слабых стагодзьдзя сувязі сярэдзіне так Таму У у усходу ціснуць шчыльныя эпоха эпоха як ў ўсходнеславянскага ўтварэньне XIII —

**Заўвага.**

Для выкананьня гэтага заданьня трэба ўсе словы выпісаць па адным на асобныя паперкі. Словы на паперках спачатку ўтвараюць словазлучэньні, якія складаюцца ў сказы, а потым — у тэкст. Калі застануцца «лішнія словы», іх лягчэй будзе скарыстаць, пабудаваўшы аснову тэксту. Паспрабуйце. Гэтае цікавае заданьне нам прапанаваў лінгвіст прафэсар Уладзімер Карпаў. Яно дазваляе праверыць, наколькі добра вы засвоілі граматыку мовы.

**4. Прачытайце, які выпадак здарыўся з нашым сябрам. Перакладзіце ў беларускую мову.**

**Родной язык защищает, как мать**

*Путешествия, как и люди,*
*имеют свою судьбу.*
Стендаль.

Где я люблю бывать, так это в Чехии. Всегда с удовольствием еду в Прагу. И что удивительно, именно в Праге я ощутил себя белорусом. Вот какой неожиданный случай стал тому причиной.

Тёплым весенним днём мы с другом шли к Вацлавской площади. Немного устали, и свободная скамеечка в уютном скверике оказалась как раз кстати. Решили отдохнуть. Хорошая погода, безоблачное ясное небо, ласковое солнце — вокруг полная безмятежность. Казалось, всё благоприятствует покою и тишине. И настроение у нас было соответствующее. Мы сидели, делились впечатлениями. Разговаривали по-русски.

И вдруг в наш неторопливый разговор врывается неожиданное: «Здравствуйте. Вы первый день в Праге?» — Откуда ни возьмись перед нами выросли три молодых человека очень спортивного вида. Тоном, не терпящим возражений, они заявили нам, что гулять просто так по незнакомому городу небезопасно. И что они, «добровольцы», будут защищать нас. Но такая «забота» требует обязательной оплаты в… 50 долларов с каждого — твёрдый тариф! В один момент день был испорчен. Куда девались покой и тишина? Перед такой чудовищной наглостью мы попросту растерялись…

После некоторого препирательства мы не нашли иного выхода, как заплатить вымогателям, чтобы они оставили нас в покое.

Понаблюдав за новоявленными «охранниками», мы заметили, что они не предлагают свои услуги ни чехам, ни англичанам, ни французам, ни немцам. А почему? Да всё очень просто: не зная языка, они не в состоянии объяснить, чего хотят. Вывод напрашивался сам собой — разговаривать только по-белорусски. Кстати, наш язык очень похож на чешский. Не теряя времени, мы перешли на белорусский язык, и дальнейшее наше пребывание в Праге никакими неприятностями уже не омрачалось.

Вот такой своеобразный случай помог нам понять жизненную сущность родного языка — это как хороший живой человек, который верен тебе.

Простые, но очень важные истины порой приходится постигать непростым путём.

**5. Уявіце сабе, што вы прыйшлі дамоў і ўбачылі сьляды рабунку ў хаце: дзьверы адчынены, у хаце — як на «ўварванскай вуліцы». Вам неабходна расказаць, што вы бачыце ў кватэры, што вы адчуваеце, што ў вас скралі, як вы паведаміце міліцыянтам пра тое, што здарылася.**

**6. Перакладзіце верш Аляксандра Пушкіна на беларускую мову.**

Я вас любил: любовь ещё, быть может,
В душе моей угасла не совсем;
Но пусть она вас больше не тревожит;
Я не хочу печалить вас ничем.
Я вас любил безмолвно, безнадежно,
То робостью, то ревностью томим;
Я вас любил так искренно, так нежно,
Как дай вам Бог любимой быть другим.

**Калі вы як мае быць выканалі ўсе заданьні кантрольнай работы — лічыце, што сьмела можаце размаўляць па-беларуску.**

*Гэта адзін зь першых падручнікаў па беларускай мове ў яе несавецкім варыянце. Калі не лічыць факсымільных перавыданьняў падручнікаў пачатку XX стагодзьдзя — першы, які напісаны й надрукаваны на Радзіме.*

*Мы будзем рады вашым заўвагам і парадам наконт зьместу й падачы дыдактычнага матэрыялу, якія можна даслаць на адрас выдавецтва.*

*Здароўя, шчасьця, посьпехаў!*

*Да сустрэчы!*

# Белорусская латиница

Апроч кірыліцы, у беларускай мове ўжываецца лацінскі альфабэт — *лаці́нка*:

**A B C Ć Č D Dž Dz E F G H I J K L Ł M N Ń O**
**P R S Ś Š T U Ŭ V W Y Z Ź Ž**

Ніжэй паказаныя лацінка з адпаведнымі літарамі кірыліцы і наадварот — кірыліца з адпаведнымі літарамі лацінкі.

| Лацінка → | Кірыліца | Кірыліца → | Лацінка |
|---|---|---|---|
| **a** | **а** | **а** | **a** |
| **b** | **б** | **б** | **b** |
| **c** | **ц** (цьвёрды — [**ц**]) | **в** | **v** (**w**) |
| **ć** | **ц** (мяккі — [**ц’**]) | **г** | **h** / **g** |
| **č** | **ч** | **д** | **d** |
| **d** | **д** | **е** | **je** / **ie** |
| **e** | **э** | **ё** | **jo** / **io** |
| **f** | **ф** | **ж** | **ž** |
| **g** | **г** (гук [**g**] выбухны) | **з** | **z** |
| **h** | **г** (гук [**г**] фрыкатыўны) | **і** | **i** |
| **i** | **і** | **й** | **j** |
| **j** | **й** | **к** | **k** |
| **k** | **к** | **л** | **ł** / **l** |
| **l** | **л** (мяккі — [**л’**]) | **м** | **m** |
| **ł** | **л** (цьвёрды — [**л**]) | **н** | **n** |
| **m** | **м** | **о** | **o** |
| **n** | **н** (цьвёрды — [**н**]) | **п** | **p** |
| **ń** | **н** (мяккі — [**н’**]) | **р** | **r** |
| **o** | **о** | **с** | **s** |
| **p** | **п** | **т** | **t** |
| **r** | **р** | **у** | **u** |
| **s** | **с** (цьвёрды — [**с**]) | **ў** | **ŭ** |
| **ś** | **с** (мяккі — [**с’**]) | **ф** | **f** |
| **š** | **ш** | **х** | **ch** |
| **t** | **т** | **ц** | **c** |
| **u** | **у** | **ч** | **č** |
| **ŭ** | **ў** | **ш** | **š** |
| **v** (**w**) | **в** | **ы** | **y** |
| **y** | **ы** | **ь** | — |
| **z** | **з** (цьвёрды — [**з**]) | **э** | **e** |
| **ź** | **з** (мяккі — [**з’**]) | **ю** | **ju** / **iu** |
| **ž** | **ж** | **я** | **ja** / **ia** |

Зазначце.

**I.** У лацінцы, у адрозьненьне ад кірыліцы, менш галосных і больш зычных літар.

**II.** У лацінцы няма мяккага знаку ***ь***. Таму зычныя ***Ć, Ń, Ś, Ź*** — заўсёды мяккія і адрозьніваюцца ад аналягічных цьвёрдых літар ***C***, ***N***, ***S***, ***Z*** спэцыяльным дыякрытычным знакам: **піць = pić**, **несьці = nieści**, **адрозьненьні = adroźnieńni**. Аднак для літар ***L*** і ***Ł*** усё інакш! Літара ***L*** — мяккая, а літара ***Ł*** —

цьвёрдая: **літара = litara**, **палац = pałac**, **люстэрка = lusterka**, **пачакальня = pačakalnia**, **малако = małako**.

**III.** У літар ***Ž, Š, Č, Ŭ*** знаходзім іншыя дыякрытычныя знакі, якія паказваюць не мяккасьць, а інакшую якасьць гучаньня: **шчупак = ščupak**, **чараўнік = čaraŭnik**, **дождж = doždž**, **аўтар = aŭtar**.

**IV.** Лацінка ня мае літар ***я***, ***е***, ***ё***, ***ю***. Таму:

- Пасьля галосных і на пачатку слоў пішам:

| | | |
|---|---|---|
| Я | ***JA*** | **сьветлая = śvietłaja**, **явар = javar**, **яскравы = jaskravy**; |
| Е | ***JE*** | **ежа = ježa**, **прыедзе = pryjedzie**, **тое = toje**; |
| Ё | ***JO*** | **ёсьць = jość**, **знаёмства = znajomstva**, **маёнтак = majontak**; |
| Ю | ***JU*** | **Юля = Jula**, **ведаю = viedaju**, **забаўляюцца = zabaŭlajucca**. |

- Пасьля зычных (акрамя мяккай літары ***L***) пішам:

| | | |
|---|---|---|
| Я | ***IA*** | **вячэра = viačera**, **няня = niania**, **сям'я = siamja**; |
| Е | ***IE*** | **сьвет = śviet**, **месца = miesca**, **поўдзень = poŭdzień**; |
| Ё | ***IO*** | **сёлета = sioleta**, **цётка = ciotka**, **зёлкі = ziołki**; |
| Ю | ***IU*** | **сюды = siudy**, **касьцюм = kaścium**, **усю = usiu**. |

- Пасьля мяккай літары ***L*** пішам:

| | | |
|---|---|---|
| Я | ***A*** | **рэкляма = reklama**, **пляц = plac**, **ляжыць = lažyć**; |
| Е | ***E*** | **лес = les**, **вясельле = viasielle**, **тэлефануе = telefanuje**; |
| Ё | ***O*** | **лёс = los**, **лёд = lod**, **жыльлё = žyllo**, **далёка = daloka**; |
| Ю | ***U*** | **любіць = lubić**, **куплю = kuplu**, **дзіўлюся = dziŭlusia**. |

**V.** У лацінцы адсутнічае апостраф ('): **узмор'е = uzmorje**, **надвор'е = nadvorje**, **сям'я = siamja**, **бар'ер = barjer**, **кан'юнктура = kanjunktura**.

**VI.** У кірыліцы літары ***е*** адпавядаюць два гукі: **[э]** і **[jэ]**, аднак у лацінцы літара ***E*** передае адзін гук **[э]**: **гэты = hety**, **фатэль = fatel**, **шэсьць = šeść**, **цэгла = cegła**, **дрэва = dreva**.

**VII.** Гук **[х]** у лацінцы перадаецца дыграфам ***CH***: **хадзіць = chadzić**, **хваляваецца = chvalavacca**, **хто = chto**, **падхапіць = padchapić**, **хараша = choraša**.

**VIII.** Лацінская літара ***G*** передае выбухны гук **[g]**, які ў беларускай мове, часьцей за ўсё, сустракаецца ў спалучэньні ***зг***: **мазгі = mazgi**, **згвалціць = zgvałcić**, **розгі = rozgi**. Аднак ёсьць і шэраг іншых словаў з гукам **[g]**: **ганак = ganak**, **гузік = guzik**, **Галгофа = Galgofa**, **швагер = švager**.

**IX.** У астатнім правілы вымаўленьня, пісьма й чытаньня ў лацінцы — такія самыя, як і ў кірыліцы.

## Karotkija razmovy
(čytajcie ŭhołas)



| | |
|---|---|
| — Niaŭžo vy začyniajeciesia?<br>— Vybačajcie, u nas — techničny pierapynak.<br>— A mnie ž hetak nieadkladna treba zapłacić za kamunalnyja pasłuhi!<br>— Što za biada, davajcie vaš kvitok. | — Няўжо вы зачыняецеся?<br>— Выбачайце, у нас — тэхнічны перапынак.<br>— А мне ж гэтак неадкладна трэба заплаціць за камунальныя паслугі!<br>— Што за бяда, давайце ваш квіток. |

| | |
|---|---|
| — Dzie tyja dziaŭčaty?<br>— Uviečary jany buduć u nas na imprezie.<br>— Ale ž ci paznaju ja ich?<br>— Adrazu paznaješ, bo ichny vyhlad — nadta admietny: jany ŭ nacyjanalnych strojach. Hetkich strojaŭ va ŭsim instytucie ni ŭ kaho niama. | — Дзе тыя дзяўчаты?<br>— Увечары яны будуць у нас на імпрэзе.<br>— Але ж ці пазнаю я іх?<br>— Адразу пазнаеш, бо іхны выгляд — надта адметны: яны ў нацыянальных строях. Гэткіх строяў ва ўсім інстытуце ні ў каго няма. |
| — Dobry dzień, dziadźka Andrej!<br>— Zdaroŭ, žeŭžyk. A dzie ž baćki?<br>— Zaraz pryjduć. Zajšli ŭ kramu.<br>— Nu, jak ty duž-zdaroŭ? Ci padros za leta?<br>— My byli na mory, dziadźka Andrej.<br>— Na mory? I dzie ž heta?<br>— U Tureččynie, na Egiejskim mory. Jano ciopłaje, łaskavaje. I vada ŭ im — čystaja, prazrystaja. | — Добры дзень, дзядзька Андрэй!<br>— Здароў, жэўжык. А дзе ж бацькі?<br>— Зараз прыйдуць. Зайшлі ў краму.<br>— Ну, як ты дуж-здароў? Ці падрос за лета?<br>— Мы былі на моры, дзядзька Андрэй.<br>— На моры? І дзе ж гэта?<br>— У Турэччыне, на Эгейскім моры. Яно цёплае, ласкавае. І вада ў ім — чыстая, празрыстая. |
| — Dobry dzień! Kampanija «Čmiel». Słuchaju vas.<br>— Dabrydzień! Nas zacikaviła vaša pradukcyja, majem namier kupić. Chacieli b sionńnia padjechać i zaklučyć dahavor.<br>— Kali łaska, pryjaždžajcie. My pracujem ad 9-j da 18-j hadziny. | — Добры дзень! Кампанія «Чмель». Слухаю вас.<br>— Дабрыдзень! Нас зацікавіла ваша прадукцыя, маем намер купіць. Хацелі б сёньня пад’ехаць і заключыць дагавор.<br>— Калі ласка, прыяжджайце. Мы працуем ад 9-й да 18-й гадзіны. |
| — Pasłuchaj, jakaja abviestka: «Za 10 kilametraŭ ad horadu pradajecca katedž z usimi bytavymi vyhodami».<br>— Cikava, kolki ž jon budzie kaštavać?<br>— Blizka ad horadu, usie vyhody. Peŭna ž, cana budzie niemałaja.<br>— Što tam doŭha razvažać, davaj patelefanujem. | — Паслухай, якая абвестка: «За 10 кілямэтраў ад гораду прадаецца катэдж з усімі бытавымі выгодамі».<br>— Цікава, колькі ж ён будзе каштаваць?<br>— Блізка ад гораду, усе выгоды. Пэўна ж, цана будзе немалая.<br>— Што там доўга разважаць, давай патэлефануем. |
| — Dzie ty hetak zatrymałasia?<br>— Dyk sionńnia ž u škole byŭ baćkoŭski schod.<br>— Nu i što skazała nastaŭnica pra našaha Paŭłu?<br>— Nu što. Z movami ŭ jaho — narmalova. A voś matematyka… Nastaŭnica kaža, što treba padciahnuć navyki rachavańnia.<br>— A jak pavodziny?<br>— O-o-o, tut jaho treba dukavać a dukavać. Na pierapynkach lotaje, niesłuch hety. Viedaješ, što było? Naskočyŭ na dyrektara škoły, i nastaŭnica mieła vymovu.<br>— Bačyš, za hetymi kamandziroŭkami dzicia zusim razbeściłasia. | — Дзе ты гэтак затрымалася?<br>— Дык сёньня ж у школе быў бацькоўскі сход.<br>— Ну і што сказала настаўніца пра нашага Паўлу?<br>— Ну што. З мовамі ў яго — нармалёва. А вось матэматыка… Настаўніца кажа, што трэба падцягнуць навыкі рахаваньня.<br>— А як паводзіны?<br>— О-о-о, тут яго трэба дукаваць а дукаваць. На перапынках лётае, неслух гэты. Ведаеш, што было? Наскочыў на дырэктара школы, і настаўніца мела вымову.<br>— Бачыш, за гэтымі камандзіроўкамі дзіця зусім разбэсьцілася. |

## Созвучные слова

У беларускай мове ёсьць словы, якія паводле гучаньня падобныя да расейскіх, але маюць зусім іншы сэнс. Ніжэй пададзеныя некаторыя з гэткіх словаў.

| Беларускае слова | Тлумачэньне слова па-расейску | Сугучнае расейскае слова | Пераклад сугучнага расейскага слова |
|---|---|---|---|
| **адка́з** | ответ | отказ | **адмова** |
| **ара́ць** | пахать | орать (кричать) | **раўці́, крыча́ць** |
| **асоба** | личность | особо (отдельно) | **асобна** |
| **багаты́р** | богач | богатырь | **волат, асі́лак** |
| **ба́нька** | 1) кольцо для крепления; 2) банка (*мед.*) | банька, баня | **ла́зьня** |
| **бла́га** | дурно, плохо | благо: 1) добро; 2) как раз | **1) кары́сьць, даброты 2) балазе́, добра што** |
| **брак** | нехватка, отсутствие чего-либо | брак (супружество) | **шлюб** |
| **буйны́** | крупный | буйный (сумасшедший) | **шалёны, звар'яце́лы** |
| **бясе́да** | бал, застолье, банкет, пиршество | беседа (разговор) | **гу́тарка, размова** |
| **бясьпе́ка** | безопасность | беспечность | **бесклапотнасьць, нядба́йнасьць** |
| **век** | возраст | век (столетие) | **стагодзьдзе** |
| **ве́ка** | крышка | веко у глаза | **паве́ка** |
| **ве́тка** | линия (железнодорожная) | ветка (дерева) | **галі́на** |
| **выго́да** | удобство, уют | вы́года | **вы́гада** |
| **вясе́льле** | свадьба | веселье | **весялосьць** |
| **га́за** | керосин | газ | **газ** |
| **гарбу́з** | тыква | арбуз | **каву́н** |
| **годны** | достойный | годный | **прыда́тны, зда́тны** |
| **грабці́** | грести (веслом, граблями) | грабить (отбирать) | **рабава́ць** |
| **грамада́** | община, общество | громада, громадина | **ве́ліч, гмах, нагрува́шчанасьць** |
| **гуля́ць** | играть | гулять | **шпацырава́ць** |
| **другі́** | второй | другой (иной) | **і́ншы** |
| **дыва́н** | ковёр | диван | **кана́па** |
| **е́сьці** | принимать пищу | есть (иметься в наличии) | **ёсьць** |
| **ёлкі** | прогорклый | ёлки, ели | **е́лкі** |
| **жада́ць** | хотеть чего-либо | жадничать | **скна́рнічаць** |
| **злодзей** | вор | злодей | **ліхадзе́й, злачы́нец** |
| **ігру́шка** | 1) грушевое деревце; 2) мелкий плод груши | игрушка | **ца́цка** |
| **калду́н** | оладья с мясной начинкой | колдун (волшебник) | **вядзьма́р** |
| **калё́сы** | телега, повозка | колёса | **колы** |
| **касьцё́р** | поленница | костёр | **вогнішча, агонь** |
| **кары́сны** | полезный | корыстный (человек) | **кары́сьлівы** |
| **ка́чка** | утка | качка | **гайда́нка** |
| **кра́ска** | цветок | краска | **фа́рба** |
| **кра́сны** | красивый | красный (цвет) | **чырво́ны** |
| **кросны** | ткацкий станок | крёстный (отец) | **хросны (ба́цька)** |
| **кры́шку** | немножко | крышка | **ве́ка, на́крыўка** |
| **ку́кла** | узел волос | кукла (игрушка) | **ля́лька** |
| **крэ́сіва** | огниво | красиво | **прыгожа** |

| | | | |
|---|---|---|---|
| **крэ́сла** | стул (жёсткий) | кресло (мягкое) | **фатэ́ль** |
| **ла́яць** | ругать | лаять (о собаке) | **браха́ць** |
| **лі́штва** | наличник, планка, плинтус | листва | **лі́сьце, лісьцё** |
| **ложак** | койка, кровать | ложка | **лы́жка** |
| **лук** | лук (оружие) | лук (растение) | **цыбу́ля** |
| **лю́лька** | трубка (для курения) | люлька (колыбель) | **калы́ска** |
| **мані́ць** | обманывать | манить: 1) притягивать;<br>2) звать | **1) клі́каць;<br>2) ва́біць** |
| **ма́сла** | масло сливочное | 1) масло растительное;<br>2) масло машинное;<br>3) масло сливочное | **1) але́й;<br>2) алі́ва;<br>3) ма́сла** |
| **мір** | мир (отсутствие вражды) | 1) мир, вселенная;<br>2) согласие;<br>3) спокойствие | **1) сьве́т, сусьве́т;<br>2) згода;<br>3) спакой** |
| **наказа́ць** | приказать | наказать (за проступок) | **пакара́ць** |
| **напраўля́ць** | острить (бритву) | направлять, управлять | **накіроўваць** |
| **на́ціск** | ударение (в слове) | натиск, напор | **ціск** |
| **непрые́мны** | неприятный | неприемлемый | **непрыма́льны, недапушча́льны** |
| **нядзе́ля** | воскресенье | неделя | **ты́дзень** |
| **пагода** | вёдро, ясная солнечная погода | 1) погода (вообще);<br>2) па́года (*архит.*) | **1) надвор’е;<br>2) па́гада** |
| **пакой** | комната | покой | **спакой; спачы́н** |
| **па́ра** | пар | пора́ (период) | **пара́, час** |
| **пах** | запах | пах (*анат.*) | **пахві́на** |
| **пей!** | пой! | пей! | **пі!** |
| **плётка** | сплетня | плётка | **бізу́н, нага́йка** |
| **плот** | забор | плот: 1) для сплава;<br>2) помост | **1) плыт;<br>2) кла́дка, памост** |
| **пол** | пол (*биол.)* | пол (настил) | **падлога** |
| **пра́віць** | чинить | править, управлять | **кірава́ць** |
| **проста** | прямо | просто | **лёгка** |
| **пры́клад** | пример | приклад | **прыкла́д** |
| **пу́шка** | коробка | пушка (орудие) | **гарма́та** |
| **пыта́ць** | спрашивать | пытать (мучить) | **катава́ць** |
| **ру́шыць** | выступать с походом | рушить (разрушать) | **разбура́ць, руйнава́ць** |
| **рэч** | вещь | речь: 1) язык;<br>2) выступление;<br>3) беседа | **1) мова;<br>2) прамова;<br>3) гу́тарка** |
| **сва́рка** | ссора, перебранка | сварка (*мет.*) | **зва́рка** |
| **склон** | падеж | склон | **схіл, адхон** |
| **слых** | слух (чувство) | слух (молва) | **пагалоска, чу́тка** |
| **ста́йня** | конюшня | стая | **згра́я, чарада́** |
| **стра́ва** | блюдо (пища, кушанье) | отрава | **атру́та** |
| **стрэ́льба** | ружьё | стрельба (пальба) | **страляні́на** |
| **сту́дзень** | январь | студень (кушанье) | **халадзе́ц, квашані́на** |
| **сту́дня** | колодец | стужа | **сьцю́жа** |
| **субясе́днік** | участник банкета; собутыльник | собеседник | **суразмоўца** |
| **сьвет** | мир, планета | свет (освещение) | **сьвятло** |
| **твар** | лицо | тварь (живое существо) | **стварэ́ньне** |
| **трактава́ць** | угощать | трактовать (толковать) | **тлума́чыць** |

| | | | |
|---|---|---|---|
| **трус** | кролик | трус | **баязлі́вец** |
| **убі́ць** | вбить | убить (умертвить) | **забі́ць** |
| **установа** | учреждение | установка (оборудование) | **абсталява́ньне** |

# Ключи к упражнениям

## Уступ

**14.** Гандлёвыя рады, прамы вугал, размаўляю па-беларуску, вялікія моры, чалавек жартуе, фарба жоўтая, шосты рад, чую гром, дрэнная рэч.

**17.** На вадзе, дзён, у гурце, у клопаце, у лёдзе, у палёце, судзіць.

**24.** Нядаўна было гэткае здарэньне. Трэба купіць зімовае адзеньне. Якое ў цябе пытаньне? Гасьцей поўнае застольле. Першае каханьне. Ціха шэпча калосьсе. Гэта справядлівы судзьдзя. Зьмянілася надвор'е. Мне знаёмае яго аблічча. Гэта было цікавае падарожжа. Здароўе — найлепшае багацьце.

**25.** Паляўнічы на паляваньні. Ён упэўнены ў сваіх перакананьнях. Перад ад'ездам будзе разьвітаньне. Ён купіў мужчынскае адзеньне. Смачнае сьняданьне. На падлозе сьмецьце.

## Лекцыя першая

**2.** Усё жыцьцё — у навуцы. Зьміцер — у дарозе. Вязу малой дачцэ гасьцінец. Пінжак вузкі ў плячох. Купім дзецям па цаццы.

**3.** Дзеці мусяць паважаць сваіх бацькоў. Працую з татам. Мы жывём пры бацькох. Унукі шануюць сваіх бабуляў і дзядуляў. Мы не сьпявалі гэткіх песень. Я запрашаю на вечарынку сябра і сяброўку.

**5.** У пакоі ёсьць канапа, але няма ложка. У мяне ёсьць залвіца, але няма швагра. На стале ёсьць аловак, але няма паперы. У мяне ёсьць кампутар, але няма аўтаадказьніка. Я маю выходны ў нядзелю, але ў суботу ня маю.

**6.** Пётра (хто? — Н.) лёг на канапу (на што? — В.).
Рука (што? — Н.) з прыгожым бранзалетам (з чым? — Т.).
Еду да сястры (да каго? — В.).
Дам дзіцяці (каму? — Д.) смачную цукерку (што? — В.).
Забраў дачок (каго? — В.) з садку (з чаго? — Р.).
Мы рыхтуемся да сьвята (да чаго? — Р.).
Дрэвы (што? — Н.) у сьнегавых шатах (у чым? — Т.).
Яго вачэй (чаго? — Р.) не відаць з-пад броваў (з-пад чаго? — Р.).
Я заўсёды пільнуюся правілаў (чаго? — Р.).

**10.** У савы — савяня. У лася — ласяня. У коткі — кацяня. У птушкі — птушаня. У качкі — качаня. Дзеці катовыя завуцца кацяняты. Дзеці мядзьведзевыя завуцца медзьведзяняты. Дзеці мышыныя завуцца мышаняты.

**12.** Поні (м. р.), флямінга (м. р.), пані (ж. р.), кальле (н. р.), мэтро (н. р.), інтэрвію (н. р.), бра (н. р.).

**13.** ААН (ж. р.), БДУ (м. р.), МТЗ (м. р.), НН (ж. р.), МАЗ (м. р.), АРПЗ (ж. р.).

**14.** Хто ёсьць? Хто вы ёсьць? Скажыце, хто ёсьць дома? Каго яшчэ тут няма? Ясь ёсьць тут? Яго няма дома. Што ёсьць у краме? Ёсьць усё, а таго, што патрэбна — няма. У мяне ёсьць шмат цікавых кніг. У яго няма тваёй кнігі. На маім кампутары ёсьць усе патрэбныя праграмы.

**15.** Едзем да сястры, сядзім упоцемку ля вакна, лес вакол дому, запрашаю да стала, ліст ад сябра, ідзём уздоўж берагу, заходзь да мяне, насупраць таго будынку, мае клопаты, доўгі цень.

**16.** Ён прыежджы? Не, ён тутэйшы. Так, ён з Ангельшчыны.

Ён француз? Не, ён італьянец. Так, ён з Парыжу.
Ён літаратар? Не, ён рэжысэр. Так, ён рэдактар.
Ён друкар? Не, ён настаўнік. Так, ён шавец.
Ён сьпявак? Не, ён музыка. Так, ён артыст.
Ён гісторык? Не, ён біёляг. Так, ён выкладнік.
Ён дасьледнік? Не, ён вандроўнік. Так, ён навуковец.

**17.** Мяняльня проці пошты, сядзіба каля лесу, клюмба каля дому, аловак каля слоўніка, гаспадар сярод гасьцей, начыньне ў майстра, палац проці гатэлю, прысады ўздоўж дарогі

**18.** Дайце мне, калі ласка, два пачкі печыва, дзьве бутэлькі віна, кавалак кілбасы, літар піва, кіляграм сыру, літар малака, чвэрць кіляграма тварагу, паўлітра алею, карабок запалак, сто грамаў масла, паўбохана хлеба, дзесяць яек, кіляграм цукру, два пачкі гарбаты, два пачкі кавы.

**20.** Сёньня ня будзе дажджу. У мяне няма з сабой грошай. Не, там няма ніякага сшытка. Мы прыйшлі зь лесу. У мяне няма настрою. Там няма ніякіх чаравікаў. У нашым горадзе няма філіі вашага банку.

## Лекцыя другая

**1.** Дачцэ, падлозе, вавёрцы, дошцы, яблыку, кірмашу, каўняру, дзяўчыне, мазалю, сястры.

**2.** Тэлефаную: калегу (каляжанцы), дзяўчыне, сястры, Вольцы, дзядзьку.
Дзякую: суседу, гаспадыні, сябрам, прыяцелю, спадару Ласю.
Выбачаю: гандляру, цырульніку, сакратарцы, касірцы.

**6.** Легчы на канапу, пакласьці ў шафу, глядзецца ў люстэрка, запаліць лямпу, памыць шклянку, заслаць прасьціну, лашчыць кацяня, даглядаць дзядулю, зайсьці ў кватэру, купіць мэблю, есьці салату, ісьці на працу.

**7.** Одеваем детей. Жду удобного случая. Хозяйка подала завтрак. Пойдём через сквер. Сестра пошила платье. Малыш идет за игрушкой.

**9.** Іду лесам. Еду аўтобусам. Еду цягніком. Плыву катэрам. Ляту самалётам. Буду тынкоўнікам. Паеду вясной (вясною). Сустрэнуся раніцай (раніцою). П’ю каву зь вяршкамі. Займаюся з выхаванцамі. Апякуюся дзіцем. Цікаўлюся мастацтвам. Працую рукамі. Працую фальваркоўцам.

**10.** Ямо лыжкай (лыжкаю), ямо відэльцам; п’ем шклянкамі, п’ем кубкамі, п’ем слоікамі; іду зь сёстрамі, іду зь сяброўкамі (сяброўкаю), іду з госьцем; малюю фарбай (фарбаю), малюю алоўкам, малюю пэндзьлем; сустракаюся зь сябрамі, сустракаюся зь дзяўчатамі, сустракаюся зь Ясем.

**12.**
**а)** Бацька ў камандзіроўцы. Маці ў пральні. Сястра на вечарынцы. Дзеці на лузе. Сябра на Сьвіслачы.
**б)** Ён у вучэльні, у тэатры, у Сібіры, на плошчы, на вясельлі, у краме, у парку, на сьнезе, на Нарачы, пры вучню, пры бабулі, пры маці, пры Васілю.

**13.** Зубранё ў пушчы, Ясь на ганку, пакой у кватэры, коўдра на ложку, парасон у сумцы, фіранка на вакне, кветка ў руцэ, аўто на дарозе, яблык на талерцы, човен на рацэ, кот на парозе, качкі на возеры, студэнт у інтэрнаце.

**15.**
І тут, і там мае сябры. У Грэцыі — пан Дымас. З замежнікаў ён мой найлепшы прыяцель. Усе спасьцігаюць бізнэс, а пан Дымас застаецца верны свайму пакліканьню, як і я. Ён спэцыяліст ў галіне будаўніцтва, дойлід, якіх мала. У сваёй творчасьці за крыніцу натхненьня ён мае помнікі даўніны. Каштоўнасьці, непадуладныя часу, — вось што бывае тэмай нашых гутарак у часе вандровак.

«Чалавек — гэта яго памяць», — кажа Дымас, і я згодны зь ім. Гляджу на велічныя будынкі і думаю пра людзей, якія пакінулі ў гэтых мурох адбітак сваёй душы.

**16.** Я з жонкай, дачкой і сынам едзем у электрычцы. Сёньня нядзеля, і мы, як заўсёды, наведваемся да бацькоў. Яны жывуць убаку ад чыгункі. Кілямэтры з тры яшчэ трэба ісьці праз лес. Але гэта нам падабаецца. Прыемнай бывае нечаканая сустрэча з жыхарамі лесу: зайцамі, дзятламі, вавёркамі. Іншы раз сьмялейшай вавёрцы можна падаць пачастунак і нават пасьпець дакрануцца да хваста. Гэта вельмі забаўляе маіх малых. Колькі тут бывае радасьці, сьмеху, а потым гутаркі — як вады, усю дарогу.

## Лекцыя трэцяя

**2.** Найбліжэйшы прыпынак. Найлепшыя гады. Найвышэйшы гатунак. Найлягчэйшая вага. Найсаладзейшы напой.

**3.** Кату па пяту — малы. Аднаго поля ягады — аднолькавыя. Біты воўк — дасьведчаны. Хоць куды — выдатны. На сёмым небе — ўчасьлівы. Маладзіца як брусьніца — чырванашчокая кабета. Плячысты на жывот — ненаедны.

**4.** Рудыя валасы, зялёная кашуля, шэрыя вочы, бэжавае аўто, чырвоная стужка, паласаты кавун, блакітны шалік, чорная кава.

**5.** Паўднёвы вецер, жахлівы выгляд, вусаты дзядзька, бульбяная страва, кішэнны ліхтарык, малінавы колер, ружовы пялёстак.

**6.** Наваградзкі, Лідзкі, Нясьвіскі, Вушацкі, Сураскі, латыскі, заводзкі, сьвецкі, казацкі, Аршанскі.

**7.** Якасны: высачэзны.
Адносныя: знаёмы, ільняная, марское, пяшчаная, зямная, камэрцыйны.
Прыналежныя: братава, дзедаў, матулінага.

**8.** Беларусь на вольным рынку, радасьць у свабоднай творчасьці, дзеці ў гульнёвай залі, гармідар на школьным двары, згода ў супольнай працы, сьвечкі на старадаўняй жырандолі, імпрэза ў Купалаўскім тэатры, дзяўчына ў нацыянальным строі.

**9.** Новае начыньне — навейшае — найноўшае, самае новае;
мяккі каўнер — мякчэйшы — наймякчэйшы, самы мяккі;
чырвоны колер — чырванейшы — найчырванейшы, самы чырвоны;
смачны яблык — смачнейшы — найсмачнейшы, самы смачны;
прывабная мясьціна — прывабнейшая — найпрывабнейшая, самая прывабная;
салодкія маліны — саладзейшыя — найсаладзейшыя, самыя салодкія;
забаўныя прыгоды — больш забаўныя — найзабаўнейшыя, самыя забаўныя;
цёплае паліто — цяплейшае — найцяплейшае, самае цёплае;
зграбная рэч — больш зграбная — найзграбнейшая, самая зграбная;
высокая будыніна — вышэйшая — найвышэйшая, самая высокая;
пісьменны вучань — больш пісьменны — найбольш пісьменны, самы пісьменны;
малы сабачка — меншы — найменшы, самы малы;
цяжкая валізка — цяжэйшая — найцяжэйшая, самая цяжкая.

**10.**
**а)** Вольчын большы сын. Людміліна меншая сястра. Аркадзевы крэўныя.
**б)** Піліпаў студэнцкі пакой. Ксеніны бурштынавыя каралі. Максімава новае паліто.

**11.** Тут Мікітаў пісьмовы стол. На падлозе — Мікітавы новыя часапісы. Там бацькавы пісьмовыя прылады. Тут сяброўчын замежны слоўнік. На падлозе — сястрыная бліскучая цацка. На рагу стала

— Колеў заўсёдны нататнік. Там Сяргеевы працісонцавыя акуляры. Там мой праязны квіток. Тут наш драўляны зэдлік. Каля стала — братава кампутаравае начыньне.

**12.** Утульны сьветлы пакой. Густоўны інтэр’ер. Позірк прыцягваюць адметныя рэчы ў беларускім гусьце. Сурвэта. Прыгожа афармлены куфэрак. Рознага колеру кветкі. Што яшчэ? На сьцяне — старадаўні відарыс гербу «Пагоня». Выштукаваны гадзіньнік. Мэбля. Кафляваны камінак. Каля сьцяны, справа, — шафа. Зьлева — сьветлая канапа. Справа — крэсла. Люстэрка. Яно ў прыгожай апраўе. Мяккі каберац на падлозе. Угары, пад стольлю, — арыгінальная жырандоля. На вокнах — крэмавыя самаробныя фіранкі.

**15.** Вулічны рух, марскія хвалі, дарожны ліст, дубовая мэбля, ліпавы цьвет, волкае паветра, вярбовы дубец, рачны басэйн, майскі жук.

## Лекцыя чацьвертая

**1.** Не, ён выдавец. Не, яны прыежджыя. Не, яна братава сяброўка. Не, яна паштарка. Не, яно Вольчына.

**2.** Што я ведаю пра Вярбіцкіх? — Я нічога ня ведаю пра іх.
Што я ведаю пра таго хлапца? — Я нічога ня ведаю пра яго.
Што я ведаю пра Вольку? — Я нічога ня ведаю пра яе.
Што ты маеш сказаць пра спадара Лявіцкага? — Я нічога ня маю сказаць пра яго.
Ты павіншаваў спадарыню Людмілу? — Я не павіншаваў яе.
Ты паедзеш з Паўлюком на адпачынак? — Не, я не паеду зь ім.
Ты даваў дзіцяці папіць? — Не, я не даваў яму папіць.

**3.** Віця і ягоная сястра, Зіна і ейны муж, настаўніца і ейная кляса, гаспадар і ягоны сабака, Вярбіцкія і іхныя дзеці, цётка і ейны ўнук, Васіль і ягоны фундатар.

**5.** Тут нейкія незнаёмыя дзяўчаты. Ён некага шукаў. Некаму гэта будзе патрэбна. Нехта забыўся ў аўтобусе сваю валізку. Гэта штосьці цікавае. Пакліч хутчэй каго-небудзь. Чамусьці ён мне не патэлефанаваў.

**7.** Я незнаёмы з тым спадаром. Я яшчэ не чытаў тае кнігі. Таго прыежджага я ня ведаю. Ён даў грошы той касірцы. Пайду прывітаюся з тою дзяўчынаю. Той спадар — наш бухгальтар.

**8.** Маё тое шэрае, мае тыя бялявыя, іхны той мураваны, ягоная тая ля сквэру, ейны той квяцісты, іхны той смуглявы, мае тыя ў капэрце.

**10.**

**а)** — Гэта крэсла?
— Не, гэта фатэль. Ён мяккі, а крэсла — тое, драўлянае.

**б)** — Ці гэта тая дзяўчына?
— Так, гэта тая дзяўчына.

**в)** — Хто яшчэ гэта чуў?
— Ён казаў гэта толькі пры мне.

**г)** — Для каго мы купім гэтую цацку?
— Мы купім гэтую цацку табе.

**д)** — Няўжо гэта твой кампутар?
— Не, гэта Мікітаў кампутар.

**е)** — Ці чытаў ужо хто тую кнігу?
— Той кнігі яшчэ ніхто не чытаў.

**ж)** — Што гэта за аловак у цябе?
— У мяне не аловак, а ручка.

**11.** Мікіта у маёй сястры. Алесь у свайго дзядзькі. Тут мае рэчы. Дзеці ў тым аўтобусе. Паклажа ў іхнай валізцы.

**12.**
**а)** На чым ён знаецца? Ён на ўсім знаецца?
**б)** Ці ёсьць у каго гэткі падручнік? Гэткага падручніка ні ў кога няма?

**13.** Пры кім вучыцца Антось? Каго мы пойдзем сустракаць? З кім паедзе Васіль за мяжу? Чым цікавіцца Людміла? У каго мы будзем на вясельлі? Каму падзякаваў госьць? З кім заўтра я буду мець гутарку? З кім прывітаўся Мікіта? Каму паціснуў руку? Каму сказаў прыемнае? У каго я яшчэ ня быў? У чыёй кватэры я яшчэ ня быў?

## Лекцыя пятая

**1.** Дзяўчына чыста мые вокны. Хлопцы заўсёды рагочуць з маіх жартаў. Ён маўчыць, бо ня ведае, што казаць. Нашы сябры, як толькі прыехалі, адразу ж трапілі на вясельле. Малы дзьме ў дудку і надта ж цешыцца з гэтага. Мой брат сталяр, ён майструе. Яны гандлююць у краме харчовымі таварамі.

**2.** Дзякаваць — ён дзякуе, яны дзякуюць;
абяцаць — ён абяцае, яны абяцаюць;
зарабляць — ён зарабляе, яны зарабляюць;
уцякаць — ён уцякае, яны ўцякаюць;
бедаваць — ён бядуе, яны бядуюць;
дараваць — ён даруе, яны даруюць;
гаспадарыць — ён гаспадарыць, яны гаспадараць;
крыўдзіць — ён крыўдзіць, яны крыўдзяць;
смажыць — ён смажыць, яны смажаць;
блішчэць — ён блішчыць, яны блішчаць;
важыць — ён важыць, яны важаць;
знаёміць — ён знаёміць, яны знаёмяць;
саладзіць — ён салодзіць, яны салодзяць;
лічыць — ён лічыць, яны лічаць.

**3.** Яна прасуе бялізну. Я апранаю паліто. Мы кладзем агуркі на стол. Яна разумее мяне. Ён папалудние дома. Яны сустракаюць цябе. Маці прыгарнула дзіця да сябе. Настаўнік разьмяркоўвае абавязкі.

**4.**
**а)** Умацаваць здароўе, замацаваць веды, запазьніцца на працы, запярэчыць спавяшчальніку, утрымаць пазыцыі, удасканаліць плян;
**б)** закупляць харчы, панакупляць сувэніраў, паначапляць цацак, панасыпаць пяску, запытаць дазволу, запрасіць гасьцей;
**в)** выгадаваць дзяцей, адгадаваць вусы, выкруціць лямпачку, адкруціць дрот, выказаць думку;
**г)** дагледзець хворага, угледзець памылку, ураўнаважыць шалі, далучыцца да гурту.

**5.** Счэзнуць, падпільнаваць, пачакаць, пашукаць, скарыстаць, спадабацца, паслухаць, прывітацца, падпаліць, спарадкаваць, зразумець, растлумачыць, зганіць, згвалціць, узважыць.

**6.** Суседка хварэе на мігрэнь. Мы чакаем на тэлевізійнага майстра. Вітаўт ажаніўся з маёй сястрой Юляй. Вандроўнікі ідуць незнаёмаю дарогаю. Сватаў сын вучыцца бальным танцам. Бацькі выбачаюць сваім дзецям. Малыя цешацца з навагодняй ёлкі. Цешча ўмешваецца да сямейнага жыцьця маладых. Абслуга сэрвіс-цэнтру знаецца ў кампутарах розных мадэляў. Наш выбраньнік заслугоўвае на давер.

**7.**
**а)** Групаваць, канспэктаваць, фінансаваць, даглядаць, сартаваць, камандаваць, абуваць, кватараваць, замыкаць, страляць, гуртаваць, перадаваць, карміць, зьмяняць, лайдачыць, марозіць.
**б)** Пагаршаць, зьмяншаць, хітраваць, прыгажэць, чырванець, перавышаць, маўчаць, весяліць, чысьціць, ваяваць, ружавець, асьляпіць, скарыць, знаёміць, гатаваць, пільнаваць.

**8.** Апранайцеся! Гадуйцеся! Сьмейцеся! Сустракайцеся! Пытайцеся! Знаёмцеся! Прывітайцеся! Радуйцеся!

**10.** Мой брат Пётра мае невялікую кватэру, але ўсім досыць месца. Там жывуць птушкі, рыбкі, заводны сабака Векша і кот Плютон. Ці ўяўляеце сабе гэткую сьціжму жыўнасьці? А ўсё таму, што мой пляменьнік Юзя вельмі любіць жывёлаў. Ён корміць і даглядае сваіх улюбёнцаў. Гэты занятак ёсьць яго найлепшай уцехаю. А ўвогуле Юзя — паважны і цямкі хлапец. Шмат у чым ён нагадвае свайго бацьку.

**11.** Я вучуся, я сьмяюся, я забываюся, я спадзяюся, я адгукаюся, я пытаюся, я апранаюся, я нуджуся, я зьвяртаюся, я бяруся, я маюся.

**12.** Максім спадарожнічае знаёмым у паездцы. Ён унікае гэтай размовы. Гэты напой прагаляе, спаталяе смагу. Госьць доўжыць сваю гутарку. Дзеці пераймаюць паводзіны бацькоў. Гэты прыежджы харчуецца ў рэстарацыі. Яна загадала прыбраць усё лішняе.

**13.** Дасьцё нам свой адрас? Апранеш паліто? Ясі мясную салату? Змарнуеце час? Забараняеш курыць у кватэры? Бераце́ гэты куфэрак? Пячэш рыбу? Бежыце́ далей? Гледзіце́ вясельныя здымкі? Прыемна бавіце час? Дарыце гэтую карціну? Гатуеш каву? Дапамагаеце сваім бацькам? Віншуеце са сьвятам? Жывяце́ за мяжой? Запрашаеце яго на госьці?

**14.** Дзіця сумуе па маці. Я намерыўся купіць сабе капялюш. Юля адведае хворага бацьку. Яны выпраўляюцца ў дарогу. Я жыва прыпамінаю тую сустрэчу. Ён бацьку скардзіўся на мяне.

## Лекцыя шостая

**4.** Сямнаццатым, чацьвертаму, шэсьцьдзесят першай, першага, адзінаццатай.

**5.** Пяці дрэваў, трох сяброў, шасьці чалавек, дваіх дзьвярэй, абедзьвюх дзяўчын, дзьвюх сябровак, ста й аднаго далматынца, трох сабакаў, чатырох кампутараў, абодвух летапісцаў, дзевяці жыцьцяў, чатырнаццаці праграмаў, васьмі спадарожнікаў, дваіх кацянятаў.

**6.** Абодвух, абодвум, абодвух, абодвума, пра абодвух.

**7.** Сустрэліся за паўтара кілямэтра ад станцыі. У цеста трэба пакласьці дзьве траціны шклянкі цукру. Прыйшлі паўтары гадзінамі пазьней. Прыедзе праз паўтары гадзіны. Гэтым дзьвюм дарогам не сысьціся. Маю паўтара слоікі сочыва. Гэты кавалак кужалю на паўтраця мэтра. Да дому засталося тры кілямэтры.

**8.** Пяцьцю карткамі, дзевяцьцю кубкамі, дваццацьцю трыма ўдзельнікамі, трыццацьцю чатырма нумарамі, дзьвюма лыжкамі, васьмю байцамі, чатырнаццацьцю з паловай кілягрмамі, трыма падручнікамі, дванаццацьцю флямастарамі, паўтары хвілінамі, сарака сямю кілямэтрамі, дзевяноста сшыткамі.

**9.** Дзесяць разоў мер — і то ня вер. Мінула чвэрць стагодзьдзя. Прайшла траціна веку. Пачалося трэцяе тысячагодзьдзе. Незьлічоныя паданьні старажытных муроў. Хвілінаў праз колькі пачнецца нарада. На ганку стаяць трое незнаёмых хлапцоў. Моладзевы часапіс выходзіць двойчы на месяц. Дзед песьціць абодвух сваіх унукаў. Абедзьве дзяўчыны прывіталіся з настаўнікам. Узьніміце абедзьве рукі ўгару. Наш дом стаіць на скрыжаваньні дзьвюх вуліц.

**10.** На ганку многа хлапцоў. Сьветлых азёраў тут — безьліч. Шмат разоў зьмянялася іхная назва. У гэтым лесе грыбоў а грыбоў. Процьма народу ў чарзе. Усе дамы — на шмат паверхаў. Мала даць — брыдка, а многа — шкода. На іхнай вуліцы шмат дрэваў.

**11.** Колькі часу? Калі выходжу з дому? Як дабіраюся на працу? З кім сёньня маю сустрэчу? Колькі зойме гутарка з партнэрам? Што запісана ў электронным нататніку? За каго сёньня давядзецца быць? Як завуць дзіця? Колькі часу шпацыруем? Калі мы ўжо дома? Ці доўга Юзя гатовы слухаць казкі?

**15.**

**а)** — Зь беларускіх азёраў найвялікшае — Нарач.
— Якая яго даўжыня?
— Пэўна, кілямэтраў зь дзесяць ці мо й болей.

**б)** — Каторая гадзіна? / Колькі часу?
— Ужо палова на восьмую.

**в)** — Бацька дома?
— Дома.
— Пакліч яго.
— Тата заняты, ён у гаражы.
— А калі ён вызваліцца?
— Праз гадзіну-дзьве.

**г)** — Ён у сталым веку?
— Не, яму гадоў пад трыццаць.

**д)** — Дзе вы будзеце на Новы год?
— Сьвяткаваць будзем сваёй сям’ёй, утраіх.

## Лекцыя сёмая

**1.** Засланы абрусам стол, пачутыя навіны, вывучанае правіла, пакліканы чалавек, ацэнены тавар.

**2.** Зробленая праца, пройдзены шлях, куплены аловак, зачыненыя дзьверы, пазычаныя грошы, здарожаныя вяскоўцы, падабраныя колеры, пагаслыя вочы, засьмяглыя вусны, загарэлы твар, нечапаныя мясьціны.

**3.**
**а)** Дагледжаны лекарам хворы. Дагледжанае гаспадарамі жыльлё. Дагледжаная бацькамі гаспадарка.
**б)** Хлопчык, апрануты ў сьвяточны гарнітур. Дзяўчынка, апранутая ў Сьнягурку. Жанчына, апранутая ў футра. Дзяўчынка, апранутая ў народны строй. Хлопчык, апрануты ў мядзьведзя.

**4.** Пафарбаваная падлога; распушчаны тлушч; памыты каўнер; памытае, пакупанае, прыбранае дзіця; спарадкаваныя рэчы; пабеленая столь; пасалоджаная кава; пасталелы дзяцюк; замкнёныя дзьверы.

**5.** Гэта ўпэўнены ў сабе чалавек. Тут адзін ацалелы будынак. Зьмяненьні ўстаноўчых дакумэнтаў былі ўхваленыя сходам акцыянэраў. Мне трэба купіць сродкі для чышчаньня. Усе, хто чакае на выніку, адчуваюць пэўнае хваляваньне. Гэта вучні, якія сядзяць і слухаюць свайго настаўніка.

Канцэрт, які не адбыўся ўчора, адбудзецца ў нядзелю. Ужо пачатак фільму зьнеахвоціў мяне глядзець яго далей, і я сыйшоў.

**6.**
**а)** Жартуючы, п’ючы, хвалюючы, кажучы;
**б)** увайшоўшы, сустрэўшы, зьлічыўшы, прыйшоўшы, сабраўшы, пад’еўшы.

**7.** Рана выйшаўшы з дому, прыйшоў на працу першым. Працаваў, назіраючы за парадкам. Яны жылі, радуючыся кожнаму дню. Цэлы дзень назаляў пытаньнямі, замінаючы ў працы. Уважліва слухаю, спрабуючы ўцяміць.

**8.** Зараз пайду на палудзень. Увечары прыйду да вас. Стаю збоку. Наўкола чуваць музыка. Ён некуды пайшоў. Нікуды мы ня пойдзем. Празь лес мы ішлі памалу. Ён шторaз папраўляе акуляры. Месца ў кватэры досыць. Аднойчы я быў на Нарачы. Мы былі дома. Мы паедзем дамоў. Шво трэба класьці ўпоперак. Ходнік перарабляюць ушыр.

**9.** Роўна — раўней — найраўней, сама роўна, найбольш роўна;
доўга — даўжэй — найдаўжэй, сама доўга, найбольш доўга;
шырока — шырэй — найшырэй, сама шырока, найбольш шырока;
добра — лепей — найлепей, сама добра, найбольш добра;
блізка — бліжэй — найбліжэй, сама блізка, найбольш блізка;
соладка — саладзей — найсаладзей, сама соладка, найбольш соладка;
чырвона — чырваней — найчырваней, сама чырвона, найбольш чырвона;
вузка — вузей — найвузей, сама вузка, найбольш вузка;
прыгожа — прыгажэй — найпрыгажэй, сама прыгожа, найбольш прыгожа.

**10.** Падлога — унізе. Вакно — ззаду. Канапа — зьлева. Шафа — ззаду. Тэлевізар — справа. Карціна — зьлева. Дыван — унізе.

**11.** Ціха — гучна, далёка — блізка, тут — там, наперадзе — ззаду, туды — сюды, па-новаму — па-старому, уверх — уніз, мякка — цьвёрда, зьлева — справа, многа — мала, удзень — уначы, добра — дрэнна, рана — позна, цёмна — сьветла, чыста — брудна, дорага — танна, гучна — ціха, павольна — шпарка, дрэнна — добра, рэдка — часта, высока — нізка, глыбока — мелка, меней — болей, зблізку — здалёк, моцна — слаба, коратка — доўга.

**13.** Дзе я маю сяброў? Ці бачыў што прыгажэйшае за Беларусь? Як завуць маіх сяброў? Хто яны? Дзе цяпер Мартын і Люіза? Ці ўпершыню яны ў Менску? У якіх мясьцінах я спатыкаю радасьць? Які наш наступны маршрут?

**15.**

**а)** — Мы ідзем ня ў той бок.
— Пэўна, трэба вярнуцца, прайсьці тымі прысадамі і зьвярнуць улева.

**б)** — Ці патрапім мы адгэтуль на вуліцу Гусоўскага?
— Якраз гэта — вельмі лёгка. Зьвернем управа на трэцім скрыжаваньні.

**в)** — Мусім перасесьці на сямёрку і праехаць яшчэ прыпынкаў колькі.
— Так, зараз выходзім.

**г)** — З чаго пачнем нараду?
— Перш-наперш скажыце, ці ўсе прыйшлі.

**д)** — Ці бачыў ты Міхася?
— Калі-нікалі ён наведваецца сюды. Але апошнім часам — ня бачыў.

